

# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

11 (985)

ЛІСТАПАД

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2011

ЗМЕСТ





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



Мікола МАЛЯЎКА

# РАДАВОДНАЕ ДРЭВА

## РАВЕСНІК ВАЙНЫ

Спакойна і ціха ў нябёсах,
А я — у мінулым стаю,
І цень ад чужых бамбавозаў
Кладзецца на памяць маю.

Гарэлі зямля і аблокі.
Трывожачы, прысак ачах,
А полымя водсвет далёкі
Застаўся ў блакітных вачах.

Цяпер з ветэранамі песні
Спяваю, бывае, адны
І я — пасівелы равеснік
Вялікай Айчыннай вайны.

Святочным салютам у маі
Расквечана неба ярчэй,
І чую, як слёзы змываюць
Мінулага водсвет з вачэй.

## ШЛЯХ ЗЯМНЫ

На пачатку жыцця
Крыжык дзіцяці дораць,
Хрысцяць бацькі дзіця,
Каб не ведала гора.

На вачах у людзей,
Ды па-рознаму ўсё-ткі
Кожны да шчасця ідзе,
Доўгі век ці кароткі.

Нехта ставіць балет,
Нехта карчуе ляда,
Некаму засцяць свет
Грошы, слава, улада.

Нехта спяшаецца ў храм,
Нехта ў пошуках шчасця
Здраджвае родным, сябрам,
Продкам сваім і нашчадкам.

---

***Маляўка Мікалай Аляксандравіч** нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у Карэліі лесарубам. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні. Цяпер — у часопісе «Вясёлка».*

*Піша для дарослых і дзяцей. Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавякоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душою» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы ды сосны…» (2006), «Дзічка ў полі» (2007) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

Шлях карацее зямны —
І няма ім спакою,
Цяжка канаюць яны,
Людзі з грэшнай душою.

Знізу да самых вярхоў
Прагне кожны як шчасця
Даравання грахоў
Ды святога прычасця.

## ЧОРНЫ БУСЕЛ

Ляціць над Палессем пакрыўджаным,
Падобны на прывід здаля,
А ўнізе, пад чорнымі крыламі,
Марнее без ласкі зямля.

Не чуе гамонкі на вуліцах,
Не бачыць аратых і жней.
Здаецца, ад гора абвугліўся
Чарнобылец — белы раней.

Ляціць над дамамі-магіламі
І моліцца крыламі птах,
Каб збожжа ў палях каласілася,
Каб яблыкі спелі ў садах.

І хочацца сэрцам паверыць
У сілу малітвы без слоў —
Зямля да Любові павернецца
Пад крыламі белых буслоў.

## * * *

Хто падаҭе нам
Галасы з мінуўшчыны,
З-за адчужэння паласы?
Стагоддзямі былі яны заглушаны,
Людзей славутых
Галасы.

Зямля любімая,
Зямля гаротная
Для многіх сталася чужой,
І іх не чулі мы, нібы бязродныя,
Глухія сэрцам
І душой.

Трывожаць блізка
Галасы журлівыя,
Хвалююць галасы да слёз, —
Не як людскія ўжо, а жураўліныя
Сплываюць на зямлю
З нябёс.

Без вестак
І без імені прапаўшыя,
Яны вяртаюцца ў наш час.
Даруйце, продкі нашы, прашчуры,
Што позна мы
Пачулі Вас.

## РОДНАЯ МОВА

Родная мова!
Словы і гукі твае чароўныя,
Ласкі, сілы і музыкі поўныя.

Долю аплаквалі маці-сялянкі,
А дзяцей сваіх голасам песцілі.
Калыханкі,
Казкі іх,
Забаўлянкі
*Ласку* слова да нас данеслі.

Гуртаваліся разам паэты,
Сейбіты, кавалі і цеслі.
Гімны,
Клятвы іх,
Запаветы
*Сілу* слова да нас данеслі.

Не заглушылі чужыя харалы
Нашы малітвы святыя і песні.
Дудка,
Жалейка,
Цымбалы
*Музыку* слова да нас данеслі.

Матчына мова!
Словы і гукі твае чароўныя —
Спадчына наша галоўная,
Будучыні аснова.

## ПРА АГОНЬ, ВАДУ І МЕДНЫЯ ТРУБЫ

Я праз агонь прайшоў —
І сам не свой
Да родных вярнуўся
З апаленаю душой.

Я праз ваду прайшоў —
І, немалады,
Ледзь выпаўз на бераг
З вірлівай бяды.

Праз медныя трубы
Ў доўгім жыцці
Агонь і вада
Не далі мне
Прайсці.

І медныя трубы
Заплачуць у галавах,
Калі мой зямны
Закончыцца шлях.

## У ГУРЦЕ

Збіраліся гуртам
Вяскоўцы калісьці —
Работу рабіць,
За сталом весяліцца.

У гурце вялікім усё на вачах,
Усё, што ў кішэні і што на плячах,
І думкі, якія хаваюць звычайна,
У гурце вялікім таксама не тайна.

Напэўна, таму
І не хочуць, баяцца
Душою нячыстыя ўсе
Гуртавацца.

## РАДНЯ

Мы не цураемся радні —
Людзей жывых, людзей аджылых.
У нас ад продкаў — карані,
У нас ад продкаў — кроў у жылах.

Разбудзіць раніцай жаўрук,
І дбаем мы пра хлеб у полі.
У нас ад продкаў — сіла рук,
У нас ад продкаў — сіла волі.

Мы памагаем боль уняць,
Мы падтрымаем у няшчасці.
У нас ад продкаў — дабрыня,
У нас ад продкаў — сэрца насцеж.

Не засумуе з намі госць,
А ў скокі пойдзе, будзьце пэўны.
У нас ад продкаў — весялосць,
У нас ад продкаў — голас спеўны.

Шырэе пакаленняў круг.
Не зарастае ў Храм дарога.
У нас ад продкаў — мірны дух,
У нас ад продкаў — вера ў Бога.

А хто цураецца радні,
Святыні нашы зневажае, —
Чужыя мае карані,
І кроў таксама ў іх чужая.

## НЕ НАСТУПАЙЦЕ НА ЦЕНЬ

Казала мне мама некалі,
Па вуліцы ідучы:
— Не наступай на цень
Ад чалавека,
Каб душу яго
Не ўрачы.

Трава зелянее,
Сады зацвілі.
Хаджу асцярожна
Па роднай зямлі.
А можа, і праўда
Вось гэтак,
Праз цень,
Душа праяўляецца
Ў сонечны дзень,
Зямная душа
І бацькоў,
І сяброў,
І каханай —
На кветках,

На шэрым асфальце,
На сцежцы пясчанай?..

Я матчыны словы, як лекі,
Нясу па жыцці
І прашу:
— Не наступайце на цень
Ад чалавека,
Не трывожце
Яго душу!..

## ДОЖДЖ ПРАЙШОЎ…

Дождж прайшоў —
І ў вёсцы лужыны
Ліпавым пылком
Асмужаны.

Недзе там, на небе сёмым,
Гром грыміць глушэй.
Усміхаецца вясёлка:
Рот — аж да вушэй.
Мёдам свежым пахнуць ліпы.
Ціха загула,
Залаціцца ў мокрым лісці
Першая пчала.
Ажываюць ад задухі
Поле, сенажаць.
Лёгка дыхаць.
Лёгка думаць.
Лёгка працаваць…

Ад пылку і сонца
Лужыны
Зззяюць ярка,
Як жамчужыны.

* * *

У мінулым замоўкла
І даўно ўжо не радуеш
Ні пісьмом, ні паштоўкай,
Ні скупой тэлеграмаю.

Як адзіную ўцеху
Час у сэрцы пакінуў
Безгалосае рэха
Маладых успамінаў.

Знікла ў пошуках шчасця,
Як заранка за хмараю,
Пакарала маўчаннем —
Самай страшнаю караю.

Не дайсці, не даехаць,
Не заплакаць ад радасці.
Безгалосае рэха…
Пакаянне — без адраса…

* * *

Мілая,
У тваіх вачах
Ясніцца пройдзены шлях,
Лёсу нашага трыадзінства:
Бесклапотнасць дзяцінства,
Летуценнасць юнацтва,
Мудрасць сталасці.
У прыгожых жанчын
Не бывае старасці.
А маршчынкі на твары —
Гэта табе на ўспамін
След свой пакінулі м†ары,
Тыя, што ў нашым збыліся жыцці, —
Разам да Бога
Спакойна ісці.

## НАВАГОДНЯЯ ПАШТОЎКА

***Веры***

Пабяліла свет завея,
Свет — у інею карунках,
Толькі твар твой ружавее
Ад марозных пацалункаў.

Ты не сённяшняя быццам,
А прыйшла на міг у госці
З той, амаль ужо забытай,
Непаўторнай маладосці.

У абновах яркіх ёлка,
І душа твая ў абновах,
А ў вачах гарыць вясёлка —
Зноў жа тая, з дзён вясновых.

Словы, сэрцам падабраныя,
І шампанскае ў бакале.
Ты — такая нечаканая
На пяшчоты п'едэстале.

Замяла шляхі завея,
Свет — у інею карунках,
Толькі твар твой ружавее
Ад юнацкіх пацалункаў.

## ЗАЖУРЫЎСЯ ВЕЧАРАМ АДЗІН

Зажурыўся вечарам адзін.
Сцежкі тыя, па якіх хадзіў
Некалі з бацькамі, на зямлі
Дождж размыў, травою зараслі.

З часам прытупіўся востры боль,
Стаўся смутак у душы журбой,
Светлай і гаючай, як бальзам.
Хутка да бацькоў пайду і сам.

Не вяртаюцца з нябёс святых,
Толькі я на даўніх сцежках тых
Бачу постаці жывыя іх —
Самых блізкіх, самых дарагіх.

Не трывожце ў гэты міг мяне.
Можа, там, у сонечным акне,
Бачаць і яны, бацькі, як сын
Зажурыўся вечарам адзін.

## * * *

Заглянуць наперад хочацца,
З марай будучае зверыць,
Ды ніякая прарочыца
Ў лёс твой не прачыніць дзверы.

Задажджыць ці распагодзіцца,
Не гаруй дарма, нябога:
Ключ ад дзён тваіх знаходзіцца
На высокай зорцы ў Бога.

Сам не траць у шчасце веры,
Думай пра дзяцей, унукаў,
А ў зачыненыя дзверы
Тыя, без ключа, не стукай.

Будзе цяжка, будзе горка,
Ды адчайвацца не трэба, —
І жалобнай знічкай зорка
Не ўпадзе дачасна з неба.

## РАДАВОДНАЕ ДРЭВА

Шуміць яно
Над родным светам,
Закараніўшыся ў быліны.
І мы ў жыцці,
На дрэве гэтым,
Яшчэ зялёныя галіны.

У небе крона —
З ветру гулам,
З птушыным клёкатам і спевам.
А карані яго ў мінулым
Працуюць,
Каб не ссохла дрэва.

Усходу каснічок зіхоткі
Яшчэ румяніцца над намі,
Ды час праб'е —
І мы, як продкі,
Таксама станем
Каранямі.

Ці зможам
З годнасцю Скарыны
Тады, пасля свайго зыходу,
Жывіць зялёныя галіны
На вечным дрэве
Радаводу?..



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# СЕМ ГАДОЎ У ЦК[1]

(раман-дзённік)

**1976**

**1 студзеня.** Кіруша спявае каля навагодняй ёлкі:

В лесу родилась ёлочка.
А кто её родил?
Четыре пьяных ёжика
И Генка-крокодил.

Чалавеку два гады з нечым, а ўжо вунь што спявае. Недзе чуў! Ці навучыў хто? Воленька пазірае на брата, слухае, як ён спявае.

Вечарам хтосьці званіў, магчыма хацеў павіншаваць з Новым годам, але Тамара сказала, што ён (г. зн. я) адсыпаецца за мінулы год. Так яно, зрэшты, і было.

**2 студзеня.** На працы. Шмат віншаванняў. Столькі ў мяне ніколі не было. У асноўным ад пісьменнікаў. Загадчык нашага паштовага аддзялення (у цокальным паверсе) Парамон нават пажартаваў: «Вам столькі ж віншаванняў, як Пятру Міронавічу». Каб не заганарыцца! А то, чаго добрага, заганаруся.

**5 студзеня.** Пачалася падрыхтоўка да XXVIII з’езда Кампартыі Беларусі, які мае адбыцца праз месяц — у пачатку лютага. Групу, якая будзе займацца напісаннем даклада, інструктаваў у сваім кабінеце сакратар ЦК па ідэалогіі А. Т. Кузьмін. Гаварыў пра тое, што лічыць неабходным «вставить в доклад». Не забыць пра выступленне М. Суслава (надрукавана ў «Правде»), а таксама выступленне Саломенцава на ўручэнні прэмій.

— Сфармуляваць даручэнне пісьменнікам і кіношнікам: работа па зборы жывых дакументаў удзельнікаў вайны, ветэранаў. Трэба спяшацца, таму што яны адыходзяць.

Гэтае ўказанне — у тую частку даклада, за якую адказваю я.

— Закрануць такую праблему, як «трагедия художника». Да-да! На прыкладзе Быкава. Ён імкнецца да ідэалу, а ідэал недасягальны. Ідэал!

Гэта падалося мне нечаканым і цікавым. Асабліва з вуснаў сакратара ЦК. Аднак калі ўжо разважаць пра трагедыю Быкава (невядома ці такая трагедыя ёсць у наяўнасці), дык яна папросту заключаецца ў тым, што Быкаву перашкаджаюць. А можа, тое, што яму перашкаджаюць, стымулюе яго? Творчы працэс — рэч супярэчлівая.

— Павінна быць крытыка і самакрытыка, — працягваў свае развагі сакратар. — Часам натыкаешся на факты, абсалютна незразумелыя. Уявіце

[1] Заканчэнне. Пачатак у № 5—10, 2011 г.

сабе: уручаем сцяг ЦК, а яны апладзіраваць не ўмеюць. Дажыліся! Еле-еле слышна. Ну, куда гэта гадзіцца? Эх, беларусы! — Замест «беларусы» ў яго атрымалася амаль па-японску: «бералусы». У голасе загучалі незадавальненне, прыкрасць: — Пра што гэта сведчыць? Пра тое, канешна, што на мястах у нас яшчэ нізкая культура. Храмае на абедзве нагі ідэалагічная работа. Важны праблемы міравазрэнія, класавага васпітанія. Апяць-такі, маладзёж…

Потым была гутарка ў Пятра Міронавіча, які паставіў задачу раскрыць гістарычныя дасягненні савецкага народа, прадумаць «меры» па росце і паляпшэнні работы кадраў на ўсіх узроўнях, прааналізаваць стан арганізатарскай работы партарганізацый. Не ўпусціць своеасаблівасць цяперашняга этапа.

Крыху нечаканым мне падалося, што «своеасаблівасць цяперашняга моманту» Машэраў бачыць у «гераізме адзінкі і мас»: «Героизм стал достоянием тысяч и миллионов. Это — одно из крупнейших наших завоеваний».

Асабіста для мяне больш актуальным сёння ўяўляецца не гераізм, а хутчэй меры заахвочвання, стымуляцыі працы, тое, што сам Пётр Міронавіч называе «побудительными мотивами». Але ці не пойдзе гэта «ўразрэз з сацыялізмам»?

Сустрэў Сашу Я. У яго шмат знаёмых сярод святароў. Відаць, з іх слоў папярэджваў, што на куццю, напярэдадні Раства, вельмі лютуе д'ябал, асабліва не дае спакою жанчынам, нават старым. Строгі пост, а сатана лютуе, зманьвае. Я ў падрабязнасці не ўдаваўся, не распытваў, але страху ён на мяне нагнаў.

**7 студзеня.** Раство Хрыстова. Паўсюль ажыўленне, радасць. Калега П. здзіўляецца, незадаволена круціць галавой.

**8 студзеня.** Дэлегатамі на XXVIII з'езд Кампартыі Беларусі вылучаны М. Танк, І. Шамякін, П. Броўка, К. Крапіва. З гасцявымі мандатамі — І. Мележ, К. Кірэенка, А. Макаёнак, І. Чыгрынаў, А. Грачанікаў.

Чыгрынава падтрымаў я. Ёсць у ім пісьменніцкая саліднасць.

**9 студзеня.** На анкету «ЛіМа» аб бягучым моманце адказвае шэраг пісьменнікаў і кампазітараў — І. Мележ, Я. Брыль, І. Шамякін, В. Быкаў, Г. Вагнер і інш. Д. Бічэль-Загнетава хораша выказвае свае ўражанні: «Радуе наша рэчаіснасць». Мне асабіста такія словы вельмі прыемна чытаць, я люблю дадатныя, пазітыўныя эмоцыі. Але цяпер, прызнаюся, пачуваю сябе не лепшым чынам. Надакучыла пісаць «матэрыялы» для начальства. Адчуваю, што гэтая пісаніна прыніжае мяне ва ўласных вачах.

**10 студзеня**. Іван Чыгрынаў успамінаў сваю маці, якая казала, што яе сын ніколі не імкнуўся, каб у яго былі сябры. Іван Гаўрылавіч тлумачыць:

— Не меў у гэтым патрэбы. Я заўсёды сам па сабе.

Між іншым, мне гэта зразумела, бо і мяне самога ніколі не цягнула бегчы за ўсімі, у натоўпе.

**12 студзеня.** Выраз (чуў яго ўжо не раз, асабліва ад В. Рабкова): «Интеллигент запущенный». Гэта, відаць, прозва нашай беднасці. Якім жа ён можа быць і будзе, інтэлігент той, пры такой жабрацкай зарплаце…

**13 студзеня.** «Звязда» надрукавала маю рэцэнзію на анталогію ўкраінскай савецкай паэзіі на беларускай мове. Пісаў з ахвотай. Украіна заўсёды была для мяне роднай і блізкай. У маім Кругелі размаўляюць, можна сказаць, паўкраінску.

На Украіне шмат, больш чым дзе, выдатных паэтаў. Адзін з такіх — Андрэй Малышка, якога пераклаў Аркадзь Куляшоў:

Я не зайздрошчу ні душой убогім,
Ні іх жыццю, што ў сытым сне міне,
Няхай яны зайздросцяць тым дарогам,
Трывогам тым, што дасталіся мне.
Я не зайздрошчу дробным іх размовам,
Лісліві тон душы не закране,
Няхай яны маім зайздросцяць словам,
Якія боль і радасць для мяне…

Аўтар і яго, як кажуць, «кангеніяльны» перакладчык тыпалагічна вельмі блізкія паміж сабой, пішуць і адчуваюць у адным паэтычным ключы.

**15 студзеня.** Даў нечаканасць шаноўны Піліп Пестрак. Пагубляў, бедны, усе дакументы: і партбілет, і пасведчанне дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, і членскі білет Саюза пісьменнікаў, і іншае, у тым ліку білет члена Літфонда. Прынёс у праўленне Літфонда заяву: «Прашу выдаць мне паўторна білет члена Літфонда, бо без яго я нішто». Супрацоўнікі Літфонда, на чале з Віктарам Рабковым падраслі ў сваіх вачах і запаважалі сябе яшчэ больш.

**16 студзеня.** Створаны Савет пры СП Беларусі па сувязях з МУС. Мэта Савета — стымуляваць з'яўленне твораў пра супрацоўнікаў органаў унутраных спраў па ахове грамадскага парадку і барацьбе са злачыннасцю. Галоўны ініцыятар стварэння гэтага Савета — Мікалай Чаргінец. Ён аўтар некалькіх удалых дэтэктываў. Сябруе з Рабковым. Цікавы, мне здаецца, чалавек.

**18 студзеня.** Нядзеля. Чытаю М. Бахціна: «В языке нет лишних слов». Выдатная думка! Выдатная і правільная. Нездарма М. Бахцін цяпер самы папулярны тэарэтык літаратуразнаўства. Па-мойму, ён, апроч таго, глыбокі філосаф. Філасофская падкладка (кантаўская традыцыя) у яго адчуваецца.

**20 студзеня.** Аўтарскі вечар Пімена Панчанкі ў філармоніі. Уступнае, ухвальнае слова сказаў Н. Гілевіч. Выступілі П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк і інш. Пра паэзію П. Панчанкі і сказана, і напісана даволі шмат, а будзе напісана, па ўсім відаць, яшчэ больш — гэта з'ява жыцця, творчая, здольная на актыўнае ўзаемадзеянне з жыццём і часам. Ён — з тых паэтаў, якія не абмяжоўваюцца толькі адлюстраваннем свету, хай сабе і вельмі «мастацкім» адлюстраваннем, а страсна імкнуцца ўздзейнічаць на яго сілай сваіх пачуццяў, вобразаў, маральных ідэалаў. Можа, таму ў яго столькі чытачоў, сяброў, прыхільнікаў…

На мінулым тыдні ў «ЛіМе», на дзвюх палосах, было інтэрв'ю П. Панчанкі. На пытанне: «Над чым вы працуеце сёння?», ён адказаў:

«Калі гаварыць пра сённяшні дзень, дык цяпер я здаў да выдання зборнік вершаў пад назвай «Крык сойкі». Над гэтым зборнікам я працаваў апошнія тры гады. Спытаеце, чаму я так назваў зборнік? Сойка — вельмі прыгожая птушка. Цікавая яна яшчэ і тым, што заўсёды паднімае трывожны крык, калі непадалёку з'яўляецца нехта чужы. Голас сойкі трохі непрыемны, але рэзкі, як крык перасцярогі перад нейкай пагрозай…

Што я хачу выказаць такой назвай?

Я вельмі люблю лес, родную прыроду і мяне непакоіць тое, што на ўладаннях сойкі нярэдка з'яўляюцца, шчыра кажучы, непажаданыя госці з ліку турыстаў ці выпадковых вандроўнікаў. Назва кнігі, вядома, умоўная. Яе не трэба прымаць аднабакова, бо гэта не проста крык і нават не маё асабістае папярэджванне, а голас усяго нашага грамадства, усяго народа, які клапоціцца аб захаванні нашых лясоў, аб чысціні вод у нашых рэках, азёрах і марах, аб захаванні жывой прыроды, раслiннага і жывёльнага свету, захаванні атмасферы, каб не толькі нам лепш жылося, але каб усю гэтую прыгажосць захаваць

і перадаць нашым нашчадкам, унукам і праўнукам, людзям будучых пакаленняў і будучых стагоддзяў. Каб гэта здзейснілася, у кожным сэрцы сёння павінен гучаць крык сойкі».

Уражанне такое, што Панчанка палагаднеў, сцішыўся, стаў больш удумлівым. Паглядзім, гэта цікава.

**26 студзеня.** Перакладчык С. ізноў ажаніўся. Пры сустрэчы расказаў жарт: «Адзін у другога пытаецца:

— Ці праўда, што Бог забраў у цябе трэцюю жонку?

— Праўда, браце. Але я ўзяў чацвёртую: бярэ Бог, бяру і я».

С. скардзіцца на захворванне страўніка, харчуецца бурачкамі з маянэзам.

**2 лютага.** Усё больш прыкметная тэндэнцыя — рост дакументалістыкі. Яна мае свае рысы і адзнакі. У сучаснай дакументалістыцы стала вельмі адчувальна асабовасць аўтара, яго суб'ектыўнасць, нават калі ён свядома адыходзіць на іншы план, даючы слова героям і дакументам. Роля светапогляду, палітычнай, маральнай пазіцыі пісьменніка тут надзвычай вялікая. Гэта характэрна ўсім формам і жанрам дакументальнай літаратуры — уласна дакументальнай, мастацка-дакументальнай, навуковай.

Мастацкая дакументалістыка як адзін з відаў вялікай літаратуры мае сваё разгалінаванне жанраў, звязаных агульнай сістэмай з жанрамі ўласна мастацкімі — раманам, аповесцю, п'есай, паэмай і г. д., ніколькі не адмяняючы іх, а наадварот — узбагачаючы.

Дакумент забяспечвае літаратуру праўдай, паэзіяй «нехлусні». Літаратура можа і павінна параўноўваць сябе з дакументалістыкай — гэта для яе важна.

Дакументальны матэрыял заўсёды плённа ўплываў на прозу, раман, даючы ім амаль, так сказаць, «гатовы змест» і напрамак далейшых пошукаў, актыўна ўплываючы на мастацкую форму.

**4 лютага.** Будуецца Дом літаратара (архітэктар Грыгор'еў).

Алесь Адамовіч (сказаў пры сустрэчы) завяршае манаграфію «Беларуская проза на літаратурнай планеце». Гэта ці не адзіны ў нас даследчык, які разглядае беларускую прозу не толькі ў яе нацыянальнай спецыфіцы, але і імкнецца паказаць яе як частку агульнасаюзнага працэсу ў кантэксце сусветнай літаратуры. Алесь Адамовіч — вучоны-кампаратывіст, крытык і пісьменнік у адной асобе. Ён, трэба адзначыць, не надта паважае філасофскія сістэмы, якія прэтэндуюць на канчатковую ісціну і прад'яўляюць да жыцця вузкія, дагматычныя патрабаванні. У сваім бачанні беларускай літаратуры, на якую ён імкнецца глядзець «здалёку і зблізку», у створанай ім канцэпцыі рамана тэарэтычная думка даследчыка адчувае сябе досыць свабодна, натуральна і нязмушана, у злагадзе з гістарычнай логікай літаратурнай творчасці, развіццём мастацкага слова.

**5 лютага.** Адкрыўся XXVIII з'езд Кампартыі Беларусі. Плошча каля Дома афіцэраў застаўлена машынамі: «волгі», «уазікі», «масквічы».

**6 лютага.** Выступленне М. Танка на XXVIII з'ездзе Кампартыі Беларусі: «Разам з партыяй, разам з народам». Усё тое ж самае, што колькі гадоў таму.

**10 лютага.** Пасяджэнне секцыі крытыкі і літаратуразнаўства з дакладам М. Мушынскага «Сучасная беларуская літаратура ў люстры крытыкі». Выступілі А. Клышка, М. Лобан, К. Губарэвіч, А. Мальдзіс, з пісьменнікаў-«генералаў» ніхто не выступаў, апроч хіба што Мікалая Аляксеева — генерала ад інфантэрыі, але ніяк не ад літаратуры.

Адносна ўплыву крытыкі і літаратуразнаўства на бягучы літаратурны працэс. Колькі помню — крытыкаў заўсёды крытыкавалі за недастатковасць

такога ўплыву. Аднак ён ёсць і праяўляецца па-рознаму. Не толькі, скажам, у закрытых выдавецкіх рэцэнзіях. (Калі б выдаць закрытыя рэцэнзіі некаторых крытыкаў, то, думаю, атрымаліся б цікавыя, шчырыя кнігі, якія б, безумоўна, сведчылі ў карысць такога ўплыву.) Часам крытыка і тым уплывае на твор і нават дае яму ацэнку, што не гаворыць пра яго. Па-рознаму складваюцца ўзаемаадносіны крытыкі і літаратуры.

Вядома, ва ўстанаўленні каштоўнасці твора вялікая роля належыць крытыцы. Тут маюць значэнне ўсе якасці асобы крытыка: сіла інтэлекту, жыццёвы вопыт, маральныя прынцыпы, эстэтычная чуласць, культурная памяць, інтуіцыя. Гэта яшчэ раз было падкрэслена на гэтым пасяджэнні, у дакладзе і ў некаторых выступленнях.

**14 лютага.** Нядзеля. Гартаю час ад часу падораны калісьці Коршунавым (і ўкладзены ім) зборнік прадмоў і пасляслоўяў Ф. Скарыны. На гэты раз спыніўся на прадмове да «Книги Иудив вдовици»: «Як звяры, што блукаюць у пушчы, ад нараджэння ведаюць сховы свае, як птушкі, што лётаюць у паветры, помняць гнёзды свае, як рыбы, што плаваюць у моры і ў рэках, чуюць віры свае і як пчолы бароняць вуллі свае — гэтак і людзі да месца, дзе нарадзіліся і ўзгадаваны ў Бозе, вялікую ласку маюць».

Хочацца з’ездзіць у Кругель, убачыць аднапасельцаў.

**16 лютага.** Дні беларускай літаратуры ў Гродзенскай вобласці. Групы пісьменнікаў накіраваны ў кожны раён. У Смаргонь паехалі Я. Семяжон, Е. Лось, Ю. Голуб, Р. Семашкевіч і я. Меркавалася, што М. Танк мае далучыцца да гэтай групы, у якую ён уключаны, пазней. Паехалі ад ганку СП на ўазіку, які прадаставіла кіраўніцтва Смаргонскага раёна. Па дарозе спыніліся ў вёсцы Дамашы, адкуль Рыгор Міхайлавіч родам, у яго хаце. Маці паіла гарачым чаем на зёлках. Паехалі далей. Дарога няроўная, калдобістая ды яшчэ і галалёд. Адзін раз крутанута так, што ўазік развярнула ў адваротны бок. Еўдакія Якаўлеўна ажно заекатала ад страху. Уазік наш на летніх, ужо добра пацёртых шынах, дык яны і коўзаюцца.

У Смаргоні каля райкама партыі сустрэў Юрка Голуб, які з’явіўся напрамую з Гродна. Адбылася гутарка ў райкаме партыі. Першы сакратар тав. Патрыкееў азнаёміў з раёнам, яго эканомікай і паказчыкамі ў бягучым часе. Смаргонскі раён як асобная адміністрацыйная адзінка ўтвораны ў 1960 годзе. У раёне 57 тыс. насельніцтва (28 чал. на 1 кв. км), 23 калгасы. З гістарычных мясцін — Крэва, дзе была заключана Крэўская унія, ёсць помнікі ад Першай сусветнай вайны. Тут стаяў фронт. Я ўспомніў, што недзе тут у студзені 1917 года ў баі пад Смаргонню быў паранены мой дзядуля Лявонцій Міхайлавіч. Падабралі санітары, і ён ляжаў у шпіталі ў Залессі. Куля трапіла ў левае плячо. Ледзьве ўратавалі руку і то, дзякуючы доктару Талстой (дачцэ Л. М. Талстога), якая па медыцынскай часці служыла ў тым шпіталі. Яна ж яго і лячыла. Рука захавалася, хоць і напаўжывая, але плуга трымаў.

Абудзіў ад успамінаў голас Патрыкеева, які гаварыў пра ўраджайнасць. Ураджайнасць па Смаргонскім раёне — 12,8 цэнтнераў у 8-й пяцігодцы і 22,3 цэнтнера ў 9-й. Надоі малака — па 386 цэнтнераў на 100 га «пашні» (раллі).

**17—18 лютага.** Сустрэчы ў калектывах працоўных. Чытанне вершаў, адказы на пытанні. Голуб і Семашкевіч выступаюць, падтрымліваючы адзін аднаго, але найбольшы поспех мелі Я. Семяжон і Е. Лось. У Язэпа Ігнатавіча цудоўныя пераклады, асабліва з Бёрнса, у Еўдакіі Якаўлеўны — лірыка.

Гаспадары частавалі гарэлкай і мясцовай палыноўкай, а пасля заключнага вечара (Танк так і не з’явіўся) на заводзе жалезабетонных вырабаў (дырэк-

тар — мажная жанчына з рашучым характарам) быў банкет у раённым рэстаране. Далучыўся тав. Патрыкееў, які выйшаў невядома з якога ўвахода. Паселі за стол, і Патрыкееў, сеўшы ў тарцы, пачаў казаць:

— Я спрабаваў чытаць беларускую літаратуру, але ў вас няма вострых сюжэтаў.

Семяжон пасміхнуўся і як бы нават падтрымаў яго:

— Жыццё — гэта суцэльныя сюжэты. Раз, два — і сюжэт, — дыпламатычна зазначыў ён.

— Вось я аб гэтым і кажу! — Патрыкееў ткнуў у паветра пальцам.

«Ну, што яму запярэчыш, — падумаў я, — і ці варта. Так павялося ўжо, што ў літаратуры ўсе лічаць сябе «докамі».

Рыгор нешта пачаў казаць, удакладняць накшталт таго, «якія сюжэты вы лічыце вострымі», але прысутныя пабралі ўжо ў рукі чаркі, збіраючыся выпіць за поспехі.

Крыху падпілі, і стала шумна, пачаўся абмен думкамі, аповеды, анекдоты. Язэп Ігнатавіч успомніў, як англійская каралева, калі ён быў з адказным візітам у Англіі ў складзе савецкай дэлегацыі (адразу пасля вайны), падарыла яму адрэз «з тонкага-тонкага бастону» на касцюм. «Усё адно як ведала, што ў нас тады не дастаць было».

Азваўся, калі жанчыны кудысьці адышліся, і Патрыкееў. Аказваецца, ён таксама ведае нямала анекдотаў. Расказаў пра ветэрана, у якога спыталі:

— Скажите, вы пережили такие непростые времена. Когда вам было лучше: при Сталине, Хрущеве или Брежневе?

— При Сталине, — ответил ветеран.

— Но почему?!

— Бабы были моложе.

Слухачы пакаціліся ад смеху.

Потым размова зайшла пра вайну. Семяжон і Патрыкееў — яе ўдзельнікі. «Дзе ж цяпер Гітлер?» — задаў пытанне Патрыкееў. Язэп Ігнатавіч сказаў агульнавядомае: застрэліўся, а труп спалілі, абліўшы бензінам. Усё гэта, дарэчы, доказна апісана ў кнізе Алены Ржэўскай «Берлин, май 1945», на што Патрыкееў адрэагаваў з сумневам:

— Пакуль не прачытаю, не паверу.

У мяне гэтая кніга ёсць, паабяцаў прыслаць Патрыкееву.

**20 лютага.** Я ўжо ў Мінску, дзень правёў на рабоце. Тут усё па-ранейшаму, «цякучка», як заўсёды.

Атрымаў паштоўку ад Сабіра з Баку, віншуе з кожным святам, на гэты раз з днём Савецкай Арміі.

**21 лютага.** Паслаў Патрыкееву ў Смаргонь кнігу А. Ржэўскай «Берлин, май 1945».

Марудна будуецца Дом пісьменнікаў па вуліцы Фрунзе, трэба падганяць. Гаварыў з архітэктарам Грыгор’евым.

**22 лютага.** Разам з Барысам Сачанкам наведалі Лужаніна і Яўгенію Эргардаўну. Гаспадар у добрай форме, жвава бярэ чарку.

— Як бавіце час? — бадзёра спытаў Барыс Іванавіч.

— Для мяне ўжо час — гэта чаканне старасці, — сціпла адпавёў гаспадар.

— Яшчэ, Саша, не грашы! — запярэчыла яму Яўгенія Эргардаўна.

— Не старасці, а будучыні, — удакладніў Барыс Іванавіч.

— Дык гэта адно і тое ж.

Узаемаадносіны чалавека з часам заўсёды былі няпростыя. Я ўспомніў сітуацыю ў рамане Аскара Уайльда «Партрэт Дарыяна Грэя». Там герой, чым

бліжэй да старасці, тым болей маладзеў. Гэта, зразумела, прыдумка пісьменніка. А. Уайльд у духу свайго часу часта эксперыментаваў, змешваючы такія паняцці, як ісціна, мараль, прыгажосць. А заадно — старасць і маладосць.

— Людзі хочуць жыць доўга, дажыць да старасці, — зноў уставіла слова гаспадыня, — а дажыўшы, крыўдуюць на яе, бэсцяць. Зрэшты, нічога іншага ад людзей не даводзіцца і чакаць.

— Старасць таксама неблагі час, — сказаў Аляксандр Амвросьевіч. — Важна не даваць, каб ён цябе сагнуў. Каб чалавек не звяў і не ўпаў у дэпрэсію. Тут могуць дапамагчы праца, прырода, лес…

Беларуская прымаўка наконт старасці сцвярджае: «Пад старасць і кот дурнее». Ну, але гэта ўжо гаворка ідзе пра глыбокую старасць. Не ўсё так песімістычна, як здаецца: старасць — недзе я чытаў — час зусім асобных, непаўторных фізічных і псіхалагічных працэсаў, вышыня жыццёвага досведу, і крыўдна было б усяго гэтага не мець.

**23 лютага.** «Мужчынскі» дзень. На гэты раз ён выпаў у нядзелю.

Вечарам еду ў Маскву.

З'явіўся другі нумар «Полымя» з маім артыкулам «Воблік пакалення». Пакаленне і час. Час таксама мае свае адметныя рысы, сваё аблічча. Уражанне такое, што сёння страчана навізна часу. Як у Сальвадора Далі: гадзіннік расплыўся і спыніўся.

**24 лютага.** Пасяджэнне Савета па беларускай літаратуры ў Маскве. Абмяркоўваўся стан беларускай прозы. Выступалі Ю. Верчанка, А. Аўчарэнка, І. Чыгрынаў, Дз. Кавалёў, В. Каваленка, В. Аскоцкі, А. Адамовіч і інш. З Кастрамы прыехаў Ігар Дзядкоў. Гаварылі пра featured рознае і па-рознаму.

Найболей блізкі да ісціны ў ацэнцы сучаснага стану беларускай літаратуры быў, на мой погляд, А. Адамовіч (якога Аўчарэнка называе на ўкраінскі манер — Олэсь), які выказаўся так:

— Сучасную беларускую літаратуру мы вымяраем крытэрыямі высакаразвітай літаратуры, той, якая ўвабрала ў сябе і «крок наперад у эстэтычным развіцці чалавецтва» — эстэтычны вопыт Л. Талстога, а таксама Дастаеўскага. «Крок» гэты азначае бязлітаснасць праўды аб чалавеку і адначасова павага, вера ў яго.

Літаратура, адзначалі выступоўцы, пачынае абмяркоўваць пытанні паходжання, адзінства і прызначэння чалавека, зямлі і космасу. Яна імкнецца спазнаць сувязі, якія спалучаюць у адно цэлае, скажам, кветку пралескі, бляск зоркі і лёс чалавека. Пісьменнікі востра адчулі, што навукова-тэхнічная і гаспадарчая дзейнасць чалавека вядзе да дэгуманізацыі свету. Беларуская літаратура ў лепшых сваіх узорах адстойвае гуманістычныя ідэалы сусветнай культуры, захоўвае і адкрыта дэманструе сваю каштоўнасную арыентацыю.

Ігар Дзядкоў дрыжачым голасам гаварыў аб нейкіх бязлітасных людзях, «бестрепетно беспощадных», якія кожнага гатовы ўзяць за глотку і душыць. Крыху здагадваюся, каго ён меў на ўвазе.

**26 лютага.** Суседні аддзел прапаганды здымае з новага зборніка П. Панчанкі некалькі вострых вершаў, назва таксама не падабаецца. Гэта якраз той «Крык сойкі», пра які паэт гаварыў у сваім інтэрв'ю «ЛіМу» ў мінулым месяцы. Выкідаюцца цудоўныя вершы: «То ў надзеях, то ў скрусе…», «Я гаварыў занадта гучна…», «Замоўкнуў жураўліны скрып калысак…» і інш. Мае калегі залішне, кажучы па-руску, «усердствуют», «рвение не по разуму». Вырашыў шукаць дапамогі ў А. Т. Кузьміна.

Пімен Емяльянавіч заадно крыўдуе і на сваіх калег. Аднойчы я спытаў у яго, хто з пісьменнікаў яму падабаецца.

— Талстой, Шэкспір і Дастаеўскі.

— А з нашых?

— Ніхто.

Вельмі сярдзіты. Не надта спрыяе і тое, што паэт мае званне народнага. Нарэшце, не так даўно, атрымаў.

**27 лютага.** Пачалася падрыхтоўка да чарговага, VI з’езда пісьменнікаў СССР, перад якім павінен адбыцца VII з’езд пісьменнікаў Беларусі. Трэба будзе правесці справаздачныя сходы ў абласных аддзяленнях. Вырашана дэлегатаў на з’езд не выбіраць, а запрасіць увесь склад СП. Паўстала пытанне, дзе, у якім памяшканні праводзіць з’езд. Нехта (здаецца, Юрэвіч) выказаў намер выступіць. І. Чыгрынаў паціху пажартаваў:

— Ну-ну, патаўчы ваду ў ступе.

Часам бачуся з Іванам Гаўрылавічам. Ён апантаны сваімі раманамі, ездзіць па тых месцах, дзе адбываліся падзеі, сустракаецца з героямі. «Раман, браце, гэта не дысертацыя, — кажа ён мне, — для рамана вунь колькі ўсяго трэба!» Расказаў, што, працуючы над «Плачам перапёлкі» (гэта было на дачы), падтрымліваў сябе варэннем. Салодкае паляпшае памяць, але падскочыў «сахарок». Цяпер збівае з дапамогай доктара Ладуценкі. Што ж, творчасць — яна жорсткая, патрабуе здароўя.

**29 лютага**. «Прощеное воскресение». Не ведаю, як гэта па-беларуску. Людзі даруюць адзін аднаму крыўды, просяць прабачэння. І гэта, павінен сказаць, няблага прыдумана. Айцы царквы папрацавалі на гэты конт добра, удумліва.

**4 сакавіка.** Не перастаю думаць над чыгрынаўскім «патаўчы ваду ў ступе». Часам ён у некалькіх словах умее сказаць пра многае. Я з ім згодзен. Геніяў зараз у нас няма, у асноўным усе «таўкуць ваду ў ступе».

Дык як, у якім напрамку пабудаваць работу з’езда?

Надзённыя пытанні сучаснага — тым больш сённяшняга! — літаратурнага працэсу… Адказаць на іх заўсёды было няпроста. «У сучасніка, — пісаў некалі Ю. Тынянаў, — заўсёды ёсць адчуванне няўдачы, адчуванне, што літаратура не ўдаецца…» Папрокаў (друкаваных і асабліва вусных) у адрас сучаснай беларускай літаратуры (усіх родаў і жанраў) шмат: літаратура, кажуць, «прабуксоўвае», адстае ад імклівай плыні жыцця з яго новымі тыповымі канфліктамі, праблемамі, характарамі… недастаткова ўплывае на духоўныя запатрабаванні чалавека, слаба фарміруе іх…, крытыка, маўляў, стала падобнай на літаратуру — такой жа рахманай, бясстраснай, паблажлівай, — бо яна прымірылася з яе недахопамі…

Не адмаўляю, у гэтых меркаваннях ёсць значная доля ісціны. Аднак такая аднабаковая і адназначная ацэнка ўсяго літаратурнага працэсу была б, безумоўна, памылковай, несправядлівай. Ён развіваецца, хаця і нераўнамерна, але расткі новага, свежага, абнадзейваючага ўзнікаюць у мастацтве пастаянна. Важна ўсё ж такі мець на ўвазе пэўную канструктыўную лінію яго развіцця і пошукаў.

З’езд павінен адказаць на многія пытанні.

**5 сакавіка.** «ЛіМ» дае матэрыялы да юбілею К. Крапівы. Яму — 80 гадоў. Выступілі П. Броўка, С. Шушкевіч, З. Стома і інш.

Арыгінальны чалавек, не падобны на каго іншага. Арыгінальны драматург. Яго «фантастычная камедыя» «Брама неўміручасці», дае, мне здаецца, падставы меркаваць, што славуты асветнік, пад канец жыцця, у пэўнай ступені зняверыўся ў ідэях і ў ідэалогіях — у здольнасці іх ахапіць цэласную карціну быцця, карэнным чынам змяніць чалавечую прыроду. Уважліва прачы-

таўшы п'есу, можна прыйсці да высновы, што аўтару «Брамы неўміручасці» ідэі, нават самыя маштабныя, здаюцца частковымі, прыватнымі, а пагэтаму і абстрактнымі, у гэтым сваім творы Крапіва набліжаецца да шырокай панарамы жыцця. Жыццё заўсёды складаней, чым мы аб ім думаем.

У мове — пурыст, праціўнік дыялектызмаў. Партыйныя босы яму давяраюць. Афіцыйны ахоўнік працэсу набліжэння беларускай мовы да рускай.

**6 сакавіка.** Субота, але давялося выступаць перад слухачамі рэспубліканскіх курсаў у партшколе. Прачытаў лекцыю пра сучасную беларускую літаратуру і развіццё літаратурнага працэсу, расказаў пра тое, што чуў на пасяджэнні Савета па беларускай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў СССР у Маскве. Гэта былі ідэалагічныя работнікі, якія на месячных курсах падвышалі сваю кваліфікацыю.

У канцы мне паступіла запіска:

«У. В. Гніламёдаву.

Ці маглі б Вы з пазіцый літаратурнага крытыка выказаць свае адносіны да ўрыўкаў з новага твора І. Шамякіна, што друкуюцца сёння на старонках «Звязды»? Ці даюць «Два месяцы новай эры» падставу лічыць, што гэты новы твор зойме пачэснае месца ў беларускай Ленініяне, стане значнай з'явай у літаратуры 70-х?»

Шамякін мае свайго чытача, для якога ж, пэўна, і піша. А «пачэснае месца» — гэта ўжо хто і як на яго трапіць. Дзіўныя людзі гэтыя «ідэалагічныя работнікі».

**7 сакавіка.** Снегу няма, усё растала, з дрэў капаюць кроплі веснавой вільгаці. Часам я гляджу на дрэва і паміж галінак бачу чыйсьці твар, як бы на мяне чалавек глядзіць. Але гэта калі даць свабоду ўяўленню, а, відаць, поўнай свабоды даваць яму нельга.

**8 сакавіка.** Жаночы дзень. У армянскага радыё запыталі, што такое надзея. Радыё адказала, што гэта вельмі жывучая руская баба. Што б ні здарылася, яна памірае апошняй.

Літаратура — тая ж надзея.

**12 сакавіка.** У Люксембургу, у Доме савецкай культуры, адбыўся вечар беларускай літаратуры. Чыталі ўрыўкі з твораў В. Быкава і Е. Лось. Прысутнічаў пасол.

Цяпер Еўдакія Якаўлеўна, пэўна, не будзе скардзіцца на няўвагу да сваёй творчасці.

**13 сакавіка.** Нарэшце ўладжана пытанне з «Крыкам сойкі», удалося адстаяць і вершы, і назву. Шчыра дапамог М. Ф. Дубянецкі.

Дзень прыкметна павялічыўся.

**16 сакавіка.** Зноў пачалася зіма. За ноч наваліла снегу. За акном — завіруха. Ужо каторы раз сёлета пачынаецца зіма. У лісце да свайго сябра М. А. Максімовіча Гогаль прасіў: «Напиши, в каком состоянии у вас весна». Стыль дзелавы, нават, я сказаў бы, сучасны. Дзіўна, што такое мог напісаць Гогаль. Дык вось у нас «состояние весны» такое, што яшчэ ляжыць снег.

**20 сакавіка.** П'янства. Калі хто не п'е, кажуць, што, мусіць, ён хворы. На адной з пісьменніцкіх нарад у Мінску нядаўна масквічка Т. З. падпіла так, што давялося выклікаць «хуткую».

У Бібліі (Евангелле) сказана: «Впредь пей не одну воду, но употребляй немного вина, ради желудка твоего и частых твоих недугов» (1 Тим., 5, 23). Мы гэтае «немного» парушаем. Замест «немного» атрымліваецца «много». Маскоўскі паэт Ягор Ісаеў гаварыў нядаўна (на пісьменніцкай нарадзе ў Маскве): «Что такое коммунизм? Это способность к интенсивному общению

друг с другом. Сегодня же интенсивным стало общение через градус, через бутылку…» Ягор Ісаеў умее гаварыць жвава, сыпле «прибаутками».

Алесь Шлег учора ўпэўнена сказаў: «Гарэлка і сала дрэнныя не бываюць». Малады, а вунь які разумны і куды гне. А можа, ад каго чуў?

Кажуць, што пісьменнік П., п’яны, дабіраючыся позна ноччу дадому, спяваючы «Ах ты, мая гарэліца, ах ты, весялуха», наткнуўся на ліхтаровы слуп і ўпёрся ў яго лбом, спрабуючы ўставіць ключ. Вырашыў, відаць, што дадыбаў да кватэры.

А можа, гэта ад часу залежыць? Можа, наш век такі — пякучы, як спірт? Нездарма Г. Апалінэр назваў калісьці сваю знакамітую кнігу вершаў «Алкаголі»?

**22 сакавіка.** Дайшла вестка, што памёр Уладзімір Дубоўка. Зламаў «шыйку бядра». У Маскву на пахаванне едзе Ю. Пшыркоў.

**26 сакавіка.** Стала вядома, што С. В. Марцэлеў ідзе з ЦК у Акадэмію навук на пасаду дырэктара Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору.

Прыслаў паштоўку Баруздзін з «Дружбы народов». Просіць кнігу ў бібліятэку для будаўнікоў Нурэкскай ГЭС, над якімі вядзе шэфства часопіс «Дружба народов».

**28 сакавіка.** Што такое? Ноччу грымела. Дождж, снег і… маланка, ды такая шумная, бліскучая, асляпляльна-белая. Пад раніцу аднак усё аціхла, распагодзілася. Ішоў на працу без парасона. З прыемнасцю назіраў, як засінела — між хмарамі — неба. Але рэшткі снегу яшчэ ляжаць.

**29 сакавіка.** Быў у гасцях у Бярозкіна. Жыве ён на плошчы Якуба Коласа каля філармоніі. Запрасіў сам Рыгор Саламонавіч. Перад гэтым ён узяў у мяне томік Мандэльштама (выдадзены нядаўна ў серыі «Бібліятэка паэта»), і, відаць, не хоча з ім расставацца. «Не буду ж я чытаць Багрыцкага. Багрыцкі — гэта кансервы. За Мандэльштама, — кажа, — дам табе Ду Фу і Лі Бо». Адзін і другі ў мяне ёсць.

— Маякоўскі ў такіх выпадках казаў: «Отнеситесь!» Прасіць ён не любіў, ганарысты быў, а казаў: «Отнеситесь!»

— Дамовіліся, Рыгор Саламонавіч, хай Мандэльштам застаецца ў вас. А кітайцы ў мяне ёсць.

— Ну, то добра. Вось толькі прадмова Дымшыца тупая…

Бярозкін адчувае і ведае паэзію, упэўнена ў ёй разбіраецца, мае свае крытэрыі ацэнкі і цікава піша. Падпісаў мне сваю кніжку «Свет Купалы». Я яе прачытаў ужо да гэтага і высока стаўлю, як значны крок у развіцці купалазнаўства. Янка Купала, паводле Бярозкіна, не толькі паэт, а, у нацыянальным сэнсе, нешта больш сакральнае.

Сям’я Рыгора Саламонавіча — жонка Юлія Міхайлаўна Канэ (літаратурны крытык, як і Бярозкін), двое дзетак. Кватэра прасторная, столь высокая, але жывуць, мне падалося, небагата, хутчэй нават бедна. З «новай буржуазіяй», што пры ўладзе, не маюць нічога агульнага.

На стале — бутэлька «Кабернэ», закуска, пачак «Беламору».

Размова зайшла пра Маякоўскага. М. Лужанін неяк даваў мне чытаць кнігу «Воспоминания современников о Маяковском». Адна з аўтараў гэтых успамінаў — жанчына-мастачка — піша, што ў 20-я гады ў асяроддзі савецкай інтэлігенцыі модным было ўтвараць сямейныя шлюбы з трох чалавек: двое мужчын і жанчына, або дзве жанчыны і мужчына. «Такое было веянне часу», — патлумачыў Аляксандр Амвросьевіч.

— Было, — згадзіўся Рыгор Саламонавіч. — «Сексуальная рэвалюцыя», пра якую надта гучна гамоняць на Захадзе і якая мае нават сваіх тэарэтыкаў,

такіх, як Маркузэ, пачалася не ўчора. Яе прадказаў Ленін: «В области брака и половых отношений, — лічыў ён, — близится революция, созвучная пролетарской». Новыя адносіны назвалі «грамадзянскім шлюбам» Восіп Брык, Ліля і Маякоўскі жылі разам грамадзянскім шлюбам. Але гэта складаная гісторыя. Гэта людзі неардынарныя. Восіп Брык і Ліля, як і Маякоўскі, шмат ездзілі па свеце, выконвалі розныя заданні, даручэнні высокіх службаў.

Маякоўскі быў чалавекам рашучым, бескампрамісным і самаўпэўненым, імкнуўся выглядаць нахабным, лідарам, непераможным любоўнікам.

Восіпа (ён быў вядомы працамі па вершаскладанні), пасля смерці Маякоўскага, зганіў Ілья Сяльвінскі, напісаўшы на сцяне дома, каля пад'езда, дзе жылі Восіп і Ліля, такое двухрадкоўе:

Здесь живет не Брик — исследователь стиха,
А шпик и следователь ЧК.

Заадно зганіў і Маякоўскага. Адразу як толькі яго не стала.

— Я пра гэта не чуў, — прызнаўся я.

— Пасля смерці У. Маякоўскага Л. Брык паспела пабыць жонкаю Прымакова — кавалерыста, героя грамадзянскай вайны, якога яна ўгаварыла паслаць ліст Сталіну ў абарону Маякоўскага. Гэта на гэтым лісце Сталін налажыў рэзалюцыю: «Маяковский был и остаётся лучшим поэтом нашей советской эпохи». Брык памёр у 1945 годзе. Цяпер Ліля жонка Васілія Катаняна — даследчыка творчасці Маякоўскага. У Парыжы ў яе сястра Эльза (Эльза Трыяле, замужам за Луі Арагонам).

Эльзу Трыяле я ведаю як французскую пісьменніцу, друкуецца ў «Иностранной литературе», у перакладзе на рускую мову.

Рыгор Саламонавіч закурыў і працягнуў гаворку:

— Ці ведаеце такога пісьменніка, як Барыс Пільняк?

— Ведаю. У КЛЭ пра яго артыкул. Аповесць «Голы год» чытаў, пра «кожаные куртки»…

— Напісаў ён шмат. Таксама, як і Маякоўскі, шмат па свеце ездзіў. Напісаў «Повесть непогашенной луны», у якой расказаў, як Сталін забіў Фрунзе. Між іншым, яе надрукаваў «Новый мир» у 1926 годзе. Увесь тыраж часопіса быў канфіскаваны. Чэкісты прыходзілі да падпісчыкаў на кватэру і забіралі часопіс у тых, хто выпісваў яго і паспеў атрымаць.

Пра ўсё пра гэта чую ў першы раз.

Спытаў у Бярозкіна: «А што такое трацкізм?» Трацкізм, Троцкі — пра іх маё пакаленне ведае няшмат, і гэтыя тэмы ніхто не абмяркоўвае. Калі часам чуеш, дык толькі «Иудушка Троцкий».

— Постаць неардынарная. Ленін давяраў Троцкаму бясконца. Гэта ж дзякуючы яму перамаглі ў грамадзянскай вайне, калі толькі ў такой вайне можна перамагчы. Выдатны, палымяны прамоўца. Умеў разварушыць чалавека. Апроч таго, і, можа, гэта самае галоўнае, ініцыятар сусветнай рэвалюцыі, яе тэарэтык. Абяцаў напаіць коней у Атлантычным акіяне. Але не ўдалося. Пасля вайны, калі пасябравалі з Кітаем, казалі: «Не вышло через Берлин — выйдет через Пекин».

— Між іншым, — Рыгор Саламонавіч зноў зацягнуўся сваім «Беламорам», — Троцкі назваў сталінцаў «тэрмідарыянцамі», гэта значыць, якабінцамі-адступнікамі, якія здрадзілі пралетарыяту ў імя новай буржуазіі, карыстаючыся стомленасцю рэвалюцыянераў і ўсяго народа.

Пра ўсё гэта чую ўпершыню.

Бачыцца з Бярозкіным цікава, але калі падумаеш, што ў панядзелак з раніцы на работу, дык сумна ўздыхнеш.

**31 сакавіка.** Распагодзілася. Над зямлёй стаіць лёгкі, празрысты туманок.

Пётр Міронавіч за тое, каб чарговы пісьменніцкі з'езд, прызначаны на пачатак мая, адбыўся толькі ў новым Доме літаратара. Усе сілы кінуты на завяршэнне будаўніцтва.

Марцэлеў перайшоў на працу ў Акадэмію навук, але развітання не было, «адвальнай» чаркі не паставіў.

**1 красавіка.** Іван Навуменка пазваніў і запрасіў на працу ў Інстытут літаратуры, сваім намеснікам. Падумаў, што гэта першакрасавіцкі жарт, і так яму і сказаў. Іван Якаўлевіч пакрыўдзіўся:

— Што вы! Якія жарты! З работнікамі ЦК не жартуюць!

Калі так, дык прапанова сур'ёзная. У гэтай прапанове ёсць сэнс. Мне трэба больш пэўнае, «сваё» месца. Як-ніяк, у наступным годзе мне будзе сорак. Партыйная кар'ера мяне не цікавіць. Быць цаглінай у пірамідзе? Можна было б працаваць, але маральнага задавальнення не меў бы. Надакучыла, па праўдзе кажучы, мне гэтая мая служба. На памяць прыходзяць радкі (не памятаю, хто іх напісаў):

Гроша не стоит жизнь, мой друг,
Коль некогда взглянуть вокруг.

Добра было б, каб выбрацца адсюль натуральным, так сказаць, чынам, без спагнанняў і вымоў, хаця б як Марцэлеў.

**6 красавіка.** З раніцы паваліў снег, заляпіў твар, пакуль я ішоў на працу. Па абедзе распагодзілася. Сувязь з прыродай дадае сіл. Вучуся любіць дрэннае надвор'е: калі бушуе стыхія: дождж, снег, мароз, завея… Добра, па-філасофску, гучыць радок з папулярнай песні: «У природы нет плохой погоды».

Ціснем на будаўнікоў. Падключылі аддзел будаўніцтва.

**8 красавіка.** Надвор'е няпэўнае, як заўсёды ў гэтую пару. Пазваніў Ян Скрыган. Гэты чалавек мне сімпатычны. Зычлівы. На гэты раз па-свойску мяне прысароміў:

— Як гэта вы памыліліся?

— Дзе?

— У сваім артыкуле. У назве паэмы Янкі Купалы «Над ракою Арэсай». У вас — «Над ракой Арэсай». Купала любіў поўнагалоссе! Поўнагалоссе!

Мне стала сорамна, вымушаны быў прызнаць сваю памылку. Падзякаваў, паклаў трубку і міжвольна пасміхнуўся. <u>Ян</u> Скрыган яшчэ нядаўна пісаўся <u>Янка</u> Скрыган. Выходзіць, што скараціў на адзін склад сваё імя. А Купала ж любіў поўнагалоссе!

**10 красавіка.** Дзіўлюся: грэчаскі паэт, сусветна вядомы Яніс Рыцас выдаў 60 зборнікаў вершаў і каля 10 кніг літаратурна-крытычных артыкулаў. Для нашых паэтаў і крытыкаў такія лічбы недасягальныя. Зверху, з Дзяржкамітэта па друку кажуць: «Нет бумаги!»

**11 красавіка.** Цэлы дзень ліў дождж.

Неаднаразова чую па замежным радыё выраз «советские диссиденты». Хто гэта? У слоўніку іншамоўных слоў диссидент — «инакомыслящий». Той, выходзіць, хто думае не так, як усе, не згодны з думкай афіцыйнай. Калі так, дык той-сёй з пісьменнікаў фактычна дысідэнты, толькі не заяўляюць пра свае думкі ўголас.

**12 красавіка.** Вяртаючыся з лазні, што на велазаводзе, заўважыў у вітрыне гастранома па Партызанскім праспекце партрэт з чорнай стужкай на ражку. Памёр дырэктар гэтага гастранома Пекер. Шкада. Выдатны быў чалавек, руплівец у сваёй справе.

**14 красавіка.** На «пяцімінутцы» Парватаў, які цяпер часова выконвае абавязкі загадчыка аддзела, сказаў, пыхкаючы цыгарэтай (пры Марцэлеве ў кабінеце не курыў), што Марцэлеў «тармазіў аддзел» і «засланяў некаторых супрацоўнікаў». Меў на ўвазе, відаць, сябе. Хацелася яму запярэчыць, але ён так бліснуў на мяне сваімі акулярамі, што я адразу прымоўк. «Пяцімінуткі» Парватаў расцягвае на гадзіны. Марцэлеў быў больш лаканічны.

**15 красавіка.** Заходзіў Іван Якаўлевіч. Напомніў пра сваю прапанову. Я згодзен. Не ведаю, аднак, як начальства. Наша ўстанова такая, што ты не гаспадар свайго лёсу. Куды пашлюць.

— Вы добра ведаеце, працуючы тут, — дадаў Іван Якаўлевіч, — што сёння для літаратуры трэба. Дзе зерне, а дзе палова.

— Залішне добра пра мяне думаеце.

— Не, не залішне.

Памаўчаўшы, Іван Якаўлевіч паскардзіўся на пажарніка, які загадаў выкінуць з лесвічнай пляцоўкі драўляную скрыню, у якой захоўваецца бульба.

— Хай адчэпіцца.

Адчэпіцца, гэтае пытанне няцяжкае, папрашу С.

У кожнага свае «ліхадзеі-праціўнікі». У Івана Пятровіча — «тры Б.», у Івана Якаўлевіча — «пажарнік».

**16 красавіка.** Спецыяльна хадзіў да Кузьміна (пад канец рабочага дня), казаў аб прапанове Навуменкі перайсці ў Інстытут літаратуры.

— Куды ты спяшаешся?

— Пара.

— Ну, падумаем, — паабяцаў Аляксандр Трыфанавіч, — пачакай.

**17 красавіка.** Быў у лазні. Кранула пачутая гісторыя пра галубоў. Расказаў лазеншчык, які прадае бярозавыя венікі. Інтэлігентны, мне падалося, чалавек. Распавёў пра сваіх знаёмых, якія жылі ў суседнім пад’ездзе, у трохпакаёвай кватэры, на Трактарным. Муж і жонка. Разводзілі галубоў: адзін з пакояў з дзвярыма на балкон — ім. Зляталіся гэтыя птушкі з усяго раёна. Галубы, цэлая хмара, літаральна нейкі галубіны базар. Гаспадыня карміла іх, аберагала ад холаду, дагаджала. А ў чым справа? У вайну і адразу пасля вайны Даша (так звалі гаспадыню) служыла медсястрой у адным з севастопальскіх шпіталяў. Ляжалі там параненыя маладыя матросікі, яшчэ, можна сказаць, дзеці. Некаторыя паранены цяжка, невылечна. Хадзіла за імі Даша. Яе пацыенты часта паміралі, згасалі як свечкі. Маладая медсястра плакала, яна моцна іх шкадавала. Тыя, хто заставаўся жыць, бачылі гэта і суцяшалі яе, як маглі:

— Цёця Даша, ты не засмучайся, не перааймайся дужа, паміраць нам не страшна. Мы ж пасля смерці галубамі станем, будзем як галубы лятаць.

Дык вось і Даша, і разам з ёю муж яе Аляксей і сябравалі з галубамі. Даша, не шкадуючы пенсіі, праз два-тры дні хадзіла на Камароўку і валакла адтуль у кашолках зерне, крупы, гарох, камбікорм.

Не так даўно Даша памерла. Аляксей застаўся адзін. Колькі дзён пасядзеў, паназіраў за асірацелымі птушкамі, а потым, узяўшы з сабой кашолкі, падаўся на Камароўку. Так і павялося. З раніцы Аляксей, ужо ў гадах, ідзе на Камароўку па корм для сваіх галубоў. Ходзіць, каб захавалася памяць пра Дашу і пра тых галубчыкаў-матросікаў.

Гэтая гісторыя мяне вельмі кранула.

Голуб — эмблема міру, а згодна з хрысціянскай традыцыяй — сімвал Святога Духа. Тыя хлапчукі маглі пра гэта не ведаць, але інтуітыўна яны, відаць, нешта адчувалі.

**24 красавіка.** Быў з калегамі на суботніку. Атрымалася замінка з месцам яго правядзення. Засмечаны «Дразды», дзе ў цёплых дачах жыве начальства, і меліся ехаць туды, але ў апошні момант адмянілі. Накіравалі ў «Атоліна» ўпарадкаваць тэрыторыю. На гэты раз папрацавалі ўсмак. Вясна. Дрэвы выкінулі дробныя чырванаватыя лісточкі і пахарашэлі. Свяціла сонца, калючае, з ультрафіялетам. Потым пайшоў дожджык. Заўтра — Вялікдзень.

**25 красавіка.** Вялікдзень. У царкве Аляксандра Неўскага на Вайсковых могілках шмат народу. І ўнутры, і на паперці, — усіх храм не ўмяшчае. Вернікі і проста цікаўныя. Такіх найбольш.

Цікавыя адносіны ў нас паміж царквой і дзяржавай. У Маскве чуў такі анекдот. Дырэктар завода пазваніў святару, каб папрасіць стульчыкаў для сходу. Той адмаўляецца, і тады дырэктар гаворыць: «Не будзе стульчыкаў для сходу — не будзе піянераў для хору». Святар крыўдзіцца: «Няма піянераў для хору — не будзе манашак у лазню». Дырэктар адказвае: «Не будзе манашак у лазню — дык не будзе камсамольцаў на Вялікдзень». «Ах так! Дык не будзе вернікаў на выбары!» — «А вось за гэта, бацюшка, можна і партбілет на стол пакласці!»

**27 красавіка.** Вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння З. Бядулі. Даклад зрабіў В. Каваленка. Прысутнічалі П. Броўка, К. Крапіва, М. Танк, Р. Шырма. З успамінамі выступілі Л. Рахленка, А. Якімовіч, брат пісьменніка М. Я. Плаўнік.

З. Бядуля знайшоў свой Іерусалім у Беларусі, сярод беларускіх людзей і беларускай прыроды. Спрабаваў пісаць на розных мовах, але менавіта беларускую адчуў як сваю.

Нядаўна даведаўся, што супрацоўнікі «Нашай нівы» хацелі Бядулю ахрысціць, што, на іх думку, станоўча адбілася б на жыцці і творчым лёсе пісьменніка, але ён не згадзіўся.

Афіцыйна лічыцца, што Бядуля — адзін з заснавальнікаў метаду сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры.

**28 красавіка.** Сход у Магілёўскім абласным аддзяленні. Справаздачу трымаў Аляксей Пысін. Паэт ён добры, а адміністратар з яго слабы. Відаць, не за сваё ўзяўся. Ёсць на яго скаргі ад магілёўцаў. Зрэшты, з пісьменнікамі ладзіць цяжка.

**29 красавіка.** Аўтарскі вечар Івана Мележа ў Акадэмічным тэатры імя Я. Купалы. Выступілі пісьменнікі Н. Гілевіч, П. Панчанка, А. Аўрамчык, Е. Лось, А. Лойка. Прыехалі землякі. Мележ трымаўся бадзёра.

Некаторыя кажуць, што, апроч «Палескай хронікі», ён нічога, вартага ўвагі, не напісаў. А хіба «Палеская хроніка» — гэта мала? Незычлівцы ёсць у кожнага.

У тым, што ён кажа пра Шолахава (з нагоды яго 70-годдзя), гучыць сваё, уласнае, пра што ён безупынна думае:

«В наше время кое-кто страстно убеждает, что движение истории и бытие народное превосходно можно изобразить и через одну личность и что, надо думать, время эпопей ушло в прошлое. Но все эти сомнения властно сметает созданное Шолоховым в недавние времена. Какой многоликий, многосудебный, могучий поток народной жизни — радостей, страданий, надежд, отчаянья, нежности и жестокости, — жизни необратимой, неостановимой, открывается нашему взору и нашему сердцу в его романах! Какой многоцветный и какой естественный, удивительно правдиво и точно запечатленный мир живет в извечном обновлении в его книгах!» («Новый мир», 1975, № 3. С. 233—234).

**1 мая.** Холад з самай раніцы. Вецер. На трыбуну не хадзіў.

Гартаў новы зборнік паэзіі П. Панчанкі «Крык сойкі», падораны аўтарам. Усё на месцы. Паэт павесялеў.

**4 мая.** Прыгожа апранаюцца ў бледна-зялёныя строі бярозы. Каштаны ўжо распусціліся. Ідучы на працу, чуў, як падаюць галасы птушкі. Які ён усё ж такі прыгожы гэты свет!

У СП ідзе падрыхтоўка да VII з'езда, завяршаючы этап. Апарат СП перабіраецца ў новае памяшканне — Дом літаратара.

**6 мая.** З маіх назіранняў. Кіраўнікі СП пабралі (каму даў Літфонд, каму — Машэраў) прыстойныя кватэры. Засяляюць старыя кватэры дзярждзеячаў (Прытыцкага і інш.). Партдзяржздзеячы засяляюцца ў новыя, сучасныя. Мяне гэта радуе. Засяляюцца і каля сябе селяць дзяцей, іх сямейныя атожылкі. Ну і добра! Атрымліваюць новыя, больш прыдатныя кватэры пісьменнікі. Але ж пішуць горай! Вось у чым пытанне. А. Пысін лепшыя свае кнігі — «Мае мерыдыяны» і «Твае далоні» — напісаў у ваннай з сумешчаным санвузлом, седзячы на накрытай ракавіне. Цяпер, кажуць, атрымаў нешта асобнае (абкам адшкадаваў), але справы з вершамі пайшлі горш.

Творчасць! Яна нараджае шмат нечаканых пытанняў.

**7 мая.** Пачуў першы гром. Мякка, раскаціста грукатала далячынь, зычыла чалавеку здароўя і моцы, жадаючы падтрымаць яго сілы. «Не старэй!» — гаварыла гэтае грукатанне. Нібы атрымаўшы дазвол, прыпусціў дождж.

**9 мая.** Дзень Перамогі. «Свята са слязамі на вачах», якое з новай хваляй абуджае размовы пра тое, што было ў вайну, успаміны. Некаторыя кажуць, што ў 1941-м у палон трапіла чатыры мільёны. Жахлівая лічба! Гавораць пра памылкі камандавання, пра страх і жах, пра тое, як у спіну цэліўся заградатрад. Успамінаюць жывых, памінаюць мёртвых. Вялікая Айчынная вайна — цэлая эпоха ў нашым жыцці, глабальная падзея вялікага значэння, наступствы якой адчуваюцца і сёння. Сёння мы прыходзім да высновы, што вайна была куды больш пачварнай і бессэнсоўнай, чым гэта здавалася раней. Неяк з Іванам Гаўрылавічам успаміналі пісьменніка Алеся Рылько, які гэтак рана пайшоў з жыцця. Чыгрынаў сказаў, што яго дагнала вайна, ён, будучы ў партызанах, шмат перажыў. Для яго вайна сталася вельмі эксклюзіўнай.

Ваенныя і паваенныя чалавечыя лёсы нечаканыя і невытлумачальныя. Самую вялікую колькасць самазабойстваў далі тры пасляваенныя месяцы — май, чэрвень, ліпень. Факты былі абсалютна невытлумачальныя — канчалі з сабой не людзі, замешаныя ў супрацоўніцтве і г. д., а афіцэры з бліскучай біяграфіяй, з мноствам узнагарод, як той прыгажун-лейтэнант, пра якога расказвала ў Інстытуце літаратуры Эся Гурэвіч (медсястра ў часе вайны). Ён быў студэнтам БДУ, малады і, здавалася, нясумны, з цэлым каскадам ордэнаў і медалёў на кіцелі. Застрэліўся ў 1946-м, у Дзень Перамогі.

Часта можна пачуць: «Толькі каб вайны не было». Гэта таксама ўспамін пра Айчынную вайну (1941—1945 гадоў), хоць у аснове яго — нагнятанне сучаснага ваеннага псіхозу. Тым не менш, як ні дзіўна, памяць пра гераізм, пра трагічны гераізм, прытупляецца, і, відаць, нічога не зробіш, нічога, як гавораць у нас, у Кругелі, «не парадзіш», мінулае забываецца. Такі закон прыроды, закон энтрапіі. А можа, гэта і добра?..

Мінску даўно прысвоена ганаровае званне «Горад-герой», а ўзнагароды — ордэн Леніна і медаль «Залатая Зорка» так і не ўручаны.

**11 мая.** Пачаў работу VII з'езд пісьменнікаў Беларусі. Уступнае слова тэмпераментна, махаючы рукамі, сказаў П. Броўка, які прыкметна паздаравеў пасля хваробы. Падзякаваў партыі і ўраду за падарунак пісьменнікам — новы

Дом літаратара. Са справаздачным дакладам выступіў М. Танк. Гаварыў доўга. Хтосьці, здаецца Бураўкін, пажартаваў, што гаварыў чатыры з паловай гадзіны, а голас не толькі не сеў, а стаў яшчэ званчэйшы.

Ад рэвізійнай камісіі выступіў А. Зарыцкі. Звычайны даклад. Але перад гэтым Зарыцкі прыслаў у ЦК данос на М. Танка, быццам бы ён утойвае ганарар і не плаціць партыйныя ўзносы. Ад Зарыцкага ніколі такога не чакаў. Ціхмяны, марудлівы, маўклівы, але, відаць, точыць чалавека зайздрасць. Ці крыўда? Вельмі высокай думкі пра сябе, пра свой талент, а гэтага не заўважаюць. Вось і вынік. Мне прыгадалася сказанае У. Дамашэвічам на нядаўнім пісьменніцкім пленуме: «У нашым пісьменніцкім асяроддзі… няма шчырасці, добразычлівасці, многа зайздрасці, падколвання, падседжвання, падстаўлення ножкі, незычлівай усмешкі ў спіну. Няма радасці за чужы поспех. Ахайванне чужога і некрытычнае стаўленне да свайго ўласнага. Я — усё, астатнія — нішто. Ён адзін робіць літаратуру, астатнія — перашкаджаюць яму. Радасць, што нехта паслізнуўся, яшчэ большая, калі той нехта ўпаў і разбіў сабе галаву».

Не помню, каб Зарыцкаму як пісьменніку давалі нейкага медаля ці прэмію.

Вячэрняе пасяджэнне пачалося ў $15^{30}$. Як і на ранішнім пасяджэнні, прысутнічаў П. М. Машэраў і іншыя кіраўнікі. Адзін за другім падыходзілі да трыбуны П. Панчанка, І. Навуменка, І. Шамякін, М. Матукоўскі, Г. Бураўкін, А. Адамовіч, Н. Гілевіч, Я. Брыль, М. Дзялец і шмат хто яшчэ. У многім традыцыйнае: ура, ура і ўра! Але былі выключэнні. Я. Брыль сказаў (пераказваю): «Нават у лепшых творах — сумнае адчуванне недагаворанасці ў галоўным, недасказанасці, недапаказанасці. Невядома, што рабіць, каб быць дастойным чалавекам…»

На з’ездзе адзначаўся павышаны даследчыцкі пафас літаратуры, якая ўсё часцей вяртаецца да філасофскіх пытанняў маралі, сэнсу жыцця, ролі прыгажосці ў свеце. Трэба ставіць пытанні. Не абавязкова тыя, якія могуць быць вырашаны сёння, але ставіць іх неабходна.

Гаварылася пра дакументалістыку, наватарскі пафас дакументалістыкі, якая разбурае клішэ, стэрэатыпнасць мыслення, несумненны. Дакументалісты ўмеюць браць «павесційную» форму з самога жыцця. Менавіта жыццёвы матэрыял вызначыў форму кнігі «Я — з вогненнай вёскі…» Маналогі яе герояў — гэта застылая плынь іх свядомасці, беражліва захаваны аўтарамі кнігі.

Вымалёўваецца новая карціна свету. Сучаснасць ускладнілася ў самой сваёй жыццёвай сутнасці, — чалавецтва апынулася перад праблемай захавання навакольнага асяроддзя, зберажэння гістарычнай памяці і ўсіх каштоўнасцей, створаных народамі. У літаратуры ўстанавіўся новы погляд на станоўчага героя: цяпер сталі шукаць у ім духоўны змест, патрабаваць, каб ён адчуваў норму ідэальнасці, без якой не можа існаваць ніякай маралі.

Афіцыйныя патрабаванні між тым застаюцца амаль нязменнымі. Пісьменнікам па-ранейшаму трэба апяваць сучаснасць.

З прывітальнай прамовай выступіў Сяргей Міхалкоў. Ад ЦК КПСС на з’ездзе прысутнічаў загадчык сектара мастацкай літаратуры ў аддзеле культуры К. М. Далгоў. Калі прыехаў, дык у гасцінічным нумары пачаставаў мяне каньяком. Каньяк не дарагі — «Плиска». Падарыў мне брашуру, якую напісаў сам, з аглядам сучаснай буржуазнай філасофіі. Моцна яе крытыкуе.

На з’ездзе з’явіўся Марцэлеў. Выгляд меў ужо не той, што раней, больш сціплы. Я папрасіў Таццяну Кузьмінічну выдаць яму з’ездаўскую папку са справаздачнымі дакладамі праўлення, рэвізійнай камісіі, даведнікам, блакно-

там, запісной кніжкай, каляндарыкам і шарыкавай аўтаручкай. Як і кожнаму дэлегату. Ён быў вельмі ўдзячны «за памяць». У будаўніцтве гэтага Дома літаратара актыўны ўдзел браў і ён. Можа, не трэба гэтага забываць.

Некаторыя пісьменнікі паспелі ўжо лыкнуць, спатыкаюцца, з непрывычкі, на вострых мармуровых ступеньках у вестыбюлі. А. Міронаў, паслізнуўшыся, разбіў нос.

**12 мая.** Другі дзень работы з'езда. Бралі слова Б. Сачанка, М. Лужанін, А. Макаёнак, Ю. Міхневіч, А. Асіпенка, В. Мыслівец…

У часе перапынку на абед (паабедаўшы ў камфортным кафэ Дома літаратара), дэлегаты (некаторыя на падпітку) пацягнуліся на свежае паветра. Выйшаў і я. У парку Горкага ўбачыў Віталя Вольскага — сядзіць з кійком на лавачцы, адпачывае, слухае птушак, цешыцца іх галасамі. Я прывітаўся і з ветлівасці спытаў:

— Чаму вы не выступаеце?

Ён пасміхнуўся і сказаў:

— Я ўжо па цяперашнім часе глуп. Мне ўжо выступаць не трэба.

«Мудры чалавек», — падумаў я, назіраючы, як ён доіць клінок бародкі, — а яшчэ ж не надта стары. 75 гадкоў сёлета мае адзначыць. Мы ўжо яму і двухтомнік запланавалі ў «Мастацкай літаратуры».

Не відаць было нешта за трыбунай і Карпюка.

Па абедзе надышла чарга арганізацыйных пытанняў. Абралі праўленне, рэвізійную камісію, дэлегатаў на VI з'езд пісьменнікаў СССР.

Па пратаколе трэба было прыняць Прывітальнае пісьмо ЦК КПСС. Вось тут і адбылася замінка, якая магла адгукнуцца чымсьці болей непрыемным. Пісьмо па дамоўленасці павінен быў агучыць Макаёнак. Тэкст, над якім мы працавалі колькі дзён (Кузьмін бясконца вяртаў, патрабуючы: «Нада цяплей, цяплей!..), я перадаў Андрэю Ягоравічу яшчэ ў першай палове дня. Ён прабег вачыма, акуратна згарнуў і паклаў ва ўнутраную кішэню пінжака, яшчэ і прыхлопнуў рукой. Не хвалюйся, маўляў, агучу! Надышла пара агучыць. Андрэя Ягоравіча папярэдзілі, і ён адразу палез у кішэню, каб дастаць «пісьмо», але там яго не аказалася. Праверыў бакавыя кішэні — няма! Я заўважыў, што на ім іншы касцюм. Той быў светлы, а гэты цёмны, вячэрні. Значыць, пераапрануўся, падрыхтаваўся да прыёму. Відаць, пісьмо і засталося ў тым светлым касцюме. Андрэй Ягоравіч нервова агледзеў стол, падняў вазу з кветкамі, нават пад стол зірнуў. Няма! Я кінуўся да Кузьміна, які вёў гэтае пасяджэнне, папярэдзіў, каб не даваў пакуль што слова Макаёнку: прапала «пісьмо»!

Выручыў Анатоль Вярцінскі, у шуфлядзе яго стала быў другі экземпляр «пісьма». З ім перапалоханы Макаёнак і падняўся на трыбуну.

Непрыемны момант перажылі.

Шэф, доўга не думаючы, сказаў: «Гэта ўрадзіцельства».

На прыёме ў Вайсковым завулку падышоў Кузьмін:

— У старыя часы мы б з табой, Уладзімір Васільевіч, заўтра з раніцы ўжо б не ўбачылі шыльдачак на сваіх кабінетах. Ох, загрымелі б! Ужо далёка б былі. Я, можа, паслом у Гвінею, а ты — не знаю…

Я нічога яму не адказаў, толькі падумаў: «Эх, Гніламёдаў! На сумнай ноце ты заканчваеш сваю партыйную кар'еру…»

К. М. Далгоў, дарэчы, нічога не заўважыў, як не заўважыла і публіка.

Прыём удаўся — вясёлы, з тостамі, з багатымі напоямі і закускай.

Авяр'ян Дзеружынскі, які таксама быў на гэтым прыёме, сказаў:

— Я толькі пад старасць зразумеў, што гарэлка не ўрэдная.

Усе, хто знаходзіўся побач, зарагаталі.

**13 мая.** Зеляніна ўвабралася ў сілу, але халодна. На агародах нічога не расце. Пётр Міронавіч з пісьменнікамі з раніцы паляцеў на верталёце на Гомельшчыну, на Палессе. Узяў з сабой «народных» — М. Танка, І. Шамякіна, І. Мележа, П. Панчанку і інш. Паляцелі зірнуць на асушанае Палессе.

**14 мая.** Былі з Тамарай і дзецьмі ў «Атоліна». Калегі-дачнікі садзяць бульбу — «адрэту» з ГДР. Добры, кажуць, гатунак. Спяшаюцца, хоць зямля яшчэ не прагрэлася як след. Прыватны інтарэс у чалавеку нязводны.

У лесе, чуваць было, кукавала зязюля.

**15 мая.** Успамінаю з’езд і думаю над яго вынікамі. Ён пацвердзіў, што літаратура застаецца сродкам і мастацтвам чалавеказнаўства. Але яна, як чалавеказнаўства, з’яўляецца таксама аднначасова і летапісам жыцця.

У чым заключаюцца асаблівасці сучаснага літаратурна-мастацкага працэсу? Нельга не заўважыць, што сучасная мастацкая думка, трымаючы ў полі зроку ўсю сацыяльную праблематыку часу, больш і глыбей даследуе ўнутраны свет чалавека, яго сутнасць, маральныя магчымасці, сувязі з людзьмі, прыродай, вытворчасцю і г. д. Мастацтва хоча пазнаць, вытлумачыць чалавечы феномен, раскрыць яго прыроду, асвятліць глыбіню яго духоўнага свету. Даводзіцца назіраць у сувязі з гэтым узрастанне светапогляднага пачатку ў літаратуры, яе філасафічнасці і канцэптуальнасці, свядомага гістарызму. Паглыбленне шматпланавых ідэйна-маральных пошукаў — характэрная рыса ўсёй савецкай шматнацыянальнай, у тым ліку і беларускай, літаратуры. Ствараючы вобраз станоўчага героя, пісьменнікі імкнуцца раскрыць ідэйна-маральны патэнцыял асобы, яе месца ў жыцці, адносіны да працы, калектыву, грамадства.

Герой літаратуры стаў больш цікавым, актыўным, чалавечым, ён стаў глыбей разважаць і разумець сэнс жыцця, складаныя палітычныя, эканамічныя, экалагічныя праблемы сучаснага свету.

Нельга не адчуць, што сёння, і пра гэта гаварылася на з’ездзе, абуджаецца, актыўна ўступае ў правы сутворцы — памяць. Глыбока ў мінулае не глядзім, а пра Вялікую Айчынную вайну пішам шмат і па-новаму. Усё яшчэ надта балюча вярэдзіць яна людскую душу, нагадвае аб сабе болем, непапраўнымі стратамі, усім перажытым. Публікуюцца ўспаміны франтавікоў, сведчанні былых вязняў лагераў смерці, а таксама людзей, якія перажылі акупацыю, што праліваe новае святло на падзеі, пакінутыя без увагі ў момант усеагульнай пераможна-параднай эйфарыі, на факты, якія раней асэнсоўваліся не на поўную глыбіню, а некаторыя наогул утойваліся.

Што датычыць крытыкі, то трэба, каб яна асэнсоўвала любы факт літаратурнай рэальнасці ў аб’ёме ўсяго інтэлектуальнага багацця, накопленага ўсім чалавецтвам. Патрэбна крытыка, якая спалучала б усю жыццёвую шматстайнасць крытэрыяў — сацыяльных, эстэтычных, маральных, бытавых і ўсіх іншых. Літаратуразнаўства, на мой погляд (а пасля прапановы Івана Якаўлевіча я пра гэта думаю), павінна развівацца шляхам пашырэння дыяпазона даследаванняў, а не простай зменай тэматыкі.

**16 мая.** Нарэшце пайшоў дождж, але холад — вільготнае паветра! — адчувальна бярэ за бокі.

**17 мая.** Дзень нараджэння Тамары. Яна звычайна збірае сваіх сяброўак. Былі яны і на гэты раз. Быў Лёня.

**18 мая.** Свет не перастае здзіўляць. Парватаў: «Нада даць даручэнне Марцэлеву, каб забяспечыў рэцэнзаванне спектакляў у гэтым сезоне. Пускай падумае. Гэта — па-першае. Па-другое, як у яго там з выданнем «Збору помнікаў» што тычыцца чарговых тамоў? Зноў, відаць, перабор культавых збудаванняў? Пускай даложыць!»

Нядаўна С. В. даваў даручэнні Парватаву (наконт «перабору культавых сааружэній» у Зводзе помнікаў, які выдае гэты акадэмічны інстытут), і той вярцеўся, а цяпер усё памянялася на 180 градусаў, стала наадварот.

**21 мая.** Квецень садоў. У пяць гадзін раніцы наладжваюць свой грай птушкі. У шэсць гадзін да іх далучаюцца людзі — жыхары навакольных дамоў, пабудаваных на месцы старых драўляных абсад. Пачынаюць выбіваць свае дываны і праганяюць птушак. Сады ад тых абсад яшчэ засталіся. Дрэвы старыя і цвітуць шчыра, раскошна, нібыта ў апошні раз.

**23 мая.** П. Панчанка ў Доме літаратара расказваў пра палёт з Пятром Міронавічам на Палессе, пра тое, як гасцявалі на радзіме Мележа ў Глінішчы, як сустрэлі пісьменніка землякі. Унізе, пад верталётам, бачылі абшары асушанай зямлі. «Гаворка, таварышы, ідзе пра маштабнае асушэнне Палесся, — каменціраваў Пётр Міронавіч. — Сярод меліяратараў у нас ёсць героі. А вось літаратары іх чамусьці не заўважаюць…»

Панчанка пад уплывам убачанага напісаў верш «Палёт на Палессе». Хвалебны, але свежы, па-майстэрску складзены, перакладаецца на рускую мову.

**24 мая.** Хмурна. Чытаў кнігу Б. Поршнева «О начале человеческой истории». Поршнеў — медыевіст, але ў гэтай кнізе ён яшчэ і філосаф. Шмат цікавых думак. Прынамсі, ён сцвярджае, што ў сярэднявеччы індывідуальнае жыццё чалавека не было прыдатнай мерай плыні гісторыі, якую вымяралі дынастыямі — цэлымі ланцугамі жыццяў. Чалавечая гісторыя з цягам часу ўсё больш ушчыльняецца і паскарае сваю хаду. Яна «ўяўляе сабой прагрэсіўна паскораны працэс і па-за гэтым не можа быць зразумета» (Б. Ф. Поршнев. О начале человеческой истории. Изд-во «Мысль». М., 1974. С. 27).

Поршнеў кранае таксама даўнюю праблему таго, хто кім «валодае»: мы мовай ці мова намі, мы карыстаемся мовай і развіваем яе ці мова развівае нас і апякуецца намі, імкнучыся адкрыць нам нейкую ўніверсальную ісціну.

**25 мая.** Дні ўкраінскай літаратуры і мастацтва ў Беларусі. Прыляцелі на «Як-45» пісьменнікі Любамір Дзмітэрка, Васіль Казачэнка, Леанід Навічэнка, Мікола Зарудны, Мікола Нагнібеда, Браніслаў Сцепанюк, Тамара Каламіец і інш. Сустракалі А. Макаёнак, І. Чыгрынаў і я. Госці ўладкаваліся ў гасцініцы «Юбілейная».

Вячэралі ў рэстаране. Фундаваў А. Макаёнак. Багач! Што б мы рабілі, каб не ён.

Л. М. Навічэнка выступіў з тостам. Між іншым сказаў:

— Дорогі друзі, мы прыїхали до своїх вчитилів.

Мне было вельмі прыемна такое чуць.

Сувязі паміж беларускімі і ўкраінскімі пісьменнікамі неблагія. Украінскія — праз Бюро прапаганды літаратуры — выступаюць перад чытачамі ў Беларусі, нашы — на Украіне. Не так даўно там была група пісьменнікаў з Мінска. Мікола Татур расказваў, што ўкраінцы павесілі прыгожую аб’яву, у якой пералічылі прозвішчы беларускіх выступоўцаў. Сярод іншых значылася: Ліда Дай. Дамаўляліся па тэлефоне і пераблыталі. Зрэшты, пісьменнікі любяць і пажартаваць.

**26 мая.** Адкрыты мемарыяльны знак Тарасу Шаўчэнку на бульвары яго імені. Кінатэатру прысвоена назва «Кіеў», а скверу вакол кінатэатра — «Кіеўскі».

Украінскія пісьменнікі раз’ехаліся групамі па Беларусі.

**29 мая.** Сустрэча з украінскімі пісьменнікамі ў Доме літаратара. Паставілі выпіць і закусіць. Украінцы зайздросцяць, што беларускія пісьменнікі атрымалі такі падарунак — новы Дом літаратара.

Быў на сустрэчы Кастусь Ціханавіч (выйшаў на працу пасля працяглай хваробы). Спытаў у яго пра здароўе. Спытаў, а потым каяўся, бо Кірэенка адказаў даволі рэзка:

— Ведаеце, Уладзімір Васільевіч, слух аб маёй смерці значна перабольшаны і аказаўся заўчасным.

Такога адказу я не чакаў і, па праўдзе, разгубіўся. Відаць, надакучыла яму гэтае пытанне. Залішне плешчуць людзі языкамі, спраўляючыся аб самаадчуванні чалавека.

**30 мая.** Лісце кругом свежае, набрынялае хларафілам.

Заходзіў Броўка. Казаў, што мае пераходзіць на прозу: «Бачу, што ў паэзіі паўтараюся». Тое-сёе з прозы ён ужо апублікаваў, але блізкае да паэзіі. Пегаса ён асядлаў даўно, цяпер не ведае, як з яго саскочыць.

**3 чэрвеня.** Аўторак. Напісаў заяву ў Літфонд на творчую камандзіроўку ў Куйбышаў. Маю пісьменніцкі інтэрас і нават душэўную патрэбу з’ездзіць туды. Л. Гаўрылкін абяцаў падтрымаць. Дарога няблізкая. Адзін раз я там пабываў ужо. Гэта — радзіма майго бацькі Васіля Аляксандравіча: Куйбышаўская вобласць (былая Самарская губерня), Борскі раён, сяло Заплаўнае на беразе ракі Самаркі. Мае аднавяскоўцы былі там у бежанстве ў 1915—1922 гадах. Сяло Заплаўнае — 900 двароў (у маім Кругелі — 25). Народ цікавы, арыгінальны. Частавалі мяне брагай і хваліліся, што яны нашчадкі хазараў і што дарогу да Масквы маглі б блінамі «ўлажыць». Не дзіўна: зямля тут ураджайная, стэпавы чарназём. Але здараюцца жорсткія засухі.

— Мы малопьющие, — жартаваў, помню, чарнабароды, сярэдніх гадоў, калгаснік, — сколько ни выпьем, всё мало.

Хачу напісаць пра сваіх аднавяскоўцаў, якія апынуліся тут у лістападзе 1915 года. Ці атрымаецца ў мяне што-небудзь вартае ўвагі, не ведаю, але нездарма кажуць, што сапраўдны поспех прыходзіць тады, калі людзі бяруцца за безнадзейную справу.

**7 чэрвеня.** У кафэ Дома літаратара спаткаўся з Міхасём Стральцовым. Яго любіць моладзь. Адзін з самых дасведчаных у тэарэтычным плане пісьменнікаў. Калісьці браў у мяне старую кнігу Тынянава «Архаисты и новаторы» і, відаць было, што нешта ў ёй зразумеў. На адміністрацыйныя пасады ніколі не прэтэндаваў і не прасіўся.

Разгаварыліся. Ён мне паспачуваў:

— Ты ж там у іх як заложнік. Ідзі адтуль, хоць куды ўцякай!

Пра гэта я і сам думаю, але парада Міхася не спадабалася. У ёй было нешта панічнае. Ніякі я не заложнік, гэтага я ніколі не адчуваў. Іншая справа, што я толькі вінцік, функцыя, што службовае становішча замінае мне хоць трохі разгарнуцца, самасцвердзіцца.

**9 чэрвеня.** Бачыўся з Міколам, ён ужо ў Інстытуце культуры. Выгладзіўся, папаўнеў (жанаты). Адно — скардзіцца на левае вуха, недачувае, у вуху шуміць. Просіць пазычыць грошай, бо хоча купіць «Ніву». Пазычыў бы, але не маю такой магчымасці. Жывём ад зарплаты да зарплаты.

**12 чэрвеня**. Субота. Завітаў Іван Гаўрылавіч. Цяпер ён сакратар Саюза пісьменнікаў. Купілі ў маіх суседзяў бутэльку каньяку. Сядзім на кухні, размаўляем. Падышла маленькая Волечка — паглядзець, што гэта мы робім. Іван Гаўрылавіч пагладзіў яе па галоўцы, прыцмокнуў языком:

— Малая ты яшчэ. Будзеш вывучаць мяне ў школе.

Іван Гаўрылавіч распавядаў пра цяжкі перыяд свайго жыцця ў ваенную пару. Сям’я была вялікая, без бацькі. Жылі ў зямлянцы і вельмі галадалі.

Нядаўна ён быў у камандзіроўцы ў Кіргізіі, дзе карэйцы частавалі яго смажанымі карэннямі папараці.

— Не ведаў, што гэта спажыўна. У вайну гэты корань многіх маіх аднапасельцаў выручыў бы, дапамог. Папараці ў нас шмат. Тым карэйцам папараць пасылаюць адсюль, ад нас.

**16 чэрвеня.** Даведаўся, што Коля Купрэеў бамжуе па Палессі, спыняецца ў знаёмых, перабіваецца выпадковым заробкам. Адзін час працаваў быў у Мінску, у «ЛіМе». Быццам бы кінуў якар, але ненадоўга. Паслалі ў камандзіроўку, і не вярнуўся. Ды і цяпер месца работы не трымаецца. У гэтым сэнсе Мікола Купрэеў нагадвае мне другога Міколу — свайго цёзку Міколу Лупсякова, які таксама любіў вандраваць. «Летам, — казаў, — кожны кусцік начаваць пусціць». Купрэеў надта падобны. Псіхалагічны тып валацугі. І жонак мяняе.

Пра яго кніжку (не помню ўжо назвы) я пісаў у «Дружбе народов».

З Колем я вучыўся у Брэсцкім педінстытуце. Купрэеў, помню, жыў у інтэрнаце ў адным пакоі са студэнтам-матэматыкам па прозвішчы Лось. Лось быў даволі дзівакаваты, хадзіў чамусьці не па тратуары, а па бруку (праўда, тады і аўтамабіляў было менш), харчаваўся выключна кабачковай ікрой. Стыпендыі на што іншае не хапала, але Лось з апломбам сцвярджаў, што лепшага прадукта для харчавання няма ў свеце. Залежаў ад стыпендыі, а навука давалася нялёгка. Матэматыку выкладаў прафесар Франкфурт, якога помню зімой і летам абгорнутым ад шыі да носа вязаным кашнэ, бо панічна баяўся прастуды, скразнякоў. На экзаменах быў выключна строгі. Коля пра свайго суседа прыдумаў верш (чаму запомніўся гэты «стишок», не ведаю):

О мудрый Лось,
О Лось великий!
И ты судьбу благословил,
Когда сам Франкфурт полудикий
Тебя «четверкой» наградил.

Што Коля сачыняе, сталі казаць ужо на другім курсе.

**17 чэрвеня.** Парады старадаўняга мудраца Ісака Сірына:

Никого не раздражай и никого не ненавидь;

Не воспламеняйся гневом;

Благотворением и честью уравнивай всех людей;

Бойся привычек больше, нежели врагов;

Будь дружен со всеми людьми.

Парады канкрэтныя і зразумелыя, апроч хіба што перадапошняй — «Бойся звычак…»

**19 чэрвеня.** Еду ў Маскву на VI з’езд пісьменнікаў з гасцявым запрашэннем.

**20 чэрвеня.** Рагочуць з эпіграмы (прыпісваюць, як звычайна, Барадуліну):

Не трэба дэбаты,
Нашто нам падлікі:
Гілевіч цыбаты,
А Быкаў вялікі.

Мушу сказаць, што я з гэтай эпіграмай не згодны.

**21 чэрвеня.** VI з’езд пісьменнікаў СССР пачаў пасяджэнне ў Вялікім Крамлёўскім палацы. Прыйшоў Л. І. Брэжнеў з «соратниками» — усё Палітбюро. З дакладам выступіў Г. М. Маркаў. Потым пачаліся прывітанні ад замежных гасцей і выступленні. Зашмат казёншчыны. Некаторыя выступленні гучалі як самапрапаганда, самарэклама. Пісьменнік, забыўшы пра сціпласць, расказвае, які ён таленавіты і як яго любяць чытачы.

Вялікая зала поўная. Можна ўбачыць аблíччы прадстаўнікоў усіх народаў і нацый Савецкага Саюза. І хто гэта прыдумаў паняцце «новая историческая общность людей», быццам у СССР ужо адна нацыя — гэтая «историческая общность»? Не, не адна, і па пісьменніках гэта добра відаць. І не толькі па творах, але і па абліччах, паводзінах, па ўсім менталітэце.

**22 чэрвеня.** Усе дэлегаты з'езда размешчаны ў гасцініцы «Россия». Намі, як заўсёды, апякуецца Валянціна Міканораўна Шчадрына — залаты чалавек, зямлячка. Жыву ў адным нумары з А. Кулакоўскім на дзявятым паверсе. Прыходжу позна — Аляксей Мікалаевіч ужо спіць. Узрост. У яго — да гэтага не даводзілася бачыць — глыбокая яміна на грудзях. След франтавога ранення. Ціхманы Кулакоўскі камандаваў ротай штрафнікоў, але расказваць пра гэта не любіць. Колькі працую з ім, ніколі не бачыў, каб ён павесіў на грудзі свае ўзнагароды. А мае — і ордэн, і медалі!

Побач, праз калідор, пасяліўся П. Панчанка. На лацкане пінжака дэпутацкі значок.

Дэлегаты шмат выпіваюць, але пісьменнікі — народ трывалы, ходзяць роўна, з годнасцю.

Каля Шамякіна круціцца перакладчык Гарбачоў.

Разам з Лужаніным сустрэлі Л. М. Навічэнку і вечарам добра пасядзелі ў рэстаране ЦДЛ. Пагаварылі аб усім. Леанід Мікалаевіч — добры апавядальнік, расказчык. Асабліва цікава расказваў пра пісьменніка Уладзіміра Бляева — аўтара рамана «Старая крепость», які я чытаў у дзяцінстве.

З П. Панчанкам паглядзелі выстаўку мастака Аляксея Пластава ў Манежы. Я люблю работы гэтага мастака за яго назіральнасць, удумлівасць, пластыку, нейкае своеасаблівае, скупое багацце фарбаў, пачуццё каларыту. З дзяцінства помню — па рэпрадукцыі з нейкага часопіса — яго карціну «Немец пролетел». Яна была на гэтай выстаўцы.

Панчанка выстаўкай, «рэалізмам» быў расчулены, сказаў, што абавязкова напіша верш.

У Маскве, у выяўленчым мастацтве, шмат школ, нямала цікавых майстроў. Няблага было б убачыць карціны Ільі Глазунова, пра якога гавораць усё больш.

Вярнуўшыся, сядзелі ў нумары за бутэлькай віна. Пімен Емяльянавіч з усмешкай расказаў пра маскоўскага паэта Сямёна Кірсанава. Гэта вельмі вядомы паэт, я ведаю яго вершы — віртуоз! Панчанка сустрэўся з ім на Бранскім фронце, працавалі ў адной газеце. Ці, калі сказаць па-вайсковаму, служылі. Баязлівец. Пастаянна насіў каску і падбіраў у лесе газетныя паперкі, каб не дэмаскіравалі. Паперкі маглі ўбачыць з самалёта.

— А дзе Чыгрынаў? — пытаецца Пімен Емяльянавіч. — Луконін хваліў мне яго рыжыкі.

Чыгрынаў сустракаўся са сваім перакладчыкам. Замест яго зайшоў Алесь Асіпенка. Чалавек пракідкі, ён ужо паспеў пачуць некалькі маскоўскіх эпіграм. Адну агучыў:

Был я молод — водку пил  
И читал Аверченко,  
А теперь я вот купил  
Однотомник Верченко.

Гаворка ідзе пра тоўсты тэлефонны даведнік СП СССР (я таксама яго купіў), які склаў сакратар СП Ю. Верчанка — былы камсамольскі дзеяч. Прозвішчы і тэлефоны пісьменнікаў усяго Савецкага Саюза.

Забег Янка Брыль, і з яго прысутнасцю гаворка перайшла на Льва Талстога, вялікім прыхільнікам якога Янка Брыль з'яўляецца. Я, між іншым, сказаў, што Талстому, пры ўсёй яго шматграннасці, зусім не было ўласціва пачуццё гумару. Асіпенка запярэчыў, а Брыль згадзіўся. Панчанка таксама згодны.

Разышліся позна.

Кулакоўскі выглядае жанчын і, здаецца, адну прыгажуню ўжо нагледзеў. Просіць мяне дапамагчы пазнаёміцца. Купіў ужо для знаёмства бутэльку віна «Узбекистон» і сыркоў на закуску. «Небагата, — падумаў я, — нават скупа». Але Аляксею Мікалаевічу пасаромеўся казаць. Хаця, калі ён выбраў мяне за «свата», мог бы.

**24 чэрвеня.** Падзяліліся на секцыі. Гэта правільна, бліжэй да літаратуры, можна пагаварыць пра яе ўнутраныя праблемы. Пайшоў на секцыю «Сучасная савецкая літаратура і сусветны літаратурны працэс», якая працавала ў Інстытуце сусветнай літаратуры імя Горкага на вуліцы Вароўскага. Гаворка ішла ў асноўным пра раман. Выказвалася думка, што раман змагаецца з энтрапіяй, ратуе чалавецтва ад бяспамяцтва і забыцця, захоўвае на сваіх старонках жыццёвы вопыт у яго канкрэтна-пачуццёвых формах. Я слухаў і мне падалося, што наш беларускі раман выглядае ў гэтым сэнсе прыстойна.

Сучасны беларускі раман — у лепшых сваіх узорах — спалучае ў сабе паказ і раскрыццё, мастацтва і адлюстраванне. Доказ таму можна знайсці — калі браць абсяг апошніх двух-трох гадоў — у раманах І. Мележа, І. Чыгрынава, В. Адамчыка (знаёмы з урыўкамі), І. Шамякіна, І. Навуменкі, В. Хомчанкі і іншых пісьменнікаў, дзе бачны і знешні, «падзейны», і чалавечы, «асабовы», план жыцця, узятага ў вельмі напружаных сацыяльна-псіхалагічных вымярэннях. Тут чалавек вывучаецца таксама ў вельмі складаных, крытычных сітуацыях і абставінах, якія дазваляюць убачыць яго наскрозь.

Раман наогул стаў для некаторых — гэта можна пачуць ад многіх — нейкім прэстыжным жанрам. Што там, маўляў, апавяданне! Пішу раман, —часта чуецца ў асяроддзі літаратараў і ў сталіцы, і ў іншых месцах. Сапраўды, раманны «бум»! А між тым сучасны перыяд развіцця літаратуры мае асаблівую патрэбу ў развіцці менавіта апавядальных жанраў «малой прозы» — навелы, нарыса, публіцыстыкі, закліканых прыкмячаць і адкрываць новае ў жыцці, у чалавечым светаадчуванні, «фармуляваць» гэтае новае і выносіць на суд чытача.

Зрэшты, не варта супрацьстаўляць адно другому.

Не надта пашанотна выказаўся пра Шолахава Ежы Путрамент, у тым сэнсе, што «Ціхі Дон» ужо ўстарэў. Гэта надта пакрыўдзіла нашага Івана Паўлавіча. Мележ хацеў даць самаўпэўненаму Путраменту «адлуп», але адчуваў сябе не ў форме, болей, чым звычайна, гнуў набок галаву.

У перапынку ля дзвярэй з кімсьці спрачаўся С. Залыгін (я чытаў яго, напісаны з бляскам, раман «Южно-Американский вариант»). Залыгін казаў, што руская літаратура хварэе на «черную гордыню учительства» і што гэта абражае чытача. «А вось заходняя літаратура, — падумаў я, адштурхнуўшыся ад думкі Залыгіна, — на гэтую «гардыню» чамусьці не хварэе. Чаму — не ведаю». Шкада, што нашы размовы пра літаратуру адбываюцца, як правіла, па-за кантэкстам з вялікімі еўрапейцамі Томасам Манам, Генры Джэймсам, Джозефам Конрадам (якім я захапляўся, калі працаваў у Камароўцы), Марселем Прустам, Францам Кафкам, Артурам Шніцлерам і яшчэ, і яшчэ. Уявіць «літаратурную планету» (выраз Адамовіча) без іх — нельга.

Вечарам — у гасцініцы. Хадзілі з Кулакоўскім да прыгажуні, якую ён нагледзеў. Гэта — Валя П., супрацоўніца гаспадарчага сектара СП СССР. Звы-

чайна яна дапамагае ўладкавацца ў гасцініцу і набыць білет у зваротны шлях. Мы і рушылі да яе быццам з мэтай заказаць білеты да Мінска, бо з'езд ужо заканчваў работу. Аляксей Мікалаевіч паклаў у сетку віно і сыркі. Я знаёмы з Валяй, маладзіца гадоў за сорак, сімпатычная. Прадставіў ёй калегу, намякнуў, што пісьменнік ён пасьпяховы (так яно і на самай справе), і развітаўся, пакінуўшы іх удваіх.

Неўзабаве Аляксей Мікалаевіч вярнуўся з неадкаркаванай бутэлькай і сыркамі, крыху збянтэжаны. Патлумачыў: «Сказала, што няма часу, шмат неадкладнай работы, і, кажа, такога салодкага віна я не п'ю».

— Нічога! Можа, іншым разам, — суцешыў я яго.

Аляксей Мікалаевіч дастаў з кішэні штопар:

— Адкаркуй!

Віно і сапраўды аказалася надта салодкім. Як узбекскі шарбет.

— Распешчаная! — сказаў Аляксей Мікалаевіч, відаць, маючы на ўвазе няўдалыя заляцанні.

**25 чэрвеня.** Сустрэў Сачанку і Гаўрылкіна з жонкай. Барыс Іванавіч падзяліўся інфармацыяй: паабедзе для пісьменнікаў запланавана «Ивушка» з дэфіцытнымі таварамі. Пакуль што пайшлі на з'езд.

Адбыліся выбары праўлення, затым старшыні. Старшынёй выбралі К. Федзіна, хоць яго на з'ездзе не было. Жыве на дачы ў Передзелкіне і ў пісьменніцкія справы не ўмешваецца. Можа, таму і выбралі. На месцы спраўляецца Георгій Макеевіч.

Вярталіся з Масквы усёй дэлегацыяй за выключэннем Мележа, які накіраваўся ў Ялту.

З дэфіцытных набыткаў (з той самай «Ивушки») маю цяпер англійскі парасон. Тамары купіў сумачку.

**28 чэрвеня.** Вязём дзяцей у Плешчаніцы. У лесе пачынаюць чырванець суніцы, так што пойдзем у лес, бліжэй да прыроды. Хай збольшага ўтаймуюцца маскоўскія ўражанні.

**1 ліпеня.** Шэф патрабуе план работы сектара на другое паўгоддзе. Напомніў яму пра пераход у Інстытут літаратуры.

**4 ліпеня.** Гутарыў з гісторыкам Міколам Ермаловічам (у Доме літаратара). Ён кажа, што сапраўдныя літоўцы гэта не летувісы, а мы, што найменне беларусы выпадковае. Пра гэта калісьці пачаў быў пісаць С. Александровіч у «ЛіМе». Тут ёсць вялікая праблема.

**6 ліпеня.** Споўнілася 125 гадоў ад нараджэння Янкі Лучыны. Быў літаратурны вечар. Цікавыя яго «Палескія акварэлькі».

Магіла — на Кальварыйскіх могілках.

**7 ліпеня.** Нарэшце начальства згадзілася на мой пераход у Інстытут літаратуры.

Што добрага пакідаю тут? Мяркую, што чалавек пасля сябе не можа пакінуць нічога лепшага як хіба што добры ўспамін. На гэта і спадзяюся…

S



Анатоль ШУШКО

## МАЁЙ БЕЛАРУСІ

Мне не можна ў любові табе не прызнацца,
Бо ўсе рэкі твае хвалі ўспеняць:
— Нягож!
Буг і Прыпяць, Дняпро, Стыр з Гарынню,
А, значыць,
Нёман, Вілія, Віцьба з Дзвіною і Сож…

Колькі вен, капіляраў бруяцца, Радзіма,
Па ўсім целе тваім, каб не збыў чалавек.
Поіш, гоіш яго, як матуля адзіна,
Што ні дзень
і штомесяц,
штогод
і штовек.

Вось чаму я ў любові табе прызнаюся,
Вось чаму маё сэрца з крыніцаю — б'юць,
Вось чаму на цябе ўсёй душою малюся:
Тут жаўрук з цвыркуном песням гнёзды віюць.

Карані ручаін тваіх мкнуцца да кронаў
Самавітых лясоў і патоляць лугі,
Каб у небе святым свет птушыны
Стазвонна
Узвышаў родны край — любы рай, дарагі.

Дык прымай жа, Айчына, пачуццяў залеву,
Каб удзячнаму гімну жыцця не знямець,
Бо яму аднаму — Радаслоўнаму дрэву —
Над табою штохвілі лістотай шумець!

---

*__Шушко Анатоль Іванавіч__ нарадзіўся 19 ліпеня 1954 года ў вёсцы Сташаны Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1976). Настаўнічаў у Пінскім і Свіслацкім раёнах, а таксама ў ПТВ № 137 машынабудаўнікоў горада Пінска.*

*Аўтар паэтычнай кнігі «Выток і прычасце» (1994).*

* * *

Якое шчасце! Сочыцца прырода!
Якая мудрасць, згода і нагода
У існасці няўрымслівай — вясне!
Усё тады ва ўладзе і цане.

Надыхайцеся ж ёю, верхагляды,
Каб у душы запанаваў парадак,
І наталяйцеся жывільным сокам,
Глядзіце не звысоку, а зглыбоку.

## ПРОСЬБА ДА СОНЦА

Расістая мая зямля!
Ступаю па брыльянтах босы.
А тут спякота. І з галля
Ні кроплі. Што казаць пра росы!

О, сонца шчодрае маё!
О, векавечнае агменем!
Ты прыхавайся за галлём
Хоць на адно — адно імгненне.

Або за хмарку западзі
І не высушвай. Хай пральецца!
Глядзі на свет, мой РА, глядзі —
Дажджынку прасвятляй, хай б’ецца:

І па траве, па мураве
І па страсе — па даху родным,
Адно каб стала здаравей
У свежай гожасці прыроднай.

Хай будзе роснаю зямля!
Забрыльянцее маладая.
Мы жджэм дажджу цяпер, пасля
Цябе ізноўку пагукаем.

* * *

Час родзіць паэтаў у нас.
Ніяк не спатоліць ён смагу.
Адзін, быццам знічка, пагас,
Другі недзе страціў адвагу.

Нас робіць паэтамі час,
Пакутліва лепіць, няйначай,
Затым, каб хоць нехта між нас
Яму светлым словам аддзячыў.

* * *

Кожны па-свойму прыходзіць да Бога
Сцежкаю, што павядзе ад парога
Ўслед за жыццём — невядомай дарогай…
Матчын трыпутнік залечвае ногі.

## БАЛАДНАЕ

На беразе вольнай ракі,
Што хваляй здавён цалавала,
Ваяр у дзявочай рукі
Прасіў, каб яна абяцала

Жагнацца і ў Бога маліць
Заўжды аб хлапечым вяртанні…
За войнамі толькі цалік.
Адны груганы з крумкатаннем…

Ён выжыў! На бераг прыйшоў,
Што хваляй здавён цалаваны.
Свой лёс у каханні знайшоў,
Дзявочай рукой абяцаны.

* * *

Маўчала са злыбядою.
Здавалася ёй: замала.
І стала сама гарою —
Вялізазным горам стала.

…Бяда брыла за бядою.

## ВЕРШАПАД

Словы клічуць,
Рупяцца —
Наперад! —
На вясновы
Роднай мовы
Лад.
Лістапад
Ці снегавей
Без меры.
Як па мне —
Суцэльны
В е р ш а п а д.

Мо таму
Здзіўляцца

Не стамлюся
Інейцы
Сівенькай
У траве.
Як на старасць
Раптам
Памылюся, —
Мудрая
Ў маленства
Пазаве.

## СЛЕД

Зноў на Палессі снег.
Зноў урачысты — чысты.
Зноўку, як і раней, —
Мірным святлом вячысты.

Зноў на радзіме снег.
Мроям наноў завозна…
Толькі чаму і ў сне
Лёзнаму вершу слёзна?

Маму маю ўзгадаў —
Ясную, маладую:
— Сыну майму надай
Следу, і я пачую.

Зноўку навокал снег.
Бела на Беларусі!
Зноў чыставік пры мне…
Крочыць, ісці бяруся.

## УШУШКАНЫ ЎСПАМІНАМ

Учора быў ушушканы што трэба!
Льга прозвішчу свайму адпавядаць.
За ноч сыпнула, нібы пуху, неба
Снягоў Сташанам — краю не відаць.

Мароз рыпіць пад крокамі валёнак.
Сцюдзёныя брыльянты — зіхацяць.
Здавён, здаецца, выбіўся з пялёнак,
Аднак…
Матуля ўхутвае дзіця

У шубку, шарсцяны за шыяй шалік
Зашморгвае вузлом пад каўняром…
(Ты не крыўдуй, Шушок, не мае жалю
Святое мацярынскае дабро.

Лепш не пакінь звязаных рукавічак,
Каб не ззалелі «дзесяць сябранят».
Ужо ж не без суконных нагавічак
Зачысціш лёд азадкам акурат.

Ты лепш ляці на гульбішча з сябрамі
І да знямогі коўзайся з гары.
Хай Бобік з брэхам паімчыць за вамі
Хоць да вячэрняй чырвані-зары…)

А шалік будзе на хваёвай лапцы
Да вечара і стынуць, і дубець,
І давядзецца аблавушцы-шапцы
З-пад палазоў скрывелаю калець.

Была крылатай там, дзе «пух і вата!»
Гурма маленькіх «дзесяць сябранят»
Дыханнем стане саграваць заўзята
І снегам церці аж да болю нат.

Сягоння зноў ушушканы што трэба!
Льга прозвішчу зімою нагадаць,
Як у Сташанах, быццам пуху, неба
Снягоў сыпнула — краю не відаць.

## КВЕТКА ВОЛІ

Балада белых руж
на іспанскі матыў

**1**

Да вусцішу змрочна. Сумна
Самоце. А цемень стыне
Ля камяніцаў думных,
Манастыровых, — тынам.

Ды вохці мне! У сутане,
Зняможаная чаканнем,
Нясе да гнязда спаткання
Манашка сваё каханне.

— Дачка, Усявышні бачыць!
Куды ты ідзеш, нябога?
— У рай давядуць, найначай,
Расой абмытыя ногі.

— Дзяўчына, а што як згубу
Чарговая стрэча тоіць?
— Нягойныя раны любы
Пяшчотай сваёй загоіць.

— Не будзе літасці, чуеш?
У ката зазнаеш кару.
— Каханне яго расчуліць.
Не дасца само ў ахвяру.

Каханне яднае сэрцы
У сонечным пацалунку…
— Не верце яму, не верце!
Няма ад яго ратунку…

**2**

І зорам карціць да шлюбу.
Іх месяцу не сурочыць,
Бо выдыхнулі: — Мой любы!
І глянулі ў морак ночы,

У сон галубінай песні
Грудзей расхрыстаных ружы.
Так сонца праменнем веснім
Панурую цішу рушыць.

Так слепяць снягі іскрыста
Бялюткім колерам снежня…
Як светла, як урачыста —
Любові адзінай грэшнасць!

Як моцна і непадзельна
Яднанне дваіх у свеце!
Нямее ад неспадзеву
Прад тайнай адвечнай вецер.

Гарбаціцца неба страшна.
Сузор’е Лебедзя — крыжам.
І ноч — гругановы стражнік —
Ля ложа саломы рыжай

Віжуе за пекнатою…
— Пара мне…
— Яшчэ паспееш…
А ранне крывёй густою
Каліны гаркавай спее.

«Спыніся на хвілю, ранне,
Святла ім дваім даволі.
Хай вечнаю зоркай стане
Сарваная кветка волі».

а



Алесь РЫБАК

# НА РАЗДАРОЖЖЫ*

Раман

## Частка другая

### 4

Жыццё ў Вадзіма ішло сваім ладам. Мінула чацвёртая вясенне-летняя сесія, якую ён, гэтак жа, як і папярэднія тры, вытрымаў без адзінай тройкі, атрымаў наперад стыпендыю, такі-сякі ганарар і зараз думаў, як правесці канікулы. Вабіла, апроч як да сястры, паехаць куды-небудзь у новае месца. Ужо трохі шкадаваў, што зноў не падаўся на цаліну. А клікалі ж. Ён, можа, і рашыўся б, ды Рыгор не захацеў, сказаў, што трэба быць на хутары: маўляў, бабуля слабенькая, трэба яе падтрымаць.

Дапамог выпадак. Сноўдаючыся ад няма чаго рабіць па праспекце, Вадзім сустрэў кіраўніка іхняга літаб'яднання і выкладчыка беларускай літаратуры Вадзіма Уладзіміравіча. З ім шырока і размашыста крочыў незнаёмы мужчына ў капелюшы і, хоць было гарачавата, у пінжаку і пад гальштукам. Туркоў першы заўважыў Вадзіма, спыніў, паздароўкаўся, пасля прадставіў суседа:

— Рэдактар раённай газеты Адам Вікенцьевіч Мальцаў, пагроза раённых бюракратаў, нязломны змагар за беларушчыну, за што яму ад тых жа бюракратаў дастаецца і ў хвост і ў грыву.

— Ну, цябе, Вадзім, толькі на трыбуну, — паморшчыўся рэдактар. — Тут жа таксама вушы ёсць. Цішэй на паваротах.

— Не бойся гэтага хлопца. Ён сам за беларускае гатовы, як той Джарда-

---

***Рыбак Аляксандр Пятровіч** нарадзіўся 7 лістапада 1934 г. у вёсцы Макаўчыцы Дзяржынскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна (1958). Працаваў у рэдакцыях радашковіцкай, дзяржынскай і бягомльскай раённых газет, часопісе «Вожык», газеце «Калгасная праўда», на Беларускім радыё, у часопісе «Бярозка». З 1964 да 1972 г. жыў у Маскве — працаваў у апараце Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Адначасова выкладаў беларускую мову ў Літінстытуце імя М. Горкага. З 1972 г. — намеснік адказнага сакратара СП БССР, з 1978 г. — старшы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг аповесцей і апавяданняў «Дарогі бываюць розныя» (1972), «Што пасееш...» (1982), «Апошняя камандзіроўка» (1985), рамана-дылогіі «Трэба было жыць» (1990) і «Галаброды» (2006) і інш.*

---

* Працяг. Пачатак у № 6—7, 2010 г.

на Бруна, на вогнішча пайсці. Зрэшты, добры табе кадр можа быць. Хай ён не журфак заканчвае, а беларускае аддзяленне, але ж піша прозу і друкуецца нямала. Будзь знаёмы — Вадзім Гурко, мой цёзка.

— Ну, Вадзіма Гурко я тое-сёе чытаў. Змястоўныя гумарэскі і апавяданні.

— А ты ведаеш, што ён разам з нашымі ўніверсітэцкімі літаратарамі сустракаўся з Коласам? Ёсць нават здымкі, некаторыя былі ў друку.

— Цікава было б паглядзець. Колас і ў нашыя мясціны прыязджаў, як быў малады. Хадзіў па грыбных мясцінах, любаваўся прыродай. Хацеў нават пакой дзе-небудзь зняць, толькі каб бліжэй да лесу. Шкада, што памёр. Яшчэ б жыць яму ды жыць.

— Такі лёс многіх вялікіх, — уздыхнуў Туркоў. Ён раптам ляпнуў сябе па лбе. — Ты ж неяк казаў, што табе літсупрацоўнік патрэбен. То ўзяў бы хлопца хоць на колькі месяцаў, а спадабаецца, то і назусім. На пятым курсе ў яго заняткаў тых — кот наплакаў. Як, Вадзім? Адчуваю, ты работу сабе шукаеш.

— Я не супраць, — Вадзім пачырванеў нават. — Але ж ці ёсць месца і ці возьмуць?

Мальцаў задумаўся, пасля сказаў:

— Калі ўсур'ёз вабіць газетная справа, праз тыдзень прыязджай. У нас акурат вызваляецца месца. Аднаго загадчыка аддзела пісьмаў выпраўляем на пенсію, сам папрасіўся, зробім перастаноўку, і ў гэтым жа аддзеле будзеце літсупрацоўнікам. Як?

— Я згодзен, — Вадзім удзячна глянуў на рэдактара.

Яны пайшлі, а Вадзім цяпер абдумваў, як за гэты кароткі час зрабіць шмат спраў. У яго не было ані сумнення, ці правільна ён зрабіў, даўшы згоду з'ехаць са сталіцы і пасяліцца ў правінцыйным гарадку. Па праўдзе сказаць, ён і не планаваў на будучае чапляцца за горад і, у адрозненне ад многіх сваіх аднакурснікаў, выказваў жаданне па заканчэнні ўніверсітэта з'ехаць у самы далёкі і глухі куток, толькі б былі добрая школа, лес і хаця б непадалёку рэчка ці возера. Тут жа, куды яго запрасілі, прырода, ведаў, самая што ні на ёсць маляўнічая, звабլівая, нават гарыстая. Добра ўзімку будзе і на лыжах пакатацца, а летам ці ўвосень пабегаць па грыбных мясцінах. Ён крочыў у бок Камароўкі і прыкідваў, што і каму купіць. Цяпер ужо грошы ашчаджаць не вельмі патрэбна, бо, калі ўсё пойдзе на лад, праз месяц які з гакам атрымае першую палучку. Цікава, колькі ж літсупрацоўнік атрымлівае? Ну, пэўна ж, не раўня стыпендыі. Ды там жа, у газеце, нейкі і ганарар можна зарабіць.

Зараз як ніколі хацелася бачыць Люсю. Дзяўчына за гэты час расквітнела бы кветка. У паставе, у рухах з'явілася штосьці паважлівае, а ў вачах — дарослая задуменнасць. Дзяўчына закончыла ўжо вячэрнюю школу і цяпер вызначалася, як быць далей: паступаць куды ці працаваць і дапамагаць маці. Чакала з дня на дзень Вадзіма, каб параіцца з ім. Ён гэта таксама адчуваў, таму і вырашыў, што найпершым чынам паедзе да брата, пабудзе там дні два-тры, і ўвесь вольны для абаіх час аддасць ёй. Толькі што купіць у падарунак каханай? Вырашыў, што і ёй падорыць патэфон з наборам пласцінак самых любімых ёю песень Русланавай, Бернеса, Шаляпіна і іншых славутых спевакоў. Во будзе радая! Ну, а да сястры са шваграм таксама завітае на пару дзён. Гэта ўжо пасля Жорнаўкі. Купляць ім, апроч такіх-сякіх гасцінцаў-прысмакаў, нічога не будзе, лепш дасць на абжытак у хаце лішнюю капейку. Дайшоўшы ўжо амаль да Камароўкі, Вадзім павярнуў назад. Вырашыў, што купіць патэфон лепш за ўсё ў ГУМе. Там жа і пласцінак вялікі выбар.

Раніцай, трохі чаго перахапіўшы з апусцелых сваіх запасаў, пайшоў на вакзал, купіў білет да Радава. У вагоне ў будні дзень люду было няшмат, тым

больш з Мінска. Стрэчны поезд, бачыў праз акно, быў забіты да адказу. Праз гадзіну ўжо ішоў па вуліцах Радава. Радаваўся хуткай сустрэчы з Люсяй, цешыўся цёплым ласкавым сонцам. Ён ведаў, што Люся зараз пойдзе на працу, што на абед яна бяжыць дадому. Глянуўшы на наручны гадзіннік, прыкінуў, што покуль дойдзе да яе хаты — а гэта ад вакзала кіламетры чатыры з гакам, то акурат заспее яе. З патэфонам жа да брата не пойдзеш, неяк няёмка перад ім і братавай. Вось каб і ім тое ж! Але грошай на дзве такія пакупкі замалавата.

Люся і праўда была дома, бо, калі пастукаў у сенцы, раздражнёна гукнула:

— Не выдурняйся. Ідзі, во, лепш паеш.

Вадзім адчыніў дзверы, а Люся спінай да яго сядзела за міскай. Калі, пераступіўшы парог, ён павітаўся, дзяўчына з радасным віскам павісла ў яго на шыі.

— Нарэшце-ткі! Божа, як я ссумавалася, як я чакала цябе, дурачына ты гэтакі, — яна ўзлахмаціла яго чупрыну, пасля, выцершы хусцінкай рот, прыпала да ягоных вуснаў. — Я думала, што гэта брат. Ён таксама прыязджае на абед. Праўда, сёння, казаў, што павязе дырэктара па справах у Мінск і вернецца позна. Так што мы з табой удваіх. Сядай, зараз я табе баршчу налью.

— А дзе ж мама? — Вадзім паставіў пакунак на крэсла, зноў абняў каханую, сказаў: — Вось, разгарні. Калі не спяшаешся, паглядзім і паслухаем.

— Мама ў суседкі, шыюць ёй спадніцу. Сама я магу больш і не пайсці на працу. Сёння ўсё роўна не было чаго рабіць. А заўтра неяк адпрашуся.

Яна вылузалася з яго абдымкаў, развязала шпагат і, адкінуўшы абгортку, вохнула:

— Гэта мне?! Божа, і ў нас у хаце будзе музыка?

Яна радавалася, бы дзіця, яшчэ і яшчэ раз горача цалавала Вадзіма, тулілася да яго грудзей.

— То давай паставім што, — сказаў ён.

— Дык жа няма пласцінак, — засмуцілася дзяўчына.

— На гэту бяду я раду знайду. — З партфеля ён выняў другі пакунак, кулёк з цукеркамі, паклаў на стол. — Там, — кіўнуў на пакунак, — твае любімыя артысты.

Люся перабірала адну за другой пласцінкі і не магла нарадавацца:

— Божа, Русланава! Як я люблю яе песні! Гэта ж нехта казаў, што яна забароненая. Брахалі, напэўна.

— Не брахалі, не. Яна сапраўды сядзела ў лагеры і толькі нядаўна нібыта апраўдалі.

— Яе — у лагеры?! Гэта ж за што? Такую вялікую артыстку. Ды на яе маліцца трэба.

— Бачыш жа, некаму трэба было знішчаць лепшых, найбольш таленавітых.

Люся, паставіўшы пласцінку Русланавай на дыск, спахапілася:

— Дык боршч жа астыне. Ты пасёрбай, а я тым часам пераапрануся. Пасля паслухаю.

Яна пайшла ў залу, а Вадзім прысеў да стала, узяў лыжку. Дзяўчына наліла яму паўнюткую, да самых бераждкоў, талерку, у якой было многа тлушчу, нават ляжаў кавалак мяса. «Сама, можа, мяса не ела, а мне ўсё пакінула», — мучыла яго сумленне. Пакаштаваўшы боршч, адзначыў сабе, што не горшы, чым у Доме творчасці. Люся выйшла ў гожай шаўковай спадніцы, вішнёвага колеру блузцы на выпуск. Ён падскочыў да яе, падхапіў на рукі, закружыўся па кухні.

— Дурненькі, я ж цяжкая, — яна замалаціла кулачкамі па яго спіне. — Надарвацца хочаш.

Пасля яны круцілі пласцінкі, слухалі любімыя мелодыі, нават пад некаторыя танцавалі. Не пачулі нават, як у залу зайшла Люсіна мама Вольга Іванаўна. Яна абрадавалася, убачыўшы Вадзіма.

— А я яшчэ з двара думаю, няўжо па радзіву такія песні спяваюць. Але ж во яно што. Дык гэта ж патэфон. Узяла ў каго? — папытала ў дачкі. — І чаму не на рабоце?

Люся падманула, што адпусцілі, не было работы, і адпусцілі. Не прывезлі, маўляў, цэменту.

— А гэта, — паказала на патэфон, — мне падарунак. Вадзім, во, прывёз, каб мы тут зусім не замаркоціліся адны.

— Ну, дай Бог вам, дзеці, трохі павесяліцца, а я тым часам схаджу ў Радава. Скончыліся запалкі, ды і хлеба амаль не засталося. Зрэшты, а ты дала што хлопцу паесці?

— Ён еў, мама, ды мала. Мяса нават не ўзяў у рот. Што я зраблю?

— Так ты і частавала, дачушка. А можа, боршч нясмачны?

— Ну, што вы, Вольга Іванаўна, смачны, ды яшчэ які. — Вадзіму было трохі няёмка, што не даеў, талерка ўсё яшчэ стаяла на стале.

Люся выбегла ўслед за маці папрасіць купіць яшчэ зубны парашок, а Вадзім прыкідваў, калі знайсці зручны момант сказаць дзяўчыне аб хуткай перамене ў яго жыцці. Што гэта будзе для яе нечаканасць, ён ані не сумняваўся. Але ж неяк трэба супакоіць дзяўчыну. Пераканаць, што такі шанц упускаць нельга, што ён будзе часта пісаць, нават на выхадныя прыязджаць. Ды тут жа не так ужо і далёка. Недзе сто кіламетраў ад Мінска яго новая работа. Засумуюць адно па адным, то і ў Мінску могуць пабачыцца калі. Як трохі абжывецца, здыме пакой, то і да яго можа прыехаць у адведкі, а то, о было б шчасце, і назусім.

— Тут такая аказія атрымліваецца, — пасадзіўшы яе побач і тулячы да сябе, сказаў ледзь не заікаючыся. — Мне прапанавалі працу ў адным з раёнаў. Па вучобе я ўжо змагу надоўга адлучыцца. Там восенню некалькі лекцый. Астатняе — напісанне дыпломнай работы. З гэтым я лёгка спраўлюся і ў адрыве ад вучобы. То як ты глядзіш на ўсё гэта.

Люся, нечакана адхіліўшы яго ад сябе, горка расплакалася:

— Ты, ты, — скрозь слёзы прамаўляла яна, — хочаш ад мяне ўцячы. Чым далей, тым для цябе лепей? Ты хацеў дарагім падарункам адкупіцца? То ведай, не буду па табе плакаць. І патэфон свой забяры. Некалькі гадоў вадзіў мяне за нос і зараз, во, рашыўся. Ну, дзякуй. Не чакала такое ад цябе. Што, другую сабе знайшоў? А я як забава? То не будзе гэтага!

Яна яшчэ штосьці казала калючае, злое, крыўднае, а ў яго не было ні секунды, каб запярэчыць, сказаць пра тое, што ў яго нікога апроч яе няма і не будзе, што вельмі моцна кахае яе, не ўяўляе жыцця без яе. Ён усё ж злавіў момант, укленіўся, сказаў усё, што думае, чым поўніцца яго душа. Дзяўчына адвяла вочы ўбок, пасля сама горача прыпала да яго грудзей і, асыпаючы пацалункамі, сказала:

— Нікому цябе не аддам. Ты мой, чуеш, мой. І нікому цябе не аддам. Я начамі не спала, усё думала, калі ты з'явішся, парадуеш мяне добрым словам. Хачу, хачу твайго кахання. Дзеля цябе рашуся на ўсё, мой любы. Толькі шапні, толькі пакліч.

Яна больш не плакала. Але ў вачах ужо былі іншыя слёзы. Слёзы пакоры, адданасці, самаахвяравання.

— Дурненькая мая, я ж дбаю пра нашу агульную будучыню. Вось толькі ўсталююся на новым месцы, напішу дыпломную і паклічу цябе, каб распісацца. Паглядзіш, як мы будзем цудоўна жыць.

— Гэта праўда — распішамся? — ажно не верыла яна пачутаму. — Але ж нас не распішуць.

— Гэта чаму?

— А таму, што мне яшчэ васямнаццаці няма.

— Ну, не бяда, — засмяяўся ён, — вось народзіш мне дачушку, тады дзе дзенуцца, распішуць.

— Але ж без роспісу грэх, вялікі грэх, — яна зноў асыпала яго пацалункамі.

— Дзеля дачушкі, нашай дачушкі, можна і саграшыць.

— Мама тады мяне заб'е, — шчаслівая, шаптала яна.

У гэты вечар яны схадзілі ў кіно, пасля, ужо поначы, доўга сядзелі яшчэ на лаўцы пры хаце, слухаючы, як дзесь за ровам гаманілі хлопцы і дзяўчаты, нехта рыпаў на гармоніку. Ноч была цёмная, без зорак. У тым баку, дзе Гараўкі, раз-пораз успыхвалі бліскавіцы.

— Усе арэхі спаліць маланка, — пашкадавала дзяўчына. — Але я люблю начныя бліскавіцы. Як добра думаць і марыць пры іх. А яшчэ калі ціша, нідзе ніводнага гуку, ні шолаху лісточка на дрэве. Божа, як жыць тады хочацца, быць шчаслівай.

— Мы будзем шчаслівыя, вер мне, любая. У дошку разаб'юся, а зраблю ўсё, каб табе было добра. А цяпер мне, відаць, пара. Ды і табе заўтра рана на працу. А я яшчэ пакуль дабуджуся Колю ці Ліньку. Трэба было загадзя каго з іх папярэдзіць, што прыйду начаваць. Свінтус грандыёзус я вялікі.

Вадзім падняўся, яшчэ раз моцна ашчаперыў дзяўчыну і ажно задыхнуўся ў гарачым пацалунку.

## 5

Пад'язджаў ён да гэтага ціхага ляснога гарадка з незвычайным хваляваннем. Як стрэнуць, ці вызвалілася месца, справіцца ці не з рэдакцыйнымі абавязкамі? Пытанні, пытанні.

Гэтай дарогай ехаў ён упершыню. Скрозь лясы і лясы. Паабапал шашы — карабельныя сосны, верхавіны якіх сягалі далёка ў неба. Рэдка дзе страчалася жыллё. Насустрач аўтобусу, цяжка сапучы на пад'ёмах, ішлі магутныя лесавозы, везлі драўніну ў Мінск. Быў канец ліпеня, і спёка, якая трымалася ўжо два тыдні, даймала і ў аўтобусе, хоць усе форткі былі расчынены. Затое адтуль, знадворку, несла пахам смалы, густым і гаркавым, які, калі не было машын, хацелася ўдыхаць на поўныя грудзі. Гэты край, ведаў Вадзім, лічыўся партызанскім, тут лютавалі карнікі, тут яны забівалі людзей і палілі цэлымі вёскамі. Перад тым, як ехаць сюды, ён некалькі дзён сядзеў у Ленінцы, усё, што толькі можна было, прачытаў пра Бягомльшчыну. І чым болей чытаў, тым мацней вабіў яго гэты пакутны край, яго прырода, рэкі і азёры. Ведаў, калі прымуць на працу, яму давядзецца аб'ездзіць, а то і абхадзіць дзясяткі большых і меншых вёсак, раскінутых на бязмежным лясным абшары. Ведаў ужо і тое, што людзі тут жывуць надзвычай бедна. Калгасы пасля вайны ніяк не могуць акрыяць, а дадаткова дзе зарабіць капейку, акрамя як за грыбы ці ягады, альбо ў леспрамгасе, цяжкавата.

Набліжаліся першыя будынкі, і Вадзім цяпер думаў, куды найперш пайсці: у рэдакцыю ці гасцініцу. Як бы там ні было, а начаваць сёння давядзецца тут. Усё ж вырашыў падацца ў гасцініцу, а адтуль, як пакіне такі-сякі свой скарб, у рэдакцыю.

Пад канец рабочага дня пастукаўся ў рэдакцыйныя дзверы, абабітыя дэрмацінам.

— Заходзьце, — гукнулі з сярэдзіны. Вадзім зайшоў і зніякавеў: замест таго чалавека, з якім знаёміў Вадзім Уладзіміравіч, сядзеў у крэсле таўсматы мужчына з кароткімі вусікамі, штосьці пісаў у блакнот.

— Вам што? — папытаў хлопца.

— Я хацеў бачыць рэдактара, — Вадзім яшчэ падумаў, што мо гэта палавіна драўлянай будыніны, падзеленай сенечкамі, зусім не належыць рэдакцыі. — А я трапіў у яго кабінет?

— У яго, у яго. Толькі ўжо без яго. Калі вы прынеслі які допіс, то пакіньце мне, я ведаю, каму перадаць.

Скумекаўшы, што нешта тут не так, Вадзім не ведаў, як быць: завярнуцца і пайсці, ці ўсё ж сказаць, дзеля чаго прыехаў. Рашыў пакуль памаўчаць, схітрыў:

— Неяк ён казаў, каб зайшоў і прынёс сваё апавяданне ў літаратурную старонку. Я іншым разам наведаюся.

— То чаго ж, ёсць яшчэ супрацоўнікі. Праўда, сёння ўжо ўсе разбегліся. Хіба, можа, Галаўко ў сябе.

«А гэта хто?» — ледзь не выдаў сябе Вадзім, што нікога тут не ведае.

— Не, я заўтра лепш зайду, — хлопец завярнуўся і азадачаны падаўся ў гасцініцу.

Калі прывёў у парадак рэчы, перакусіў каўбасы з хлебам, глынуў з бутэлькі ліманнага напітку, выйшаў прайсціся. Глянуць, ці ёсць дзе блізка сталоўка, магазін гаспадарчых рэчаў. Калі ён тут асталюецца, то спатрэбяцца кіпяцільнік, ранейшы перад самым ад'ездам перагарэў, шчотка для абутку, новы, большы ўжо, кубак грэць ваду, яшчэ тое-сёе з дробязей. Сёння, хоць такі магазін знайшоў, не хацелася нічога купляць. Мо ён дарэмна прыехаў. Калі той таўсматы сказаў, што рэдактара не будзе (няўжо ён сам на яго месцы?), то хто ж тады выслухае яго. Нехта Галаўко? Але хто ён? І ці мае ён права прыняць яго на работу? Во ўліп, дык уліп. Паехаў, загадзя не пазваніўшы. У гасцініцы, калі нікога не было каля дзяжурнай, папытаў, быццам няўзнак:

— Вы ведаеце Адама Вікенцьевіча Мальцава, ну, рэдактара вашага «Бальшавіка»?

Дзяжурная неяк спуджана паглядзела на Вадзіма, падцяла губы і нічога не сказала.

Раніцай а дзявятай гадзіне Вадзім зноў ужо быў у рэдакцыі. Гэты раз спытаў у стрэчнага мужчыны, дзе сядзіць таварыш Галаўко.

— Ну, я і ёсць Галаўко. А вы прынеслі нешта?

— Ды я… я… — Вадзім замяўся. — Мне абяцалі тут працу. Во, прыехаў учора.

Галаўко, нічога не сказаўшы, кіўнуў галавой, даў знак, каб ішоў за ім. Ужо ў сваім кабінеце падаў руку, назваўся:

— Павел Іванавіч.

Вадзім назваў і сябе.

— О, то мы чакалі вас, думалі, што не прыедзеце. Мне Адам Вікенцьевіч казаў пра вас.

— А дзе ён сам? — сцішыў голас Вадзім. — Там у яго кабінеце…

— А-а, то адзін з органаў кампрамат на яго страчыў, нас па чарзе ўсё цягаў. Во жытуха, вайну пераЖылі, а гэтыя ўсюды і зараз шукаюць ворагаў. У Мінску, можа, не так. А нашы на месцах са скуры вылузваюцца, каб выслужыцца. Тут яшчэ па лясах фашысцкіх недабіткаў і іх памагатых хапае. Нападаюць на магазіны, забіваюць часам актывістаў. А гэтыя… Ат, што пра іх казаць.

— Майго сябра таксама хацелі выключыць з універсітэта, што ўтаіў пра бацькоў, якіх раскулачылі, хоць яны былі не больш, чым серадHякі. Хацелі з камсамола прагнаць, але мы ўсе разам неяк адбіліся.

— Вам пашанцавала, — ляпнуў далонню па стале Павел Іванавіч. — Не вельмі яны адступаюць ад таго, каму ўпіліся зубамі ў горла. Мальцава абвінавацілі ў нацыяналізме. Шыюць яму нейкі артыкул.

Вадзіма загадам в. а. рэдактара Галаўко прызначылі літсупрацоўнікам аддзела пісьмаў, даручыўшы, акрамя ўсяго іншага, раз у тры месяцы рыхтаваць літаратурную старонку. Загадчыкам аддзела быў былы літсупрацоўнік Максім Пятровіч Адашэвіч, досыць ужо сталы, пад пяцьдзясят гадоў, мужчына з вялікай дарожкай-лысінай праз усю галаву. У рэдакцыі ён лічыўся старажылам, выдатна ведаў раён, гісторыю вёсак, селішчаў, абхадзіў пешшу ці аб’ездзіў усе славутыя тут мясціны. Да Вадзіма ён паставіўся памяркоўна.

— Калі і назаўсёды застанешся, — казаў, паказваючы яму рабочае месца, — не пашкадуеш. Тут цікавыя людзі, якія многа перажылі, пабачылі. А дзяўчаты якія! Пабудзеш калі на танцах-шманцах, убачыш сам, колькі прыгажунь. Ды яны і самі цябе падчэпяць.

Перш-наперш Вадзім пачаў знаёміцца з падшыўкай «Бальшавіка». Узяў з першага студзеня і па сённяшні дзень. Матэрыялы былі галоўным чынам прысвечаны сельскім будням. Зараз распачалося жніво і карэспандэнцыі з месцаў з бляклымі фотаздымкамі расказвалі пра камбайнераў, якія сёлета збяруць ураджай не менш як па дваццаць цэнтнераў з гектара, пра даярак і свінарак, якія пад мудрым кіраўніцтвам роднай партыі, выконваючы яе запаветы, абавязваюцца даць дзяржаве шмат мяса і малака. Поспехам іхнім былі прысвечаны тры паласы. І толькі на чацвёртую старонку траплялі якія-небудзь допісы селькораў таксама з услаўленнем свайго жыцця-быцця. І рэдка калі мільгала штосьці крытычнае, галоўным чынам пра нядбайнага калгаснага брыгадзіра, які не паклапаціўся пра належны рамонт тэхнікі і тым самым байкатуе выкананне дзяржаўнага плана. Трохі чыхвосцілі п’яніц, тых, хто без дайпрычыны не выйшаў калі ў поле, на луг і тым самым нанёс гаспадарцы значную шкоду. Культурнае жыццё асвятлялася як бы мімаходзь, быццам галоўным было — напоўніць страўнік, амбар, бітон малака. Літаратурныя матэрыялы — вершы, апавяданні — страчаліся рэдка.

Чым больш Вадзім гартаў газету, тым больш расчароўваўся. Не, не сваім становішчам, у якое трапіў па добрай волі, а ўзроўнем журналістыкі. Можна ж і пра станоўчае пісаць больш жыва, укладваць у матэрыял душу, асабліва, калі размова ішла пра сапраўдных працаўнікоў, якія за мізэрныя заробкі (а што яны былі мізэрныя, ён ужо чуў ад многіх) не шкадавалі ні сіл, ні здароўя, робячы сваю справу. А як цікава можна было б паказаць чалавечыя лёсы! Людзі ж прайшлі праз пекла вайны. Многія вярнуліся ці то з арміі, ці то з партызан знявечаныя. Прыйшлі часта на папялішчы. І, знемагаючы ад ран, часта без усякай дапамогі дзяржавы, будаваліся, вылазілі з зямлянак, заводзілі сем’і. Вось пра ўсё гэта можна пісаць досыць цікавыя і змястоўныя нарысы. А прырода тут якая! Пра яе можна складаць цэлыя оды.

Пра ўсё гэта Вадзіму думалася са шкадаваннем, што, можа, давядзецца з тым-сім уступіць у спрэчку, адстойваючы свае пазіцыі. Ён ужо здагадаўся, што загадчык сельскагаспадарчага аддзела Замоцін тут задае тон усяму, бо яго сухія, расцягнутыя матэрыялы займалі дзве трэція плошчы газеты. Зараз і ён сам, і ягоны супрацоўнік Лявон Галкін былі на раёне і, пакуль Максім Пятровіч паказваў Вадзіму яго рабочае месца, яны на рэдакцыйным матацыкле памчаліся ў адзін з дальніх калгасаў. Так што ручкацца і знаёміцца з імі давядзецца толькі к вечару.

Асвойтваўся Вадзім на новым месцы цяжэй, чым думаў. На грошы, якія ён павінен быў атрымліваць, цяжка было плаціць за гасцініцу, і ён ужо прыкідваў, дзе знайсці прыстойны пакойчык у прыватным доме, у якім было б ціха, цёпла і ўтульна. Максім Пятровіч паабяцаў пагаварыць з адной жанчынай, у якой няма малых дзяцей, а тыя, што былі, з'ехалі хто ў Мінск, хто ў Полацк, і яна (муж у мінулым годзе памёр) зараз кукуе адна. То, можа, жанчына згодзіцца ўзяць яго і са сталаваннем. У іхняй сталоўцы і дарага, і нясмачна.

Такая перспектыва Вадзіму прыйшлася па душы. Неяк пасля работы яны пайшлі па ціхім зялёным завулку ажно ў самы канец яго, дзе злева бачны быў яшчэ здалёку ярка размаляваны, унушальнага памеру дом з зялёнымі аканіцамі. Гаспадыня — назвалася Варварай Вікенцьеўнай — чакала іх. Яна ласкава глядзела на Вадзіма, прапанавала абодвум сесці.

— Я не супраць кватаранта, — сказала, калі Максім Пятровіч, пазнаёміўшы са сваім саслужыўцам, дадаў, што хлопец не п'е, не курыць і дзяўчат не збіраецца сюды вадзіць.

— Ну, дай бог. А то быў у мяне адзін з леспрамгаса, то такі выпівоха і неахайны, ледзьве пасля яго хату прывяла ў парадак. Ну, а наконт сталавання… Нават і не ведаю. Што я сама ем, вам жа, відаць, не падыдзе, вы, напэўна, харчаваліся ў кафэ ці рэстаранах. А так гатаваць, як там умеюць, я не змагу. Так што глядзіце.

— Ну, што вы, Варвара Вікенцьеўна, — горача ўсклікнуў Вадзім, — якія кафэ, якія рэстараны. Мы са сваёй стыпендыі не ведалі, як канцы з канцамі звесці. А ўсё хатняе я люблю. Там боршч, бульба, агурок ці памідор, а зімою селядзец які.

— Ну, пры такой умове можна згадзіцца. Толькі плата каб была рэгулярная. Той леспрамгасавец па тры месяцы, бывала, не плаціў, усё жлукціў.

— Я пастараюся даваць вам наперад, — запэўніў Вадзім. — Цану толькі скажыце. І за пакой, і за сталаванне.

Жанчына, падумаўшы, назвала суму.

— Не вельмі цяжка для вас? — папытала спагадліва.

Вадзім з радасцю згадзіўся. У той жа вечар ён разлічыўся за гасцініцу і перанёс свае рэчы на новае месца жыхарства. Вырашыў, што з першай палучкі, акрамя як аддасць абяцанае гаспадыні, купіць сабе дзве прасціны, коўдру, ну, калі хопіць, то і падушку. Вечарам сеў пісаць пісьмо Люсі. Падрабязна расказваў, як ехаў, якія магутныя карабельныя сосны цягнулі ўгору, да сонца, свае верхавіны. І так на працягу ўсяго шляху. Пра рэдактара, пра тое, што з ім здарылася, вырашыў прамаўчаць — ці мала хто можа ўспароць канверт і прачытаць, што піша малады супрацоўнік. Спяцоў на такое хапае. Паведаміў, дзе і як пасяліўся. Пра ўражанне ад газеты таксама змоўчаў. Напісаў пісьмо на ўніверсітэцкі адрас і Рыгору, бо не быў упэўнены, ці дойдзе яно на хутар. У гэты ж вечар, прагульваючыся перад сном, занёс і кінуў лісты ў паштовую скрынку, бо канверты з маркамі ў яго былі куплены загадзя.

## 6

Замоцін аказаўся чалавекам злым і нядобразычлівым. Прачытаўшы першы Вадзімаў нарыс пра партызана, які прыйшоў з лесу пасля вайны абмарожаны, з ампутаванай левай нагой, ён, чалавек жалезнага характару, волі, здолеў узначаліць сельсавет, не пабаяўся ўступіць у канфлікт са старшынёй калгаса, адстойваючы інтарэсы сяльчан, Замоцін кісла скрывіўся, сказаў, што ўлада,

фактычная ўлада, уся ў старшыні калгаса, а сельсаветчыкі былі і будуць у яго на пабягушках.

— Дык гэта хіба справядліва?! — загарачыўся Вадзім. — Вы не чулі, што пра вашага любімца калгаснага важака людзі кажуць. Як ён за некалькі каласкоў дзвюх жанчын аддаў пад суд, як абразаў пад саменькія хаты соткі, калі хто па хваробе нават не змог даць мінімуму працадзён. Гэта хіба чалавек?

— Але ж, — не здаваўся Замоцін, — ён добры гаспадарнік, яго паважаюць у раёне, ставяць у прыклад. Як-ніяк і на Дошцы гонару вісіць.

— Гэта не козыр, — Вадзім стаяў на сваім. — Знайшоўся б смелы журналіст з Мінска, то ён такога гаспадарніка хутка вывеў бы на чыстую ваду. Людзі мне расказвалі, як ён утойвае засеяныя плошчы, таму і ўраджай нібыта большы.

— Вось ты, калі такі разумнік, напішы сам пра гэта. Думаеш, нехта надрукуе?

— То лепш і хваліць такога не варта.

Яны б яшчэ спрачаліся, але да Замоціна прыйшоў знаёмы аўтар, і яны выйшлі разам падыміць.

— Здорава ты з яго пыху збіў, — сцішана і з захапленнем сказаў Максім Пятровіч, які спачатку і да канца спрэчкі слухаў абодвух. — Ён лічыць сябе пупам зямлі, бегае часта да першага сакратара райкама, паказвае свае матэрыялы, выхваляецца. Неаднойчы бачыў яго ў кампаніі з тым, з органаў. Можа, ён і накапаў на нашага рэдактара. Зараз я чамусьці не сумняваюся ў гэтым. Мецiць, пэўна, на яго месца. Лепш ты яго сцеражыся. Наступіш на гаўно, доўга смярдзець будзе. А што ён гаўно, ведае кожны. Галкіна, а гэта зусім нядрэнны хлопец, заганяў. Што б той ні напісаў, па два-тры разы прымушае перарабляць. Падмяў пад сябе адзіны ў рэдакцыі матацыкл і нікога і блізка не падпускае да яго. А нарыс твой гучыць свежа, напісаны добрай мовай і з веданнем псіхалогіі чалавека. Быў у райвыканкаме, то многія пыталіся пра аўтара. Хвалілі матэрыял. Так што і далей так трымай лейцы.

Пахвала загадчыка аддзела акрыліла Вадзіма, дала новы імпэт працаваць так, каб пасля не было брыдка. Цяпер вечарамі ён абдумваў новыя тэмы, у дасланых пісьмах шукаў герояў, ну, і абдумваў канву чарговага вялікага апавядання, звязанага таксама з партызанскімі буднямі. А матэрыялу такога хапала. Людзі пасля вайны яшчэ загойвалі раны, успамінамі вярталіся да тых невыносна цяжкіх дзён. Помніў Вадзім і пра дыпломную і ўжо рабіў такія-сякія накіды, вызначыўся і з тэмай: «Чалавек і яго доля», паводле паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Назва пакуль умоўная. Але што па гэтай паэме, якую ён вывучыў амаль што на памяць, ён зробіць дыпломную, ужо не сумняваўся.

Першай адгукнулася Люся. У канверт, акрамя спісаных некалькіх старонак, яна паклала тры высушаныя пялёсткі ружы. Чытаў Вадзім, і душа напаўнялася незвычайнай любасцю, жаданнем хоць на дзень-два вырвацца са звычнага кола сваіх абавязкаў і як на крылах ляцець да яе, каб прытуліць, пацалаваць і супакоіць. Але, ведаў, сарвацца ніяк не атрымаецца, бо чакалі прызначэння новага рэдактара, ды праз паўмесяца ён падрадзіўся падрыхтаваць літаратурную старонку. Зараз знаёміўся з вершамі, замалёўкамі, байкамі. Было тры апавяданні, адно з іх, трохі паправіўшы, можна было б друкаваць, астатнія — выключная слабізна: ні мовы, ні сюжэта, ні характараў, ні дзеянняў, якія рухалі б гэты сюжэт. Карацей кажучы, абы-што. З вершаў таксама можна было выбраць тое-сёе, але, як разумеў Вадзім, на паўнавартасную старонку, якая запоўнілася б, гэтага малавата. Вадзім ужо ведаў ад загадчы-

ка, што ў адным з сельсаветаў жыве цікавы хлопец, інвалід дзяцінства, і яго вершы з задавальненнем друкавала абласная газета. Нават аднойчы трапіў на старонкі маладзёжнага часопіса. Прозвішча яго ці Васілёнак, ці то Васільчык, добра не памятае, але жыве ён у такой глушэчы, куды не ходзіць ні аўтобус, ні які іншы транспарт, апроч выпадковай калгаснай машыны. Калі ўжо ехаць туды, то хіба на рэдакцыйным матацыкле. Але ж паспрабуй выклянчы яго ў Замоціна. Ён тысячу прычын выдумае, каб не даць. І ўсё ж трэба нешта прыдумаць. Ён рашыў перагаварыць з Лявонам Галкіным, які таксама за рулём, але перагаварыць тады, калі ў іхнім пакоі не будзе Замоціна. Падпільнаваўшы момант, калі той пайшоў на абед (а абедаў Замоцін заўсёды дома), Вадзім падсеў да Галкіна, умольна паглядзеў на яго.

— Што трэба? — не адрываючы ручку ад паперы, спытаў той.

— Ды падымі ты галаву, — Вадзім уляпіў яму па лбе пстрычкай, — а то сядзіш, як гною кучка. Вакол жыццё кіпіць, а ты ўнурыўся і свету божага не бачыш. Вунь, дзяўчат колькі па вуліцы шпацыруе, на акно твае паглядваюць. Свісні — і кожная твая.

— Нешта ты на лірычны лад настроіўся, — усё ж адарваўся ад паперы Лявон. — Што трэба? У сваты звадзіць?

— Во-во, — падхапіў Вадзім, — толькі не звадзіць, а звазіць. Дзеўку адну стрэў тут нядаўна, то, кажа, прыязджай, гарбуз не выстаўлю, прывечу як мае быць, накармлю ад пуза і напаю.

— Го, дзеля баршчу і катлеты гатоў ехаць на край свету, — зрыфмаваў Лявон.

— Ну, на край свету не трэба, а вось у Церахаўку добра было б, каб заўтра-паслязаўтра падкінуў. Яй-бо, дружа, выручы, свечку ў царкве за цябе пастаўлю.

— Ты гэта сур’ёзна? — вырачыў вочы Галкін. — Туды ж толькі на верталёце можна. Дарога скрозь па лясным пнёўі. Адзін толькі раз былі з Замоціным, але праклялі ўсё на свеце. Так што твая суджаная знарок паслала цябе к чорту на кулічкі.

— І ўсё ж, — даводзіў Вадзім, — трэба мне ў Церахаўку. Рыхтую літаратурную старонку, то трэба там да аднаго самародка наведацца, інваліда.

— Ды ведаю я яго, ведаю, — палагоднеў Лявон. — Алесь Васільчык. Цікавы хлопец, з вялікімі паэтычнымі задаткамі. Эх, яму б вучыцца, ды хто ў інваліднай калясцы прыме яго куды. Скончыў дзесяцігодку на выдатна, атрымаў залаты медаль. У яго толькі маці, а бацька ў партызанах загінуў. Так што ў гэтай глушэчы яны гібеюць удваіх.

Сваім аповедам Лявон падагрэў яшчэ большую цікавасць да хлопца. Вадзім усё ж вырашыў пагутарыць з Замоціным і пад выглядам напісання матэрыялу для сельгасаддзела наведаецца разам з Лявонам куды трэба. Замоцін, памятаючы нядаўнюю не вельмі прыемную яго спрэчку з Гурко, трохі паморшчыўся, але даў згоду на паездку абодвух на матацыкле.

Яны выехалі рана, яшчэ і васьмі не было. Падруліўшы да бензакалонкі, залілі поўны бак бензіну і рушылі спачатку па брукаванцы, пасля па пыльнай пясчанай дарозе ў бок возера Ляснога, што ў дваццаці кіламетрах ад райцэнтра.

Вадзім упершыню сядзеў на матацыкле і пакуль што адчуваў сябе няблага. Было, праўда, трохі халаднавата, бо на роўнай дарозе Лявон выціскаў з машыны максімальную хуткасць. Вецер, хоць Вадзім і сядзеў ззаду, ажно ірваў на ім адзенне. Дых займала на паваротах, а таксама калі траплялі на якую ямку. На адной з такіх калдобін ён ледзьве ўтрымаўся на сядзенні.

За нейкай шыльдачкай, збавіўшы рух, Лявон завярнуў улева. Пайшла лясная дарога, густа пераплеценая каранямі магутных дрэў. Было ўжо не да хуткасці. Тут толькі сачы, каб на паваротцы не наляцець на елку ці сасну, не ўдарыцца аб пень. Хоць даўно стаяла суша, у нізкіх мясцінах былі яшчэ глыбокія лужыны, пакрытыя масляністай плёнкай.

Вадзім, калі зусім сцішылі рух, ехалі на першай скорасці, убачыў пры дарозе два чарнагаловікі.

— Давай спынімся, — прапанаваў Лявону. — Ды і мяккае месца ўжо адбіў. Ты звыклы, а я ўпершыню на такім кані.

Паставіўшы матацыкл на падножку, патэпалі туд-сюд і набралі разам штук пяцьдзясят баравікоў. Лявон дастаў з кішэні плеценую сетку, склаў туды дабро, сказаў:

— Алесю Васільчыку і ягонай маці будзе невялікі падарунак. Хоць, пэўна ж, з грыбамі ў іх праблем няма.

Ехалі яшчэ з гадзіну.

— А як мясцовы калгас тут называецца? — гукнуў Вадзім. Лявон не адазваўся, бо ўскочылі ў вялікую лужыну, і матацыкл, чыхнуўшы раз-другі, чамусьці заглух.

— Вада, ліха на яе, трапіла ў карбюратар. Цяпер нам труба, — зняўшы туфлі і закасаўшы штаны, сказаў, ступаючы ў жыжу, Лявон.

Тое ж самае зрабіў і Вадзім. Удвух яны выцягнулі цяжкую машыну на сухое месца. Лявон пачаў думаць, што рабіць-чыніць. Трэба было разбіраць як не ўвесь матор, а гэта, ведаў, задача з нялёгкіх. Ды і вопыт патрэбен.

— Пакукуем мы тут, — пачухаў патыліцу. — Хоць бы яшчэ ключы адпаведныя былі.

Ён адамкнуў скрыначку, з замасленай анучы выняў і расклаў на траве ўвесь інструмент. Вадзім пачуваўся як бы вінаватым, што схіліў хлопца на такую рызыкоўную паездку. Ён таптаўся вакол матацыкла, не ведаючы, як і чым памагчы. Перш чым разбіраць сэрца машыны, Лявон зрабіў яшчэ адну спробу ажывіць яго. Зноў жа чых-пых, і ніякага выніку.

— Заб’е мяне Замоцін, — сказаў азадачана. — Заўтра ён сам збіраўся некуды ехаць.

Хлопец, сцякаючы потам (сонца ўжо падбіралася к поўдню), пачаў разборку карбюратара, іншага нічога не заставалася. Гадзіны паўтары корпаўся, насосам нешта прадзімаў і сушыў на сонцы. Калі ўсё зноў паставіў на месца, перахрысціўся.

— Ну, пан ці прапаў. Калі і на гэты раз нічога не атрымаецца, трэба хаваць машыну і тэпаць за пяць кіламетраў, не менш, у тую Цэрахаўку, шукаць якога механіка, які ведае тэхніку. А мо якая машына будзе ісці насустрач?

Гэты раз з цяжкасцю, пускаючы клубы чорнага дыму, матацыкл завёўся.

— Ура! — усклікнуў Вадзім. — Справа майстра баіцца.

Яны зноў паехалі, цяпер ужо як мага асцерагаючыся. Лужы, выбоіны Лявон аб’язджаў проста па лесе, лоўка лавіруючы між ствалоў. Калі дарога стала зусім сухой, яны наддалі хуткасці і неўзабаве былі ў Цэрахаўцы, невялікім, акружаным барамі сяле з нешматлікімі жыхарамі. Вадзім не здзіўляўся, што ў такой пракаветнай цішыні і на такой прыродзе могуць нараджацца паэтычныя радкі. Хату Васільчыкавых паказала старэнькая бабуля, якая сядзела на лаўцы, чакаючы, відаць, на абедзенную дойку карову.

— Вунека яна, пад саламянай страхой, — маршчыністай спрацаванай рукой яна паказала на прыземістую, амаль што без фундамента хатку, ля якой пышнай кронай узнімалася ўгору магутная бяроза.

Яны, заглушыўшы матор, прыхінуўшы матацыкл да камля дрэва, зайшлі на ўтравянелы двор, ступілі на ганак. Дзверы ў сенцы, змеціўшы праз акенца чужых, адчыніла ім загарэлая жанчына, папыталa, каго шукаюць.

— Мы да Алеся, — сказаў Лявон. — Ён жа, пэўна, дома.

Жанчына неяк падазрона глянула на чужых.

— Што, зноў з райбеса? — папытала, не даючы хлопцам апамятацца. — Ужо ж вазілі на камісію, прызналі, што інвалід першай групы. Хіба пенсія хлопцава некаму муляе.

— Ды не, мы з рэдакцыі «Бальшавіка». Хочам з сынам вашым пагутарыць, папрасіць яго вершы, — апраўдваўся ні ў чым не вінаваты Вадзім.

— Хіба што так, — палагоднела кабета. — А то ўжо другая ў гэтым годзе праверка. Думаюць, што хлопец хітрыць, папраўіўся даўно, бегае-скача, а пенсію, хоць яна як кот наплакаў, патрабуе.

— Мама, што ты людзей на кухні марынуеш? — пад’ехаўшы на старэнькай самаробнай калясцы да парога і расчыніўшы дзверы ў святліцу, папытаў малады ўсмешлівы хлапчына.

— Алеська, да цябе госці. Кажуць, з газеты. Прывець іх, а я пайду ў агарод.

Вадзіма ўразіла ўбоства іх жылля і мэблі. «І ў такіх умовах ён вучыўся на пяцёркі, пісаў сачыненні, вершы», — падумаў з горыччу.

Алесь аказаўся гасцінным. Пераканаўшыся, што абодва супрацоўнікі газеты, што рыхтуецца літаратурная старонка, ён выняў з шуфлядкі падрапанага, без абруса стала тоўсты сшытак, увесь спісаны дробным почыркам. Але перш чым пачаць чытаць, Алесь папярэдзіў, што з сабой не дасць усяго напісанага.

— Калі што спадабаецца, то можна перапісаць, — сказаў, перадаючы ў рукі Вадзіма сшытак.

Ніколі не думаў Вадзім, што ў гэтага хлопца такая тонкая і чуйная душа. У кожным радку, кожным вершы ён знаходзіў нешта такое, што цалкам адпавядала яго настрою, яго светаўспрыманню. Шмат вершаў прысвяціў паэт няўдаламу свайму каханню. Вершаў балючых, шчымліва-тонкіх, якія кроілі жыўцом сэрца. «Божа, ды гэта ж тое, што нам трэба, — падумаў Вадзім. — І чаму ён трымае іх у стале, не пасылае куды?»

Алесь прапанаваў хлопцам чай, які ён рыхтуе па сваім рэцэпце. Яны не адмовіліся, хоць час падпіраў. Лявону трэба было яшчэ сустрэцца з кім-небудзь з механізатараў, брыгадзіраў, пабыць на малочнатаварнай ферме. Вадзім таксама паабяцаў што-небудзь напісаць з калгаснага жыцця, таму, падмацаваўшыся чаем (а ён сапраўды аказаўся самы смачны з усіх, якія яму даводзілася піць дагэтуль), перапісаўшы з дзясятак вершаў (гэта зрабіў сам Алесь Васільчык), хлопцы цёпла развіталіся з паэтам і рушылі шукаць патрэбны для газеты матэрыял.

## 7

Уся восень і пачатак зімы пайшлі на напісанне дыпломнай. Дзеля дадатковага збору матэрыялу Вадзіму давялося адпрасіцца на колькі дзён і з’ездзіць у Мінск, пабываць у бібліятэцы, у музеі Якуба Коласа, нават завітаць на радзіму песняра, пахадзіць па тых сцежках, па якіх хадзілі героі «Новай зямлі». Многія мясцовыя жыхары шмат расказвалі пра нявыдуманых народным паэтам персанажаў паэмы — дзядзьку Антося, Міхала, іншых яго родзічаў. Жывыя сведкі тых дзён і падзей, пра якія расказвае паэма, папоўнілі Вадзімавы запісы

такімі падрабязнасцямі, пра якія ён не меў і ўяўлення, хоць, здаецца, ведаў ужо амаль усё. Дыпломная атрымалася змястоўнай, насычанай цікавымі думкамі, развагамі, асабістымі назіраннямі.

З Рыгорам сустрэцца не давялося, бо той, пасля смерці бабулі, сядзеў на хутары і таксама, відаць, уперамешку з вершамі пісаў дыпломную. Затое Люся адразу прымчалася ў Мінск, калі атрымала ад яго тэлеграму, бо самому ў Радава і Жорнаўку не ставала часу ехаць. Дзяўчына вельмі ссумавалася і ўсё дапытвалася, ці хоць маладая гаспадыня, як і чым яго корміць, ці спіць у асобным пакоі. Вадзім, тулячы яе да сябе, смяяўся, жартаваў, што ложак у хаце толькі адзін, і яны па чарзе спяць на ім.

— Ды ну цябе, — Люся гняўліва блiснула вачыма. — То і жаніся на ёй. Будзе табе і жыллё бясплатнае, і харч. А мне не дуры галавы.

— Дурненькая ты мая журавіначка. Не ведаў, што ты такая раўнівая. Вось хутка паклічу да сябе, паглядзіш, як я там кукую. Прыедзеш?

— А дзе ж я спаць буду? Хіба на падлозе, глядзець, як вы мілуецеся. — Дзяўчына трохі адышла, зразумела, што ляпнула глупства.

— Чаму ж на падлозе? — Вадзім зноў прытуліў яе і пацалаваў. — Ложак у нас з табой будзе адзіны. Прыедзеш, распішамся і ўжо не пушчу нікуды.

Цяпер, згадваючы тую размову, Вадзім усё часцей і часцей задумваўся, што трэба мяняць свой статус-кво, трэба ачалавечвацца. Годзе і сапраўды дурыць галаву дзяўчыне. Пагаварыўшы з гаспадыняй і заручыўшыся яе падтрымкай, паслаў Люсі тэлеграму, каб тэрмінова прыязджала. Дні пацягнуліся ў хвалюючым чаканні. На рабоце яшчэ нікому не казаў, што ўдумаў расстацца са сваім халасцяцкім жыццём і чакае прыезду каханай дзяўчыны. А раптам што сарвецца, раптам маці ўзбурыцца, каб аддаваць непаўналетнюю ў чужыя рукі? Ды ці мала яшчэ якія прычыны могуць перашкодзіць іх шчасцю быць разам? І вось раніцай сёмага сакавіка, яшчэ не выбраўся на працу, — тэлеграма: «Буду абед восьмага». Вадзім як не заскакаў ад радасці. Нарэшце-ткі! Памчаўся на работу, каб падцягнуць хвасты, зрабіць нават на пару нумароў які задзел, бо быў упэўнены, што дзень-два яму будзе не да газеты. У прызначаны час, калі павінен быў прыйсці аўтобус з Мінска, стаяў на канцавым прыпынку, чакаў. Надвор’е ў гэты дзень выдалася кепскае не прыдумаеш: вецер і мокры снег прымушалі людзей хутчэй бегчы ў памяшканне, настаўляць каўняры паліто, глыбей нацягваць шапкі. Вадзім, які не разлічваў на такі сюрпрыз пагоды і не захапіў з дому нават шапкі і шаліка, акалеў, бы цюцька, але ў будынак вакзальчыка не ішоў. Мінуў прызначаны час, прайшло яшчэ паўгадзіны, а аўтобуса ўсё не было і не было. Хлопец пачаў хвалявацца, хаця б што не надарылася ў дарозе. Ён ведаў, якую старызну адпраўляюць у маленькія гарадкі і як часта такія аўтобусы ламаюцца па шляху. Дык жа добра, калі вопытны шафёр і нешта можа ў дарожных умовах зрабіць. І яшчэ калі ёсць тая ці іншая патрэбная запчастка.

Калі ўжо хацеў пайсці ў вакзал і ў каго папытацца, мо што там скажуць пра затрымку рэйса, удалечыні, валюхаючыся на няроўнасцях, усё ж паказаўся жаданы транспарт. Увесь аблеплены снегам, аўтобус спыніўся ў некалькіх кроках ад Вадзіма. Сярод зусім нямногіх пасажыраў была і любімая. Яна, таксама прамерзлая да касцей, уся дрыжала, нават і гаварыць добра не магла. Вадзім, пацалаваўшы ў халодную шчаку, падхапіў яе сумачку, і яны пайшлі адразу ў рэстаран, які месціўся на другім паверсе невялікага прадуктовага магазіна. Люся, трохі сагрэтая хадой, з цікавасцю разглядала адна-двухпавярховыя будынiны і свяцілася непадробнай радасцю. У рэстаране ўжо было цёпла, і яны, усеўшыся за столік пры батарэях, спачатку адагравалі рукі, а

Люся, неўпрыкмет зняўшы пад сталом туфлі, прыхінула і ногі да цёплага жалеза.

— Дык, кажаш, не разлічвала, што будзе такая доўгая і марудная язда, — хлопец глядзеў Люсі ў вочы і ўсё яшчэ ніяк не мог паверыць, што сённяшні яе прыезд у корані мяняе яго жыццё, што ён цяпер ці не самы шчаслівы чалавек у свеце.

Падышла афіцыянтка, змерала Люсю ўважлівым і цікаўным позіркам і папытала, што будуць заказваць.

— Бутэльку шампанскага і ўсё самае-самае смачнае. І першае абавязкова. Мы вельмі галодныя.

— Можа няёмка днём шампанскае, — прашаптала дзяўчына. — Цябе ж тут, пэўна, ведаюць і даложаць начальству, што п’янствуеш у рабочы час. Каб не было непрыемнасцей.

— Па-першае, ніхто мяне не збіраецца кантраляваць, па-другое, сёння Жаночы дзень, а ў мяне яшчэ другі шчаслівы дзень — твой прыезд. То і грэх не выпіць па келіху.

Вадзім ніколі не быў у сваім рэстаране і не ведаў, што тут гатуюць не горш, чым у сталіцы ці нават у Доме творчасці. Праўда, самае смачнае — адбіўную са смажанай бульбай і гарошкам давялося чакаць досыць доўга. Але яны і не падганялі ні повара, ні афіцыянтку. Ім было цёпла і добра ўдваіх. У рэстаране, апроч трох афіцэраў і яшчэ адной пажылой пары ў другім канцы залы, нікога не было, таму не было ні тлуму, ні гучнага смеху, ні п’яных воклікаў. Люся, разрумяненая, павесялелая ад віна, расказвала, як выпрошвала ў маці дазволу на такую паездку.

— Бедная мая матулечка, — дзяўчына нават выняла з рукава гожай шарсцяной сукенкі хусцінку, выцерла слёзы. — Яна хоць і ведае цябе, а ўсё роўна баіцца, каб не ашукаў, бо тады, казала, не будзе ёй жыцця на свеце. Як магла супакоіла яе, сказала, што ты не такі пустадомак, як многія, і на гадасці няздольны. Яна, перасцерагаючы мяне і перахрысціўшы, усё ж адпусціла. Праўда, сыну, ну, брату майму, вырашыла не казаць пакуль што ўсёй праўды.

— Усё ў нас будзе выдатна, любая. К вечару пойдзем у ЗАГС, папросім, каб распісалі. А калі заўпарцяцца, пойдзем разам да старшыні райвыканкама. Ён мужык памяркоўны, ужо неаднойчы, казалі, хваліў мае матэрыялы, асабліва дзве апошнія літаратурныя старонкі. Так што мо ён пойдзе насустрач, і нас распішуць.

— Добра было б, — заірдзелася Люся. — І мама супакоілася б.

З рэстарана яны пайшлі да Вадзіма на кватэру. Гаспадыня акурат была дома, і хлопец, купіўшы загадзя карабок цукерак, павіншаваў яе з жаночым святам, заадно пазнаёміў са сваёй нявестай.

— То, можа, паабедаеце разам, — прапанавала Варвара Вікенцьеўна. — У мяне сёння галубцы і боршч.

Вадзім, задаволены, што гаспадыня, калі Люся адвярнулася на секунду, падняла палец уверх, адабраючы выбар кватаранта, усклікнуў:

— Вечарам з’ямо за мілую душу. І вып’ем за ўсё. А зараз мы пойдзем.

Ён узяў пашпарт, і яны накіраваліся да ЗАГСа. Люсін дакумент быў пры ёй і зараз ад адной жанчыны залежала, паедзе заўтра дзяўчына ні з чым, ці застанецца з ім начаваць як жонка. У будні дзень у ЗАГСе нікога не было, і яны, узяўшыся за рукі, ступілі да стала загадчыцы гэтай установы, падалі пашпарты. Маладжавая жанчына, з густам апранутая, з пышнай прычоскай, добразычліва глянула на абаіх, папытала:

— Рашыліся злучыць свае лёсы? То вельмі добра, што ў такі дзень, Міжнародны жаночы дзень. Калі-небудзь і ў нас яго будуць святкаваць як нерабочы.

Яна ўзяла абодва пашпарты, пагартала Вадзімаў, пасля расхінула дзявочы і… спахмурнела.

— Любачка, то вам жа няма поўных васямнаццаці, — мякка папікнула яна. — Я парушу закон, калі зарэгіструю ваш шлюб. Вы падумалі пра гэта?

Вадзім узяў ініцыятыву на сябе.

— То як жа нам быць? — сказаў заклапочана. — Яна, — кіўнуў на апанураную дзяўчыну, — прыехала здалёку. Ды мы і жывём ужо разам, і яна чакае дзіця.

«Во манюка, — здзівілася Люся. — Калі і мне будзе так маніць, то…»

— Не ведаю, што з вамі рабіць. Схадзіце да Юркевіча, калі ён выслухае вашы довады і дасць згоду, то і я буду не супраць.

Яны, не развітваючыся, пайшлі да будынка райвыканкама, падняліся на другі паверх. У прыёмнай знаёмая сакратарка папрасіла Вадзіма трохі пачакаць, бо Леў Барысавіч размаўляе з Мінскам па тэлефоне. Сакратарка раўніва агледзела Люсю з ног да галавы, прыкідвала, па якой справе абое просяцца на прыём. Нічога не дадумаўшыся, адчыніла дзверы да старшыні і, пераканаўшыся, што ён ужо скончыў размову, далажыла аб двух наведвальніках.

— Хто там першы, няхай заходзіць, — Юркевіч пачаў чытаць чарговую дэпешу з аблвыканкама.

— Дык яны разам хочуць, — не пакідала кабінет сакратарка. — Што ім сказаць?

— Толькі каб ненадоўга. Клічце.

Вадзім спачатку прапусціў дзяўчыну, пасля зайшоў сам, зачыніў за сабой дзверы. Леў Барысавіч, які ўжо добра ведаў новага супрацоўніка рэдакцыі, падняўся з крэсла, выйшаў на сярэдзіну кабінета, падаў спачатку руку Вадзіму, пасля незнаёмай дзяўчыне, заадно павіншаваўшы яе са святам. Запрасіўшы абаіх сесці, папытаў у Вадзіма:

— Што, дзяўчына шукае работу ці так што здарылася?

— Здарылася, Леў Барысавіч. Здарылася мне некалі закахацца ў гэтую маладую асобу, і рашыў я ўзаконіць нашы блізкія адносіны.

Ён коратка расказаў пра размову ў ЗАГСе, пра становішча дзяўчыны, паабяцаў быць добрым мужам і сем'янінам.

— Ну вы і задачку мне задалі! — Леў Барысавіч не хаваў свайго клопату. — Ці мая гэта функцыя вас, маладых, зводзіць і разводзіць? Што ж, калі абое абяцаеце папоўніць парадзелае за гады вайны насельніцтва раёна, то ідзіце, рэгіструйце свае адносіны. А я Валянціне Мікалаеўне пазваню.

Акрыленыя, яны ізноў пайшлі ў ЗАГС.

— Ну ты і прабіўны! — у захапленні ўсклікнула Люся. — Але ж і манюка. Як можна, не пачырванеўшы, брахаць бы той цюцька?

— Цюцька не цюцька, але ж дзеля кахання, шчасця нашага на што ні пойдзеш. «Ложь во спасение», — сказаў нехта з мудрых.

Валянціна Мікалаеўна сустрэла іх з усмешкай, зноў папрасіла пашпарты і, прарабіўшы ўсе належныя працэдуры з афармленнем, урачыста абвясціла Вадзіма і Люсю мужам і жонкай, пажадала шчаслівага сумеснага жыцця.

— Шкада, што кольцаў у вас няма. Але пасля, як пабагацееце, набудзеце.

Шчаслівыя, яны выйшлі на вуліцу. Усё яшчэ не верачы, Люся, калі трохі адышлі ад ЗАГСа, выняла з сумачкі пашпарт, паглядзела на штамп.

— Божа, я замужняя жанчына. Усё чын-чынам прастаўлена. Дата. Штамп.

І што ж цяпер будзе? — хіхікнула яна. — Сяброўкі па рабоце не паверацъ. Ды і мама. Каб толькі лупцоўкі не было.

— Якая работа? — усклікнуў Вадзім. — Не пушчу больш ад сябе.

— Дурненькі, мне ж трэба звольніцца, з мамай падумаць, як і што купіць, каб не голай сюды з'явіцца. Ты ж папросіш пасаг, ды і сама я не дапушчу, каб на ўсім тваім у рай ехаць. Мама таксама не пакіне мяне ў крыўдзе.

— Мне толькі ты патрэбна, больш нічога. Усё набудзем самі. Вось трошкі пабудзеш з гаспадыняй, адпачнеш, а тады і табе будзем шукаць працу, — развіваў думкі наконт іх сумеснага будучага Вадзім. Ідучы каля прадуктовага, ён пацягнуў дзяўчыну за сабой. — Сёння ўвечары зноў вып'ем шампанскага, толькі б было ў продажы.

— А я паехала б хоць зараз дадому, каб быў аўтобус, — ашаламіла дзяўчына. — Мне чамусьці і няёмка перад тваёй гаспадыняй, і страшна. Паабяцай, што ты гэты раз не будзеш мяне чапаць. Хачу з'явіцца перад мамай, як і была. Добра, любы мой? Абяцаеш?

— Ну, як тут не паабяцаеш? Яшчэ, чаго добрага, ноччу збяжыш. Тады шукай ветру ў полі.

— Ну, то і добра, — Люся была задаволена.

Шампанскае ім давялося ўсё ж купляць у рэстаране, а гэта, без дазволу дырэктрысы, ніхто не меў права зрабіць. Яе з паўгадзіны не было, і маладыя зноў спусціліся на першы паверх у магазін, каб купіць што-кольвечы з закусі. Вадзім у думках падлічваў, што засталося ў кішэні. Прыйшоў да высновы, што шыкаваць не давядзецца, трэба ж заўтра купіць любімай білет да Мінска, даць якую капейку і на дарогу да Радава. Што яна паедзе ранічкай, з гэтым ён ужо зміры ўся. Узяў з Люсі толькі абяцанне не пазней як праз тыдзень вярнуцца.

Яны купілі два селядцы, бохан хлеба, кулёк цукерак. Калі падняліся ў рэстаран, дырэктарка была ўжо на месцы. Вадзім расказаў, якая ў яго сёння радасная падзея, і тая злітасцівілася, адпусціла бутэльку пеністага напою. Па дарозе зайшлі і ў рэдакцыю. Люся саромелася, але Вадзім угаварыў яе, што тут людзі добрыя і вестку аб жаніцьбе свайго супрацоўніка прымуць з радасцю. У кабінетах, апроч Максіма Пятровіча, нікога ўжо не было, разбегліся да сваіх жонак, і Вадзім, пазнаёміўшы Адашэвіча з дзяўчынай, сказаў не без гонару:

— Мая жонка. Нас распісалі. Так што прашу вас, Максім Пятровіч, на вячэру. Была б мая хата, то запрасіў бы ўсіх супрацоўнікаў. А так хай ужо выбачаюць. Мы яшчэ гэту падзею неяк адзначым.

У гаспадыні, калі яны прыйшлі, стол быў ужо накрыты. Вадзім яшчэ з парога гукнуў:

— Віншуйце нас, Варвара Вікенцьеўна. Нас распісалі. Эх, і вып'ем жа сёння за такую падзею. Дзе наша не прападала, — ён выставіў на стол шампанскае, паклаў селядцы, цукеркі. Варвара Вікенцьеўна была радая за свайго пастаяльца. Яна пайшла на кухню чысціць селядцы, а Вадзім, ашчаперыўшы Люсю, моцна прыпаў да яе вуснаў.

— Ажно не верыцца, што ты мая жоначка, — цалуючы яе, мілую, ласкавую і трапяткую, гаварыў ён.

Люся спахапілася:

— Дык, можа, гаспадыні трэба што дапамагчы? Ідзі папытай.

Хлопец адвінуўся і вярнуўся ўжо з Максімам Пятровічам. Той таксама прыйшоў не з пустымі рукамі: выставіў на стол пляшку гарэлкі, колца каўбасы, а жанчынам, віншуючы са святам, а Люсю яшчэ і з замужжам, галантна паднёс па каробцы дарагіх цукерак.

— Балуеце вы нас, мужчынкі, — гаспадыня запрасіла ўсіх за стол.

Калі налілі ўсім шампанскага, Вадзім падняўся з месца, сказаў:

— Сённяшні дзень будзе самы векапомны ў маім жыцці. Са мной мая каханая, і я вельмі ўдзячны ёй, што прыехала, што мы паядналі нашы лёсы. Дык вып'ем жа за ўсіх жанчын, мілых нашых сяброўак, якія і ў дні ваеннага ліхалецця, і зараз побач з намі, якія на сваіх плячах нясуць нялёгкую жыццёвую ношу, дораць нам цяпло, радасць, каханне.

Калі выпілі, Люся пад сталом моцна пацiснула Вадзіму руку — відаць, дзяўчыне спадабаўся ягоны тост. Шчасця і дабра пажадалі ім гаспадыня і Максім Пятровіч. Адашэвіч, адразу пасля тосту, зазбіраўся дамоў.

— Пасядзелі б яшчэ трохі, — упрошвала Варвара Вікенцьеўна. — Вы ж і гарэлкі не паспыталі.

— Мая палавіна таксама чакае на вячэру. Так што дзякую гэтаму дому і пайду к другому.

Вадзім падрадзіўся праводзіць госця да брамкі. Ужо на ганку Максім Пятровіч, яшчэ раз павіншаваўшы свайго супрацоўніка з уступленнем у шлюб, сказаў, што няхай рыхтуецца заняць пасаду загадчыка аддзела.

— А вы куды? — занепакоіўся Вадзім.

Максім Пятровіч ляпнуў даланёй яго па плячы, сказаў, што таксама ідзе на павышэнне, што нібыта хочуць яго зацвердзіць рэдактарам газеты.

— Гэта было б здорава, — усклікнуў Вадзім. — А як перанясе гэту вестку Замоцін? Ён жа мецiў на гэта месца.

— Як хоча, — Максім Пятровіч падаў руку. — Нядобры ён тып, душой адчуваю, што з яго «ласкі» з'елі Мальцава. Але паспрабуй дакажы. У райкаме таксама недалюбліваюць гэтага скрытнага чалавека, ад якога можна чакаць любой подласці. Так што яго шанцы на рэдактарства пакуль што церпяць крах. Бліжэйшыя дні пакажуць, як там будзе.

Адашэвіч пайшоў, і Вадзім вярнуўся ў хату, сеў за стол.

— Нешта ж вы доўга сакрэтнічалі, — калі гаспадыня адышлася на кухню, папытала Люся. — Костачкі мае перамывалі?

— Ну, што ты, любая. Твае костачкі чыстыя. Проста Максім Пятровіч сказаў, што ў рэдакцыі чакаюцца змены. Можа, нават і мяне павысяць. Гэта ж не жартачкі стаць на цэлую прыступку вышэй. Тады і зарплата вырасце. Толькі б пацягнуць.

— А на чыё месца ты мецiш? — пацікавілася яна. — У вас жа, казаў, усё занята.

— А рэдактарскае крэсла пустуе.

Люся з недаверам паглядзела на яго.

— Жартуеш, ці што? Тут жа патрэбен чалавек партыйны. А ты не скончыў яшчэ ўніверсітэта.

— Ты не так зразумела. На рэдактара мецяць нібыта Максіма Пятровіча, а я займу яго трон. Фарштэйн?

— Ну, там вам відней, — Люся паднялася з-за стала. Прыйшла гаспадыня. Сказала:

— Мы яшчэ пасядзім. Гэта ж і шампанскае не ўсё дапілі. А яшчэ ж гарэлка.

— Гарэлку пакіньце сабе, — Вадзім пасунуў да яе неадкаркаваную бутэльку. — А вось шампанскае закончым.

Ён разліў рэшткі яго Люсі, гаспадыні, трохі засталося і сабе. Калі выпілі, Вадзім спытаў у Варвары Вікенцьеўны, у колькі на Мінск адпраўляецца аўтобус.

— Было ў сем раніцы. А што? Едзеце куды?

Вадзім кіўнуў на госцю і дурасліва, як не з плачам:

— Люся разводу патрабуе. Кажа, не так сустрэў, не тое гаварыў. Таму і ўцякае да сваёй мамкі. Можа вы, Варвара Вікенцьеўна, утрымаеце яе?

Люся ўшчыпнула яго за бок, сур'ёзна сказала:

— Мне ж яшчэ разлічыцца з работай трэба, ды і маме абяцала калі не ў гэты, то на наступны дзень быць дома.

Варвара Вікенцьеўна з паўслова зразумела дзяўчыну і жартам параіла свайму пастаяльцу не хныкаць. А Люсю запэўніла:

— Я вечарам яго ні на крок з хаты. Так што будзь пэўная, ля маёй брамкі і нагі нічыёй дзявочай не будзе.

Гэтая ноч для Вадзіма была пакутнай. Яны, па просьбе дзяўчыны, ляглі валетам. Праўда, звечара, распрануўшыся і прыціснуўшыся адно да аднаго пад коўдрай, яны абое, асабліва Вадзім, ледзьве вытрывалі, каб не парушыць абяцанне — не чапаць дзяўчыну да яе канчатковага прыезду. Калі ўжо зусім стала няўцерп, яна першая адпіхнула яго ад сябе, шапнула, што і сама зараз не вытрывае. Так яны і прамучыліся да раніцы, ні на хвіліну не змружыўшы вочы. А палове сёмай, яшчэ гаспадыня соладка спала, падаліся на станцыю.

## 8

Вясна ўсё ж брала сваё. Яшчэ для канца сакавіка было досыць зімна, ляжалі гурбы снегу, а з пачатку новага месяца, калі падзьмуў паўднёвы вецер і сонца, якога не бачылі амаль усю зіму, раскашавала ў бясхмарным, без аднаго воблачка небе, пацяклі дружныя раўчукі па ўзбочынах вуліц. Вераб'і шумнымі чародкамі, невядома скуль пырхнуўшы, садзіліся ля лужыны, пілі ваду, галасна гаманілі аб чымсьці сваім, пырскаліся не горш за дзяцей.

Вадзім, ідучы з абеду ў рэдакцыю, з цікавасцю і нейкім трапяткім хваляваннем сачыў за ўсімі праявамі прыроды, якая ажывала. Чамусьці ў такія хвіліны ўзгадвалася і сваё маленства, калі яшчэ жылі бацькі, і жыццё, нягледзячы на нястачу, здавалася такім цікавым і змястоўным. Вуліца ў Жорнаўцы за многія гады была выбіта коламі падвод, нярэдка і машын, і вада ад талага снегу з-пад платоў уся збягала на самую сярэдзіну, утвараючы досыць глыбокія пеністыя раўчукі. З паперы, а то і з фанеры яны рабілі лодкі, караблікі, пускалі іх у плаванне. Самі ішлі ўзбоч, распіхвалі палкамі заторы, бясконца радаваліся, калі чый караблік вырвецца ўперад.

Мілае і далёкае ўжо дзяцінства! Усё, здэцца, аддаў бы, каб яно вярнулася хоць на імгненне, скінула з плячэй друз клопатаў, трывог, вечнага змагання за кавалак хлеба. Але нішто не вяртаецца з небыцця…

З задумліва лірычнага стану яго вывеў знаёмы голас:

— Ты як небажыхар, вітаеш дзесь у аблоках. Спусціся на грэшную зямлю.

Вадзім пазнаў голас Лявона Галкіна, які ішоў паралельна па другім баку вуліцы.

Вадзім таксама перасек падсушаную ўжо дарогу, пакрочылі разам.

— Чуў навіну? — спытаў Лявон.

— Якую?

— Майму шэфу райкам уляпіў вымову за ілжывы матэрыял пра «Прагрэс». Помніш, тыдні тры на ўсю паласу ён накатаў, як у гэтым калгасе механізатары рыхтуюцца да веснавых работ. Маўляў, уся тэхніка стопрацэнтна адрамантавана, схавана пад навесы, насенны фонд у ажуры, каровы і цяляты ў цяпле і ў сытасці. Карацей, сапраўдная ідылія. Я казаў яму, што нешта тут не тое, што хтось збрахаў, бо ніколі гэта гаспадарка не славілася парадкамі. Прапаноўваў сам з'ездзіць і пераправерыць. Дык дзе там! Паслаў мяне на тры літары. А нехта капнуў адтуль у камітэт партыйнага кантролю. Прыслалі камісію, а тая за галаву хапілася. Тэхніка ржавее дзе папала, ніхто да яе і не

дакрануўся, каровы топяцца ў гразі і галадаюць, а зерне… зерня таго на гектары тры-чатыры. Астатняе ўсё расцягнута і прапіта. Старшыню калгаса адразу знялі і рыхтуюць суд, а райкаму ўказалі на дрэнную дасведчанасць аб стане спраў у раёне. Вось такія, браце, дзялы.

Дайшоўшы да рэдакцыі, яны яшчэ трохі пастаялі, Лявон дакурыў цыгарэту і падаўся ў свой пакой — дапісваць чарговы матэрыял. Вадзім у душы парадаваўся таму, што трохі збілі пыху з Замоціна, бо, апроч сваіх матэрыялаў, ён нічые не прызнаваў. Толькі Вадзіма браў одум, як Замоцін мог гэтак накалоцца. Хто яго падставіў? Ці даверыўся якому пісьму, знарок арганізаванаму, каб дыскрэдытаваць газету, новага рэдактара? Цяпер, апёкшыся, Замоцін будзе дзьмуць і на халодную ваду.

Вадзім падумаў і пра свой аддзел. Пісьмаў прыходзіць нямала, сярод іх шмат і крытычных. Праверыць усе — яму аднаму не пад сілу, тым больш што новага ў аддзел супрацоўніка пакуль што няма. А даверыцца кожнаму крытычнаму факту без праверкі рызыкоўна. Зусім жа не пісаць пра адмоўнае таксама не справа. Газета хутка згубіць сваю вастрыню, ператворыцца ў хвалебны прапагандысцкі лісток. Як жа быць? А тут яшчэ Люся затрымліваецца. З яго, Вадзіма, ужо той-сёй пачынае кпіць, што маладая жонка пасля першай ночы адразу збегла і не хоча вяртацца. Хлопец жартам адбрэхваўся, а пасля, калі надакучыла, пайшоў на пошту і паслаў тэлеграму: «Прыязджай неадкладна. Ляжу з тэмпературай сорак два. Не сёння, то заўтра ўпаду ў кому». Такая тэлеграма падзейнічала. Ужо на другі дзень, калі Вадзім быў у рэдакцыі, Люся пастукалася ў дзверы Варвары Вікенцьеўны, але яны былі замкнёныя. З чамаданам і двума клункамі дзяўчына не хацела нікуды ісці, села на ганку і, стомленая ад бяссоннай ночы і доўгай язды, задрамала. Гападыня і заспела яе, сонную, замаркочаную, на ганку, калі вярнулася дадому.

— Мая ж ты любачка, а Божа мой, — бедавала яна, адмыкаючы дзверы. — Чаму ж не папярэдзіла, што едзеш. Вадзім бы сустрэў. А так — як снег на галаву. Ён жа так згараваўся без цябе. Ну, пайшлі, пайшлі ўсярэдзіну. Рэчы занесці я памагу. О, цяжкі які чамадан. І гэта ты адна ўсё несла ад аўтобуса? Біць цябе мала. Папрасіла б каго, памог бы. А Вадзіму таксама дам наганяй, што не ўпільнаваў. Хаця ж ён не ведаў.

— А як ён? — занепакоена папытала Люся. — Прайшла тэмпература.

— Якая такая тэмпература? — усклікнула гаспадыня. — Здаровы, як бык, а ты пра тэмпературу. Хутка прымчыцца ўжо з работы, есці трэба што рыхтаваць.

— Дык ён жа… як яе? пра кому нейкую пісаў у тэлеграме. Наце, во, гляньце.

Варвара Вікенцьеўна прачытала тэлеграму і ажно зайшлася ад смеху.

— Ну і лоўка ён цябе выманіў. Але ты і яго зразумей. Кажа, з мяне ўжо смяюцца, што жонка, не пажыўшы і дня, збегла невядома куды.

Вадзім, убачыўшы Люсю ў кампаніі з гаспадыняй, кінуўся да дзяўчыны, згроб яе і, саромеючыся пры сведцы цалаваць у вусны, плюснуў у шчаку.

— Нарэшце-ткі. А то мы ўжо думалі, цябе мама не пускае, заперла на ключ у цёмнай кладоўцы, — ён радаваўся, бы дзіця, пахапаў яе рэчы і панёс у свой пакой. Люся, падзякаваўшы гаспадыні, падалася за ім. Цяпер ён ужо цалаваў яе не саромеючыся, кружыў па пакоі, нават ледзьве не звярнуў кадушку з фікусам.

— А я думала, ты ўжо канаеш, — смяялася яна, трохі адышоўшы ад шоку пасля расказанага Варварай Вікенцьеўнай. — Мама, калі прыйшла твая тэлеграма, таксама была сама не свая, усё перажывала, хаця б не памёр. Хуценька пача-

ла пакаваць рэчы, збіраць мяне ў дарогу. І наказала адразу ж даць тэлеграму. Так што, прытвора, збірайся, пойдзем на пошту. Як хочаш цяпер апраўдвайся.

— Твая мама — цуд. Але хутка яна зноў убачыць нас абаіх у сябе дома.

— Праўда? — Люся не верыла сваім вушам. — А цябе адпусцяць?

— Па законе — павінны. У мяне ж апошняя сесія, здача экзаменаў, абарона дыпломнай. Сёння раніцай Рыгор званіў на работу, цікавіўся, як справы, ці гатова дыпломная.

— А ты скончыў пісаць? — занепакоена глянула на яго дзяўчына.

— Ты думаеш, я бегаў у тваю адсутнасць на танцулькі? — зноў, збіраючыся на пошту, ён прытуліў яе да сябе. — Кожны вечар да глыбокай ночы сядзеў, крэмзаў, перапісваў на́чыста. Спадзяюся, атрымалася што трэба.

На пошту завіталі перад самым яе закрыццём. Вадзім ледзьве ўгаварыў дзяўчыну прыняць тэлеграму. З-за недахопу часу напісаў кароткае: «Усё ў парадку. Заехала добра. Муж жывы і здаровы». Паказаў Люсі. Яна, ужо на вуліцы, шчасліва засмяялася:

— Муж, які аб'еўся груш. Божа, як расказала сяброўкам, што выскачыла замуж, яны нізавошта не хацелі верыць, пакуль не паказала пашпарт. Усё дапытваліся, хто ты і што ты. Як сказала, што канчаеш універсітэт, а цяпер у газеце працуеш, то оханням ды аханням не было канца. Усё прасілі, каб магарыч выстаўляла.

— Ну і што? Замачыла мяне? — усё, што тычылася любімай, Вадзіму было цікава ведаць.

— А паспрабуй выкруціся. Па-першае, разлічвалася назаўсёды з гэтай работай, па-другое, шлюб — не жартачкі табе, каб не замачыць. У апошні, развітальны дзень так наклюкалася, што ледзьве дадому прывалаклася. Мама, калі ўбачыла мяне такую, хацела нават з хаты выгурыць. Во бачыш, якая я нядобрая. Усё табе расказваю.

— Ну, а мужыкі з вамі былі? — не без падтэксту папытаў Вадзім.

Люся не хітрыла:

— А як жа без іх абыдзешся? Іх нос усюды чуе, дзе пахне. Усе пілі гарэлку, толькі я адна віно. І думаеш, многа выпіла? Як бы не так. Проста не пайшло віно. Відаць, няякаснае было. З тога часу ў рот больш ні-ні.

Калі перад тым, як паслаць пасцель і легчы спаць, Вадзім запытаў, што з ёй, чаму так зажурылася, дзяўчына адказала адным словам: «Баюся».

— Дурненькая, каго баішся? — Вадзім прытуліў яе да сябе, пачаў горача цалаваць.

— Першай ночы баюся. Ты ж, думаю, не накінешся адразу, як галодны звер. Мне трэба хоць трошкі асвойтацца, прывыкнуць да цябе.

— Усё, мілая, зраблю, як ты хочаш, — шаптаў ён самыя цёплыя і ласкавыя словы, якія толькі ведаў.

Ён, распрануўшыся, першы юркнуў пад коўдру, а яна ўсё сядзела ля люстра, расчэсвала валасы, відаць, нялёгка рашалася на адчайны крок. Ён змушаны быў падняцца ў адных трусах і майцы, прыцiснуў яе да свайго гарачага цела, асыпаў пацалункамі. Пасля, патушыўшы святло (так запатрабавала дзяўчына), памог ёй распрануцца і панёс у ложак. Абняўшы яго за шыю, яна не супраціўлялася, ласкава тулілася да яго ўсім целам.

— Любая мая, адзіная. Ты не ведаеш, як я чакаў гэтага імгнення, як марыў вось гэтак абняць цябе і задыхнуцца ад тваёй пяшчоты.

У гэту ноч каб гром, навальніца паласавалі чорнае, бы смоль, неба, яны нічога б не чулі і не бачылі ў шале неспатольнага кахання. І толькі пад раніцу, моцна абняўшыся, абое заснулі глыбокім сном. Вадзім, калі скрыпнулі дзве-

ры ў сенцах, першы падхапіўся, глянуў на гадзіннік. Трэба было апранацца, трывожыць любую, а яна ж гэтак смачна спіць. Ён як мага асцярожна адхінуў коўдру, пацалаваў яе тугія і такія вабныя грудзі, што, каб не на работу, нізавошта не ўстаў бы, зноў прыпаў бы да цела любімай.

Люся ад яго шабуршэння прахапілася, нацягнула коўдру, пасля спалохана сказала:

— Вой, я праспала. Гэта ж табе ў рэдакцыю, а я сплю, бы той сурок. Адвярніся, зараз я апрануся, пастаўлю табе чай, яшчэ што зраблю.

Ён супакоіў яе:

— Паспі яшчэ, любая мая. Я сам усё зраблю. Ды і гаспадыня не пусціць мяне галодным.

Аднак яна не паслухалася, хуценька накінула халат, прыпала да яго.

— Вось я і жанчына. А я так баялася. Думала, што памру. А тут можна было ад другога памерці, — яна шчасліва засмяялася.

**9**

Вольга Іванаўна, калі яны ступілі на яе парог, ад нечаканасці ажно ўпусціла долу нож, якім, рыхтуючыся абедаць, кроіла хлеб.

— А мае вы дзеткі, як я радая бачыць вас і чуць. Думала, што не дачакаюся такога шчаслівага дня. Распранайцеся, зяцёк, і ты, дачушка.

— Мамулька, родненькая, — цалуючы маці, гаварыла Люся, — мы так засумавалі без цябе.

Вадзім выняў з саквояжа падарунак, перадаў у рукі цешчы прыгожую шарсцяную кофту.

— Гэта мне? — Вольга Іванаўна разгарнула пакунак, накінула абнову на сябе.

— Вой, якая гожая! Гэта ж, пэўна, надта дарагая. Можа, табе, дачушка, больш спатрэбіцца. Прымерай.

— Ёй другое будзе, — цвёрда сказаў Вадзім. — Вам, што аддалі за мяне, такога баламута, сваю крывінку, паўцарства аддаў бы і быў бы вінен.

— Ну, то й цешцеся, дзеткі. Можа, як і вяселле к Першамаю агораем. А ты, зяцёк, надоўга адпрасіўся?

— Мама, ён зараз паесць і паедзе ў Мінск, а я з табою нейкі час пабуду. У яго ж экзамены і абарона дыплома. Здасць, закончыць усё, разам і паедзем. Там буду таксама працу шукаць.

— Ну, то й добра.

Вадзім развітаўся, горача пацалаваў жонку, цмокнуў у шчаку цешчу і падаўся на вакзал. У яго заставалася гадзіна да адыходу цягніка, таму рашыў не бегчы, як бегаў заўсёды, а ісці паважна, ведаючы, што за ім сочаць цікаўныя жанкі. І толькі ўжо па вуліцы Радава пайшоў шпарчэй, каб паспець купіць білет і яшчэ ў прыстанцыйным кіёску выпіць куфель піва. Праз гадзіны паўтары ён падыходзіў ужо да свайго інтэрната. Хвалявала, ці захавалі хлопцы за ім месца, ці не падсялілі каго чужога. Ведама, гэтулькі часу не было чалавека ва ўніверсітэце, хоць пяцікурснікі многія раз’ехаліся і разбрыліся хто куды.

Не стукаючы, зайшоў у пакой і абрадаваўся: Рыгор быў на месцы і не чуў, што хтось увайшоў. Калі Вадзім ляпнуў яго па плячы, уздрыгнуў ад нечаканасці. Абярнуўся і заззяў белазубай усмешкай.

— З’явіўся не запыліўся. А я тут мэнчуся адзін, рыхтую, бач, полудзень.

Яны паручкаліся, па-сяброўску абняліся.

— А дзе ж твая суджаная? — папытаў Рыгор, запрашаючы сябра паесці разам яго смажаніну.

— Не, браце, мяне дзве гадзіны таму цешча накарміла, во, — Вадзім ткнуў пальцам у гарляк. — Вечарам вяду цябе ў кафэ, адзначым і сустрэчу, і мой новы сямейны статус.

— Хацеў бы ў рай, ды грахі не пускаюць. Вечарам у мяне стрэча. Пойдзем у кіно ці таксама ў кафэ.

— І з кім жа ты? — Вадзіма разабрала цікавасць. — Мо твая чарняўка змякчылася, не дачакаўшыся свайго марачка?

— Пра марака яна больш не ўспамінае. А нашы адносіны зайшлі далей няма куды — на днях падаём заяву ў ЗАГС.

— Дык гэта ж здорава, — Вадзім пацiснуў руку сябру, — нарэшце ты дамогся свайго. А як з кніжкай вершаў? Выйшла?

— Ну, вядома, ужо былі і рэцэнзіі. Зараз падаў у выдавецтва новы рукапіс.

— Ай ды Рыгорка, ай ды сукін сын! А як званіў, ні слова не сказаў ні пра чарняўку, ні пра зборнік. То яшчэ раз віншую. Відаць, дабрэнны і ганарар адхапіў.

— Не магу скардзіцца. Так што калі не сёння, то заўтра кніжку падпішу, і сходзім куды пабаляваць. А сёння, выбачай, не магу.

Калі Рыгор, гладка пагаліўшыся і апрануўшы ўсё лепшае са свайго гардэроба, пайшоў, Вадзім рашыў заглянуць ва ўніверсітэт, каб пацікавіцца аб'явамі, якімі яшчэ афішамі. У вестыбюлі снавалі зусім незнаёмыя яму хлопцы і дзяўчаты, відаць, першакурснікі ці другакурснікі. Пасноўдаўшыся без справы па ацямнелых ужо дарожках скверыка, падаўся да сябе ў пакой. Ад Рыгора ён ужо ведаў, што ні Кастуся, ні Карпіка ў бліжэйшыя дні не будзе і ніхто не перашкодзіць яму сесці і скончыць новае апавяданне. Дзве гумарэскі ён падрыхтаваў для сатырычнага часопіса і заўтра ж занясе ў рэдакцыю. Аповесць з калгаснага жыцця, якую пачаў пісаць тры месяцы таму і нямала ўжо скрэмзаў старонак, будзе канчаць, як вернуцца з Люсяй у свой ціхі гарадок.

Рыгор прыйшоў позна, і не адзін, а з той самай аднакурсніцай Палінай з другой групы, на якую кідалі вока не толькі студэнты, але і маладыя выкладчыкі. Вадзім ведаў дзяўчыну слаба, бо толькі зрэдзь сустракаліся на агульных лекцыях, ды і то яна заўсёды садзілася спераду, а Вадзім з Рыгорам шыліся на заднія парты. Цяпер ён бачыў яе зблізку, і Паліна сапраўды глядзелася як галівудская зорка. Рыгор паставіў на стол бутэльку шампанскага, падрыхтаваў шклянкі і адкупорыў пеністы напой.

— Вот і мая суджаная, — сказаў не без гонару, падымаючы шклянку. — Вып'ем за яе, што асмелілася прыйсці сюды, не адхіліла маёй рукі і сэрца.

Дружна выпілі, закусілі шакаладам, якога некалькі плітак прынёс з сабой Рыгор. Вадзім памкнуўся яшчэ што паставіць на стол, але сябрук сказаў, што яны толькі што з рэстарана і наеліся ўдосталь. Паліна распытала Вадзіма пра яго маладую жонку, папрасіла паказаць фотку. Хлопец сумеўся і сказаў, што ўсе картачкі з ёю ў Жорнаўцы, ну, там, дзе зараз яна засталася з маці.

— Любімую трэба насіць пры сабе, — усміхнулася дзяўчына. — А ты не баішся, што хто-небудзь пачне заляцацца да яе? Рыгор казаў, што яна і яму дужа спадабалася, — Паліна гарэзліва бліснула вачыма на хлопца.

— Кепска ж, мусіць, — засмяяўся Вадзім, — калі на жанчыну, жонка яна табе ці не, ніхто, апроч цябе, не гляне. Рэўнасць жа нейкая павінна быць. Без яе было б таксама нецікава.

— Ну, гледзячы якая рэўнасць. Іншыя з-за рэўнасці робяць вялікія глупствы. Рыгор во зусім не раўнівы. Праўда? — Паліна зноў гарэзна павяла вачыма і засмяялася.

Рыгор, быццам гэтая гаворка яго ані не тычылася, выпіў рэшткі шампанскага і, устаўшы, гулліва абвясціў тост:

— За саюз чатырох сэрцаў. Хай ён не старэе, не ржавее, доўжыцца да скону дзён.

Яшчэ трохі пагаманілі, пасмяяліся, і Паліна зазбіралася дамоў. Рыгор, апрануўшы яе, выклікаўся праводзіць да самага дома, дзе дзяўчына жыла з бацькамі ў трохпакаёвай кватэры амаль што ў цэнтры горада. Вадзім не клаўся спаць, пакуль не вернецца сябра. Ён, хоць сон хіліў галаву, вырашыў яшчэ раз паглядзець дыпломную, апасаючыся, каб часам не закраліся якія памылкі, бо раніцай намеціў аддаць яе ў дэканат. Там жа дазнаецца, калі намечана абарона. Два экзамены, якія яшчэ трэба здаць, яго мала хвалявалі. Па мове ў яго заўжды была цвёрдая пяцёрка, а гісторыю КПСС, хоць і ставіўся да многіх яе момантаў досыць крытычна, не выказваючы гэтага на лекцыях, бо, ведаў, не абярэцца бяды, ведаў таксама калі не выдатна, то, ва ўсякім разе, досыць грунтоўна. Чытаць дыпломную не скончыў — канчаткова змарыў сон. Ён лёг і імгненна заснуў, нават не чуў, калі вярнуўся Рыгор.

Раніцай, калі сябра яшчэ спаў як пшаніцу прадаўшы (будзіць яго было шкада), на хуткую руку перакусіў і пайшоў у дэканат, здаў сваю работу. Рабіць у інтэрнаце не было што, і ён вырашыў пешшу прайсціся да Дома друку, паказаць «Вожыку» дзве свае гумарэскі, напісаныя за апошнія тры месяцы. Ён ведаў, што ў часопісе рабочы дзень пачынаецца пазней, недзе пасля адзінаццаці, а то і дванаццаці, але разлічыў, што пакуль не спяшаючыся дабрыдзе, то будзе і поўдзень.

Яго сустрэлі ветліва, як старога знаёмага, распытвалі пра жыццё-быццё, упікалі, што доўга не з'яўляўся на парозе рэдакцыі. Калі Вадзім расказаў, у якую глушэчу закінуў яго лёс, што працуе ў рэдакцыі райгазеты, рэдактар, які зайшоў акурат у аддзел, ні з таго ні з сяго прапанаваў:

— А давай да нас пераходзь. Праўда, у нас пакуль што ёсць паўстаўкі карэктара, але ты ганарарам навярстаеш. Пэўна ж, прынёс нешта.

Вадзім, збянтэжаны такой нечаканасцю, не пачуў пра гэтае «нешта», сказаў, што для яго быў бы гонар вялікі працаваць у такім часопісе. Але ж яму дзеля гэтага трэба звольніцца з папярэдняга месца працы, пераехаць у Мінск і пашукаць жыллё.

— Ну, ты чалавек малады і ўвішны, табе гэткая задачка як раз плюнуць.

Вадзім толькі цяпер успомніў пра гумарэскі і, выняўшы з кішэні рукапіс, перадаў у рукі рэдактару.

— Во, к пераезду і ганарар будзе.

Вадзім папрасіў, калі гэта можна, пачакаць з афармленнем тыдні тры, покуль ён не здасць апошнія два экзамены і не абароніць дыплом.

На гэтым гаворка была скончана. Рэдактар пайшоў у свой кабінет, а Вадзім, акрылены і ўзбуджаны да крайнасці, як на крылах вылецеў на вуліцу. Няўжо, няўжо ён будзе жыць і працаваць у сталіцы?! Сам горад яго не так вабіў, ён, вясковы хлопец, любіў ціхія ўтульныя мястэчкі і гарадкі, але ж наконт літаратурнага росту, перспектыў нешта надрукаваць магчымасцей тут было значна больш. Цікава, як Люся ўспрыме гэту вестку? Вядома ж, яна будзе на сёмым небе ад шчасця, калі даведаецца пра гэткае запрашэнне. Трэба, пакуль яшчэ не вельмі заняты, сёння ж з'ездзіць у Жорнаўку, пабачыць і парадаваць любую. Ёй бліжэй з Мінска будзе да маці, і з работай лягчэй можна ўладкавацца.

Рыгор, калі запыханы Вадзім прыскочыў у свой пакой, усё яшчэ дрыхнуў, і хлопец бесцырымонна перавярнуў яго на спіну, ушчыкнуў за бок.

— Уставай, лайдак несусветны, музу сваю праспіш. Паліну тваю бачыў ужо ля ўніверсітэта.

— Га? Што? — заспаны Рыгор не цяміў, што ад яго хочуць.

— Уставай, кажу, хутка абедаць пара. А я памчуся на цягнік, заўтра к абеду буду тут як штык.

— Нешта ты сёння надта гаманкі і задзірысты, — соладка пазяхнуў Рыгор і пачаў апранацца. — Рана пташачка запела…

— Хто рана ўстае, таму Бог дае. Я ўжо аддаў у дэканат дыпломную, завітаў і ў «Вожык».

— Бачу, што ён цябе шпільнуў іголкамі ў адно далікатнае месца, — буркатаў сябра, — што табе не сядзіцца і не стаіцца. Ведаю цябе як аблупленага. Выкладвай, што дазнаўся. Гумарэскі прынялі?

— Не толькі гумарэскі, але і самога прынялі.

— Не разумею.

— Ну, што тут разумець? Прынялі на работу ў «Вожык». Фарштэйн?

— А што, рэдактара там знялі і цябе замест яго? — Рыгор усё яшчэ думаў, што яго дурачаць. — То, можа, у намеснікі возьмеш? Бажуся і клянуся, што верай і праўдай буду служыць вашай светласці.

— Годзе пацвельвацца, — глянуўшы на гадзіннік, Вадзім сабраўся ісці на вакзал. — Кажу, што прынялі на карэктарскую пасаду, значыць, прынялі. Ладна, заўтра паталкуем. Паеду, парадую жоначку. А ты ідзі шукай Паліну. Заўтра мо ўчатырох, калі ўгавару Люсю прыехаць у Мінск, сходзім куды адзначыць добрую падзею.

Люся не чакала яго. З маці яны корпаліся ў шафе, перабіралі старыя і новыя рэчы. Дзяўчына нават не заўважыла, што нехта зайшоў у кухню. Вадзім кашлянуў, і яна апантана кінулася яму на шыю.

— Які ж ты маладзец, зяцёк, што прыехаў, — выйшла на кухню і Вольга Іванаўна. — Хутка будзем вячэраць. А мы тут з дачушкай прымяркоўваем, што лепшае ёй узяць з сабой, калі паедзеце, што яшчэ дакупіць трэба. Прыедзе ж без пасагу, то смяяцца будуць. Удваіх больш нешта возьмеце, чым калі ехала адна. Во, ватовая коўдра ёсць новенькая, дзве падушкі з наўлечкамі, тры прасціны. Па першым часе хопіць.

Вадзім, абдымаючы жонку, шчыра падзякаваў за пасаг, але сказаў, што яны самі не зломкі, усё купяць, дабудуць сваім стараннем.

— Але, — ён прыняў урачыстую позу, — змушаны вам сказаць, што мы хутка перабяромся ў Мінск і рэчы вашы хай пакуль паляжаць у шафе.

Пад бурнае лікаванне Люсі і матчыну шчаслівую ўсмешку Вадзім расказаў аб прапанове працаваць у сатырычным часопісе.

— Вось толькі пакой які зняць, — падзяліўся клопатам Вадзім. — Казалі, што вельмі нялёгкая гэта справа знайсці такое жыллё, каб не вельмі і дарага, і грубка якая была, і каб не за трыдзевяць зямель.

— Я цяпер ужо буду напытваць у знаёмых, хто ў Мінску працуе, — сказала Вольга Іванаўна, завіхаючыся з вячэрай.

— А дзе ж ваш Толік? — папытаў Вадзім. — Колькі ні прыязджаю, ніяк не магу з ім стрэцца.

— А Божа, хіба ж я не казала, што яго змабілізавалі ў армію? — пляснула рукамі Вольга Іванаўна. — Зусім дурная галава стала. Піша, што служыць бліз Арэнбурга, што там стэпы, лютуюць маразы. Абяцаў, калі вышлем грошы, купіць і прыслаць пуховую хустку.

— Мамачка, табе вельмі патрэбна такая хустка. Уся вёска зайздросціла б табе. Мы з Вадзімам, як толькі збяром што, пашлём яму патрэбную суму. Праўда, мілы?

— Я і зараз магу тое-сёе знайсці, — сказаў Вадзім. — А ў «Вожыку» надрукуюся, то і астатняе дадам.

— Не, дзеткі, не, — рашуча запярэчыла Вольга Іванаўна. — Вам сама абжывацца, і кожная капейка самім спатрэбіцца. Ды вяселле ж трэба справіць. Што, мы горшыя за іншых? Не справім, то людзі пальцам будуць тыцкаць.

— І праўда, мы ж пра вяселле неяк не падумалі, — спахапілася Люся. — А я хачу, каб у нас было самае лепшае вяселле. Праўда, мілы?

— Праўда, праўда, — Вадзім зноў прытуліў жонку да сябе. — У нас усё будзе самае лепшае. Мы так пастараемся.

Павячэраўшы, Люся прапанавала прайсціся. Ужо досыць падсохла, і можна было не баяцца, што поцемку ўваляцца ў якую гразь.

— А ты не хочаш завітаць да Колі, з ім падзяліцца навіной? Ты ж, свінтус, як прыехалі разам, так і носу не паказваў ні перад ім, ні перад братавай. А ў іх, мама казала, вось-вось мае дзіцятка быць.

— Я і сапраўды свінтус-грандыёзус. Ад свайго шчасця ашалеў, што нічога і нікога вокал не бачу. Ведама ж, трэба наведацца. Вось толькі ў мяне гасцінца ніякага няма, хаця б для Лількі.

— У мяне шакаладныя цукеркі ёсць. Хавала на ўсякі выпадак, — Люся выняла з шафы прыгожую, у ружах, каробку, паклала перад Вадзімам.

Апрануўшыся, яны пайшлі, наказаўшы маці не зашчэпліваць дзверы. Коля, Лілька і іхняя дачушка Аня сядзелі каля прыёмніка, слухалі якуюсь радыёпастаноўку. На стук з сенцаў першая зрэагавала малая, пачуўся яе радасны вокліч:

— Дзядзя Лёдзік плыехаў, дзядзя Лёдзік, — яна пабегла на кухню, адчыніла дзверы. Убачыўшы Вадзіма і чужую цёцю, засаромелася, задам падалася назад. Выключыўшы перадачу, выйшлі Коля з Лількай, і Вадзім перадаў малой цукеркі.

— Гэта ж мы пра Заслонава заслухаліся. Надта ж цікавая перадача, — як бы апраўдвалася Лілька, гатовая, нават пры цьмянай лямпачцы бачна, у любы дзень нарадзіць.

— То праходзьце, праходзьце ў хату, — Коля расчыніў перад імі дзверы ў пярэдні пакой. — Я ўжо ведаў, што вы тут, і з дня на дзень чакаў. То віншую з законным шлюбам, — Коля абняў і пацалаваў спачатку Люсю, пасля брата. — Трэба ж гэтую падзею і замачыць. Лілька? Ты дзе дзелася?

Ён, не дачакаўшыся адказу, сам пайшоў на кухню, прынёс бутэльку гарэлкі. — Зараз жонка што-небудзь зварганіць. Відаць, у кубелец палезла.

— Не трэба ніякага пачастунку, — запратэставаў Вадзім. — Мы толькі што ад стала. Вольга Іванаўна накарміла нас ад пуза.

Лілька прыйшла са сваёй бакоўкі прычапураная, у новай квяцістай сукенцы, таксама павіншавала маладых.

— Калі ж вяселле? — папытала ў Люсі. — Ці не будзеце спраўляць?

Коля напусціўся на жонку:

— Табе сама пра вяселле дбаць. Хутка будзе ў хаце вясела, аж занадта. Вот лепш запрашай, каб паклалі чаго на талеркі, а я тым часам налью.

Ён адкаркаваў «Маскоўскую», напоўніў чаркі. Мужчыны выпілі па поўнай, Люся адно прыгубіла, а Лілька толькі падняла чарку і чокнулася з усімі.

Ведаючы яе становішча, ніхто не стаў прымушаць. Вадзім расказаў, што хутка пераедзе ў Мінск на новае месца працы, а зараз рыхтуецца да абароны дыпломнай. Коля прапанаваў яшчэ выпіць, але і Люся, і Вадзім наадрэз адмовіліся. Люся, развітваючыся, сказала, што к Першамаю плануюць справіць вяселле і каб яны мелі гэта на ўвазе.

Вярнуліся дадому, калі Вольга Іванаўна ўжо спала. Ціха распрануліся і юркнулі ў пасцель. Раніцаю, правёўшы шчаслівую ноч з любімай, Вадзім паехаў у Мінск.

***Працяг будзе.***



## Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

* * *

Мой лёс паміж радкоў маіх пралёг
Ад ночы цёмнай да надзеі светлай.
І я ляцеў, нібыта матылёк,
На ліхтары пад адзінокім ветрам.

І бачылася ў мораку здаля,
Нібы жаданы востраў і адхланне,
Мая навек адзіная зямля,
Мае надзея, шчасце і каханне.

Ад полацкіх спрадвечных купалоў,
Ад рэчачкі далёкага дзяцінства
Я да спазнання ісціны ішоў,
Да адчування шчырага адзінства

З нахіленаю над вадой вярбой,
З вясновым садам, моваю пявучай,
З падоранаю вечнасцю зямлёй,
Што поўніць сэрца сілаю гаючай.

---

***Гальпяровіч Навум Якаўлевіч*** *нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў Полацку. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў грузчыкам на заводзе шкловалакна, карэктарам, літсупрацоўнікам полацкай газеты «Сцяг камунізму», рэдактарам радыёвяшчання наваполацкага вытворчага аб'яднання «Палімір». Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава (1979). Працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё ў Віцебскай вобласці, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё. Цяпер — галоўны дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё.*

*Аўтар паэтычных кніг «Сцяжына» (1983), «Брама» (1990), «Востраў душы» (1995), «Струна» (1997), «Шляхі і вяртанні» (2000), «Святло ў акне» (2002), «Голас і рэха» (2004), «Гэта ўсё для цябе» (2006), «Насцеж» (2008) і інш.*

* * *

Я пачую ўначы сурму
Над далёкай прыдзвінскай выспай,
Сябра даўняга абдыму,
Моўчкі з ім мы па чарцы вып’ем.

І ў руках маіх задрыжыць
Залатое шкляное донца.
І да болю захочацца жыць
Пад радзімым і вечным сонцам.

* * *

Нашы продкі на полацкіх вулках,
Натаміўшыся ў працы за дзень,
Засыналі на лежышчах мулкіх
У чаканні світальных надзей.

Быў іх шлях і даўгі, і кароткі,
Быццам сполахі яркіх камет,
І знікалі у вечнасці продкі,
Каб я сам адшукаў запавет,

Каб, аднойчы знайшоўшы прычыну
Ціхіх мрояў, трывог і пакут,
Пакахаў, як жанчыну, Айчыну,
Дзе мой родны, мой полацкі кут,

Каб яна стала любай, і мілай,
І прычалам з далёкіх шляхоў
І дала для палёту мне крылы
Над халодным бяздоннем палёў.

## ПАМЯЦІ СЯБРОЎ

Праплылі, нібыта крыгі,
Па цішы вясновых вод...
Я чытаю вашы кнігі
Ўжо без вас каторы год.

І каб ведалі вы самі,
Што, схінуўшы галаву,
Сёння вашымі радкамі,
Бы ўспамінамі, жыву,

Што над ціхім полем голым,
Дзе асенні ліст дрыжыць,

Для мяне гучыць ваш голас,
Што ўжо з вечнасці ляціць.

І пакутнымі слязамі
Сёння болю не суняць.
Буду я перад сябрамі
Над магіламі стаяць.

А на могілках не трэба
Пышных і прыгожых слоў.
Тут крыжы, журбота, неба,
Тут Марук і Пісьмянкоў.

* * *

Без веры жыць — пакутна існаваць.
Хоць піць, гуляць і баляваць без меры,
Ды ўсё ж самотна на душы без веры —
І страху за расплату не суняць.

Жыць без Радзімы — хоць пачні наноў,
Набудзь палацы, яхты і машыны, —
Ды ты жабрак бязродны без Айчыны,
Як дрэва без зямлі і каранёў.

Жыццё ідзе, няўмольна час бяжыць,
У дзень наступны адчыняе дзверы...
Не дай жа, Божа, мне без веры жыць,
Не дай жа, Божа, мне сысці без веры.

* * *

Ты вернешся зноў з падарожжаў сваіх,
І скажа адзіная: «Мілы...»
Ахутае восень самотна дваіх,
Схаваецца ў сэрцах застылых.

Мы вып’ем віна, ты адсунеш руку
І глянеш у вочы цвяроза.
І будзем да ранку сядзець мы, пакуль
На тварах не высахнуць слёзы.

* * *

Лісток кляновы апячэ далонь,
Яго ў руках разгублена трымаю, —
Нібы дарунак вечнасці прымаю,
Нібы спялю ў душы сваёй агонь.

Адкуль зляцеў? Бы вечны каляндар
Гартае нехта і рукой пяшчотнай
Сарваў яго для ціхага палёту
Над адзінотай маіх даўніх мар.

Даверлівы, ласкавы, ён ляцеў,
Каб я адчуў, што не адзін на свеце,
Што неба ёсць, і воблакі, і вецер,
І кроны вечных, дужых, мудрых дрэў,

Што ёсць пачатак і святы выток,
Што ёсць нябачны і відушчы посах,
І на далонях злоўлены лісток —
Нібыта ліст ад сцішаных нябёсаў.

* * *

Восень палае зіхоткім пажарам,
Тонуць у сполахах горад і сад,
Восень выстуджвае даўнія мары
І праясняе ярчэй далягляд.

Толькі пяшчоты зноў сэрца папросіць,
Толькі жаданне душу апячэ.
Эх, пачакала б крыху мая восень,
Бо не стаміўся ад лета яшчэ.

Жоўтае лісце злятае павольна,
І павуцінне на дрэвах вісіць...
Толькі вятрыска, свавольны і вольны,
Быццам надзея, над светам ляціць.

а



Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# ХМЕЛЬНАЕ ПРОЗВІШЧА

Апавяданне

Кажуць, што як жарабятка з лысінкаю ўродзіцца, то такім яго і воўк зарэжа. Слова ў слова такая прымаўка падыходзіла да Севы Хмеля. Ці прозвішча ў гэтым вінавата, ці тыя, што насілі гэтае прозвішча раней, але неяк так павялося, што хмель не выходзіў з галавы Севы Хмеля, а калі выходзіў, то ён рабіўся сам не свой: сярдзіты, як звер, ні за што мог набіць жонку, накрычаць на дзяцей, павыганяць усіх з хаты.

Апошнім часам такія прыпадкі з ім рабіліся ўсё часцей, і жонка Сабіна, высокая худая кабеціна з хваравітым выглядам твару, вымушана была скардзіцца на мужа ў міліцыю, і яго пасадзілі на дзесяць сутак у нейкі там ізалятар.

Сям'я без мужа і бацькі жыла спакойна і нават весела, матка хадзіла на працу ў свой магазін, а дзеці — у школу, у трэці і чацвёрты клас, нарадзіліся адно за другім — Светка і Міколка. Тыя дзесяць дзён прамільгнулі непрыкметна.

І вось вярнуўся гаспадар. Была якраз субота, сярэдзіна дня. Дзеці пайшлі гуляць на вуліцу, а Сабіна ўзялася мыць бялізну, сабралася нямала дзіцячых адзежак, асабліва Міколкавых, ды і мужавых таксама, зашмальцаваных на рабоце да чарнаты — працуе грузчыкам, а раней быў шафёрам, ды за п'янку выгналі, аднялі правы на цэлы год, падбіў быў чалавека, ледзь не трапіў пад суд.

Хмель быў як цёмная хмара: непаголены, непрычасаны, у памятым картовым пінжаку, у такіх жа штанах, у кірзавых ботах, хоць на дварэ стаяў ужо канец мая.

— Жонка дарагая, збегай у краму, вазьмі пляшку чарніла, — сказаў ён з парога, скінуў пінжак, шпурнуў на табурэцік і сеў на яго, застаўшыся ў кашулі ў жоўта-сінюю клетку. — Душа гарыць, трэба патушыць пажар. Схадзі, пакуль я добры…

---

*__Дамашэвіч Уладзімір Максімавіч__ нарадзіўся 17 лютага 1928 года ў вёсцы Вадзяніца Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1953). Працаваў у выдавецтвах «Народная асвета», «Беларусь», часопісах «Полымя», «Маладосць».*

*Аўтар кніг прозы «Заклінаю ад кулі» (1960), «Між двух агнёў» (1963), «Абуджэнне» (1968), «Кожны чацвёрты» (1983), «Камень з гары» (1990) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь (1991), Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1992).*

На дзіва, гаварыў ён надта мірна і спакойна, чым вельмі здзівіў жонку, але яна гэтага не паказала.

— Ты не бачыш, што я занята? Схадзі сам, не вялікі пан. А грошы маеш? Бо ў нас канчаюцца, а да палучкі яшчэ цэлы тыдзень, — агрызнулася Сабіна, выкручваючы над начоўкамі мужавы кальсоны.

— Ах ты… — Хмель успыхнуў, як порах, сарваўся з табурэткі, падышоў да жонкі. — Ах ты… — і ён дадаў бруднае слова, — знайдзі грошы і прынясі пляшку, калі хочаш, каб галава была цэлая. Ясна!

— Не вельмі страш, а то апынешся там, адкуль вярнуўся, — спакойна, хоць у сярэдзіне ў яе ўсё закалацілася ад абурэння, адказала Сабіна. — Давай грошы, то схаджу, а не — як хочаш…

Напамін пра ізалятар трохі астудзіў Хмеля, ён закруціўся па кухні, нібы шукаючы сабе месца сесці, а потым развёў рукі, быццам просячы ратунку, і сказаў:

— Апошні раз прашу: дай шклянку чарніла, інакш я не ведаю, што з табою зраблю! Ты чуеш, ці не?

— Чую, чую, — адказала Сабіна прымірэнча. — Што ад цябе добрага яшчэ можна пачуць? Хмелю дай пахмяліцца — вось і ўся яго песня.

Яна выцерла свае мокрыя рукі аб хвартух і выйшла з ваннага пакоя ў залу, знікла там, але праз хвілін колькі вярнулася з пляшкаю віна, але не аддала мужу, а рэзка сказала:

— Папрасі прабачэння за тое слова, якое ты сказаў пра мяне, інакш гэтая пляшка разляціцца на кавалкі.

Хмель проста перамяніўся з твару: стаў бледны, вусны скрывіліся, скрыганулі зубы. Ад яго можна было чакаць бяды.

— Ты што, звар’яцела? Што я такое сказаў? Знайшлася графіня, я яе абразіў! Ах ты… — і ён паўтарыў тое самае слова.

Яна, як уджаленая, кінула пляшку проста ў яго, цэлячы ў грудзі, і ён тут жа, як спрактыкаваны варатар хапае мяч, схапіў яе абедзвюма рукамі.

— Тваё шчасце, што пляшка цэлая, інакш ты была б бедная, — зусім сур’ёзна сказаў Хмель, тулячы пляшку да грудзей, як малое дзіця.

— А я хачу, каб ты папрасіў у мяне прабачэння за тое слова! Ты чуеш, ці не? — стаяла на сваім Сабіна.

— Скажу, але не сёння… Няма часу, — адказаў ён, шукаючы нечага ў буфеце, няйначай, штопара, але не знайшоў, стаў адкаркоўваць пляшку ўдарам далоні ў дно. Але корак і не думаў вылазіць. Тады ён увагнаў яго ў сярэдзіну нейкім драўляным круглячком, як школьнаю ручкаю, і стаў піць віно проста з рыла, ажно захлынаючыся ад асалоды. Потым закашляўся, выцер далонню вусны, падбародак, аддыхаўся і зноў стаў піць — нібы сапраўды ў яго гарэў пякельны агонь у сярэдзіне і ён стараўся яго заліць.

Сабіна глядзела на яго і думала сама сабе: вось чалавек, які ўжо не валодае сабою, віно для яго важней за ўсё на свеце, з-за яго ён можа забіць жонку, дзіця і каго хочаш, каб толькі пахмяліцца, каб ачмурыць галаву.

А Хмель, дапіўшы сваё чарніла — усё так жа, з рыла ў рыла, як кажуць аматары выпіўкі, пайшоў не зусім цвёрдым крокам у спальню, распрануўся і zаваліўся спаць.

…Прачнуўся ён недзе сярод ночы, жонкі побач не было. Моцна балела галава, ён ведаў, што гэта ад віна, якога ён учора трохі перабраў — усе семсот грамаў. Вось каб пакінуў у пляшцы хоць паўшклянкі, цяпер падлячыўся б — і стала на месца галава. Басяцкая звычка — апаражняць посуд да кроплі! А так што застаецца? Чакаць, пакуль развіднее, сёння нядзеля. Што ж рабіць? Хоць

вый воўкам. Няма грошай — вось у чым загвоздка. Пашукаць у жонкі, ці што? Але яна ўмее хаваць, ніколі не знойдзеш, хоць усю кватэру перахрасі. А тут так дарэчы была б якая трохрублёвачка. Вось пачало развідняцца. Ён нехаця ўстаў, прамыў вочы, стаў апранацца ў сваё старое хатняе рыззё, але тут жа перадумаў: скінуў картовыя штаны, замяніў іх падношаным шэрым клёшам, абуў сандалеты, на плечы ўздзеў лёгкі світар з кароткім рукавом белага, у сінія палоскі, колеру. Валасы не прычасаў, а падварушыў іх пальцамі — яны ў яго не ляжалі гладка, а трохі тапырыліся ў розныя бакі. Яшчэ што? Трэба пагаліцца, хоць і не хочацца, больш будзеш на чалавека падобны, а не на нейкага бяздомнага бамжа.

Галенне заняло няшмат часу, ён асвяжыў твар рэшткамі «Ляснога» адэкалону, які лёгка пашчыпаў яму шчокі і падбародак, пашукаў чаго ў халадзільніку, убачыў тонкую кілбасу, адарваў кавалак, стаў жаваць, але смаку ніякага не адчуў — апетыт яшчэ не прачнуўся. Яго некуды як цягнула, але вось бяда — у кішэні ні рубля. Убачыў на вешалцы жончыну сумачку, адчыніў, знайшоў кашалёк. Ага, ёсць пяцёрка! Гэта проста скарб! Цяпер ён мой, а не ваш, неяк абыдзецеся, а я — не магу.

Схаваўшы грошы сабе ў кішэню, ён ціха адчыніў дзверы ў пакой, дзе спалі ўсе тры яго сямейнікі на раскладной канапе, чагосьці сам сабе ўсміхнуўся і зачыніў дзверы. Добра, што яшчэ спяць, не будзе шуму-гаму. Пакідаю вас — ці ненадоўга, ці надоўга — не ведаю. Дзесяць дзён пражылі без мяне, то прабудзеце і яшчэ колькі…

Ён спусціўся па лесвіцы са свайго чацвёртага паверха, выйшаў на двор, агледзеўся. Сонца яшчэ толькі ўзыходзіла, неба было яснае, без хмурынкі, паветра таксама чыстае, але халоднае з ночы, бадзёрыла яго стомленае цела. Ранавата ён усхапіўся, трэба было паваляцца яшчэ з гадзіну. Але нічога, гадзіна пройдзе непрыкметна, не прывыкаць. Зайшоў у скверык пры бальніцы, сеў на лаўку, расслабіўся, ледзь не задрамаў. Пачуў нечыя крокі, азірнуўся. Ішоў мужчына, ужо ў гадах, неахайна апрануты, курыў цыгарэту. Да Хмеля даляцеў пах дыму і яго ажно скаланула: як гэта ён цярпеў гэтыя дні без курэння? Ну проста апошні дурань! Ён не ўтрымаўся і аклікнуў чалавека:

— Слухай, браце, дай пакурыць! — звярнуўся ён да чалавека, які ўжо збіраўся яго мінаць.

— Сам страляю, а ты просіш у мяне пакурыць, — прабурчаў чалавек і прысеў на лаўку з другога канца. — Што, і ты ў бамжы запісацца хочаш?

— Што, гэта запісвацца трэба? — ажывіўся Хмель. — А я і не ведаў.

— То будзеш ведаць, — ужо больш лагодна сказаў мужчына. — Жыццё, брат, такое, яно ўсіх запісвае ў сваю кнігу. Аднаго туды, другога — туды, а трэцяга — і зусім спіша з гэтага свету. Бомж, — вось як я — гэта апошняя катэгорыя. Так што не спяшайся ў маю катэгорыю.

Ён пакапаўся ў сваёй замурзанай торбачцы, дастаў памяты пачак цыгарэт, выцягнуў адну і падаў Хмелю на другі канец лаўкі, а сам дастаў з пінжака пачак запалак і даў прыкурыць. Хмель проста быў гатовы пацалаваць бамжа за такі шчодры ўчынак: гэта лепш, чым падаць лусту хлеба галоднаму!

— Не ведаю, як вам і дзякаваць, — сказаў Хмель да свайго выратавальніка, пускаючы дым праз ноздры і адчуваючы, як пачынае хмялець ад цыгарэтнага нікаціну. — Даўно не меў такой асалоды, як сёння, кажу вам шчыра.

— Ды ладна, што тут гаварыць, — махнуў рукою бомж, — часам і малая паслуга вялікай здаецца… Ты мо да хворага каго ідзеш? — і ён паказаў на будынак бальніцы, на прахадную.

— Не, пакуль туды не трэба, — суха адказаў Хмель. — Проста ёсць паўгадзіны вольнага часу, вось і грэюся на сонцы.

— То пагрэйся, — сказаў чалавек лагодна. — А ў бамжы не запісвайся, гэта, брат, цяжкая ношка, не ўсім яна па сіле. Бывай!

Ён узняў над галавою свой саламяны капялюш і пайшоў у патрэбным яму кірунку.

Хмеля ажно скаланула: вось чалавек на краі прорвы, за якою — нябыт. Нешта вельмі-вельмі падобнае, як у яго сёння. Няўжо гэта нейкі сімвал, нейкі знак яму: сцеражыся, чалавеча, ад аднаго неасцярожнага кроку шмат што залежыць. Сцеражыся!.

Ён устаў з лаўкі і пайшоў таксама ў патрэбным яму кірунку: да бліжэйшай крамы, каб узяць пляшку піва і цыгарэтаў.

Сярэдніх гадоў светлавалосая прадаўшчыца адкаркавала Хмелю піва, падала цыгарэты і запалкі, ён расплаціўся, яна ўсміхнулася яму прыязна, як свайму знаёмаму кліенту, сказала жартам, што нешта доўга яго не было відаць, а ён адказаў, што ездзіў у камандзіроўку. Піў піва з пляшкі, пазіраў у акно. На пляцоўцы перад магазінам мільгалі людзі: адны спяшаліся ў магазін з пустымі сумкамі, каб нешта набыць, другія выходзілі няспешна, несучы дадому нейкія патрэбныя прадукты, часам спыняліся, загаворвалі са знаёмымі. Вось пад’ехаў матацыкл, малады хлопец у цёмнай куртцы і шлеме паставіў сваю машынку на падпоркі, зняў шлем, начапіў яго сабе на руку і падаўся ў магазін.

Хмеля нібы нехта штурхануў у грудзі: вось момант, які нельга прашляпіць! Не дапіўшы піва, ён паставіў пляшку на падаконне і выйшаў з магазіна, адразу скіраваў да матацыкла. Гэта была старая мадэль, але якая розніца? Прыдасца або прадасца… Ён спусціў матацыкл з падпорак, павярнуў на сто восемдзесят градусаў і, не заводзячы, скіраваў да вуліцы, каб схавацца за дамы, а там ужо можна завесці матор. Каб сказаць, што сэрца ў яго моцна калацілася, не скажаш, але мандраж адчуваўся: хацелася хутчэй знікнуць з гэтага месца, завярнуць у які завулак, згубіць след.

Ён спыніўся, ціскануў нагою на педаль — раз, другі, за трэцім матор ажыў. Усеўшыся ў сядло, Хмель уключыў першую перадачу і ўзяў на сябе ручку газу — і з месца рвануў па вуліцы, шукаючы перасячэння. Вось нарэшце можна скіраваць направа, знікнуць з горада, бо ён ведаў гэтую вуліцу, брукаваную, нечым падобную да вясковай, з невялікімі, пераважна драўлянымі дамамі, хоць ашаляванымі, пафарбаванымі ў розныя колеры, з дыхтоўным плотам ад вуліцы. Вось скончылася брукаванка, пачаўся прасёлак, перастала трэсці матацыкл. Ён павялічыў хуткасць, праз якой паўгадзіны ці менш паказаўся лес, у які ён хадзіў у грыбы, тут, у ельніку, раслі добрыя праўдзівікі, ён набіраў іх цэлае вядро. Ой, як даўно гэта было, ой, як даўно!

Але цяпер яму не да ўспамінаў: што рабіць з гэтым матацыклам? Прадаць каму, ці што? Але хто яго купіць без ніякіх дакументаў? Хіба разабраць на дэталі і прадаваць па частках? Але на гэта патрэбен час, а ў яго ён у абрэз. Хоць ты вяртайся назад і аддай таму хлопцу яго таратайку. Стары дурань, улез у нерад… Трэба вяртацца назад, хоць там ужо мільтоны яго толькі і чакаюць… Мо пакінуць коніка ў каго на дварэ, а самому патэпаць пяшэчкам? Мысля неблагая, але не вельмі хто прытуліць твайго коніка, адразу дапетрыць, што крадзены.

І тут яму стукнула ў галаву, што трэба з’ездзіць на гаражы, мо там у каго пакіне на кароткі час? Зрабіўшы кругаля, ён выехаў на другую дарогу і пакіраваў да горада. Гаражы размяшчаліся на ўскрайку, было іх шмат — цэлы квар-

тал шэрых прыземістых скрынак, у большасці металёвых, хоць траплялiся і мураваныя, пераважна з белае цэглы. На райцэнтр — проста дзіва, як іх шмат! А ўсё стогнуць людзі, што цяжка жыць! Але што? Хто мае дзе ўкрасці, той і машыну мае, а за зарплату — не пабудуеш хату, і машыны не набудзеш…

Дарма стараўся Хмель, ехаў на гаражы. Ніхто яго драндулета не захацеў браць, да чаго ўсе асцярожныя сталі, нават баязлівыя-палахлівыя. Нават дарма не бралі, ён жартам, канечне, аддаваў напракат. Урэшце адзін знайшоўся, ужо ў гадах чалавек, сказаў: пакідай свайго казла, але каб заўтра забраў, бо ён некуды едзе і чужых машын у сваім гаражы трымаць не хоча, гэта небяспечна, навошта яму адказваць за чужое дабро?

Але здарылася нечаканае: на гаражах паказалася міліцэйская машына з мігалкаю, яна паволі кіравала да іх. Спынілася ў якіх дзесяці кроках, з яе выйшлі два мянты і адзін цывільны, здаецца, Хмель яго адразу пазнаў і пахаладзеў — гаспадар матацыкла! Ён і цяпер з шлемам на руцэ, хоць прайшло вунь колькі часу…

Уцякаць адгэтуль не было ніякага сэнсу, а трэба ўжо чакаць свайго лёсу, — падумаў Хмель. Трапіў у нерат…

Міліцыянеры падышлі бліжэй, а цывільны застаўся трохі ўбаку, бо, вядома, вырашалі справу яны, а не ён.

Капітан, сярэдняга росту і сярэдніх гадоў, прыклаў далонь да казырка фуражкі, назваўся:

— Капітан Шамрук. — І звярнуўся да гаспадара гаража: — Вы гаспадар?

Гараж быў адчынены, усярэдзіне віднелася машына чорнага колеру, няйначай, дарагая.

— Так, гэта мой гараж, магу паказаць дакументы.

— Не трэба, — сказаў капітан, уважліва агледзеў Хмеля, але зноў звярнуўся да гаспадара гаража: — А што гэта за чалавек? Ваш госць?

— Ніякі не госць, проста падышоў да мяне, — адказаў неяк вінавата гаспадар гаража.

— Падышоў ці пад'ехаў? — перапытаў капітан.

— Мо няхай ён сам адкажа? — не згадзіўся чалавек.

— Я ў вас пытаюся, — больш строга сказаў капітан.

— Пад'ехаў…

— Вось цяпер ясна. І што ён вам сказаў? — дапытваўся капітан.

— Папрасіў, каб я паставіў яго матацыкл… на нейкі час…

— Гэта так, ці не? — звярнуўся капітан ужо да Хмеля.

— Так, — коратка адказаў Хмель, панурыўшыся.

— А чый гэта матацыкл? — спытаўся ў яго капітан. — Ваш?

Можна было адпірацца, выкручвацца, што ён знайшоў каля свайго дома гэты матацыкл, але што тут гаварыць, калі вунь стаіць той хлопец, які ўжо, відаць, пазнаў свайго коніка.

— Матацыкл не мой, а вунь таго хлопца, — і Хмель кіўнуў галавою на хлопца ў цёмнай куртцы.

Капітан падабрэлымі вачыма паглядзеў на Хмеля і сказаў:

— Вось гэта мужчынская размова… Але пытанне: для чаго, скажам мякка, браць чужую рэч?

— Сам не ведаю… Дур у галаву стукнуў, — вяла адказаў Хмель.

— Дур — не апраўданне. Будзеце адказваць, — строга сказаў капітан і звярнуўся да хлопца: — Гэта ваш матацыкл?

— Мой, я яго адразу пазнаў… Ды і нумар на памяць ведаю. — І ён, гледзячы ў неба, назваў кароткі нумар свайго транспарту.

— Пахвальна, — падвёў вынік гутаркі капітан. — Цяпер галоўнае. Ваша прозвішча, імя і адрас, — звярнуўся ён да гаспадара гаража. Той назваў, капітан запісаў у блакноцік, сказаў: — Будзеце сведкам абвінавачання, атрымаеце позву. — Ён прыклаў далонь да казырка фуражкі.

Далей было так: Хмелю надзелі кайданкі і пасадзілі ў машыну на задняе сядзенне, з ім побач сеў капітан, а лейтэнант заняў месца вадзіцеля. Малады хлопец, надзеўшы шлем, асядлаў свой матацыкл, і калона з дзвюх адзінак тэхнікі рушыла ў горад, проста да міліцэйскага пастарунку.

* * *

У ізалятары Хмель праседзеў дзень, праседзеў другі — і так яму стала нудна-моташна, што хоць воўкам вый, хоць павесся. Калі так пойдзе і далей, то ён тут звар'яцее. Покуль той суд, трэба нешта рабіць…

І вось ён нечакана пад сваім ложкам знаходзіць даволі іржавы цвік, не надта доўгі, але з вострым, як раскляпаным, канцом, як у адвёртцы. І тут ён падумаў, што гэтая рэч можа яму прыдацца. Трэба толькі набрацца смеласці і цярпення — і пусціць яе ў ход. Будзе трохі балець, але што для мужчыны значыць нейкі там укол-пракол ці добрая драпіна? Ноччу, калі ізалятар з усімі яго службамі спакойна спаў, Хмель зрабіў сабе аперацыю. На левым баку жывата, на чатыры пальцы ад пупа, ён уваткнуў неглыбока цвік, стаў паварочваць яго і пакручваць управа-ўлева, каб зрабіць большую рану пад скурай. Балела страшэнна, аж вылазілі вочы наверх, хацелася крычаць, але што зробіш — трэба цярпець.

Ноч амаль не спаў, назаўтра дзяжурнаму на боль у жываце не паскардзіўся, хай напухае яшчэ больш, мо падхопіцца нагнаенне, тады ўмяшаецца медыцына, быць не можа. За чужую смерць яны адказваць не любяць, навошта, каб у іх зрывалі пагоны? Лепш, каб на іх чаплялі новыя зоркі. Вось капітан Шамрук атрымае за яго затрыманне мо ўжо маёрскую зорку і два прасветы на пагоне.

Трываць рабілася з кожным днём цяжэй, на трэці дзень Хмель паскардзіўся дзяжурнаму сяржанту, што ў яго баліць жывот, і ён хоча, каб той выклікаў доктара. Сяржант, няйначай, далажыў начальству, і доктар праз якіх пару гадзін наведаў хворага, агледзеў рану, спытаў, што здарылася, на што Хмель толькі развёў рукамі, а доктар сказаў, што яго трэба пераводзіць у бальніцу, бо хвароба сур'ёзная.

Пакуль сёе ды тое, дзень канчаўся, пераводзіць яго паабяцалі заўтра, там трэба падрыхтаваць месца і г. д. Хмель ужо сам пачынаў баяцца, каб не здарылася якой бяды з гэтаю балячкаю, што сам сабе накалупаў. Але не можа быць, каб дактары з ёю не справіліся.

Назаўтра недзе пад абед яго перавезлі ў бальніцу, бо хвароба сур'ёзная, і можна чакаць усяго. Яго зноў паклалі ў ізалятар, як небяспечна хворага, мо яшчэ з якою заразаю, каб не перадалася другім людзям. І ўзяліся лячыць, рэнтген, аналізы і ўсякая такая трасца. Час ішоў, Хмель пасмейваўся сам сабе: я вам работкі паддам, як мае быць, яшчэ глыбей раскалупаю сваю цацку. Ну вось, рэнтген гатовы — нічога сур'ёзнага, лёгкае нагнаенне, трэба будзе пашырыць рану, прамыць, потым накласці швы… А аналізы таксама нічога страшнага не паказалі, так што ўсё ідзе нармальна.

Да ўсяго за ім павінен быў прыглядваць міліцыянер, ён сядзеў на табурэце каля дзвярэй яго ізалятара, быў надта строгі, хоць яшчэ зусім малады. Але міліцыянеры мяняліся, не мог жа адзін вартаваць яго цэлы дзень ці суткі. Вось

з адным з іх Хмель знайшоў добры кантакт. Той, аказваецца, любіў выпіць, а зваць яго было Барысік. Вось адзін раз яму надта захацелася пахмяліцца, учора ў яго выйшла незапланаваная п'янка, а сёння страшэнна балела галава. Ён паскардзіўся Хмелю, і той адразу згадзіўся дапамагчы. На «хуткай дапамозе» яны паехалі на кватэру да Хмеля, жонкі якраз дома не было, яна цэлы дзень на працы, а дзеці ў школе.

Хмель дзейнічаў наўгад: можа што знойдзецца выпіць, а не дык хоць возьме якую тройку ці пяцёрку — і ўсё будзе як трэба. Як на тое, ім пашэнціла: у жончыных запасніках Хмель знайшоў пляшку віна, яны тут жа яго ўходалі, па дарозе ўзялі яшчэ пляшку сухача — за знойдзеныя ў жонкі рублі. Ужо ў бальніцы пілі сухача, гулялі ў карты, потым іх пацягнула на вольнае паветра, пагода была амаль што летняя. Яны выйшлі ў сквер, селі на лаўку, трохі пагрэліся на сонцы, абодва акаселі. Міліцыянер раздобрыўся, зняў з Хмеля кайданкі, паклаў сабе ў планшэтку, сказаў: пастраляем па вераб'ях, патрэніруемся.

Так яны і зрабілі. Міліцыянер стрэліў пару разоў, але не пацэліў, хоць яны круціліся блізка ад іх, расчараваны, аддаў пісталет Хмелю.

І тут на Хмеля нешта як найшло, накацілася на яго нейкая цёмная вялізная хваля, ён як страціў свядомасць ці адчуў сябе ў нейкім новым вымярэнні, і ўжо не чалавекам, а нейкім дзіўным стварэннем, якое не падпарадкоўваецца ранейшым паняццям дабра і зла, а жыве па нейкіх сваіх, толькі яму аднаму вядомых мерках. І што яму тут цесна, яго некуды цягне, каб нешта рабіць, а што і куды — ён і сам не ведаў. Вось у яго руцэ пісталет, а гэта ўжо сіла, якая дапаможа яму вырвацца на волю, пазбыцца вось гэтага мільтона, які сёння раздобрыўся і нават даў яму пастраляць па вераб'ях. Дзякуй табе, даражэнькі! Ты сам будзеш вераб'ём, ты сам, і ён, Хмель, не прамажа.

Міліцыянер сядзеў на лаўцы, скінуўшы фуражку і паклаўшы яе сабе на калені, адкінуўся плячыма на спінку лаўкі і, здаецца, драмаў, вецер кудлаціў яму светлыя, як ільняныя, валасы.

Хмель, як перад скачком у ваду, удыхнуў у сябе паветра на поўныя грудзі, навёў пісталет і стрэліў міліцыянеру ў галаву. Той як сядзеў, так і асунуўся на лаўку, абліваючыся крывёю. А Хмель з пісталетам у руцэ і ў міліцэйскай фуражцы выйшаў праз жалезныя дзверцы ля будынка і няпэўным, хісткім крокам, нічога не бачачы і не памятаючы, падаўся па вуліцы, далей і далей. Колькі прайшло часу і ці далёка ён аддаліўся ад месца свайго злачынства, ён не ведаў, але неяк раптоўна ўсё прамільгнула ў яго памяці — стрэл, кроў, яго ўцёкі…

Што ж цяпер? Хаваць сляды! Трэба здабыць машыну, лепш легкавую, і рвануць на ўсход, далей ад бяды, якая цяпер будзе за ім каціцца следам. Чаго хочацца чалавеку, які забіў другога чалавека? Раней ён гэтага не ведаў, а вось цяпер ён быў гатовы забіць кожнага, хто стане на яго дарозе і будзе не даваць зрабіць тое, што ён задумаў. Так здарылася з ім праз некалькі хвілін. Ён азірнуўся: ззаду ехаў легкавік жоўтага колеру, няйначай «масквіч». Хмель рушыў на праезную частку вуліцы і загарадзіў дарогу машыне, узняў руку. Машына, рыпнуўшы тармазамі, спынілася амаль упрытык да яго.

Вадзіцель, відаць, падумаў, што чалавек у міліцэйскай фуражцы папросіць яго падвезці, і ён быў гатовы гэта зрабіць. Але ў чалавека ў міліцэйскай фуражцы быў іншы намер. Ён ступіў крок да дзверцаў вадзіцеля і рэзка скамандаваў:

— Вылазь з машыны!

Чалавек адразу анямеў, а потым асмялеў і крыкнуў:

— Ты што, вар'ят? Я знаць цябе не хачу, адыдзі ад машыны!

— Не хочаш? — Хмель выхапіў з кішэні пісталет. — А гэта ты бачыў? Зараз жа вылазь з машыны, — паўтарыў Хмель свой загад.

— І не падумаю! Як хочаш — падвязу, — даволі мірна сказаў вадзіцель. Відаць, ён палічыў, што чалавек у міліцэйскай фуражцы яго разыгрывае, мо нават па-дурному страшыць.

— Выходзь з машыны! — дзікім голасам закрычаў Хмель, наводзячы пісталет на вадзіцеля.

— І не падумаю, — упарта паўтарыў вадзіцель жаўтковай машыны. — І ты не маеш права мяне страшыць!

— Ты захацеў права? — ужо шалеючы закрычаў Хмель. — Вось табе права! — І ён выстраліў яму ў галаву праз адчыненыя дзверцы, схапіў вадзіцеля за нежывую ўжо руку і рыўком выкінуў яго з машыны, проста на дарогу. — Вось табе права! — паўтарыў яшчэ раз са злосцю, сядаючы на месца вадзіцеля.

Але тут жа выскачыў з машыны, узяў забітага за руку і сцягнуў яго з дарогі на ўзбочыну, у высокую траву, вярнуўся і сеў за руль. Машына завялася лёгка, ён уключыў хуткасць, зрушыў з месца, потым памяняў перадачу і паімчаў па вузкай незаасфальтаванай дарозе.

Хутка думка пра дарогу саступіла месца другому клопату: што далей? Ці здарэнне на дарозе стане вядома ў міліцыі, ці міліцыя яшчэ занята пошукам таго, хто забіў міліцыянера? Ці не выехаць яму на людскую дарогу, а не пляссціся на пяцідзесяці кіламетрах? Затое там большая небяспека трапіць на вочы дарожнай міліцыі, якая, ўжо напэўна, ведае пра здарэнні і шукае яго следу.

Дарога пайшла лесам, яму хацелася спыніцца, вылезці з машыны, паваляцца на траве, услухацца ў шум ветру ў вершалінах дрэў, паслухаць спеў лясных птушак… Вось злева невялікая палянка пры дарозе… Ён міжволі зменшыў хуткасць, звярнуў з дарогі, выбраў месца, каб машына не кідалася ў вочы праезджаму, і спыніўся. Вось тут можна трохі адпачыць, скінуць з душы нервознасць, якая апанавала ім апошнія гадзіны і ўжо даводзіла да шаленства…

Трэба ўрэшце агледзець машыну, паглядзець, што вёз з сабою той дзівак, які не захацеў аддаваць свайго фаэтона і за гэта паплаціўся жыццём. А каб аддаў без крыку — застаўся б жыць. Дзівак…

На заднім сядзенні ляжала вялікая гаспадарчая сумка жоўтага, як і машына, колеру, нечым напакаваная. Ён развёў «маланку» ў сумцы — і адразу ў нос яму ўдарыў пах жытняга хлеба, такі густы і прыемны, што хоць адразу бяры круглы бохан і грызі яго як той асенні спелы яблык. Прагаладаўся — так сігналіць чалавечы арганізм на пах жытнёвага хлеба. Але да хлеба тут было ўсякай усячыны: кілбаса, кавалак паляндвіцы ў цэлафане, вараныя яйкі ў пакеціку, цукеркі ў пакеце, булачкі, а на самым дне ён знайшоў пляшку гарэлкі «московской». Вось чаго ён не чакаў тут убачыць!

Проста цуд! Нібы знарок нехта спрыяе яму за нейкія добрыя ўчынкі, якіх ён не рабіў, бо рабіў толькі дрэнныя. За што ж яму такая ласка, за якія заслугі? Няўжо авансам?

Па гэтых багатых прыпасах можна было меркаваць, што чалавек ехаў або ў госці, або ў вялікую дарогу, таму і прыхапіў з сабою сякі-такі харч-запас. Асабліва пахваліў яго Хмель за пляшку «масквіча», якая яго ажно скаланула — проста адразу яму хацелася адкаркаваць яе і глытаць проста з рыла. Але трэба пашукаць якога посуду, якога нажа, каб не хапаць усё па-сабачы, глытаць не жуючы! Трэба праверыць «бардачок», шафяругі там трымаюць усё патрэбнае на падобны выпадак.

Так яно і аказалася: там ён знайшоў малы пабяляны кубачак, запалкі, пачак цыгарэтаў, кароткі ножык-фінку і яшчэ іншую драбязу, што гаварыла пра запаслівага гаспадара, вечная яму памяць, — трохі змякчыўся ў душы на нябожчыка суровы і помслівы Хмель. Ён пераставіў цяжкую сумку на пярэдняе сядзенне, сам сеў за руль, на выпадак, калі трэба будзе «браць ногі ў рукі», што вельмі верагодна ў яго цяперашняй сітуацыі, і каб ён верыў у Бога, дык нават перахрысціўся б, пачынаючы свой — чужы! — такі багаты падвячорак.

Адкроіў трохі сухаваты акраец, потым мяккую лусту пахкага хлеба, адрэзаў некалькі скрылікаў паляндвіцы, кілбасы нават не зачапіў, адкруціў рыла ў пляшцы, наліў у пабяляны кубачак грамаў сто, а мо трохі болей, панюхаў — аж засвярбела ў носе ад такой раскошы, ад такога знаёмага, роднага паху, у якім, здаецца, купаўся б усё сваё свядомае жыццё! Свядомае, — паўтарыў і сам сабе крыва ўсміхнуўся. Якое там да д'ябла свядомае жыццё было ў яго? Хутчэй назваў бы яго не свядомае, а п'янае, хмельнае, як і яго прозвішча. Вось жа ўзнагародзіў Усявышні іх род прозвішчам, што хоць стой, хоць падай, хоць жыві, хоць памірай, а ад свайго не ўцячэш! Бацька памёр без пары ад гарэлкі, кажуць, што і дзед любіў зазірнуць у чарку. І яму на раду напісана…

Ён выпіў без перадышкі, але ў канцы папярхнуўся, закашляўся — не пайшла на дабро! — аддыхаўся, выцер слёзы з вачэй рукавом — кароткім рукавом свайго світра, а потым стаў памалу закусваць паляндвіцаю. Вось гэта смаката! Даўно не каштаваў такога смачнага свінога мяса!

Паступова цяпло і хмель разліваліся ў яго па крыві, яму рабілася неяк нават весялей, крытычныя ці самакрытычныя думкі трохі адляцелі ад яго далей, ён пачаў шукаць у сабе нечага такога, за што можна было пахваліць, але нічога не прыходзіла на памяць. Жыццё з жонкаю Сабінаю на пачатку было шчырае, гладкае, поўнае замілавання, але паступова нешта як зламалася, сапсулася ў іх адносінах, ён стаў запіваць, а яна пачала аддаляцца ад яго ўсё далей і далей, халадзела целам і душою, ды і ён яшчэ болей стаў адказваць ёй тым жа, яшчэ часцей прыходзіць дадому пад газам, усчынаў сваркі, а то і бойкі. Малыя дзеці трохі паправілі іх сямейны лад, ён часам паказваў сябе неблагім бацькам, але такое здаралася з ім усё радзей, а вось абыякавасць, грубасць, злосць так і перлі з яго, як з бруднае лужыны, у якой валяліся свінні. Колькі разоў за п'янку штрафавалі яго, адбіралі правы, нават саджалі пад стражу — не пералічыць. І вось ён ужо даўно не шафёр. А што змянілася? У лепшы бок — нічога! А ў горшы — вунь яшчэ як! На рабоце — а ён яе любіў як сабака палку, — нідзе доўга не трымаюць, ну пару месяцаў, ну паўгода — і шукай, браце, сабе новае месца, бо такога работнічка, які думае не пра работу, а пра тое, як пахмяліцца, ніхто трымаць доўга не будзе.

А цяпер ужо дайшло да кражы, трапіў за краты, а там і да… страшна сказаць, да чаго. Ну няхай ён лягавы, хай ён сякі-такі, любіць выпіць, як і ты, але чаго ты выступаеш у ролі суддзі — яму? А чаму не сабе? Чаго ты замахваешся на яго жыццё, па якому праву? Дзячыш за тое, што ён зняў з цябе кайданкі? Выходзіць, што так…

Ён наліў сабе яшчэ ў кубачак, выпіў са смакам, пайшло, як па масле, стаў з апетытам закусваць, паглядаў на лясны пейзаж ля машыны. Свет вакол яго рабіўся нейкі больш лагодны, чым быў дагэтуль, рэзкія фарбы мякчэлі, лёгка пераліваліся адна ў адну, цяжкія думкі паволі адляталі недзе ў неба, у космас, як цяпер модна казаць, на душы рабілася лягчэй і святлей… Як бы ён хацеў, каб так заставалася і далей, каб не было за плячыма вось гэтае чужое машыны, яе няшчаснага гаспадара, які вось цяпер частуе ў сваёй хаце на колах чужога чалавека, свайго, што тут таіць, ворага, апошняга ворага, што ўзняў

руку на яго жыццё, на яго маёмасць, і цяпер вось выдае гэта за сваё ўласнае, і не мучыць яго сумленне: п'е, есць і не падавіцца, не захлынецца, не скажа сабе: што ж ты робіш, сабака, як ты можаш нарабаванае, адабранае, спажываць як сваё, як табою зробленае, табою нажытае?

Нейкія вось такія думкі, ці прыблізна такія, варушыліся-круціліся ў яго ўжо добра захмялелай галаве, і ён іх не баяўся, хоць яны былі балючыя, як стрэлы ў адкрытае сэрца, якое раней не адчувала нічога падобнага, а было як з каменя, і нішто яго не магло крануць, тым больш прабіць, зварухнуць, абудзіць боль ці спагаду да некага, не толькі чужога, але нават і свайго…

Ён выпіў яшчэ трэці раз, як на памінках — тры чаркі, і хмель паволі адольваў яго ужо канчаткова — думкі рабіліся пераблытаныя, як і тыя вобразы, што яшчэ ўзнікалі ў галаве, ва ўнутраным зроку — асабліва апошніх дзён, апошняга часу. Нічога добрага, нічога радаснага, ні кроплі людскага — усё чорнае, як сажа, або ўсё афарбаванае ў чырвоны колер — колер чужое крыві…

Прачнуўся Хмель нечакана, як і заснуў: у той жа машыне, за рулём, хоць зараз гатовы ў дарогу. А які быў час? Вечарэла, сонца ўжо схавалася, нават не даставала да вяршыняў дрэў… «П'яны за рулём — небяспека для чалавека», — ні з таго, ні з сяго ўбіліся яму ў галаву словы з міліцэйскага лексікону. Якраз ён не быў п'яны. Сон у лесе, хоць і ў машыне, азонам насычанае паветра, асвяжылі яго сілы, праветрылі яму мазгі, ён адчуваў сябе бадзёра, нібы піў колькі гадзін назад не гарэлку, а які-небудзь бярозавік ці кляновік з селядзёўкі, такі халодны, што ажно ломіць зубы. Вось бы цяпер кварту такога напою! Шмат бы аддаў, каб вярнуцца туды — у маленства, у маладосць… Цяпер можна выпіць не соку, а таго напою, што застаўся яшчэ ў пляшцы, хапіла б для добрае пахмелкі, але ён адагнаў спакусу і сказаў сабе: досыць! П'яны за рулём — небяспека для чалавека!

Ён выйшаў з машыны, пацягнуўся, ажно захрабусцелі суставы, узмахнуў рукамі, нібы збіраўся ўзляцець, агледзеўся, схадзіў за куст і хутка вярнуўся, абышоў машыну, пастукаў нагою па колах. Здаецца, усё ў норме. План у яго быў ранейшы: кіраваць да расейскай мяжы, гэта некалькі гадзін дарогі, да таго ж небяспечнай — яго ўжо даўно вылічылі, ён пад прыцэлам. Разам з тым ён разумеў, што за мяжою яму нічога не свеціць, яго могуць выдаць па першым патрабаванні як крымінальнага злачынцу. Але самому ісці і прызнаць сваю віну ў яго не хапала смеласці…

Хмель сеў за руль, нечакана для сябе перахрысціўся і завёў машыну, асцярожна выкіраваў на дарогу — яна была чыстая з абодвух канцоў, і павялічыў хуткасць. Без ніякіх прыгодаў ён праехаў мо пяцьдзясят кіламетраў, часам сустракаліся на дарозе невялікія вёскі, у хатах свяціліся агні, часам па вуліцы ці ля будынкаў варушыліся людзі — жыццё ішло заведзеным парадкам, кожны рабіў нешта сваё, выконваў нейкі абавязак.

А што ён сам? Ён ратаваў сваю шкуру, так звычайна робіць чалавек, які трапляе ў пастку: вырываецца з яе як можа, і той, хто мудрэйшы, спрытнейшы, той можа апынуцца на волі зноў, а хто не… Ён на волі яшчэ толькі адною нагою, а што будзе далей — цяжка сказаць…

Паказалася знаёмае мястэчка, калі быў шафёрам, часцяком праязджаў праз яго, сяды-тады заходзіў у краму пры дарозе, каб што купіць з ежы ці напояў. Вось і цяпер яму так захацелася піць, што мусіў спыніцца на пляцоўцы перад крамай, замкнуў машыну. За апошнія капейкі ўзяў пляшку сітра, тут жа адкаркаваў і пачаў піць — з рыла ў рыла. У краме ён прабыў некалькі хвілін, а ля яго машыны ўжо круціўся малады хлопец у залёнай футболцы, з кароткаю стрыжкаю, як бы прыцэльваючыся яе адкрыць ці яшчэ што зрабіць.

— Што хочаш, хлопча? — спытаўся Хмель, пільна глянуўшы яму ў твар — мо які знаёмы. Здаецца, не…

— А нічога, — сказаў хлопец. — Машына падабаецца, салатавая…

— Падабаецца — купляй, прадаю, — пажартаваў Хмель.

— Няма грошай, а так бы з дарагою душою, — няпэўна сказаў хлопец.

— Вось і зарабляй грошы, — параіў яму Хмель і адамкнуў дзверцы, сеў за руль. Нешта падазронае падалося яму ў гэтым хлопцы — нейкі віж, нешта яму трэба.

Ён уключыў матор і крануўся з месца. Дарога была чыстая, ніякага руху, можна было і расслабіцца, нават закурыць. Пасля выпіўкі — закурыць законна, хоць піў ён сітро. Адною рукою дастаў з «бардачка» цыгарэты, запалкі, зубамі разарваў пачак і выцягнуў цыгарэту, потым, рызыкуючы зваліцца з дарогі ў кювет, прыпаліў цыгарэту, прыемна зацягнуўся, ажно, здаецца, пасвятлела ў вачах. А можна ж было прыпыніцца на хвіліну, не рызыкаваць. Але хіба жыццё — не суцэльная рызыка? Накурыўшыся, выкінуў недапалак у бакавое акно, стаў уважліва сачыць за дарогай, якая ноччу здавалася вельмі вузкаю, а прыдарожныя слупы неяк падазрона ледзь не вылазілі на праезную паласу. Што значыць шафёрская практыка! Вось ён не паездзіў некалькі гадоў, і ўжо не той чалавек за рулём, не той спрыт і навык, усё недзе падзелася, нібы яго і не было зусім! Вось што нарабіў табе твой хмель з малое літары! І ўжо ці вернецца да цябе ўсё тое назад — ніхто не скажа, можа толькі ты сам вельмі моцна захочаш. Але дзе там! Не да гэтага ідзе, не да гэтага…

Праз нейкі час Хмель заўважыў у люстэрку задняга віду агеньчыкі, і не толькі два — фараў, але і яшчэ адзін, трохі вышэй над імі — праблісковы маячок-мігалку, і адразу пахаладзеў: за ім ішла-імчала міліцэйская машына.

Хмель даў газу на ўсю «жалезку», але маячок-мігалка ўсё яснеў, рабіўся бліжэй і бліжэй, хуткасць у міліцэйскай машыне была большая, чым у яго «масквічы». Вось яна ўжо ў яго на хвасце, але ніякіх сігналаў не падае. Няўжо яны там не падазраюць, каго даганяюць? А мо проста ў іх нейкае сваё заданне? Усё можа быць…

Вось «Волга» ўжо дагнала «масквіч», стала абганяць і хутка загарадзіла яму дарогу, але хуткасць не паменшыла.

«Няўжо пранясе?» — не верыў сам сабе Хмель. Гэта было б нешта неверагоднае. Няўжо гэта не сон, а ява? Але радасць яго была дарэмная. «Волга» паменшыла хуткасць, Хмель апынуўся за ёю ўсяго на некалькі метраў, а з гучнагаварылкі пачуўся пагрозліва-загадны голас:

— Водитель «москвича», остановите машину! — І яшчэ паўтарыў тое ж самае, і яшчэ раз.

І тут Хмель, нібы ў ім прачнуўся які звер ці д’ябал, пайшоў на абгон міліцэйскае «Волгі»: вось ён параўняўся з ёю, стаў паволі апярэджваць, але і «Волга» пачала памалу набіраць хуткасць, так яны ішлі на паралельных курсах некалькі хвілін, занятыя гульнёю ў даганялкі, як наперадзе выраслі два яркія промні: на іх імчаў грузавік.

Усё адбылося ў лічаныя секунды: грузавік тут жа, як цяжкі таран, урэзаў па левым борце «масквіча», адкінуўшы яго на міліцэйскую машыну, але тая нейкім цудам апярэдзіла «масквіча», і ён крутнуўся на месцы і нечакана перавярнуўся ўверх коламі. На шчасце, матор адразу заглух, інакш можна было чакаць выбуху. Што было з вадзіцелем «масквіча», ніхто не ведаў.

Два міліцыянеры і малады хлопец у зялёнай футболцы выскачылі са свае машыны і кінуліся да перакуленага «масквіча», а з пашкоджанага грузавіка, кульгаючы, накіраваўся камлюкаваты мужчына ў камбінезоне пясочнага коле-

ру. Усе чацвёра яны спыніліся ля машыны, якая нагадвала нейкую дапатопную жывёлу, што вось так бездапаможна, дагары торамі-нагамі, ляжала перад імі і не варушылася.

Прыглядаліся да вокнаў, але ў машыне, ды і знадворку, было цёмна, і што там усярэдзіне, ніхто не мог сказаць. Патузалі за дзверцы — ніякіх вынікаў, яны былі заблакіраваныя, толькі лабавое шкло было разбіта, але да яго нельга дабрацца, яно зусім нізка над зямлёю.

Ацаніўшы сітуацыю, капітан сказаў лейтэнанту (гэта былі тыя самыя службоўцы, што складалі пратакол на ўкрадзены Хмелем матацыкл) падагнаць машыну, каб фарамі асвяціць перавернуты «масквіч», а вадзіцеля грузавіка папрасіў прынесці манціроўку ці які ломік, каб паспрабаваць адчыніць дзверцы машыны, спытаў пра яго нагу. Вадзіцель толькі махнуў рукою і пакульгаў да свайго грузавіка, які свяціў толькі адною фараю, левая, відаць, была пашкоджана пры сутыкненні.

Праз хвілін колькі яны зноў сабраліся ля «масквіча», сталі з аднаго боку, узяліся за барты капота і па камандзе капітана сталі падымаць машыну. І вось яна ўжо на баку, потым давялі «аперацыю» да канца: паставілі «масквіч» на колы, хоць неяк няпэўна: пярэдняе левае кола было выбіта са свайго гнязда. Але цяпер не да кола: трэба было вызваляць з палону вадзіцеля, яшчэ невядома, што з ім. Голасу не падае — значыць, нешта не так…

Дзверцы не адчыняліся, яны былі перакошаны ўдарам, іх трэба было адкалупваць манціроўкаю ці ломікам, які прынёс вадзіцель грузавіка. Урэшце адчынілі заднія дзверцы справа, ужо можна было бачыць, што робіцца ўсярэдзіне. І здзівіліся: вадзіцеля не відаць! А ён сапраўды як схаваўся: нагамі ляжаў на каробцы перадач, а тулава было як заціснута на дно кузава, дзе звычайна змяшчаюцца ногі пасажыра.

З цяжкасцю адчынілі пярэднія дзверцы, вадзіцеля-ўцекача выцягнулі з машыны, паклалі на зямлю. Твар у яго быў заліты крывёю, здаецца, ён ужо не дыхаў. Капітан узяў яго за запясце правай рукі, усе заціхлі.

— Ён жывы, гэта Хмель, я яго ведаю, — паведаміў капітан. — Нясіце яго ў «Волгу», а я агледжу машыну.

Вось вялікая сумка з правізіяй, вось міліцэйская фуражка, галоўная ўліка. А дзе пісталет? Няўжо ў «бардачку»? Так і ёсць, выдатна. Капітан праверыў багажнік. Там толькі мяшок з мукою, запаска, невялікая сякера, гумовыя боты, яшчэ нейкія прычындалы.

«Сумку з правізіяй трэба забраць, *вешчдок,* фуражка таксама, ну і галоўнае — пісталет. Вось такі ты хмельны Хмель, вось гэтулькі наламаў дроў. І яшчэ ці будзеш адказваць за свае подзвігі — невядома, бо адною нагою ты яшчэ тут, а другою — ужо там…»

Капітан падышоў да свае машыны. Хмель ляжаў на заднім сядзенні, падкурчыўшы ногі. Хлопцы тут нечым выціралі яму кроў з твару.

— Зробім так, — сказаў капітан. — Пакідаем тут падбітую машыну, пакідаем вас, вадзіцель грузавіка, чакайце лятучкі, яна забярэ вас і «масквіча». А мы спяшаемся ў бальніцу. Каб не спазніцца! Паехалі…

Лейтэнант сеў за руль, ля яго на сядзенні — капітан. Хлопец у зялёнай футболцы прысеў на задняе сядзенне, трохі пацясніўшы пацярпелага.

Машына кранулася, замільгацеў маячок-вяртушка, падаў сігнал трывогі. Яны спяшаліся. Жыццё чалавека вісела на валаску.

# ПАЭТЫЧНАЯ ТРАДЫЦЫЯ КІТАЯ

*У свеце не шмат краін, дзе паэзія займала б такое значнае месца, як у Кітаі. Паэзію ў Кітаі часта параўноўваюць з «воляй народа». У Паднябеснай ва ўсе часы квітнела народная песня, а кітайская драма па сутнасці з'яўляецца паэтычным відам мастацтва. І не выпадковым падаецца, што пачынаючы з VII ст. н. э., складанне паэтычнага тэксту ўключаецца ў праграму дзяржаўных экзаменаў. Цытаванне паэзіі адыгрывае важную ролю ў дыпламатыі і афіцыйным жыцці кітайцаў; сачыненне і дэкламацыя вершаў з'яўляюцца ўлюбёным спосабам бавіць вольны час.*

*Першым буйным паэтычным творам старажытнай кітайскай літаратуры называюць анталогію «Шыцзін» («Кніга песень»). Гэта збор народных песень, рытуальных гімнаў, якія адлюстроўваюць пачуцці і перажыванні простых людзей, асуджаюць нявартых павагі правіцеляў, распавядаюць пра пакуты краіны.*

*Першым кітайскім паэтам, імя якога засталося ў гісторыі, стаў Цюй Юань (340—278 да н. э.). Па словах расійскага сінолага Н. Федарэнкі, «...творчасць Цюй Юаня паклала пачатак новаму этапу — узнікненню літаратуры, якая мае індывідуальнага аўтара». Вершы і паэмы Цюй Юаня і яго вучняў прадстаўлены яшчэ ў адной знакамітай анталогіі старажытнага Кітая — «Чу цы», ці «Чускія элегіі» (II ст. да н. э.).*

*Менавіта пераклады з Цюй Юаня, вобраз якога стаў адным з сімвалаў патрыятызму ў кітайскай культуры, распачынаюць традыцыю друкавання класічных кітайскіх вершаў на старонках часопіса «Полымя».*

*Пераклад верша Сун Цзы Хоу «Павучанне прыгажуні» — яшчэ адна спроба пазнаёміць беларускіх чытачоў з паэтычнымі ўзорамі кітайскага прыгожага пісьменства. Пра Сун Цзы Хоу вядома толькі, што жыў ён у эпоху Усходняй Хань. І адзіны верш з творчай спадчыны паэта, які дайшоў да нас, — «Павучанне прыгажуні», у арыгінале яго назва — «Дун Цзяожао». Дун Цзяожао — жаночае імя або зварот да жанчыны ўвогуле.*

*У эпоху Хань яркую паэтычную старонку склалі лірычныя і сатырычныя народныя песні — юэфу. Яны аказалі значны ўплыў на прадстаўнікоў ранняга сярэднявечча, у тым ліку і Цао Чжы.*

*Паэтычныя пераклады з кітайскай на славянскія мовы — нялёгкая праца. Перакладчык сутыкаецца з надзвычай складанай задачай выкласці мастацкія вобразы, перададзеныя з дапамогай іерагліфічнай пісьменнасці, сродкамі прынцыпова іншай мовы. І ў такіх умовах захаванне фармальных асаблівасцей арыгінальнага тэксту падаецца амаль што недасягальным.*

*У кітайскім вершаскладанні звычайна ўжываюцца некалькі традыцыйных паэтычных памераў: чатырохслоўны (па чатыры іерогліфы ў кожным радку), пяціслоўны, сяміслоўны і змешаны, калі вершы складаюцца з радкоў рознай даўжыні.*

*Кітайская рыфма таксама досыць разнастайная, хаця ў аўтарскай паэзіі рыфмаваліся пераважна толькі цотныя радкі. Асноўная цяжкасць заключаецца ў тым, што кітайская сістэма рыфмы заснавана не на рэальнай фанетыцы, а на традыцыйным аб'яднанні іерогліфаў у так званыя «групы рыфмаў». Ужо дзве тысячы гадоў таму такія рыфмы далёка не заўсёды ўспрымаліся на слых.*

*Яшчэ адна асаблівасць кітайскай класічнай паэзіі — багаты набор мастацка-кампазіцыйных прыёмаў, якія ўключаюць у сябе паўторы, паралелізмы і г. д. Да спецыфічных выяўленчых сродкаў адносяцца таўтафоны (падваенне аднаго іерогліфа) і гласалаліі (ужыванне іерогліфаў з аднолькавай графемай — дэтэрмінатыў або «ключ»).*

*З пункту гледжання зместавай насычанасці арыгінальнага тэксту складанасць мастацкага перакладу кітайскай паэзіі абумоўлена, па-першае, сэнсавай паліфанічнасцю кожнага асобнага іерогліфа і, па-другое, тым, што любы паэтызм з'яўляўся здабыткам не столькі асабістага творчага вопыту пэўнага літаратара, колькі агульналітаратурнага і нават агульнакультурнага асяроддзя, прыводзячы да ўтварэння сапраўды бясконцых ланцужкоў асацыяцый, якія можна прасачыць ад больш ранніх пісьмовых помнікаў.Так узнікае эфект «глыбіні» кітайскага паэтычнага твора, у якім дзівосна спалучаюцца некалькі сэнсавых падтэкстаў, зразумелых, праўда, толькі сапраўды адукаваным кітайцам.*

*Варта адзначыць, што тэорыя і практыка мастацкага перакладу кітайскага прыгожага пісьменства на рускую і іншыя славянскія мовы налічваюць прыблізна столькі ж дзесяцігоддзяў, што і традыцыя славянскага сіналагічнага літаратуразнаўства. Першыя, хоць і далёка не заўсёды паспяховыя, доследы перакладаў былі зроблены яшчэ ў пачатку XX ст. Дваццатыя гады адзначыліся перакладчыцкай актыўнасцю аднаго з вучняў В. М. Аляксеева — Ю. Шчуцкага. Адначасова В. М. Аляксеевым распрацоўваліся тэарэтычныя асновы мастацкага перакладу з кітайскай літаратуры і прадпрымаліся ўласныя перакладчыцкія вопыты. У 1950—60-я гады да перакладчыцкай дзейнасці падключыліся прафесійныя літаратары, якія працавалі з падрадкоўнікамі, выкананымі навукоўцамі-кітаязнаўцамі. Але і апошнія нярэдка спрабавалі свае сілы як паэты.*

*Прысутнасць кітайскай класічнай паэзіі ў беларускай літаратурнай прасторы даволі сціплая. Таму ўражвае мастацкая смеласць Міколы Мятліцкага, які распачаў традыцыю па перакладзе кітайскай лірыкі на беларускую мову. Веру, што гэта не адзіная публікацыя і наперадзе нас чакаюць іншыя сустрэчы з вершамі Паднябеснай у перакладзе цудоўнага беларускага паэта, які засведчыў сябе майстрам пераўвасаблення многіх паэтычных адкрыццяў самых розных народаў. Пра гэта гавораць і шматлікія публікацыі ў літаратурна-мастацкай перыёдыцы, і кніга класіка казахскай літаратуры Абая «Стэпавы прастор», а таксама сапраўдная анталогія перакладаў паэзіі народаў свету «Лучнасць», кніга, што ў некаторай ступені падсумавала перакладчыцкі плён у творчай рабоце Міколы Мятліцкага.*

***Вераніка КАРЛЮКЕВІЧ***

# З КІТАЙСКАЙ ПАЭЗІІ

## ЦЮЙ ЮАНЬ
(Прыблізна 340 — 278 гг. да н. э.)

### СМЕРЦЬ ЗА РАДЗІМУ

Мы коп’і трымаем чэпка,
на ўсіх скураныя латы.
Разбітыя ўшчэнт калясніцы,
ды мы ўрукапашную б’ёмся.

Сцягі захінулі сонца,
і сунецца вораг хмарай.
Са свістам лятаюць стрэлы.
І мроіцца ўсім перамога.

Ды вораг усё ж укленіўся —
рады нашы змяць ён прагне.
І падае конь мой левы,
конь правы — увесь у шнарах.

Загразлі ў суглінку колы,
бы ў путах, чацвёра коней.
На штурм! І няфрытавай палкай
б’ю я ў барабан зазыўна.

У хмурасці змрочнай небнай
угневаўся Дух Вялікі.
Суровыя воі забіты, —
усцяж на зямлі іх целы.

Хто выйшаў — не вернецца болей:
сышоўшыя не прыходзяць.
Памеркла для іх раўніна,
дарога ўдалечы знікла.

З мячамі ім не развітацца,
не выкінуць ціньскіх лукаў.
І хай смерцю скована цела, —
душы не займець дакору.

Мужы сапраўднай адвагі,
высокай воінскай чэсці!
Іх, дужых і непахісных,
скарыць аніхто не здатны.

Памерла смяротнае цела,
а дух застаецца вечным.
Забітых адважныя душы
і там, сярод душ, — героі.

## УЛАДАРУ УСХОДУ ТАЙ-І

Дзівосныя ч†асы —
Ўвесь дзень прысвячаецца шчасцю,

Шчаслівa і радасна
Небу мы ўзносім маленні.

Я меч уздымаю —
Дзяржальна ягонае з яшмы, —

І з золатам разам
Звіняць дарагія каменні.

На белай цыноўцы,
Прыціснутай яшмавым гнётам,

Гартэнзій пялёсткі,
З якіх я гатую духмяны,

Віно прыпадношу
І соус, запраўлены перцам,

І воблака пары
Ўсплывае над мясам ахвярным.

Бамбукавай палачкай
Б’ю ў барабан асцярожна,

І зладжанай музыцы
Служаць спакойныя спевы,

Са спевам зліваюцца
Гукі жалейкі і гусляў.

Танцуюць вяшчункі —
Усе ў адмысловых апратках,

І храм напаўняецца
Водарам церпкім агуслым,

Змяшаліся гукі…
О, радуйся, Дух! І мацуйся!

## ПАКЛАНЕННЕ ДУШЫ

Згодна звычаям даўнім
Мы б'ём ва ўсе барабаны,

Вяшчункі заўзята скачуць,
Адна мяняе другую,

Спяваюць дзяўчаты-красуні —
Свеціцца юні пяшчота!

Вясной цвітуць архідэі,
Восенню — хрызантэмы,

Гэтак і звычаі нашы
Доўжацца несупынна.

# ЦАО ЧЖЫ
(192—232)

## ІВАЛГА

Змоўк вецер,
Цішыня змарыла даль,

Ды шумны
На ўзбярэжжы наступ хваль.

О, як няма
Мяча ў руцэ ізноў, —

Пакінь надзею
Быць сярод сяброў.

Ці бачылі
Спуд птушкі на крыле? —

Ад коршака
Ратуецца ў сіле!

Здабычы рады
Хмуры птушкалоў,

Але юнак
Засмучаны прыйшоў.

Разрэжа сетку —
Мечам узмахне, —

Зноў івалга
У небнай сінізне,

Лунае ў вышы,
Збыўшыся сілка,

І кружыцца,
І дзячыць юнака.

## ПЕРАКАЦІ-ПОЛЕ

Горкі лёс
У перакаці-поля:

Шумны вецер
За пацеху прыме, —

То бясконца коціць
У ваколле,

То парыўна
Да аблок уздыме.

Ўсё вышэй, вышэй
Яно ўзлятае,

Бо ў нябёсаў
Ні канца, ні краю.

І мае бадзянні
Без супыну,

Ахвярую
Галавой сівою.

Пад рыззём
Не захаваеш спіну,

Не насыцішся
Адной травою.

Меней думак —
Меней слоў дакору:

Ты ад болю
Састарэеш скора.

## ТКАЧЫХА

Самотнай Ткачыхі
На поўначы недзе хаціна.

Узорнага шоўку
Наткаць на світанні павінна.

Бярэцца за справу
Ткачыха і рупна, і ўмела,

Ды сонца на спадзе,
А ўзор завяршыць не паспела.

І чуліся ноччу
Уздыхі цяжкое самоты,

І скрушныя стогны
У небе плылі, як грымоты.

«Нязменнай захоўваю
Пустую халодную спальню.

Мой муж любы, родны
У войску ў краі чужадальнім.

Вярнуся, казаў ён,
Дамоў праз гады тры, не болей.

Ды вось, не вярнуўся,
Не з'явіцца, пэўна, ніколі.

З адчайным ускрыкам
Кружыцца над дрэвамі птаху…

Адбіўся ён, мабыць,
І кружыць, канаючы з жаху…

Праменнем імклівым
За ім бы імчаць сінявою:

Хутчэй бы пабачыць
Аблічча яго дарагое».

## НЕДЗЕ Ў ПАЎДНЁВАЙ КРАІНЕ

У паўднёвых краях
Гэтай дзеўчыны крок малады.

Вабны твар у яе,
Бы квітнеючы персік і сліва.

Стрэнеш ранкам яе
Ля Чанцзяна імклівай вады,

А ля берага Сян
Выбірае начлег палахліва.

Толькі людзі наўкол
Безуважна прымаюць красу,

Дык каму яна ўсё ж
Сыпле ўсмешкі дзівоснай праменне?

І кароткім жыццё
Пераступіць сваю паласу.

Згасне з часам краса —
І яна падуладная тленню.

## СУН ЦЗЫ ХОУ
(Каля 200)

### ПАВУЧАННЕ ПРЫГАЖУНІ

Лаян згадаю, дзе цвітуць паўсюд
Парою весняй персікі і тут.
Аж да зямлі схіляецца іх вецце.
І хто прыйшоў да дрэваў на дасвецці?

Зрывае прыгажуня лісце тута,
Галіны нахіляючы імкліва,
І не ўсхвалюе лёс сарваных кветак,
Што гінуць у кашолцы трапятліва.

— Скажы, навошта нам ты чыніш гора?
Адказ дзявочы сонечна іскрыцца:
— Ў дзявяты месяц абаб'е вас вецер,
І вам расою болей не умыцца.

Бо вы памрэце позна альбо рана,
Укрые вецер ззяблыя суквецці.
Асыплюцца яны, згубіўшы вабнасць,
Апошні водар іх развее вецер.

— Няхай мы гінем восенню халоднай,
Але вясной абудзіцца прырода.
З каханнем, больш якому не вярнуцца,
Тваё ж цвіценне згасне назаўсёды.

Хачу хутчэй я скончыць песню гэту,
Нясходны сум нясе яна паэту,
Дамоў спяшаю у свае пакоі.
Віном і лютняй сэрца супакою.

## ТАО ЮАНЬМІН
(365—427)

### ВЯРНУЎСЯ НА ПАЛІ І Ў САДЫ
(Пяць вершаў)

* * *

З дзён юнацкіх чужыя
мне сугуччы пыхлівага свету,
Бо з народзін люблю я
прастату гэтых гор і цяснін.

Памылкова патрапіў
у жыцця пылам ўзятыя сеткі,
У людскую іх марнасць —
мне было толькі трыццаць тады.

Нават птушкі ў няволі
засумуюць па лесе дрымотным,
Нават рыба ў затоцы
не забудзе сваіх ручаёў.

Цаліну узараў я
на ускраі далёкім паўднёвым,
Верны страсці нямудрай,
зноў вярнуўся ў сады, на палі.

Гаспадарка ўся склала
дзесяць му усяго, і не болей,
Са страхой саламянай
хата — дзесяць пакояў, не больш.

Вербы з вязам — суседзі —
на страху цень за хатай кідаюць,
Сліва з персікам побач
асыпаюць лістотай парог.

У туманнай далечы
затанулі паселішчаў дахі,
Цёмнай мяккай заслонай
вёсак сцелецца ранішні дым.

Гучна брэша сабака
 у завулку глухім і пустэльным,
Кукарэкае певень
 між галін, узляцеўшы на тут.

На двары, як і ў хаце,
 ні пылінкі ад знешняга свету,
І пустэча пакояў
 беражэ цішыню і спакой.

Як задоўга, аднак, я
 жыў зняволена ў клетцы замкнёнай,
І цяпер толькі зноўку
 першароднай свабодай дыхнуў.

* * *

Тут, у цішы вясковай,
 мала клопатных спраў чалавечых:
Сном скаваны завулак
 зрэдзь абудзяць калёсы і конь.

Белы дзень надыходзіць —
 зачыняю цярновыя дзверы,
Каб жыццёвая думка
 не пранікла ў пустое жыллё.

Дзень пры дні — пастаянна
 пакручастымі вулкамі зноўку
Праз сцяну травастою
 мы сыходзім і ў хату ідзём.

І, сустрэўшы суседа,
 не пустой балбатнёй мы заняты, —
Больш аб тутах гаворым,
 ці аб тым, як каноплі растуць.

А каноплі на полі
 што ні дзень, набіраюцца моцы,
Клін, узвораны мною,
 разрастаецца ўшыркі штодня.

Я ўвесь час у трывозе:
 раптам іней ці снег на пасевы —
І панікнуць усходы,
 і заб'е ўсё цыбаты быльнёг!

* * *

Боб тугі пасадзіў я
пад Паўднёвай гарою на схіле,
Травы буйна паўсталі,
квола цягнуцца бобу расткі.

Падымаюся ўранку
і карчую-дзяру пустазелле,
Позні выгляне месяц —
я з матыкай спяшаю дамоў.

Ўецца вузкая сцежка
у сцяне травастою густога,
Вечаровыя росы
заліваюць апратку маю.

Хай прамокне адзенне,
гэта ўсё-ткі не вартае суму:
Аднаго толькі прагну —
пра жаданні свае не забыць.

* * *

З даўніх дзён павялося —
адыходжу я ў горы, на рэкі,
Сярод вольнай прыроды
радасць лесу вядомая мне.

І бяру я з сабою
у хаўрус і пляменніка з сынам,
Скрозь кустоўе пралазім,
па мясцінах пустых мы ідзём.

І тады, і зваротна
між пагоркам праходзім і полем,
І з мальбой пазіраем
на хаціны старэчых людзей.

Там калодзежных зрубаў
на дварах ацалела астача,
Бамбуку там і тута
паўгнілыя мы бачым ствалы.

Запытаў дрывасека,
што ссякаў на сядзібах тых голле:
— Як завуцца мясціны
і куды іх сышлі жыхары?

Дрывасек разагнуўся,
пазірнуў і азваўся адказам:

— Людзі гэтыя ўмерлі,
у жывых больш нікога няма…

«Пакаленне другое —
з ім палац памяняўся і плошча».
Значыць, слоў гэтых даўніх
і па сёння шчэ праўда жыве.

І жыццё чалавека
ёсць гульня перамен-пераходзін,
І ў канцы ён павінен
зноў падацца ў цямотны нябыт.

* * *

Анікога. Ў самоце
крочу я, кій трымаючы ў пальцах,
Павяртаюся сцежкай,
пратаптанай у нетры глухой.

А ў цясніне, ля рэчкі,
з неглыбокай празрыстай вадою,
Гэтак хараша сесці
і стамлёныя ногі памыць.

Працадзіў асцярожна
маладое віно, што паспела,
Ёсць і куры ў хаціне —
і суседа я ў госці гукну.

Вечар. Сонца заходзіць,
змрок гусціцца, шарэе ў пакоі.
Ў ачагу маім вецце
запалала — без свечак відно.

Гэтак радасць прыходзіць,
я бядую: начы не падоўжыць!
Вось і досвіткам новым
забарвела на небе зара.

***Пераклад з кітайскай***
***Міколы МЯТЛІЦКАГА.***



Харун ТАКАК

# ЗГАДКІ З БЫЛОГА

Навелы

*Харун Такак нарадзіўся ў снежні 1955 года ў маленькай горнай вёсачцы каля горада Ушак у Турцыі.*

*Пачатковую школу ён скончыў у роднай вёсцы, а сярэднюю — ва Ушаку. Вышэйшую адукацыю Харун Такак атрымаў у Ізмірскім універсітэце «Дакуз Эйлюль» на ісламскім аддзяленні.*

*Ён займаў розныя пасады ў Міністэрстве народнай адукацыі і ў Кіраўніцтве па справах рэлігій.*

*Працаваў спецыялістам па пытаннях адукацыі ў Галоўным кіраўніцтве па рэлігійнай адукацыі пры Міністэрстве народнай адукацыі, а таксама быў кансультантам пры канцылярыі прэм'ер-міністра.*

*З 1997 па 2008 год з'яўляўся Старшынёй Фонду журналістаў і пісьменнікаў.*

*Сёння піша нядзельныя артыкулы для газеты «Ені шафак», а таксама з'яўляецца сустаршынёй платформы «Дыялог Еўразія», заснавальнікамі якой выступаюць такія вядомыя навукоўцы і літаратары, як Ільбер Артайлы, Чынгіз Айтматаў, Алжас Сюлейманаў, Расціслаў Рыбакоў, Анар, Барыс Марыян, Мухтар Шаханаў, Гіўлі Аласанія.*

*Жанаты, мае траіх дзяцей.*

*Выдадзеныя творы: «Імклівыя наперадзе коннікі», «Вандроўнікі», «Рыцары святла», «Пад чыёй апекай?».*

## Яны не дачакаліся раніцы…

Рака Урал, какетліва паблісківаючы, цякла між сваіх берагоў, на якіх з надыходам вясны расквітнелі дрэвы.

Гэтай парой наваколле было проста ашаламляльнае.

Дом Эргюн бея і Алімэ ханым глядзеў вокнамі на раку Урал, якая, нібыта срэбра, іскрылася ў промнях сонца.

Аднойчы ў іх дом прыйшла госця. З таго дня, як яна з'явілася ў іх доме, шторы на вокнах, што глядзелі на раку, былі заўсёды пазавешваны. Аднаго разу Алімэ ханым пайшла на кухню і, вяртаючыся, заўважыла, што жанчына прыўзняла штору і глядзіць на раку.

Госця глядзела ў задуменні.

Яе вочы былі падобны на аблокі, з якіх можа лінуць дождж.

Яна спытала назву ракі.

Алімэ ханым, вагаючыся, з сумам адказала: «Урал».

Хвалі Урала паглынулі сына гэтай жанчыны. І Алімэ ханым баялася, што госця пачуе назву, расхвалюецца, боль у яе сэрцы зробіцца яшчэ мацнейшым, і яна пачне плакаць, крычаць, пасылаць праклёны.

Алімэ ханым не мела дзяцей, і заўсёды адчувала боль ад усведамлення сваёй бяздзетнасці. Але тут быў іншы выпадак: жанчына раптам страціла дзіця, якое так доўга гадавала… Таму яна чакала, што жанчына пачне крычаць і галасіць.

Аднак госця спакойна сказала: «Якую прыгажосць стварыў Алах!» — і зашморгнула штору.

* * *

У гэту краіну стэпаў я прыехаў каля дзесяці гадоў таму.

Той дзень я запомніў назаўсёды.

Калі наш самалёт прызямліўся ў неабсяжным стэпе, я проста не мог знайсці сабе месца.

Няўжо гэта тыя стэпы Сарыазека, якія апісваў у сваіх раманах Айтматаў?

Праз гэты стэп ехалі цягнікі з Усходу на Захад і з Захаду на Усход?

Няўжо вось у гэтых стэпах бегалі калісьці дзікія, гордыя коні?

Няўжо гэта тыя мясціны, дзе па начах неба дакранаецца да стэпаў, і дзе зоры квітнеюць на галінах дрэў?

У маёй душы жыла радасць ад таго, што пасля доўгіх гадоў расстання я, нарэшце, уз'яднаўся з радзімай продкаў.

Але як толькі адчыніліся дзверы самалёта, мае цёплыя пачуцці зведалі на сабе халодны «бізун» стэпу. За ўсё сваё жыццё я не адчуваў такога холаду, як тады.

Нас чакала афіцыйная дэлегацыя.

Ля дзвярэй самалёта малады чыноўнік ветліва сказаў нам на турэцкай мове: «З добрым прыбыццём!»

І ад гэтага я раптам адчуў, што мая змерзлая душа сагрэлася. Словы на роднай мове нібыта матчыным цяплом ахінулі нашы душы.

Я гэтага не чакаў.

Мы даведаліся, што юнак, які сустракаў нас, закончыў казахска-турэцкі ліцэй і працаваў у турэцкім аддзеле знешніх сувязей.

На наступны дзень мы былі ў Кёшку на ўручэнні ўзнагароды прэзідэнту. Было вельмі прыемна слухаць, як казахскі прэзідэнт узгадаў пра тое, што Турцыя першай прызнала незалежнасць Казахстана, і што нябожчык прэзідэнт Турцыі Азал патэлефанаваў уначы і сказаў: «Брат, ад радасці я не мог дачакацца раніцы!»

Усё ўбачанае і пачутае выклікала ў сэрцы гонар за маю краіну.

Казахі вельмі шануюць Азала.

Яны вельмі шануюць тых, хто «выпраўляецца ў шлях, не чакаючы ранку». Як бы сонца з усяе сілы ні намагалася сагрэць гэты горад, дзе дамы ад холаду туляцца адзін да аднаго, яно слабое перад адзінствам ледзянога марозу і стэпавага снегу.

Гуляючы пад лёгкімі сняжынкамі, што лunalі ў промнях святла, мы сустрэлі дзіўнага чалавека, на якім не было нават паліто. Нягледзячы на тое, што гэты чалавек, які стаяў перад намі, нібы сумная статуя, быў сярэдняга росту, ён глядзеў так, быццам знаходзіцца на вяршыні гары.

Здавалася, яго плечы згіналіся ад горкага смутку.

З вачыма, поўнымі тугі, ён нагадваў пелікана, які застаўся адзін сярод ільдзін.

Я ўбачыў гэтага чалавека і ўзрадаваўся. Яго называлі бацькам Ясіна.

Мужчына паказаў нам чорна-белую расчоску, якую дастаў з кішэні, і сказаў: «Гэтай расчоскай Ясін расчэсваў свае валасы».

Раней я ўжо чуў гісторыю Ясіна, і ў маёй душы з’явіліся супярэчлівыя пачуцці.

Я быў нібыта ваенны карэспандэнт, які апынуўся паміж двух ворагаў. Я ўсё роўна як трапіў у самую сярэдзіну завірухі.

Што робіць тут бацька Ясіна?

Навошта ён прыехаў у гэту далёкую краіну?

Навошта мерзне на халоднай чужыне?

Каб не хваляваць засмучанага бацьку, я ні пра што не асмельваўся спытаць.

Мы жылі ў хаце настаўніка Эргюна. З Алімэ ханым — яго адданай жонкай — яны ўзялі шлюб восем гадоў таму. І ўвесь гэты час заставаліся бяздзетнымі. У доме не чуваць было галасоў, якія клікалі б маму і тату, і таму нас ахінала маўклівая нуда. Іх дом быў вельмі сціплы, затое краявід за вокнамі — ашаламляльны. Вокны глядзелі на раку Урал. Мы прабылі ў горадзе некалькі дзён і тады ўведалі гісторыю Ясіна.

Ясін быў другім сынам у сям’і Чалкым з Акхісара.

Яго сям’я зарабляла сабе на жыццё, працуючы на ферме.

Ясін быў старанным вучнем, які закончыў школу з выдатнымі адзнакамі. 23 красавіка дзякуючы сваім школьным дасягненням ён быў прадстаўніком сваіх сяброў у якасці старшыні дзіцячага муніцыпалітэта.

Ясін паспяхова скончыў таксама ліцэй і вырашыў у Сярэдняй Азіі атрымаць універсітэцкую адукацыю, пра якую даўно марыў.

Маці, праводзячы яго тужлівым позіркам, развіталася з ім у вёсцы, а бацька правёў да аўтавакзала.

Апошні раз Ясін памахаў рукой бацьку з акна аўтобуса.

Гэта быў апошні раз, калі бацька і сын бачылі адзін аднаго.

Дамоў Сінан бей вяртаўся па вузкіх вулках, каб ніхто не бачыў яго слёзы.

Калі Ясін прыехаў на радзіму продкаў, яму было толькі васямнаццаць гадоў. Ён быў такі прыгожы, далікатны і высакародны, што неўзабаве спадабаўся ўсім вучням.

Яго чорныя вочы на фотаздымку прымушаюць забыцца на ўсё.

На ім белая майка з расшпіленым каўняром…

Валасы з непаслухмянай пасмай чорнага, нібы бяззорнае неба, колеру.

А вочы быццам прамень святла ў цёмным лясным гушчары.

Аднойчы ўлетку гэты прыгожы юнак разам з вучнямі пайшоў на пікнік.

Трохі паводдаль працякала каламутная рака Урал.

Каб злавіць мяч, які паляцеў у ваду, вучань па імені Нурсултан скочыў у раку.

Хлопчык пачаў тапіцца ў шалёных водах Урала.

Калі Ясін пачуў немы крык, ён падумаў: «Мы адказваем за гэтых дзяцей. Што я скажу яго сям’і?» і кінуўся ў вірлівую ваду, выхапіў дзіця з «жорсткай хваткі» Урала.

Але Урал, які страціў сваю здабычу, раз’юшыўся. Замест страчанай здабычы, якую Ясін з цяжкасцю выштурхнуў на бераг, рака забрала самога Ясіна.

Пасля таго, як ён выштурхнуў хлопчыка з вады, багна на дне ракі зацягнула Ясіна і «паклала яго ў свой глеісты ложак».

Вецер «прачытаў» надмагільную прамову ў стэпах.

Мільганулі крылы, і птушка страпянулася на галінах дрэва, якое кідала цень у жнівеньскую гарачыню.

Вучні, нібыта параненыя птушкі, калаціліся на беразе ракі.

У стэпе перапыніўся галоп «чыстакроўнага арабскага скакуна».

Журботная вестка хутка дайшла да яго сям'і.

Дзеля бяспёрых яшчэ птушанят, дзеля сваёй любові да іх Ясін загінуў у імклівых водах Урала.

Казахі пахавалі Ясіна ў сваёй зямлі.

«Мы хочам, каб гэты «малады парастак», які прынёс у ахвяру сваё жыццё дзеля нашых дзяцей, заставаўся ў нашай зямлі, хочам, каб ён, быццам сцяг, лунаў у стэпах Казахстана», — сказалі яны.

І Ясін зрабіўся нібыта адлігай для земляў Азіі.

Бацьку і маці, сын якіх застаўся ля падножжа Цянь-Шаня, зрабілася цесна ў Турцыі.

«Нашы мясціны бязлюдныя, нашы душы пустыя без цябе, сынок… Мы не можам без цябе», — сказалі яны, прадалі ўсё, што мелі, і назаўсёды перасяліліся туды, дзе застаўся ляжаць іх Ясін.

* * *

Калі праз дзесяць гадоў я зноў прыехаў у гэту краіну стэпаў, зноў падаў снег.

Холад стэпаў зноў панаваў над горадам. Дрэвы, нібыта нявесты ў белым вэлюме, упрыгожвалі горад. У Чымкенце, што размясціўся ў глыбіне стэпаў, я сустрэўся з Эргюн беем. У яго нарадзіўся сын, якога назвалі Юсуф Кямалям. Магу толькі здагадвацца, якой шчаслівай была Алімэ ханым.

Бацьку Ясіна я таксама сустрэў.

Ён разам са сваёй жонкай вырабляў і прадаваў малочныя прадукты ў Алматы, зарабляючы сабе на жыццё.

Посуд на працы ўручную мыла маці Ясіна.

Гэту жанчыну-гераіню турэцкія і казахскія жанчыны абралі «маці года».

Ёй хацелі падарыць пасудамыечную машыну, але Ясінава маці не ўзяла гэты падарунак. Яна была сапраўднай анаталійскай маці, якая адмовілася і ад пасмяротных выплат за свайго сына. Яна сказала: «Я аддала свайго сына не дзеля месячнага заробку, а ў імя Алаха!»

* * *

У стэпах зноў падаў снег, мяккі, нібыта дотык анёла…

Падаў так, быццам баяўся нашкодзіць тым, хто на зямлі…

Усе «імклівыя наперадзе коннікі», якія пайшлі, так і не дачакаліся світання, ляжаць у адным садзе. Горы Цянь-Шаня нібыта белы помнік у галовах гэтых храбрацоў.

Над іх галовамі — нябёсы, падобныя да занадта рана зжатага поля.

Наш засмучаны позірк трапляе на прыцярушаны снегам мармур:

«Шахід[1] Ясін Чалкым».

---

[1] Шахід — пакутнік, які памёр пакутніцкай смерцю.

## Каханне тых, каго раскідаў па стэпах цягнік смерці, ніколі не скончыцца!
## *(або Апошні позірк на каханне)*

«Для маладой дзяўчыны, якую штурхнулі ў вагон, усё навокал круцілася. Яе валасы былі ўскудлачаны, вочы з-за пралітых слёз набрынялі крывёй, яна была амаль у непрытомнасці. «Ну, паглядзі! — закрычаў салдат справа ад яе. — Хто з іх твой бацька?» Яна міжволі ўзняла галаву і праз апушчаныя валасы, што закрывалі яе твар, зірнула вакол. Калі яе вочы сустрэліся з вачыма брыдкага барадатага чалавека, які сядзеў у кутку ля акна, з глыбіні яе душы проста да горла ўзняўся вокліч, што пасля безнадзейнай адчайнай барацьбы вымушаны быў знікнуць, нібыта нячутныя гукі ў калодзежы. «Не, — толькі і змагла вымавіць дзяўчына. — І ў гэтым вагоне яго няма». Салдат злева стукнуў па твары і без таго змучанай болем дзяўчыны, пасля сказаў: «Пайшлі». Калі яны выйшлі з вагона, ніхто не заўважыў, як душа яе бацькі ўсё роўна як памерла».

Гэты аповед я пачуў ад настаўніка Зафера ва Ускюдары, седзячы ў двары мячэці, якую ўзвёў дойлід Сінан на заказ дачкі Сулеймана Кануні Міхрыман-султан, той парой, калі лісцё вялікай чынары ахутала нас пярэстым восеньскім покрывам. На шырокія карнізы мячэці ўжо апусціўся цень. Словы настаўніка турэцкай мовы Зафер бея я слухаў з цікавасцю археолага, які дакрануўся да мармуровай скуры гісторыі.

1995 год. Халаднаватая верасснёўская раніца. Зафер бей хутка, нібыта вучань, які спазняецца, крочыць у сваю школу. Ён, як заўсёды, у касцюме цёмна-сіняга колеру, вецер злёгку варушыць яго валасы. Сёння ён перажывае асаблівае хваляванне, таму што яго чакае знаёмства з новым класам. Тое, што адбылося ў класе ў той дзень, я запісаў са слоў настаўніка Зафера:

«Я ўвайшоў у клас і сказаў: «Дзеці! Давайце пазнаёмімся і раскажам пра цікавыя падзеі, якія адбыліся з вамі». Вучні пачалі па парадку называць свае імёны і расказваць пра свае самыя незабыўныя ўражанні. Надышла чарга Айдоса. Ён спакойна ўстаў са свайго месца і ледзь чутным голасам пачаў гаварыць:

«Мы з ахыска-туркаў. Мая сям’я жыла ў прыгожым пасёлку каля Батумі. Другая сусветная вайна была ў самым разгары. Майму дзядулю было дваццаць, а бабулі васямнаццаць гадоў. Яны ўзялі шлюб каля трох месяцаў таму, а мо і таго меней. З-за таго, што яны надта кахалі адно аднаго, у пасёлку іх звалі Ферхат і Шырын[1]. Яны цешыліся першымі шчаслівымі месяцамі сямейнага жыцця. Мой дзядуля хаваў у нагруднай кішэні вышываную бабуляй хустачку, а бабуля насіла на шыі падоранае дзядулем кальe.

Свае першыя словы кахання яны, стоячы на скале, кінулі ў бурлівыя хвалі Чорнага мора:

— Ты маё святло Месяца.

— Ты маё святло Сонца».

Прыгажосць аповеда настаўніка турэцкай мовы Зафер бея выклікала ў мяне захапленне. Яму прызначалася мая ўсмешка, але ён не звярнуў на гэта ўвагі і працягваў расказ Айдоса:

«Той лістападаўскай ноччу ў пасёлку ўзняўся вельмі моцны вецер. Начную цішыню парушыў шум ваенных грузавікоў. Святло іх фар, якое ўспарола начную цемру, асвятліла пасёлак як днём.

Было дзве гадзіны ночы… Салдаты прыкладамі стукалі ў дзверы дамоў. Яны выбівалі дзверы тых дамоў, гаспадары якіх спалохаліся і не адчынялі,

[1] Вядомая гісторыя кахання Ферхата і Шырын.

і разам з начным холадам заходзілі ўсярэдзіну. Як можна здагадацца, з дамоў, што патаналі ў цішыні, пачуліся гучныя крыкі.

Усе мусілі як найхутчэй сесці ў грузавікі. Немцы былі вельмі блізка, і на загад Масквы ўсе вёскі ўздоўж фронту жыхарам належыла пакінуць для іх жа ўласнай бяспекі. Адным словам, прыдумалі ўсе ўважлівыя прычыны, каб спраўдзіць задуманае.

Дзеці абудзіліся ад сваіх салодкіх сноў. Маладых, старых, хворых — усіх у холадзе ночы пасадзілі ў грузавікі. У цемры яны апошні раз засмучанымі вачыма зірнулі на дарагую іх сэрцам вёску.

Сярод начы людзей высадзілі на чыгуначнай станцыі. Што чакала гэтых гаротнікаў, якіх пазапіхалі ў вагоны так, што яблыку не было дзе ўпасці, стала зразумела пасля таго, як дзверы вагонаў пазабівалі звонку дошкамі. У іх не было ні ежы, ні цёплай вопраткі. Цягнік пачаў доўгі шлях па неабсяжнай пустыні. Людзі, хто ад голаду, хто з-за страху, хто ад холаду, хто праз хваробы паміралі адно за адным. Так стэп зрабіўся магілай для тысяч людзей. Завязлыя ў горле крыкі па кожным памерлым зрабіліся адным агульным «галасам» гэтых вагонаў, у якіх нават плач лічыўся прыкметай мяцяжу.

Старэнькая маці майго дзядулі памерла ў яго на руках. Людзі нават не маглі схадзіць у прыбіральню. Шмат у каго з цнатлівых жанчын палопаліся жоўцевыя пузыры. «Месячнае» і «сонечнае» святло зразумелі, што гэты шлях не мае канца, і вырашылі выскачыць з вагона, счакаўшы, калі ахоўнікі на імгненне страцяць пільнасць. Мой дзядуля выскачыў, але бабулю ў апошні момант схапіў за руку салдат і пакуль жаласна вылі сірэны цягніка, апошнімі словамі яе «сонечнага» святла, якія яна пачула, было яе імя. «Хаджэ-э-э-э-р!» — закрычаў ён.

Яна ніяк не магла зразумець, які боль мацнейшы: ад удараў, што ўвесь час сыпаліся на яе змучанае цела ці ад таго, што яна, магчыма, больш ніколі не ўбачыць сваё «сонечнае» святло. Скрываўленая, яна ляжала на падлозе. Для таго, каб застрашыць тых, хто надумаў уцякаць, два салдаты падхапілі яе пад рукі і пацягнулі, каб высветліць, ці ёсць у яе яшчэ знаёмыя».

Вось такая перадгісторыя той, пра якую я ўзгадаў на самым пачатку.

Настаўнік Зафер расказваў, а навокал чуліся гудкі параходаў і крыкі чаек, цені рабіліся даўжэйшымі.

«А што тады?» — з цікавасцю спытаў я.

Было відавочна, што Зафер бей рыхтаваўся наноў перажыць той момант.

«Тады рускі афіцэр схапіў за валасы жанчыну, якая амаль страціла прытомнасць, падняў на ногі, прыціснуў да сцяны і наставіў да яе галавы пісталет. Калі ён ужо хацеў выстраліць, нянавісць на яго твары раптам знікла, ён перадумаў і апусціў зброю. Тады павярнуўся да салдата, які стаяў побач і сказаў: «Спытайце, чаму яна прыціскае рукі да жывата?» Словы: «Я цяжарная», якія зляцелі з яе вуснаў у імкненні абараніць яшчэ ненароджанае дзіця, уратавалі бабуліна жыццё.

Шлях быў доўгі і заняў шмат дзён. А пасля людзей пачалі высаджваць у глухіх бязлюдных мясцінах. Тых, хто меў аднолькавыя прозвішчы, наўмысна, каб яны не знайшлі адно аднаго, высаджвалі на розных станцыях. Калі на адной са станцый высаджвалі групу людзей, праз шчыліну ў дошках вагона бабуля ўбачыла, як высадзілі яе маці, якую яна паклікала з натоўпу, што заставаўся ў вагоне. Маці пачула яе голас і кінулася да вагона, з якога ён чуўся, але салдат прыкладам спыніў яе.

Пасля яна ўбачыла, як на наступнай станцыі высаджваюць яе бацьку. І зноў над халоднымі чыгуначнымі пуцямі пачуўся яе крык.

Цягнік ехаў не спыняючыся сямнаццаць дзён. У той час, як вага целаў, якія вёз гэты цягнік, рабілася ўсё меншай, зусім іншы груз прымушаў яго

«знемагаць». І цягнік, і чыгунка страшэнна стаміліся ад жалю і расстання. Нарэшце цягнік спыніўся проста пасярод пустыні. Разам з нешматлікімі людзьмі, якія засталіся жыць, бабуля выйшла з вагона. Іх кінулі на волю лёсу. Бабуля і некалькі яе сяброў знайшлі прытулак у казахскім ауле.

Мой бацька, які ўратаваў сваю маці ад пякучых абдымкаў смерці, нарадзіўся менавіта там. Паўстагоддзя мінула з таго дня, калі гэтыя рукі, якія пяшчотна трымалі адна адну, раз'ядналі», — сказаў Айдос на заканчэнне свайго аповеда.

Ён больш не мог стрымаць рыданняў. Але супакоіўся і працягваў:

«Бабуля дагэтуль верыць, што дзядуля вернецца. У доме ёсць тахта, якая прызначана менавіта для яго, за сталом для яго заўсёды кладуць асобную лыжку. Калі хтосьці звоніць у дзверы, бабуля з надзеяй спяшаецца да дзвярэй. Хтосьці сказаў ёй, што яе «сонечнае» святло жыве ў Турцыі. З гэтай прычыны, калі ў Казахстане пачала працаваць турэцкая школа, бабуля запатрабавала, каб яе ўнука аддалі менавіта туды. «Калі ты не зробіш гэтага, я табе не дарую ніколі», — сказала яна сыну.

Сярэднюю адукацыю я атрымаў у турэцкай школе ў Казахстане. Бабуля прасіла мяне паехаць у Турцыю, каб працягваць адукацыю і каб прывезці ёй весткі пра яе Ферхата, калі ён яшчэ жывы».

У гэты момант адзін з вучняў, які стаіў дыханне і ўважліва слухаў аповед Айдоса, усхвалявана ўскочыў са свайго месца і здзіўлена ўсклікнуў: «Настаўнік, Ферхат бей, пра якога расказвае Айдос, — мой дзядуля. Ён жывы, ён у нас дома!»

Айдос збянтэжыўся. Выціраючы слёзы, ён падбег да Мехмета, і яны абняліся. На дрэвах, што расквітнелі ў зімні дзень, якому, здавалася, не будзе канца, з'явіліся плады, якія «сустрэліся» ў першыя дні вясны, што надышла ў Азіі. Твар настаўніка Зафера быў падобны на зямлю, якую акрапіў летні дождж. Ён пагладзіў Мехмета і Айдоса па галовах, а пасля сказаў: «Павыцірайце слёзы. Мы тут, каб аблегчыць ваш боль. Не будзем губляць часу, хадзем да дзядзькі Ферхата».

Дзверы адчыніла Мехметава маці Джанан ханым. «Я прывёў да Ферхат бея яшчэ аднаго ўнука», — сказаў хлопец і запнуўся. Дрэвы сустрэліся са сваімі каранямі. Пасля пацалункаў і абдымкаў Ферхат бей запытаў унука пра тое, што яго хвалявала: «Мая Хаджэр яшчэ жывая?» «Так, — адказаў унук, — але калі я ад'язджаў сюды, яна была вельмі хворая». На наступны дзень яны купілі білеты на самалёт.

Да самай раніцы Ферхат бей сядзеў ля акна. «Што, калі я не паспею, што, калі не ўбачу маю Хаджэр? — казаў ён сам сабе. — Не памірай, мая Хаджэр! Не памірай, маё святло Месяца! Я іду да цябе!»

Першым жа самалётам яны паляцелі ў Казахстан. Іх сустрэў бацька Айдоса. «Хто гэтыя госці, сынок?» — спытаў ён з цікавасцю, таму што па тэлефоне Айдос не сказаў, хто прыедзе разам з ім.

«Калі я называў цябе татам, у цябе заўсёды сціскалася сэрца, і ты казаў мне: «Ведаеш, сынок, я за ўсё сваё жыццё нікому не мог сказаць «тата», і твае словы прымушалі мяне апускаць галаву. Дык вось, я прывёз табе бацьку», — сказаў Айдос. Ферхат бей і яго сын Садык абняліся. Праз паўстагоддзя іх вопратку акрапілі гарачыя слёзы радасці. Па дарозе дадому Ферхат бей расказаў сыну сваю гісторыю:

«Калі я саскочыў з цягніка смерці, ты быў у жываце тваёй маці. Мая Хаджэр на змагла выратавацца з рук салдатаў. Клапоцячыся пра цябе, яна не змагла саскочыць. Ты раз'яднаў нас, сынок, але сёння ты нас і аб'ядноўваеш».

Ён глыбока ўздыхнуў і працягваў: «Я перажыў многа цяжкасцей, а тады праз мяжу ля Карса трапіў у Турцыю, пасля чаго накіраваўся ў Стамбул. У газетах пісалі, што ўсе пасажыры з цягніка смерці загінулі. Я застаўся жыць, але маё жыццё немагчыма назваць жыццём, я нібыта і не жыў зусім, сынок».

Яны падышлі да дома. Дзверы адчыніла жонка Садык бея. Гаспадар увайшоў у дом і гучна сказаў: «Бацька, бацька прыйшоў!» З сярэдзіны дома пачуўся слабы голас: «Усё жыццё ты падманваў мяне, сынок, кажучы, што тата вярнуўся, але я, нягледзячы на гэта, ведала, што гэта няпраўда, аднак жа ўсё роўна бегла да дзвярэй. Калі б я магла, дык і зараз бы пабегла да майго Ферхата, але я больш не магу ўстаць». І тут яна ўбачыла Ферхат бея.

* * *

«Мая Хаджэр, маё святло Месяца», — сказаў ён.

«Мой Ферхат, маё святло Сонца, значыць, ты ўсё ж такі прыйшоў».

Яны ўзяліся за рукі, як тады, калі наважыліся саскочыць з цягніка. Ферхат бей адразу ж спытаў пра тое, што цягам доўгіх гадоў паліла яго сэрца: «Хаджэр, чаму ты не скокнула? Чаму кінула мяне на волю лёсу, пакінула самнасам з бясконцым болем?»

Ён выцягнуў з-за пазухі хустачку, якую яна калісьці вышывала. «Я ўсё жыццё ўдыхаў яе водар, думаючы пра тое, што яна захоўвае твой пах. У адзінокія ночы без цябе яна асушвала мае слёзы».

«Я не змагла саскочыць, Ферхат, я памятала пра нашага малога, і не здолела скокнуць. Тое імгненне зрабілася іскрай, якая распаліла пажар нашага расстання, што доўжылася паўстагоддзя. Але цяпер гэта не мае значэння, галоўнае — я яшчэ раз убачыла цябе, цяпер, калі я і памру, дык, ва ўсякім разе, памру найшчаслівейшай».

«Калі мы сядзелі на той скале, на беразе Чорнага мора, ты гэтаксама глядзела на мяне», — сказаў Ферхат бей. На імгненне прыгожыя блакітныя вочы Хаджэр ханым заззялі. На зблякылым твары з'явілася ўсмешка. У апошні раз яе вусны заварушыліся, вымаўляючы шахаду — найпрыгажэйшыя словы перад уз'яднаннем з вечнасцю. Пасля гэтага ў доме пачуўся крык. Вочы, яшчэ зусім нядаўна расплюшчаныя, заплюшчыліся.

Калі разнялі яе моцна сціснутыя пальцы, дык убачылі, што ў далоні яна трымала калье — падарунак яе «сонечнага» святла».

Ва Ускюдары пачуліся гукі вячэрняга азану. У адзін дзень настаўнік Зафер перажыў і шчасце, і боль. «Ну што ж, — сказаў ён, — мы любім, калі дрэвы злучаюцца са сваімі каранямі. Мы любім і Белую Азію, і Чорны кантынент. Мы любім злучаць кантыненты. Мы любім тую ролю, якая нам наканавана. Мы любім свой боль».

* * *

Гэтыя самаадданыя людзі, якія глядзяць на сваю краіну, як на Ляйлу, аб'ядноўваюць Ляйл і Мяджнунаў[1]. Нягледзячы на тое, што сэрцы іх пячэ туга па радзіме, яны працягваюць гасіць адвечныя пажары. Таму што і зямля, і нябёсы цягам доўгіх гадоў чакалі гэтых адважных смельчакоў. Нібыта вясёлыя рэкі бягуць яны насустрач вялікаму акіяну, з кожнай хвілінай паскараючы свой рух.

Гэта людзі, якія прысвяцілі сваё жыццё адно аднаму. Яны рыхтуюць свет да надыходу новай вясны.

---

[1] Вядомая легенда пра закаханых Ляйлу і Мяджнуна, якіх разлучылі.

Хіба ж не перамога гэта «вестуноў кахання», дзякуючы якім у глыбінях сэрцаў квітнеюць краскі цярплівасці?

## «Мама, мы не жабракі!»

Мястэчка схавалася ў сваёй «ракавіне», далей ад шуму і празмернага тлуму.

Як толькі павяваў ветрык, лістота ўсіх адценняў чырвонага колеру падала з галін і змешвалася разам з той, якая ўжо ляжала кучамі на зямлі; нават рэдкія рухі ў навакольнай млявасці нібыта крычалі пра тленнасць.

З коміна кожнага дома ў Анталіі, нібыта дым, узнімаліся ў неба душэўны боль і пакуты, у кожным раёне чуліся памінальныя спевы па загінуўшых у Йемене.

«Зайграў гармонік, ты падумаў, што гэта вяселле? Падумаў, што гэта нявеста ідзе? Падумаў, што тыя, хто пайшоў у Йемен, вернуцца назад?»

Старая ў чорнай хустцы, абвязанай вакол шыі, сядзела на лесвіцы адрыны перад домам і, грэючыся ў памеранцавых промнях ужо халаднаватага сонца, прала воўну.

Яна думала пра двух адважных сыноў, якіх паадпраўляла ў Йемен, пра нявестак і воўну.

* * *

Гады Першай сусветнай вайны…

У Йемене, нібыта ў пекле, гарачыня ўсё ўзмацнялася і ўзмацнялася.

Наш гераічны сёмы корпус змагаўся не толькі з добра ўзброенымі салдатамі Антанты, але і з гарачай пустыняй, голадам, смагай і малярыяй, якая апякала, нібы запаленая лучына.

Салдаты паміралі адзін за адным, у пустыні капалі агульныя магілы. Шмат хто з мехмедчыкаў[1] меў агульную магілу ў бязлюднай пустыні.

Ім наканавана было памерці ў гарачай пустыні ўдалечыні ад матчыных абдымкаў, роднага котлішча, далёка ад каханых, але спачатку на дарозе, што вяла да смерці, іх чакалі страшэнныя пакуты…

Пустыня падрыхтавала для іх свае ўласныя «прыгоды». Часам гэты былі падобныя на сканчэнне свету пясчаныя віхуры, часам — поўная цішыня, якая ахінала людзей… Часам — гарачая печ, якая ўзгаралася ад сонечнага агню.

Асабліва ў тыя хвіліны, калі ў біклагах канчалася вада, язык у роце, нібыта вогненны шар, абпальваў усё, да чаго дакранаўся.

А часам з пяску раптам з’яўлялася ядавітае насякомае, і няшчасны мехмедчык паміраў, скурчваючыся на зямлі…

Пустыня была вераломнай, тут на кожным кроку чакала смяротная пастка.

Калі заканчвалася пустыня, пачыналіся стромкія спускі і абрывы.

У пустыні, на стромкіх спусках, невыносна было глядзець не толькі на пакуты людзей, але і на пакуты коней.

Мехмедчыкі спяшаліся на крыкі, што чуліся з вёсак, мястэчак і гарадоў, захопленых мяцежнікамі, якіх падбухторвалі англічане.

Смуглявыя твары гэтых зусім яшчэ маладых і адважных хлопцаў схуднелі, іх шчокі запалі, падбародкі завастрыліся, вочы ўваліліся, позіркі згаслі.

Што тычыцца пакут, якія напаткалі грамадзянскае насельніцтва, жанчын і дзяцей у акупаваных гарадах і мястэчках, дык гэта было проста невыносна.

[1] Ласкавая мянушка турэцкіх салдат.

Цягам доўгіх месяцаў мужчыны і жанчыны, дзеці калаціліся ад ветру, які выў у верасовых кустах, у далінах і на ўзгорках, адчувалі, як дождж праймае іх да самых касцей.

У брудзе з ног да галавы гэтыя небаракі пазбавіліся цывілізацыі, яны сушылі мокрую вопратку, якая была на іх, проста на сонцы.

Хаўтуры былі гэткімі ж журботнымі, як і смерць, у памерлых не было ні пакрывала, ні труны.

Тое, што адбывалася перад атакай на ворага, таксама нікога не пакідала абыякавым.

Усе прасілі адно ў аднаго прабачэння і прабачалі самі, яшчэ раз успаміналі сваю вёску, маці, каханых, дзяцей, нявест, а калі гарматы раптам пачыналі паліць, з крыкамі «Алах! Алах!» выскоквалі з акопаў.

У тыя ночы, калі ззяў месяц, бой доўжыўся да самай раніцы, таму салдатам падабаліся хмарныя і бязмесячныя ночы, якія дазвалялі ім адпачыць. Знайсці густы хмызняк ці дрэва, ля якога можна было перадыхнуць, было вялікай раскошай.

Як горка, што нягледзячы на вялікую колькасць гераічных учынкаў і самаахвярнасць, згодна з пагадненнем аб Мудроскім перамір'і, якое мусіў падпісаць Стамбульскі ўрад, нашы ваенныя падраздзяленні ў Йемене, гэтак сама як і на іншых кантынентах, мусілі скласці зброю і здацца краінам Антанты.

Такім чынам, праз 401 год мы страцілі Йемен, які султан Явуз далучыў да земляў Асманскай імперыі.

Больш за 300 тысяч нашых шахідаў засталіся ў гарачай пустыні, у стромкіх скалах.

Шчодра пралітая кроў змяшалася разам з гарачым пяском.

Усіх нашых газі[1], у тым ліку хворых, параненых, сляпых, кульгавых павезлі ў лагеры ваеннапалонных у Егіпце — каля мільёна мехмедчыкаў. Іх дзеці засталіся сіротамі, жонкі — удовамі, а маці — адзінокімі ў безвыходным становішчы.

У доўгія зімовыя вечары ў дамах Анатоліі чуліся шчырыя галасы іх каханых:

«Уначы да мяне даляцеў голас здалёк, гэта ты паклікаў мяне з пустыні Йемена?»

Уся Анатолія ператварылася ў адно вялікае вока, якое плача.

Можна сказаць, што, калі б пустыню можна было ажывіць крывёй і слязамі, дык Йеменская пустыня ўжо даўно б квітнела садамі і вінаграднікамі.

Як гаварыў М. Ніязі Аздэмір: «Калі б смерці народа было дастаткова, каб ператварыць краіну ў радзіму, дык хто б сумняваўся ў тым, што Йемен зрабіўся б нашай радзімай?»

Як шкада, што цяпер у гэтых бязлюдных далінах, у гэтых вялікіх пустынях няма ні надмагілляў, ні тых, хто іх наведвае… Шмат якія сем'і больш не атрымалі ніякіх звестак пра сваіх сыноў, накіраваных на перадавую.

А тыя, што вярнуліся назад, убачылі, што іх сыны, якіх яны пакінулі зусім маленькімі, ператварыліся ў дарослых хлопцаў, а дочкі ўжо зрабіліся нявестамі.

Адным з тых, што вярнуліся з Йемена, быў Адзіль з мястэчка Кадынханы.

Разам з іншымі ваеннапалоннымі ён трапіў у лагер, размешчаны ў Егіпце.

У лагеры сярод палонных газі, якія страцілі рукі і ногі, асабліва многа было сляпых. Яны сядзелі ля дзвярэй барака ці пад шатамі дрэў, прыслухоўваючыся да навакольных гукаў. А калі яны, абапіраючыся адно на аднаго, ішлі ў сталоўку ці ў прыбіральню, на гэты немагчыма было спакойна глядзець.

[1] Газі — удзельнік вайны.

Аднойчы Адзіль кіраваўся да невялікай мячэці, каб выканаць дзённы намаз і пачуў, як сляпы чалавек пытаўся: «Ці ёсць хто з Коніі? З Коніі?»

Адзіль падышоў да яго і сказаў: «Я з Коніі».

Сляпы расхваляваўся. «Адкуль ты?» — спытаў ён.

«Кадынханы».

На твары сляпога з'явілася разгубленасць, а з яго вуснаў вырваўся здзіўлены крык: «Адзіль, гэта ты? Няўжо ты, Адзіль?»

«Ты… Хюсейін Агабей… Гэта ты?»

Яны заплакалі і абняліся.

«Што здарылася з тваімі вачыма?»

«У пустыні Сіна англічане выкарысталі іпрыт, усе ў дывізіёне страцілі зрок, дзякуй Богу, што мы яшчэ раз сустрэліся ў гэтым свеце. Аслеплыя, мы трапілі ў палон і вандруем з аднаго лагера ў другі… А ў цябе мыліца, што здарылася?»

«Артылерыйскім снарадам адарвала правую нагу».

Тут, у лагеры ваеннапалонных, лёс звёў двух братоў, якія дзесяць гадоў таму паехалі з вёскі.

Тое, як яны ішлі, дапамагаючы і абапіраючыся адзін на аднаго, нікога не магло пакінуць абыякавым. Адзіль мыў Хюсейінаву бялізну, дапамагаў яму.

Нягледзячы на тое, што за доўгія дні зняволення дзве трацiны ваеннапалонных загінулі праз перажытыя пакуты, голад і хваробы, тыя, што засталіся жыць, мелі магчымасць вызваліцца ў выніку абмену палоннымі.

Адзіль разам са старэйшым братам Хюсейінам на параходзе прыплылі ў Ізмір. У тыя дні Ізмір быў акупаваны. Браты паказалі грэчаскім вайскоўцам дакументы пра сваё вызваленне з палону і змаглі ступіць на анаталійскія землі.

Хюсейін трымаў руку Адзіля. Разам яны селі на цягнік, які ішоў праз Кадынханы.

Вагоны былі перапоўненыя. У купэ, калідорах, тамбурах — паўсюль былі няшчасныя вайскоўцы, якія страцілі на вайне рукі, ногі, вочы і зараз вярталіся з палону.

Яны выйшлі ў Кадынханы.

Перад вачыма паўсталі дні дзяцінства, калі яны бесклапотна бегалі па нядаўна скошаных жытнёвых палях, разам даглядалі жывёлу… Гэта былі цудоўныя дні…

Яны прыехалі без багажу, ніякіх рэчаў у іх не было. Калі яны ішлі па вуліцах мястэчка, ніхто іх не пазнаваў. Людзі проста са спачуваннем глядзелі на іх.

Адзіль наблізіўся да дома і ўбачыў маці ў чорнай хустцы на лесвіцы адрыны.

Зморшчыны на яе твары зрабіліся яшчэ глыбейшымі, шчокі ўваліліся.

Хоць яе сукенка зліняла, Адзіль пазнаў яе.

Маці павярнула галаву і ўбачыла людзей у рыззі — адзін сляпы, другі кульгавы, абапіраецца на мыліцу. Абодва накіраваліся проста да яе.

«Гаспадара няма дома», — сказала яна.

З-за неўрадлівага года ў вёсках і мястэчках было многа жабракоў.

Хюсейін пазнаў голас маці.

Абодва яны ішлі так, нібыта не чулі, што ім сказалі.

«Што за бессаромныя людзі, я ж кажу, гаспадара няма дома, прэч адсюль», — сказала яна і павярнулася да сваёй воўны.

Хюсейін больш не мог стрымлівацца, з яго вачэй паліліся буйныя слёзы, а яго гучны крык добра пачуўся ў цішыні: «Мама, мы не жабракі, мы твае сыны…»

***Пераклад з турэцкай Ірыны КАЧАТКОВАЙ.***

Алесь БАРАНОЎСКІ

# ГУМАНІСТЫЧНЫ ХАРАКТАР ТВОРЧАСЦІ АНАТОЛЯ ГРАЧАНІКАВА

Сутнасць паняцця «гуманізм», як адзначаецца ў «Філасофскім энцыклапедычным слоўніку», у тым, што цэнтрам увагі мысляроў, мастакоў, навукоўцаў становіцца чалавек. Найбольшага развіцця антрапацэнтрызм дасягнуў у эпоху Адраджэння, якая паяднала схільнасць мастакоў да авалодання навуковымі метадамі спазнання свету, паглыбленае вывучэнне натуры і адначасова ўвагу да ўнутранага свету герояў твораў («Шулеры» — М. Караваджа, «EcceHomo» — А. Дюрэр і інш.). У ХХ стагоддзі, як лічыць Г. Кірыленка, свет «канчаткова губляе якасць маналітнасці, становіцца мазаічным, чалавеку ўсё цяжэй звязаць сябе з вызначанай, устойлівай сістэмай вонкавых акалічнасцей» [1, с. 535], а таму ён «становіцца праблемай для самога сябе» [1, с. 535]. І калі ў выяўленчым мастацтве на пэўным этапе яго развіцця вырашэнне праблемы індэнтыфікацыі асобы характарызавалася адмаўленнем ад «жыццяпадабенства» пры адлюстраванні форм сапраўднай рэчаіснасці, што непазбежна выклікала схематызм у вобразах і характарах, то беларуская літаратура нават у часы сваіх найбольшых пошукаў і эксперыментаў у поўнай меры выразіла гуманістычныя памкненні аўтараў, заснаваныя на псіхалагічным напаўненні твораў, іх філасофскім падтэксце.

У рэчышчы этычных і эстэтычных пошукаў беларускай літаратуры адмысловае месца належыць паэту Анатолю Грачанікаву, творчасць якога вызначае адну з арыгінальных ліній у распрацоўцы маральна-этычнай тэматыкі. Ён у сваёй лірыцы змагаўся за чысціню чалавечых адносін і памкненняў, з прыхільнасцю ставіўся да вечных і заўсёды актуальных праблем, сярод якіх такія палярныя паняцці, як жыццё і смерць, дабро і зло, духоўнае і матэрыяльнае, прыватнае і агульнае. Апошнія катэгорыі, дарэчы, не заўсёды ўспрымаюцца персанажам філасофскіх вершаў паэта як бінарна апазіцыйныя. Нярэдка суб'ект адчувае сябе адказным не толькі за ўласны лёс, але і за няўдачы ў жыцці іншых людзей:

Я не рабіў нікому злога.
Мая віна, што не заўжды
Маё спагадлівае слова
Вас ратавала ад бяды [2, с. 113].

Матыў віны — характэрная рыса многіх вершаў А. Грачанікава, што, на нашу думку, вынікае з засяроджанасці яго лірычнага героя на пануючых тэндэнцыях часу, суб'ект вымушаны канстатаваць, што маральнасць у грамадстве пакрысе змяняецца на імкненне задаволіць матэрыяльныя патрэбы. У пошуках «новай ідэалогіі» чалавек аддае перавагу тэхнічнаму прагрэсу. Аднак апошні не заўсёды мае на ўвазе паралельнае развіццё духоўнага свету грамадства: «Чым вякам ты пахвалішся, // У вяках чым праславішся, // Час маторны і мутарны, // Электронны, кампьютарны?» [2, с. 366]. І хоць рухомасць часу, яго зменлівасць, а ў сувязі з гэтым і эвалюцыя характараў людзей (персанажаў у лірыцы) для паэта цалкам натуральныя з'явы, тым не менш, гістарычная перспектыва грамадства без дакладна арганізаванай у ім сістэмы духоўных каштоўнасцей падаецца творцу даволі цьмянай. Невыпадкова ў лірыцы А. Грачанікава ўзнікае вобраз героя-дэмакрата, чалавека мужнага, непахіс-

на адданага барацьбе за лепшую будучыню. Абвяшчаючы ідэю супрацьстаяння сацыяльным акалічнасцям, персанаж не надае сваёй дзейнасці радыкальнага характару. Немагчымасць татальнага гуманістычнага пераўтварэння грамадства, а разам з тым разуменне ўтапічнасці абранага шляху штурхаюць суб'екта да ўласнага ачышчэння душы праз прабачэнне:

А як рабілася балюча,
Калі мне ў вочы біла золь, —
Я думаў: зеллем хай гаючым
Вам стане мой вялікі боль! [2, с. 114].

Відавочна, што падмурак творчай стратэгіі А. Грачанікава засноўваецца на гуманістычных тэндэнцыях развіцця грамадства. А згаданы вышэй матыў прабачэння адсылае чытача да біблейска-хрысціянскай традыцыі. Нярэдка вобраз лірычнага героя ў падобнага кшталту творах вымалёўваецца аўтарам залішне ідэалізаваным, што, хутчэй за ўсё, тлумачыцца абагульненасцю, зборнасцю суб'екта: герой-сын, герой-брат, герой-бацька, герой-грамадзянін. Адсюль вобраз Радзімы ў аксіялагічнай сістэме суб'екта набывае неадназначную пазіцыю: бацькоўскі дом→вёска Шарпілаўка→Беларусь. Менавіта вобраз Бацькаўшчыны стаў для паэта сапраўднай крыніцай натхнення, ён асацыіруецца ў творцы з маленствам: «Шарпілаўка цячэ ў жыццё, як Сож, // Свае ў яе віры і перакаты…» [2, с. 30].

Вясковае жыццё для лірычнага героя паўстае ў светлым арэоле. Памяць пра бацькоў натхняе паэта, наталяе яго духоўную смагу. У адным з вершаў творца спавядаецца:

Зямля бацькоў!
Зямля маёй надзеі,
Зеленакрылы слаўны кут…
Так хораша сябе
Не адчуваў нідзе я,
Нідзе так цяжка
Не было, як тут [2, с. 202].

І хоць з малой радзімай звязаны лепшыя пачуцці і вераванні паэта, нават у самых маляўнічых вершах заўсёды прысутнічае сум па незваротным. Адчуванне бясконцасці ідэалізаванай прасторы, дзе суб'ект пачуваецца максімальна камфортна, супрацьстаіць у лірыцы А. Грачанікава ўсведамленню персанажам абумоўленасці свету рэальных магчымасцей, дзе «Змрочна і шэра. // Прэласці пах. // Адцвілі фарбы і гукі» [2, с. 55]. Варта зазначыць, што нярэдка грамадзянска-патрыятычны настрой у пачатку верша змяняецца на філасофска-аналітычныя роздумы напрыканцы твора, што ўказвае на пэўную размытасць мяжы паміж грамадзянскай і філасофскай лірыкай паэта.

Усведамленне канчатковасці чалавечага існавання абвастрае ўспрыманне лірычным героем прыгажосці жыцця, дазваляе пераасэнсаваць катэгорыю шчасця. Родная хата, знаёмыя з дзяцінства вобразы выклікаюць у персанажа разважанні пра ўласны лёс, пра тое, што ўсё ў жыцці заканамерна і незваротна:

Нахмурыла хата чало,
Цяпер яна, нібы чужая.
Маё гаманкое сяло
Маўкліва мяне сустракае [2, с. 305].

У вершы няма яркіх фарбаў і вычварных вобразаў. Наадварот, усё вельмі штодзённа, бязлітасна ў сваёй рэалістычнасці. На фоне знямелай вёскі яшчэ выразней адчуваецца душэўны стан паэта, у ім прарываецца трывожная нота віны: «Нясу на гасцінцы — віну, // Якую? І сам я не знаю» [2, с. 305]. Пранізліва-кульмінацыйнае адчуванне страты дасягаецца персанажам напрыканцы верша, калі суб'ект прыходзіць на пагост, дзе пахаваныя яго бацькі, родная хата ўжо не вабіць сваім цяплом і дабрабытам, бо яна «вусцішная», пустая:

Як цяжка вяртацца дамоў,
Як вусцішна робіцца ў хаце,
Калі ты дажыў да грудкоў,
Спачылі дзе бацька і маці… [2, с. 306].

Лірычнаму герою надае сіл прыхільнасць да роднага краю, усведамленне свайго месца на зямлі. Зведаўшы featuresрознае ў жыцці, пакаяўшыся перад магіламі бацькоў, персанаж наказвае свайму сыну:

Мой сыне!
Галодны ці сыты —
Які не прытуліць край,
Роднага дома арбіты
Ніколі не забывай [2, с. 363].

Як бачым, у двух палярных вершах выбудоўваецца непарыўны ланцуг, які сімвалізуе сувязь часоў і пакаленняў, што заўсёды так шанаваў А. Грачанікаў. Заглыблены ва ўнутраныя перажыванні, нялёгкую маральна-этычную ўнутраную працу, лірычны герой верша апынаецца сам-насам з тым, што давала яму надзею і заспакаенне раней, чаго так не хапае цяпер. І хоць думкі пра страчанае мінулае вярэдзяць душу, уздымаюць балючыя ўспаіміны, ён верыць:

Ёсць у жыцці
Той блаславёны час,
Калі яно ізноў вяртае нас
З далёкай далечы да родных сцен… [2, с. 178].

Матыў вяртання — яшчэ адна характэрная рыса філасофскай лірыкі А. Грачанікава. І хоць эмоцыя персанажа ў працытаваным вершы не заяўлена катэгарычна, можна здагадацца, што тут дамінуе адчуванне беспрытульнасці. Тэма вяртання і звязаны з ёй вобраз дарогі паўсталі ў творчасці А. Грачанікава невыпадкова. Галоўным чынам гэта звязана з біяграфіяй паэта. Вучоба ў Гомельскім інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту, праца на рамонтна-механічным заводзе непазбежна пакінулі адбітак на слоўна-вобразнай сістэме творцы. А часовы адрыў ад «каранёў» надаў драматызму грачанікаўскім вершам пра Радзіму. Невыпадкова выдадзены ў 1964 годзе першы зборнік паэта мае назву «Магістраль» — увасабленне адвечнага шляху жыцця. Сімвалічна, вяртаючыся да гуманістычных ідэалаў, што вобраз дарогі ў творах можа выступаць у якасці шляху духоўнага самаўдасканалення герояў, вектарам іх маральна-эстэтычных пошукаў. Так, у адным з вершаў А. Грачанікаў параўноўвае людзей з рэйкамі, па якіх «грымяць гады, вякі», а потым пераўвасабляе іх у «цягнікі цяжкаваговыя, // а часам, як паражнікі» («Рэйкі»). У першым выпадку вобраз людзей падаецца даволі статычным, бо пазбаўлены ўсякага дзеяння. Параўнанне, звязанае з цягнікамі, указвае на іх дыферэнцыяцыю па прыкмеце сутнаснага напаўнення (духоўна багатага ці збедненага ўнутранага свету). Вобраз шляху ў дадзеным вершы выступае ў якасці невядомай будучыні.

Асабліва яскрава пачуццё духоўнага сталення персанажа праяўляецца ў вершах ваеннай тэматыкі. Суб’ект у такога кшталту творах не падобны ні да героя-барацьбіта П. Панчанкі, ні да нескаронага воіна А. Куляшова. Ён, як і сам А. Грачанікаў, дзіця вайны, а таму жахлівая рэчаіснасць успрымаецца суб’ектам асабліва востра, кранальна:

У кожнай хаце лютуе гора.
Гадамі ішоў адымання ўрок.
Раней было нас у маці чацвёра,
Цяпер я застаўся, адзіны сынок [3, с. 10].

Перажыванне жыццёвых калізій, мяркуючы па вершах, было няпростым. Невыносна балючыя ўспаміны вярэдзілі душу, не давалі спакою: «Ён пастаянна жыў думкай пра ўвасабленне тых незабыўных падзей, пакутнага лёсу дзяцей, іх драматычнага, незвычайна напружанага існавання ва ўмовах смяротнай небяс-

пекі», — так пра А. Грачанікава згадаў А. Бельскі [4, с. 129]. Калі ўнутранапсіхалагічны стан паэта дасягаў максімальнага напружання, узнікалі творы, напоўненыя высокай сілай духоўнага адраджэння («Жнівень сорак пятага года», «Урок арыфметыкі», «Пачастунак» і інш.). Творцу не пакідае турбаваць пытанне, чаму чалавецтва не можа аб'яднацца для вырашэння надзённых праблем, чаму няспынна знаходзіцца ў стане барацьбы.У выніку лагічных разважанняў А. Грачанікаў прыходзіць да высновы:

І шчасце, і воля, і радасць, і боль
Патрэбны, відаць, чалавеку,
Як трэба ў дарозе звычайная соль,
Каб не выраджацца ў калеку [2, с. 362].

Ствараючы творы ваеннай тэматыкі, А. Грачанікаў нярэдка звяртаўся да жанру балады («Балада вятроў», «Неба і камень», «Крывавая балада», «Балада пра пяць вазоў», «Вяртанне з бежанцаў», «Вячэра»). Аднак і ў бессюжэтных вершах эмацыйна-пачуццёвы напал даволі высокі. Падобны эфект, на нашу думку, дасягаецца дзякуючы выкарыстанню творцам такой формы паведамлення, як спавядальнасць:

Я кволы быў, але не хваравіты,
Я рана сцяміў, што такое смерць.
Ад дэтанацыі ўспамінаў — дынамітам
Майму маленству праз гады грымець [5, с. 15].

Стаўшы па-філасофску відушчым, нават перад тварам смяротнай небяспекі лірычны герой вышэй працытаванага верша не зняверыўся, не страціў уласнага чалавечага аблічча. «Адсюль — з вайны, з пакут і выпрабаванняў незнішчальная вера ў дабрыню, уменне зразумець і адчуць боль, некрыклівае спачуванне» [6, с. 12], — ва ўступным артыкуле да кнігі А. Грачанікава слушна заўважыла Т. Чабан. Акцэнт на спасціжэнне сутнасці быцця, пакутлівае адкрыццё ісцін зямнога існавання сцвердзілі ў лірычным героі паэта чалавека высокіх маральных каштоўнасцей. Так, у маналагічным вершы «Вера» суб'ект, гаротны хлапчук, выступае прамоўцам ад імя ўсяго пакалення, абпаленага вайной. Голас паэта і голас героя (тут — аўтапсіхалагічнага) у ім зліваюцца ў гарманічнае адзінства:

Гарэў агонь.
Агонь цяпла і веры.
У грубцы і ў вачах братоў маіх.
Мы нанач шчыльна зачынялі дзверы,
Але на ключ не замыкалі іх [5, с. 15].

Герой вайны — заўсёды трагічны герой, а акалічнасці на вайне — трагічныя акалічнасці. На вось гэтым цесным перапляценні «аб'ектыўна»-трагічнага і «суб'ектыўна»-гераічнага вырашаюцца ідэйныя, маральныя і псіхалагічныя праблемы ў вершы.

Побач з успамінамі пра нялёгкія выпрабаванні дзяцей вайны ў паэзіі Грачанікава гучыць і матыў расплаты за здрадніцтва («Чорная навука», «Сцяна» і інш.). Нярэдка аўтар супрацьпастаўляе фізічную скалечанасць станоўчых герояў вершаў духоўнай скалечанасці адмоўных герояў, што дае магчымасць выразна акрэсліць маральна-эстэтычныя дамінанты ў мастацкай канцэпцыі паэта. Так, А. Грачанікава непакоіць, чым кіруюцца яго суайчыннікі ў сваім жыцці: сумленнасцю ці подласцю, шчырасцю ці крывадушшам, спагадлівасцю ці абыякавасцю. Нярэдка вершы маюць адкрыта саркастычны характар, бо ў іх аўтар рэалізуе ідэю выкрыцця заган чалавецтва: «У натоўпе — балбатун, // Як на галаве — каўтун. // Хоць ты вырві, // Хоць ты зрэж, — // Застаецца брыдкі плеш» [2, с. 252]. Найбольш паказальнымі ў гэтым сэнсе з'яўляюцца грачанікаўскія прытчы. Менавіта апошнія ў дыдактыка-алегарычнай форме дазволілі найбольш поўна і ўсебакова ахарактарызаваць феномен сумлення. У гэтым сэнсе творца ізноў пайшоў насуперак агульнапрынятым правілам выкарыстання форм мастацкай умоўнасці,

бо, па словах А. Бельскага, «савецкая крытыка патрабавала яснасці і празрыстасці верша, алегарычнасць ці падтэкст успрымаліся з насцярожанасцю» [4, с. 131].

Аб’ектам іроніі станавіўся не столькі пануючы рэжым, колькі выкліканая ім хвароба кумірастварэння, масавая свядомасць, сапсаваная ідэалогіяй. Звяртаючыся да праблем псіхалагічна-маральнага парадку, паэт не столькі імкнуўся выкрыць заганныя бакі чалавецтва, колькі папярэдзіць будучыя пакаленні пра памылкі іх папярэднікаў. Лірычны герой паэзіі А. Грачанікава, як слушна зазначыла Т. Чабан, стварае ўласны «сусвет дабрыні», дзе «ўсё ўзаемаабумоўлена і звязана адзінай повяззю» [6, с. 5]:

Я веру, што ўсё мае меру:
І рэчы, і ночы, і дні,
І толькі не мае памеру
Бясконцы сусвет дабрыні [2, с. 338].

Такім чынам, адстойваючы маральна-эстэтычныя ідэі ў жыцці сучаснага паэту грамадства, А. Грачанікаў супрацьпастаўляў іх ідэям матэрыялістычнай эстэтыкі. Разумеючы пры гэтым непазбежнасць апошняй, паэт шукаў залатую сярэдзіну, якая б абвяшчала гарманічнае паяднанне абодвух пластоў развіцця цывілізацыі — духоўнага і тэхнічнага. Такім мерыдыянам, ці, дакладней, сферай рэалізацыі аўтарскіх задум для А. Грачанікава стала літаратура, у якой праз слова паэт імкнуўся зразумець заканамернасці грамадскага развіцця, глыбінныя фактары духоўнага ўзмужнення народа. Чысціня памкненняў усебакова і гарманічна развітай асобы, чалавека-творцы, чалавека-працаўніка, чалавека-грамадзяніна, чалавека-гуманіста, — вось ідэал асобы, а разам з тым і ідэал прыгажосці для А. Грачанікава. Аднак створаны эстэтычны вобраз раскрываецца паэтам часам не ў прамой форме, а апасродкавана, праз адлюстраванне выродлівых з’яў і асуджэнне іх з пазіцый выдатнага (вершы-рэфлексіі, прытчы).

Становячыся на шлях выхавання чалавечага ў чалавеку, паэт абуджае і сцвярджае ў чытача імкненне да духоўнай самаарганізацыі, бо для А. Грачанікава як мастака дэмакратычнага кірунку важнай тыпалагічнай асаблівасцю стала глыбокая ўзаемасувязь паміж выдатным і этычным, іх сінтэз. І хоць дыяпазон канцэптуальных пошукаў беларускага творцы ў маральна-этычнай сферы даволі поліфанічны, сярод іх можна вылучыць такія маральна-філасофскія і маральна-псіхалагічныя дамінанты, як чалавечае сумленне, дабрыня, гармонія асобы і грамадства і інш.

Як вынікае з вышэйадзначанага ў артыкуле, у творчасці А. Грачанікава можна вылучыць некалькі сімвалічных матываў і вобразаў. Сярод іх — матыў віны і прабачэння, сыходу і вяртання і звязаны з ім вобраз дарогі. У вершах з матывам шляху можна вылучыць некалькі пластоў. Першы — канкрэтны і рэальны. Гэта апісанне дарогі. Другі пласт — чалавек, лірычны герой, які ідзе па дарозе, трэці пласт — філасофскі.

Грамадзянскі пафас, лірызм і глыбокае разуменне філасофіі жыцця арганічна сплаўлены ў паэзіі Грачанікава. Так, у вершах пра вайну асаблівая ўвага аўтарам скіроўваецца не столькі на самі падзеі, колькі на асабістыя перажыванні суб’екта. Абвяшчэнне паэтам веры ў дабро і людскасць — гэта праўдзіва гераічнае сцвярджэнне веры ў Чалавека, насуперак нечалавечай рэчаіснасці. Разуменнем выдатнага як актыўнага жыццесцвярджальнага пачатку, філасофскім пранікненнем у прыгажосць чалавека, прыроды, мастацтва, малюнкам невычэрпных магчымасцей чалавечага духу ў кірунку да прыгажосці, паказам маральнай прывабнасці герояў А. Грачанікаў зрабіў вялікі ўнёсак у этыку і эстэтыку свайго часу, у мастацтва, якое выхоўвае сілай прыгажосці.

Нельга не сказаць пра своеасаблівую эвалюцыю паэта ў распрацоўцы і мастацкай інтэрпрэтацыі маральна-этычнай тэматыкі. Гэта быў глыбока якасны ўзлёт мастака, які заглыбіўся ў свет чалавечых узаемаадносін, пачуванняў, сацыяльных, этычных і духоўных памкненняў з мэтай зразумець канцэпцыю чалавека канца XX— пачатку XXI стагоддзя.

## Літаратура:

1. Гуманизм [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://dic.academic.ru/dic.nsf/enc_philosophy/285/ГУМАНИЗМ. — Дата доступа: 18.08.2011.
2. Грачанікаў, А. Выбранае / А. Грачанікаў — Мн.: Маст. літ., 1988. —382 с.
3. Грачанікаў, А. Начная змена: вершы / А. Грачанікаў — Мн.: Маст. літ., 1975. — 130 с.
4. Бельскі, А. Галасы і вобразы: літ.-крыт артыкулы / А. Бельскі. — Мн.: Літаратура і Мастацтва, 2008. — 288 с.
5. Грачанікаў, А. Калі далёка ты…: вершы / А. Грачанікаў — Мн.: Маст. літ., 1979. — 368 с.
6. Чабан, Т. Бясконцы сусвет дабрыні: уступны артыкул Т. Чабан // А. Грачанікаў. Выбранае. — Мн.: Маст. літ., 1988. С. 5—12

Артыкул паступіў у рэдакцыю 19 мая 2011 г.

**Алесь Бараноўскі**
**Гуманістычны характар творчасці Анатоля Грачанікава**

### Рэзюмэ

У артыкуле на прыкладзе філасофскай лірыкі А. Грачанікава раскрываецца гуманістычны ідэал творцы. Акрэсленыя ў рабоце матывы дазваляюць прасачыць за духоўным сталеннем персанажа, даць узважаную ацэнку яго паводзінам і ўчынкам.

### The Summary

The humanistic ideal of the Creator are revealed in this article. The philosophical lyrics of Grechalinov are taken as an example. Designated motives let trace the evolution of spiritual lyrical and give a balanced assessment of his behavior and actions.

T

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# СВЯЦІ, ЗОРКА, СВЯЦІ*

## Вянок… «Вянкоў»

Творы М. Багдановіча часта перавыдаюцца. Лёгка адшукаць у гэтых выданнях і тыя, якія некалі ўвайшлі ў «Вянок». Аднак я, калі хачу перачытаць іх, звычайна бяру з паліцы сам зборнік «Вянок». Не той, канечне, што выйшаў у друкарні Марціна Кухты. Але разам з тым па сутнасці і той.

Падобнае немагчыма?

Запэўніваю: магчыма. Дзякуючы факсімільнаму выданню.

Паняцце факсіміле паходзіць ад лацінскіх слоў fac simile. У перакладзе на беларускую мову гэта гучыць, як зрабі падобнае. Іначай кажучы, факсіміле — дакладнае ўзнаўленне таго, што ўжо ёсць. Факсімільна ўзнаўляюцца рукапісы, дакументы, подпісы, малюнкі. Робіцца гэта пры дапамозе спецыяльнай тэхнікі.

Колішнія ж кнігі, што нарадзіліся па сутнасці нанава, называюцца факсімільнымі. Дзякуючы выдавецтву «Мастацкая літаратура», такім чынам зноў прыйшлі да чытача першыя кнігі Янкі Купалы «Жалейка», Якуба Коласа «Песні-жальбы», Максіма Гарэцкага «Рунь», Максіма Танка «На этапах» і іншыя.

У 1981 годзе такім чынам пабачыў свет і «Вянок» М. Багдановіча. Выйшаў ён немалым накладам — 10 тысяч асобнікаў. Так што ўсе жадаючыя маглі набыць яго. Сам жа я, прызнаюся, прыдбаў нават два асобнікі. Усё ж прыемна трымаць у руках не проста кнігу любімага паэта, а такое выданне яе, якому некалі радаваўся ён сам. Чытаючы хрэстаматыйныя творы менавіта ў «Вянку», быццам адчуваеш прысутнасць самога М. Багдановіча.

Калі ж захочацца ўсё ж пазнаёміцца з сапраўдным «Вянком» 1914 года, то трэба паспяшацца ў Літаратурны музей М. Багдановіча. У экспазіцыі яго ёсць «Вянок» з дарчымі надпісамі самога паэта. Дый не адзін асобнік, а тры.

Акурат тыя кнігі, якія ён, атрымаўшы аўтарскія экзэмпляры, падпісаў сваім цёткам Марыі Ягораўне і Магдаліне Ягораўне. Дый «сестрице Нюте». Так ён называў сваю дваюрадную сястру Ганну Гапановіч.

Ганна, атрымаўшы «Вянок», сумелася:

— Але ж я слаба разумею беларускую мову?!

— Такой бяды, — усміхнуўся Максім. — Беларуская ж і руская мова шмат у чым падобныя.

— Але не настолькі, — не пагадзілася Ганна, — каб адчуваць адметнасць паэзіі.

— Дык вось ты пра што? — Максім задумаўся. — Так і быць! — выпаліў ён на адным дыханні. — Перакладу табе вершы на рускую мову.

Сваё слова ён стрымаў.

Так з’явіўся рукапісны зборнік твораў М. Багдановіча на рускай мове «Зелянья». У яго ўвайшлі 22 вершы.

Чаго толькі не зробіш дзеля каханага чалавека.

Максім жа Нюту кахаў. Не зважаючы на тое, што яна сваячка.

Без узаемнасці кахаў.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 10, 2011.

Аднак яна не адказвала на ягоныя пачуцці. Прычына была тая ж, што неаднаразова адштурхоўвала ад яго дзяўчат: невылечная Максімава хвароба.

Адзін асобнік «Вянка» Літаратурнаму музею М. Багдановіча падарыў вядомы беларускі літаратуразнаўца Дзмітрый Бугаёў. Зрабіў ён гэта ў 1991 годзе, калі ўрачыста адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння паэта. Гэты асобнік «Вянка» Дзмітрый Якаўлевіч атрымаў у якасці падарунка ў 1964 годзе ад знакамітага беларускага паэта Уладзіміра Дубоўкі. Той прыдбаў яго ў 1922 годзе. Пра гэта сведчыць надпіс У. Дубоўкі.

Такая вось цікавая гісторыя, звязаная з «Вянком». Па-свойму адметны лёс і іншых асобнікаў яго, што дайшлі да нас. Скажам, таго, які некалі належаў беларускаму крытыку Міколу Аляхновічу. Мікалай Мікалаевіч быў беспадстаўна рэпрэсіраваны. На працягу дванаццаці гадоў адбываў ссылку на Калыме. Цяпер гэты асобнік знаходзіцца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Быў ён перададзены з фондаў НКУС. З фондаў Народнага камісарыята ўнутраных спраў, які некалі і вырашаў лёс М. Аляхновіча.

У Прэзідэнцкай бібліятэцы ёсць яшчэ тры асобнікі «Вянка». Трапілі яны ў яе пасля вайны. У час жа вайны гэтае кнігасховішча, якое тады называлася бібліятэкай Савета Народных Камісараў, згарэла. Пасля вызвалення для аднаўлення яе многія ахвяравалі свае кнігі. Хто падарыў два асобнікі «Вянка» — невядома. Яшчэ адзін асобнік — дарунак жонкі Я. Купалы Уладзіславы Францаўны.

Дарэчы, дзякуючы ёй, ёсць прыжыццёвае выданне «Вянка» і ў фондах Літаратурнага музея Янкі Купалы. Яшчэ адзін асобнік трапіў сюды разам з архівам прафесара Фёдара Турука. Ён таксама шмат працаваў на ніве нацыянальнага адраджэння.

Тры «Вянкі» зберагаюцца ў Коласавым доме. Як вядома, так прыхільнікі таленту народнага песняра называюць Літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. Адзін з гэтых асобнікаў у свой час знаходзіўся ў асабістай бібліятэцы Канстанціна Міхайлавіча.

Можна ўбачыць прыжыццёвы «Вянок» таксама ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, Музеі М. Багдановіча ў Гродне, у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Ёсць ён і ў Расійскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва.

Такі вось адметны вянок атрымліваецца. Вянок … «Вянкоў». Праўда была на баку А. Луцкевіча, калі ён сцвярджаў, што «Вянок» з’яўляецца «праўдзівай пэрлай у беларускай паэзіі». Сапраўды, «як у летні гарачы дзень у крыстальна чыстай крынічнай вадзе асвяжаецца нашае цела, так асвяжае душу паэзія Максіма Багдановіча».

## Да ўсяго была справа

Максім Багдановіч знаходзіўся ў «зачараваным царстве» паэзіі. Гэта выраз самога Максіма. «У зачараваным царстве» — называецца цыкл ягоных вершаў, якім адкрываецца «Вянок».

Паэзія, безумоўна, таксама свайго роду «зачараванае царства». Будзе праўдзівым сказаць, што ў гэтым царстве ён быў як бы... царом. Усё ў ім было Максіму падуладна. Дзякуючы таму, што валодаў вялікім талентам.

У паўсядзённым жа жыцці М. Багдановіч заставаўся надзіва сціплым чалавекам. Мог нават дазволіць сабе паставіцца да таго, што пісаў, не проста празмерна крытычна, але ў пэўнай ступені і іранічна. Нават калі выказваўся публічна. Аб гэтым, у прыватнасці, засведчыў ягоны агляд паэзіі за 1910 год.

Пісаўся артыкул гэты для «Нашай нівы». Значыць, з арыенціроўкай на канкрэтнага чытача. На чытача беларускага. Уважліва паставіўшыся да творчасці Я. Купалы, Я. Коласа і іншых аўтараў, пра сябе зазначыў сціпла: «Што да Багдановіча, то ў ім непрыкметна шпаркага развіцця… Гэта паэт-маляр. Слабы як

лірык, ён усю сваю ўвагу звяртае на вобразнасць зместу вершаў… Чаго варта праца гэтая, сказаць пакуль што цяжка…»

Такое выказванне можа дазволіць толькі вялікі талент. Той, хто ведае сабе сапраўдную цану. Літаратурная шэрасць, наадварот, пачне сябе ўсяляк выстаўляць, узвялічваць. Такой неабходнасці ў М. Багдановіча не было. За яго (дый пра яго) гаварылі ягоныя творы. І не толькі паэтычныя, а і празаічныя.

З апавяданняў вылучаецца «Апокрыф».

Апокрыф з грэчаскай мовы перакладаецца як таемны, запаветны. У сярэднявяковых літаратурах гэта былі творы, зместам сваім звязаныя з Бібліяй, жыццём святых, легендамі пра рай, пекла, канец свету. Назваўшы адно са сваіх апавяданняў «Апокрыфам», М. Багдановіч надаў гэтаму жанру новае гучанне.

Атрымаўся, па словах найбольш глыбокага і ўдумлівага даследчыка творчасці М. Багдановіча — вядомага беларускага пісьменніка Алега Лойкі, які і сам выдатна праявіў сябе ў розных галінах мастацкай творчасці, «апафеоз мастацтву, мастаку. Багдановіч вылучае два вобразы-ўвасабленні: коласа і васілька. Колас — хлеб надзённы, васілёк — сімвал красы».

Апафеоз таксама грэчаскага паходжання. Дакладна перакладаецца як абагаўленне. У дадзеным выпадку — узвелічэнне падзеі, з’явы.

Сам Хрыстос у Багдановіча сцвярджае: «Добра быць коласам; але шчасліў той, каму давялося быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?»

Гэта ж тое, што і «цвяток радзімы васілька». Толькі ў больш шырокім вытлумачэнні.

Глыбокі сэнс набывае першы ж сказ «Апокрыфа»: «Ад Максіма Кніжніка пачатак».

Максім Кніжнік — гэта той, хто шмат ведае. Ведае і сваімі ведамі спяшаецца падзяліцца з чытачамі. Абудзіць іх прагне. Каб зразумелі, што апроч хлеба надзённага ёсць яшчэ і краса зямная. Яе нельга адмаўляць. Нават у самым сціплым яе праяўленні, чым з’яўляецца васілёк, што квітнее ў жыце.

Увогуле, М. Багдановіч паспяхова выступаў і ў іншых галінах літаратурнай творчасці. Калі акідваеш позіркам зробленае ім, міжволі ўспамінаеш тое, што сказаў у адным са сваіх вершаў народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка:

Мне да ўсяго сягоння справа,
Усё мне блізка да душы!

Усё было «блізка да душы» і М. Багдановічу. У тым ліку і літаратурная крытыка. Высокую ацэнку ёй даў народны пясняр Беларусі Якуб Колас: «Яго артыкулы ў гэтай галіне здзіўляюць спеласцю думкі, глыбокім пранікненнем у сутнасць паэтычных твораў». У крытыцы, як і ў паэзіі, ён апярэджваў свой час. Дакладна сказаў той жа А. Лойка: «Ён быў у заўтрашнім дні роднай літаратуры. Усе рэчы ён браў па вялікім рахунку — з запасам на час, на вечнасць. Гэта перш за ўсё і абумоўлівае сённяшнюю веліч, актуальнасць, сілу Багдановіча».

Але не адна беларуская літаратура, аб чым сведчаць ягоныя артыкулы «Глыбы і слаі», «За тры гады», «Забыты шлях», «Новы перыяд у гісторыі беларускай літаратуры», цікавіла яго. М. Багдановіч смела сягаў у гісторыю нацыянальнай культуры, іншых відаў мастацтва. Задумваўся над фарміраваннем светапогляду беларусаў. Цікавіўся іх традыцыямі, звычаямі, духоўным светам.

Адкрываючы беларусам Беларусь, пісаў так, каб ягоныя думкі дайшлі да кожнага. Таму і падзагаловак артыкула «Хто мы такія» называецца «Ліст да простых людзей». Пачуццём гонару за свой народ прасякнуты радкі М. Багдановіча-публіцыста:

«Беларусы! Мы — вялікі народ, нас дванаццаць мільёнаў, шырока раскінуліся мы і спрадвеку жывём тут. Гэта наш край, наша старонка. Калісьці ў нас было сваё гасударства, скрозь чутно было нашу беларускую гаворку. У ёй пісаліся законы, разбіралі справы па судах, вучылі ў школах, друкавалі кнігі, спраўлялі набажэнствы ў царквах ды касцёлах. І ўсе размаўлялі па-нашаму: і чыноўнікі, і папы, і паны над панамі, і вялікія князі, што правілі гасударствам».

Заклікам гучалі Максімавы словы:

«Не пакінем свае гаворкі, сваіх песняў, сваіх звычаяў — свайго кроўнага, спрадвечнага, беларускага. Не адрачомся, не забудзем, не кінем на глум; будзем шанаваць, бараніць, дзецям сваім аб тое запаведаць».

Для М. Багдановіча, аднак, не з'яўляліся чужымі і іншыя народы, іншыя літаратуры. Па сутнасці менавіта ён стаў першапраходцам у вызначэнні агромністай ролі творчасці ўкраінскага Кабзара. Пра гэта гаворка ідзе ў артыкулах «Памяці Т. Р. Шаўчэнкі» і «Краса і сіла». М. Багдановіч адзін з першых прарэцэнзаваў зборнік індыйскага пісьменніка Рабіндраната Тагора «Гітанджалі», што выйшаў у перакладзе на рускую мову.

На дзіва шырокія абсягі М. Багдановіча і як перакладчыка. Па-беларуску ён пераўвасобіў творы антычных аўтараў Гарацыя і Авідзія, а таксама рускіх і заходнееўрапейскіх: Аляксандра Пушкіна, Фрыдрыха Шылера, Генрыха Гейнэ, Поля Верлена і іншых. З задавальненнем агучваў па-беларуску лепшыя ўзоры песень розных народаў свету — рускія, украінскія, сербскія, скандынаўскія, персідскія, іспанскія, фінскія, японскія. На рускую ж мову пераклаў асобныя творы Янкі Купалы, Тараса Шаўчэнкі, Івана Франка.

## У палоне даўняй красы

Вялікая заслуга Максіма Багдановіча і ў тым, што ён смела ўводзіў беларускую паэзію ў еўрапейскі кантэкст. Да яго ў ёй развіліся толькі традыцыйныя жанры. Складаныя жанрава-стылістычныя і метрычныя формы адсутнічалі. Праціўнікі беларускай мовы сцвярджалі, што яна «мужыцкая». Таму і не прыгодная для высокага прыгожага пісьменства.

Максім Багдановіч сваёй творчасцю даказаў, што ўсё гэта мана. Адмаўляць беларускай мове ў вялікіх вобразна-выяўленчых магчымасцях могуць толькі шавіністы. Гэта значыць, тыя, хто прапагандуе выключнасць пэўных народаў. Іншых жа лічыць слаба развітымі.

На ўвесь голас аб жаданні беларусаў «людзьмі звацца» заявіў сваім знакамітым вершам «А хто там ідзе?» яшчэ Янка Купала. Максім Багдановіч жа смелымі творчымі пошукамі даказаў, што беларуская літаратура мае права «еўрапейскай звацца». Гэта такая літаратура, у якой могуць існаваць і складаныя мастацкія формы. Тыя формы, што атрымалі развіццё ў літаратурах, узрост якіх вымяраецца не адным стагоддзем.

Ён ступаў па літаратурным цаліку так упэўнена, быццам меў ужо ў гэтым накірунку немалы вопыт. На самай справе яму даводзілася выступаць першапраходцам. Прынамсі, М. Багдановіч стварыў у беларускай паэзіі першы ўзор тэрцыны.

Тэрцыны — трохрадкоўі, у якіх арыгінальная рыфмоўка. Сярэдні радок кожнай папярэдняй страфы рыфмуецца з двума крайнімі наступнай. На заканчэнні ж стаіць асобны радок, які рыфмуецца з сярэднім апошняга трохрадкоўя.

У М. Багдановіча твор гэтага жанру так і называецца — «Тэрцыны». Пішучы яго, паэт адначасова патлумачыў, чаму прывабіла яго магчымасць узнаўляць тое старое, што ў іншых літаратурах даўно жыве, а ў беларускай няма:

Ёсць чары у забытым, старадаўным;
Прыемна нам сталеццяў пыл страхнуць
І жыць мінулым — гэткім мудрым, слаўным, —

Мы любім час далёкі ўспамянуць.
Мы сквапна цягнемся к старым паэтам,
Каб хоць душой у прошлым патануць.

Таму вярнуўся я к рандо, санетам,
І бліснуў ярка верш пануры мой:
Як месяц зіхаціць адбітым светам, —

Так вершы ззяюць даўняю красой!

Дарэчы, пра рандо. Гэта даўняя форма ў французскай літаратуры. Такі верш складаецца з 8, 13 або 15 радкоў. Словы, а часам і радкі, якімі ён пачынаецца, паўтараюцца ў сярэдзіне твора і заканчваюць яго. Тым самым ствараецца свайго роду кальцо. «Рандо» М. Багдановіча гучыць так:

**Узор** прыгожы пекных зор
Гарыць у цемні небасхіла;
Вада балот, staўкоў, азёр
Яго ў глыбі сваёй адбіла,

І гімн спявае жабаў хор
Красе, каторую з'явіла
Гразь луж; напоўніць мгла прастор,
І ўстане з іх гарашчы міла
**Узор.**
І сонца дальш клянуць, што скрыла
Луж зоры днём. І чуе бор,
І чуе поле крэхат хілы,
Ды жаб не ўчуць вышэй ад гор,
Там дзе чыясь рука зрабіла
**Узор.**

Ёсць У М. Багдановіча і рандэль пад назвай «На могілках». Гэта верш з 13 радкоў. Два першыя радкі паўтараюцца ў канцы другога чатырохрадкоўя. Першы — і ў канцы рандэля:

**Амур і сумны і прыгожы**
**Стаіць з павязкай на вачах**
Ля склепу. Часам лёгкі пах
Сюды даносіцца ад рожы.
Паўсюль крыжы, вянкі… Чаго ж а
Тут, дзе магілы, сцень і прах
**Амур і сумны і прыгожы**
**Стаіць з павязкай на вачах?**
І ціха думаў я: быць можа,
Любоў, палёгшы у трунах,
Перамагла і смерці жах!
Спачніце ж! Вечна на старожы
**Амур і сумны і прыгожы.**

Аб складанасці жанру тэрцыны і рандо сведчыць тое, што сучасныя паэты да іх звяртаюцца рэдка. Рандэль ўвогуле не атрымаў пашырэння. У той жа час вольна адчувае сябе санет. Праўда, першым увёў яго ў беларускую паэзію не М. Багдановіч, а Я. Купала. Затое М. Багдановіч настолькі цаніў гэты жанр, што напісаў нават артыкул, які так і назваў — «Санет». Сам жа і стварыў некалькі санетаў, а таксама перакладаў іх з іншых моў.

Аднак хоць на сённяшні дзень дзясяткі беларускіх паэтаў напісалі санеты, з'явіліся вянкі санетаў і нават вянкі вянкоў санетаў, узорам лічыцца ўсё ж гэты твор, які М. Багдановіч так і назваў «Санет». Але ў яго ёсць яшчэ адзін твор пад такой назвай, то гэты звычайна ўспрымаецца як санет «***Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі…»:

Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла,
Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
Ў гаршчку насення жменю там знайшлі.

Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.

Вось сімвал твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух народны,
Я верую, бясплодна не засне,
А ўперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.

Максім Багдановіч увёў у беларускую паэзію і трыялет — від васьміредкоўніка. Аднак калі гэтая форма ўжывалася толькі ў любоўнай лірыцы, у ёй прысутнічаў гуллівы змест, то М. Багдановіч надаў трыялету грамадзянскі змест. Як у трыялеце, прысвечаным памяці С. Палуяна «***Ты быў, як месяц адзінокі».

Не чужымі М. Багдановічу былі і такія жанры, як актава, скерца, акраверш. Праўда, акраверш у яго не звычайны, калі першыя літары радкоў, прачытаныя зверху ўніз ці наадварот, складаюць імя альбо нават фразу. М. Багдановіч напісаў па-руску «Чацвярны акраверш». У гэтым творы традыцыйны акраверш спалучаецца з так званым тэлевершам. Слова «Анна» ўтвараюць і першыя і апошнія літары радкоў:

**А**х, как умеете вы, **Анна**,
**Н**е замечать, что я влюблё**н**,
**Н**о всё же шлю я Вам не сто**н**,
**А** возглас радостный: осанн**а**!

Такія прачулыя радкі прысвяціў М. Багдановіч Ганне Какуевай. Не проста выказаў свае пачуццці, а і зрабіў гэта на дзіва арыгінальна. Канечне, гэты акраверш не мог не спадабацца дзяўчыне. Але, як гэта часта бывае, асабістае, дзякуючы таленту паэта, выйшла за свае межы. Твор стаў з'явай у літаратуры. Ён лішні раз засведчыў, наколькі М. Багдановіч — майстра вышэйшага класа. Як, здавалася б, немагчымае становіцца для яго магчымым.

Беларуская паэзія, дзякуючы «Чацвярному акравершу», яшчэ раз засведчыла, што яна паэзія народа з найвялікшым духоўным патэнцыялам. Старыя паэтычныя жанры арганічна ўпісаліся ў мастакоўскі працэс. Кажучы словамі М. Багдановіча, тое, што было для іншых народаў «даўняй красой», стала для беларускай паэзіі адначасова і красой новай.

Часта да сваіх твораў ён даваў і эпіграфы, пры гэтым карыстаючыся ці не ўсімі асноўнымі еўрапейскімі мовамі. Сябра М. Багдановіча па Яраслаўлю Мікалай Агурцоў аднойчы пацікавіўся, чым гэта можна вытлумачыць. Хацеў ён ведаць таксама, чаму Максім уводзіць у шырокі ўжытак вершаваныя формы, якія беларускаму чытачу былі невядомы.

На гэтае запытанне прагучаў такі адказ: «За беларускай мовай не хочуць прызнаваць самастойнасці і самабытнасці. Не хочуць дапусціць думкі, што на гэтай мове можна выразіць усе рухі чалавечай душы і даць любую літаратурную форму. Я сваёй кніжачкай (ён меў на ўвазе «Вянок». — **А. М.**) хацеў паказаць, што ўсё гэта магчыма. А для гэтага трэба было беларускую мову паставіць побач з еўрапейскімі».

## Што прынесла Фенікс-птушка

Верш пра непаслухмяную Вераніку-Роначку ў М. Багдановіча — не адзіны твор, адрасаваны дзецям. Ёсць у яго і казкі. Пачынаючы з ягонай першай публікацыі — прытчы-казкі «Муз*ы*ка». Дарэчы, пры дапамозе самой казкі ён расказаў нават ... пра паходжанне казак. А яшчэ па-свойму патлумачыў, адкуль з'явіліся тыя, хто іх расказваў.

Зрабіў гэта М. Багдановіч у творы «Сон-трава». Ён мае падзагаловак «Адкуль пайшлі казачнікі на Русі». А дзе Русь, там і Белая Русь. Наша Радзіма — Беларусь.

Адбывалася ж усё так:

«Лёг аднойчы белагаловы хлопчык-падпасак у стэпе каля ручая, назіраючы за статкам, сарваў былінку, якая трапілася пад руку, паспрабаваў яе панюхаць, але адразу ж і заснуў: гэта сон-трава яму трапілася. Смаліць гарачае сонца яму галаву, сіняя муха апусцілася на яго твар; але нічога не адчувае хлопчык, моцна спіць, і сняцца яму незабыўныя сны».

Што ні сон, то як бы казка ў казцы.

«Бачыць хлопчык, як Іван-царэвіч скача цёмнымі лясамі на шэрым ваўку...»

«Ці бачыць хлопчык, як задумаўся ў чыстым полі Саур-багатыр».

«І бачыць ува сне Алёнку — маленькую дзяўчынку з тых, якія ў вёсках меншых брацікаў няньчаць».

«А то бачыць хлопчык каржакаваты дуб, пахмурны арол сядзеў на сырым дубе, а ў кіпцюрах трымаў злога ворана».

Казка за казкай, і кожная па-свойму загадкавая і вабная. Але гэта яшчэ не ўсё. Згаданыя казкі — толькі адзін сон, што нечакана-негадана прыйшоў да хлопчыка: «Закончыўся гэты сон — і ўжо бачыць хлопчык дзіўную Фенікс-птушку. Пагойдваецца Фенікс-птушка на галінках квітнеючага дрэва, вочы закрывае: пер’е распускае, песні распявае...» Следам іншыя сны прыходзяць. Калі ж пастух убачыў, што жывёла на патраву пайшла, разбудзіў хлопчыка. Яму ж пасля захацелася падзяліцца пабачаным у сне: «Так і пайшлі казачнікі на Русі».

У глыбокую старажытнасць сягаеш, калі знаёмішся з нарысам «Аб веры нашых прашчураў». У гэтым творы адчуваецца сам каларыт даўніны. Ажываюць міфічныя істоты. М. Багдановіч расказвае проста. Але так, каб гэта адразу запомнілася: «Калі ў хаце вёўся парадак, здавалася ім (тым, хто жыў у старажытнасці. — **А. М.**), што нехта гэтаму непрыкметна пасабляе. І яны з’яўлялі сабе таго нявідзімага памочніка ў постаці хатніка — рупнага, мудрага дзядулькі».

Дый пра лесуна цікава даведацца. У існаванне яго таксама верылі нашы далёкія продкі: «Са ўсіх бакоў абсталі вёску дрымучыя пушчы, глухія лясы. І вяскоўцам здавалася, што тамака жыве лясун — вялізны, моцны, калматы. Ён кіруе ўсім у лесе, апякуецца над звярыма, пасвіць воўчыя стаі. Не любіць ён, каб захадзілі людзі ў бары: пачне іх путаць, звадзіць, збіваць з дарогі, страшыць, рагочучы, як пугач».

Пакланяліся яны і яшчэ адной міфічнай істоце: «А ў рэчках ды азёрах вядзе над усімі лад сівабароды вадзянік. Жыве ён у глыбокім віры разам са сваімі дачкамі — русалкамі. Вясною яны выходзяць з вады і гойдаюцца на галінках дрэваў, распусціўшы свае доўгія валасы, зялёныя, як вадзяныя расліны».

Расказваў М. Багдановіч і пра Перуна, і пра бога сонца Хорса...

У апавяданні ж «Катыш» вельмі праўдзівым атрымаўся вобраз хлопчыка Васі.

Вася добра вучыцца, таму матэматык Юрый Сцяпанавіч паабяцаў перавесці яго без экзаменаў у другі клас. Значыць, Вася ўжо амаль другакласнік. «Потым, калі ён выйшаў з алтара з талерачкай, Соня паклала яму срэбную манету, папрасіла рэшты і вельмі міла пачырванела, атрымаўшы яе загадзя прыпасенымі новенькімі капеечкамі; гэта ж лічылася намёкам на пяшчотныя пачуцці». А яшчэ «цётка Таня дастала з кошыка і прыпаднесла яму яйка «катыш» — амаль зусім круглае, падобнае на мячык. Гэта быў цудоўны катыш! Такога Вася, магчыма, і не бачыў. Вось будзе ўдача, калі ён заўтра выйдзе з ім катаць яйкі!»

У перамозе Вася не сумняваецца. «Паглядзі, — тлумачыць ён Соні, — гэта — катыш. У яго носіка ад пяткі не адрозніш, ён коціцца прама, нікуды не зверне; а ўсялякае іншае яйка зварочвае, куды пятка цягне. Вунь тое чырвонае яйка?.. Яго такім катышом можна выбіць, але простым яйкам — ніколі. На цяжкім месцы ляжыць...»

Трэба ж так здарыцца, што адзін з хлапчукоў — Андрэйка — выбіў у Васі катыша простым яйкам. Упэўнены ж у сваёй перамозе Вася паспрачаўся на сцізорык. І вось ні сцізорыка, ні...

«Няма катыша!

Прапала ўсё, чаго ён чакаў, на што спадзяваўся, чаму радаваўся! Прапала ў адно імгненне, бязмэтна і бескарысна — «ни за сизо перышко», як крыкнуў нехта з натоўпу. Было ў руках яго шчасце, але Вася ўпусціў яго, і яно ўжо не вернецца. Ах, як дакладна ідзе катыш, пушчаны Андрушкам.

Няма катыша!

Вася, ні з кім не развітваючыся, паварочваецца і, прыціскаючыся да сцяны, ідзе дахаты».

У гэтым апавяданні ўсё праўдзіва, непрыдумана. Выпадак, пра які расказваецца, як быццам, адзінкавы. Але першапачатковае ўяўленне падманлівае. Гэта ж само жыццё дарэвалюцыйных дзяцей.

Гэта радасць і засмучэнне не аднаго Васі.

Падобных Васяў былі дзясяткі, сотні, тысячы... М. Багдановіч, расказваючы праз аднаго з іх, па сутнасці расказаў пра многіх. Апавяданне «Катыш» цяпер успрымаецца як мастацкае сведчанне маленства аднагодкаў сённяшніх дзяцей, якія жылі сто гадоў таму. То хіба не цікава сустрэцца з імі?

Не можа не зацікавіць і казка-прытча «Страцім-лебедзь». Як вядома, легендарны Ной у час сусветнага патопу пабудаваў каўчэг. Ной «узяў ... туды і птах і звяроў, каб не звёўся іх род з зямлі». Адзін Страцім-лебедзь, «горды, моцны птах» не пагадзіўся шукаць паратунку ў каўчэзе, застаўся плаваць. Іншыя птушкі, убачыўшы гэта, адразу селі на яго. Хацелі разам з ім на вадзе ўтрымацца. А ў Страцім-лебедзя сілы слабнуць:

На чацвёрты (дзень — **А. М.**) стаў прасіць-маліць:
«Вы ўзляціце хоць на міг які,
Выбіваюся з астатніх сіл,
Дайце вы грудзям, гэй, вальней уздыхнуць!
Дайце вы крылам, гэй, шырэй узмахнуць!»

Не паслухаліся птушкі. «І пайшоў на дно мора сіняга Страцім-лебедзь — моцны, горды птах».

Апошнія радкі твора ўспрымаюцца свайго роду прадчуваннем М. Багдановічам і ўласнага лёсу: «Ад усіх цяпер патомкі ёсць, ды няма адных — Страцімавых». Калі Максім чытаў гэты верш З. Бядулю, то ў яго замест Страцімавых міжволі вырвалася Максімавых.

Ёсць у М. Багдановіча і паэма-казка «Мушка-зелянушка і камарык — насаты тварык». Сам М. Багдановіч вызначыў жанр гэтага твора як «вельмі жаласная гісторыя, выкладзеная згодна з праўдай беларускім вершам». Знакава, што героя паэмы-казкі клічуць Максімам. Відаць, менавіта такое імя з'явілася невыпадкова. Прыгадалася паэту, як сам у маленстве любіў слухаць казкі. Таму і ўзяўся напісаць сваю казку. Ды такую, якая б адразу заінтрыгавала дзяцей. Каб чытачам захацелася хутчэй даведацца, што ж адбудзецца далей:

Блізка рэчкі Самацечкі камары таўкуцца,
І «таўкачыкі» спяваюць і у скокі тнуцца:
«Гэй, гоп, таўкачыкі,
Гэй, гоп, асінавы,
Ды работы Максімавы...»
А Максім ляжыць на траўцы, сонна пазірае,
Камарок за камарочкам да яго шыбае,
І пясняр з усіх найлепшы ўжо звініць ля вуха,
Як камарыка няўмысне загубіла муха.

У народзе кажуць: казка — жыццю падказка. Сюжэт у творы казачны, але быццам узяты з жыцця. Пра гэта даведаешся, калі пазнаёмішся з гэтай «вельмі жаласнай гісторыяй». Як і з яшчэ адной казкай. «Максім і Магдалена» называецца яна. Ёсць у М. Багдановіча і іншыя творы, адрасаваныя дзецям.

# Міхась КАЗІНЕЦ: «МУЗЫКА — ДУША НАРОДА»

*Быў цёплы ліпеньскі дзень. На пляжы санаторыя «Аксакаўшчына» назбіралася шмат людзей. Хто загараў, хто купаўся, хто веславаў на лодцы. І толькі адзін чалавек, мой сусед, вылучаўся сярод гэтага бесклапотна-вясёлага люду. Ён сядзеў у цяню рэдзенькай вярбы, засяроджана ўглядваючыся ў вялікі, аб'ёмісты сшытак, які трымаў перад сабою і лісты якога час ад часу акуратна перагортваў. Пры гэтым ягоны твар увесь час быў надзвычай рухома-выразны: то прамяніўся светлай усмешкай, то нечакана хмурыўся, то раптам бровы здзіўлена падскоквалі ўгору… Я падсунуўся крыху бліжэй і асцярожна зазірнуў у загадкавы сшытак: чалавек чытаў ноты! Паглыблены ў таямнічы свет музыкі, ён нікога вакол не заўважаў і нічога не чуў.*

*Мая журналісцкая цікаўнасць у рэшце рэшт узяла верх над маёй далікатнасцю. І калі чалавек зрабіў перапынак, перавёўшы позірк на люстраную паверхню возера, я не вытрымаў, запытаўся:*

*— Прабачце, калі ласка, а што гэта вы так захоплена чытаеце?*

*Чалавек ніякавата ўсміхнуўся:*

*— Вось бачыце, усе нармальныя людзі адпачываюць, а мне, дурню, і тут спакою няма… — І ўжо сур'ёзна патлумачыў: — Чытаю партытуру. Хутка ў нас вельмі адказны канцэрт, а часу засталося ў абрэз.*

*Мы разгаварыліся і пазнаёміліся бліжэй. Маім суседам па пляжы аказаўся галоўны дырыжор і мастацкі кіраўнік праслаўленага ў краіне народнага аркестра імя Жыновіча Міхась Антонавіч Казінец.*

*Вечарам мы вырашылі разам пайсці на праходку па ваколіцах санаторыя. Паблукалі крыху па баравых сцежках, з прыемнасцю ўдыхаючы густы смалісты водар, пастаялі на плаціне, любуючыся шумным вадаспадам, і, нарэшце, выйшлі да невялічкага жылога гарадка, заглянулі ў магазін, які яшчэ быў адчынены, здзівіліся багатаму выбару прыстойных спіртных напіткаў. Не памятаю ўжо, хто з нас першы прапанаваў узяць чаго-небудзь для замацавання знаёмства, але ідэя была аднадушна падтрымана. Мы выбралі пляшку харошага грузінскага віна і пакіравалі да рэчкі. Там селі на хісткім драўляным мастку, звесіўшы ногі над вадою, і, папіваючы па глытку віна (шклянку нам дала з сабою спагадлівая прадаўшчыца), прагаманілі да глыбокай поўначы. І калі вярталіся назад у санаторый, мы ўжо былі на «ты» і мне здавалася, што я ведаю Міхася Антонавіча даўным даўно…*

*Было гэта больш за трыццаць гадоў таму. Казінец яшчэ толькі пачынаў узыходжанне да сваёй папулярнасці. Хаця ўжо меў званне заслужанага дзеяча мастацтваў. Астатнія, як ён кажа, «пагоны» — званні народнага артыста, прафесара кансерваторыі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі рэспублікі, лаўрэата прэміі «За духоўнае адраджэнне» — прыйшлі да яго пазней, значна пазней.*

*Усе гэтыя гады я ўважліва сачыў за творчым ростам Міхася Антонавіча, радаваўся таму, як прафесійна сталее, атрымоўвае ўсё больш шырокае грамадзянскае і дзяржаўнае прызнанне вядомы музычны калектыў пад яго кіраўніцтвам. Спачатку аркестру было нададзена званне акадэмічнага, а пасля і нацыянальнага. Стала зразумелым, што ў краіне, акрамя Нацыянальнага акадэмічнага*



*Пасля канцэрта.*
*З народным артыстам СССР Мікалаем Пятровым.*

*народнага хору імя Цітовіча, вырас яшчэ адзін магутны асяродак прапаганды і развіцця народнай культуры — Нацыянальны акадэмічны народны аркестр імя Жыновіча. Калектыў, які сёння, на думку спецыялістаў, стаў сапраўднай музычнай візітоўкай Беларусі. У яго выкананні гучыць і сусветная класіка, і прэм'еры айчынных кампазітараў, і наша традыцыйная нацыянальная музыка ў свежых каларытных аранжыроўках.*

*Некалькі разоў я парываўся напісаць пра ўнікальны музычны калектыў і яго таленавітага кіраўніка, двойчы ўжо нават дамаўляўся з Міхасём Антонавічам аб сустрэчы, але па розных прычынах гэтыя сустрэчы так і не адбыліся. А тут даведаўся: аркестр вылучаны на высокую дзяржаўную ўзнагароду і вырашыў, што болей адкладваць нельга.*

*На мой званок Міхась Антонавіч адгукнуўся адразу ж. Праўда, сказаў, што цяпер не ў Мінску — на фестывалі «Звіняць цымбалы і гармонік», у Паставах. А праз тры дні будзе дома і гатовы з прыемнасцю сустрэцца.*

*І вось я ў рабочым кабінеце М. Казінца. Невялічкі пакой ён дзеліць разам са сваім дырэктарам Барысам Ліўшыцам. Абстаноўка ў кабінеце спартанская: два сталы, на адным з якіх, дырэктарскім, стаіць састарэлая мадэль камп'ютара, уздоўж сцяны некалькі просценькіх крэслаў, а пры ўваходзе, у тарцы, гэткая ж просценькая шафа, запоўненая кнігамі, нотамі, дыскамі. Ды яшчэ на сцяне вялікі каляровы партрэт імпазантнага мужчыны, твар якога праменіцца зычлівай усмешкай. Заўважыўшы, што я зацікавіўся партрэтам, Міхась Антонавіч тлумачыць:*

*— Мой настаўнік — Віталь Вітальевіч Катаеў. Былы галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра рэспублікі. Але пра гэта крыху пазней. Ну дык з чаго пачнём нашу гутарку?*

## Саграваць душу чалавека

**— А пачнём, бадай, з нядаўняй падзеі. Толькі што ў Паставах адбыўся чарговы, чатырнаццаты, міжнародны фестываль народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік». Аб чым ён засведчыў? Што даюць такія фестывалі?**

— Наш фестываль мае статус міжнароднага, увайшоў у пяцёрку лепшых, найбольш значных фестываляў краіны. Каб прыняць у ім удзел, дасылаюць заяўкі з многіх замежных краін — з Расіі, Украіны, Латвіі, Кітая, Ізраіля… І прыязджаюць выдатныя калектывы!

Такім чынам, адказваючы на тваё пытанне, магу з гонарам сказаць: сёлетні фестываль яскрава засведчыў яго ўстойлівую папулярнасць і надзвычай высокі ўзровень выканальніцкага майстэрства літаральна ўсіх удзельнікаў. Цяжка нават было вызначыць, які калектыў самы лепшы.

Што даюць такія фэсты? Вельмі многае. Перш за ўсё самім удзельнікам. Для музыкаў — гэта сапраўдныя майстар-класы. Кожны калектыў, параўноўваючы

сябе з іншымі, можа рэальна ўбачыць, у чым ён моцны, як кажуць, на ўзроўні, а ў чым яшчэ слабаваты, дзе трэба падцягнуцца. Але самае галоўнае нават не ў гэтым. Для музычных гуртоў вельмі важна адчуванне адметнасці свайго рэгіёна, сваёй краіны і ўменне сродкамі музыкі гэту адметнасць перадаць. І яшчэ адна асаблівасць: наш фестываль незаангажыраваны, ёсць месца для імправізацыі, для творчасці.

Шматлікім жа гледачам, а іх на нашыя канцэрты, якія ідуць на адкрытых пляцоўках, збіраецца дзясяткі тысяч, такія канцэрты даюць глыбокае эстэтычнае задавальненне, нязмушана, натуральна фарміруюць у правільным накірунку іх мастацкія густы, далучаюць да высокай музычнай культуры. І не толькі народнай. У рамках фестывалю праходзяць таксама канцэрты класічнай музыкі. І залы заўсёды перапоўненыя.

Мала таго, на другі дзень, пасля конкурсу, калектывы раз’язджаюцца па раёне. Даюць канцэрты ў самых аддаленых вёсках. Такім чынам, да музычнага мастацтва далучаецца практычна ўсё насельніцтва Пастаўшчыны. І ў мяне такое адчуванне, што не дай бог мы хоць раз прапусцім фестываль, народ узніме бунт (смяецца).

**— Міхась Антонавіч, а ты часам не перабольшваеш значэнне фестывалю, не прымаеш жаданае за рэальнае? Чаму я так кажу? Таму што нярэдка даводзіцца чуць, і ад даволі аўтарытэтных спецыялістаў, што адміранне фальклору, у тым ліку і народнай музыкі, — гэта працэс, маўляў, натуральны ў эпоху ўрбанізацыі, глабалізацыі нашага жыцця. Як ты адносішся да такіх заяў?**

— З гэтым можна пагадзіцца толькі ў тым плане, што тая аўтэнтычнасць, якая была раней, сапраўды знікае. Але Беларусь — унікальны край. У нас ёсць такі рэгіён, як Палессе. Гэты рэгіён выдатна захаваў не толькі песенныя традыцыі, але і інструментальныя. З палескай фальклорнай скарбонкі мы яшчэ будзем чэрпаць доўгія гады.

Дык вось святы абавязак усіх, хто мае тое ці іншае дачыненне да народнай музычнай спадчыны, занатаваць тое, што яшчэ засталося. Занатаваць і захаваць, перадаць нашчадкам. Таму што фальклор не можа больш перадавацца тым натуральным шляхам, якім ён перадаваўся раней, — з пакалення ў пакаленне. Гэта праблема сацыяльная. Вёска мяняецца, мяняюцца традыцыі, мяняецца векавы ўклад селяніна. Раней людзі весялілі сябе самі: ладзілі вячоркі, на якіх танцавалі, спявалі песні, апавядалі розныя байкі. Адным словам, развівалася вусная народная творчасць. Цяпер усё гэта замяніў тэлевізар, а для маладых яшчэ камп’ютар з яго ўсёабдымным Інтэрнэтам.

Але гаварыць, што фальклор памірае, я б не стаў. Ва ўсе часы, у любога народа былі разумныя людзі, якіх надзвычай цікавіла: а што там было раней? Як там было? І гэтыя людзі праз розныя віды мастацтва, літаратуру даносілі да нас неабходныя веды. Дзякуй богу, ёсць такія людзі і цяпер. Іх намаганнямі, іх клопатам жыве і развіваецца народная творчасць, толькі яна набывае ўжо іншую форму.

**— Музыка — здавалася б, самая абстрактная форма мастацтва. І тым не менш яна мае сваю нацыянальную афарбоўку. Праз што, якім чынам гэта перадаецца?**

— Так, ноты ва ўсім свеце аднолькавыя. Але ў кожнага народа ёсць свая інтэрваліка, свой перапеў (я гэта называю ферманта голасу), што толькі ўласціва гэтаму народу. Музыка, як гэта ні дзіўна, пры ўсёй яе абстрактнасці нясе адбітак, адметнасць, своеасаблівы «водар» той зямлі, на якой яна нарадзілася.

Узяць, скажам, славянскія песні — рускія, беларускія, украінскія. Па сваім меласе яны вельмі блізкія, аднак наскую, родную мы пазнаем беспамылкова, сэрцам адчуем. Нашы песні больш мілагучныя, душэўныя, часцей за ўсё журботныя, ціхія. І гэта вельмі важна, бо ў ціхай песні ёсць думка, ёсць пачуццё. Беларус, калі спявае, ён думае, суперажывае.

Нацыянальны каларыт музыкі ўгадваецца без асаблівай цяжкасці нават мала падрыхтаваным слухачом. Угадваеццца па яе стылістыцы, па танальнасці, па яе рытміцы.

Наогул, народнай музыкі дрэннай няма. У кожнага народа — выдатнейшая музыка. Таму што музыка — гэта душа народа. Яго гісторыя. Яго культура. Праўда, акрамя народнай, ёсць музыка аўтарская, і яна можа быць не зусім прафесійная, не надта цікавая. Гэта іншая справа. Але народная мелодыя, тая, што стваралася многімі людзьмі, шліфавалася, удасканальвалася на працягу многіх стагоддзяў, — такая мелодыя заўсёды выдатная.

**— Думаю, што тваю пазіцыю падзяляюць далёка не ўсе. Ва ўсякім разе, ёсць людзі (я б іх назваў разбуральнікамі нацыянальнага, народнага меласу), якія выступаюць за нейкую ўніверасальную, касмапалітычную мову музыкі. Маўляў, век складаны, бурны. Змянілася псіхалогія слухача, які чакае новых формаў, новых рашэнняў. Але, як мне здаецца, жыццё такіх сачыненняў недоўгавечнае, таму што сапраўдная музыка заўсёды цесна звязана з народнай асновай, народнымі традыцыямі. Мы маем багаты нацыянальны матэрыял такога хараства і духоўнай сілы, што нам нічога больш і не трэба выдумляць. Што ты скажаш на гэты конт?**

— Дык ты ўжо практычна і адказаў на сваё пытанне. Так, сучасныя сродкі масавай інфармацыі, асабліва аўдыявізуальныя, не з’яўляюцца, мякка кажучы, прыхільнікамі народнай музыкі. Наша сучаснае тэлебачанне нагадвае адну бясконцую рэкламу. А дзе, у якой рэкламе можна знайсці хоць бы прыкмету духоўнасці? Там падаюцца простыя, часам прымітыўныя рэчы, каб толькі чалавека здзівіць, захапіць у палон, убіць яму ў галаву неабходную ідэю. І нават тыя вялікія шоу-праграмы, якія ідуць на расійскім тэлебачанні, яны таксама ў прынцыпе маюць гэткую ж мэту — здзівіць, захапіць. А дзеля гэтага патрэбен гром, шум, дым, святло…

Такое, з дазволу сказаць, «мастацтва» апускае чалавека да адчуванняў чыста фізіялагічнага характару. Ніякага думання, ніякага перажывання. Глядзі, спажывай, атрымоўвай асалоду. А што застаецца ў душы? Нічога.

Я згодзен з табою: разбуральны працэс становіцца ўсё больш відавочным. Цяпер натуральнае спяванне, без мікрафона, ужо амаль паўсюдна не прымаецца. Правілам добрага тону лічыцца выступленне з мікрафонам. Гэта значыць, акадэмічнае спяванне выцясняецца.

Я разумею: трэба карыстацца і дасягненнямі тэхнічнага характару. Але калі эталонам майстэрства спеваў становіцца Еўрабачанне, то мне застаецца толькі развесці рукамі. Там жа ад мастацтва нічога няма. Ёсць толькі шоу, у якое ўкладзены вялізарныя грошы. У гэтую прыгожую карцінку і даволі простую мелодыю. Дарэчы, чым прасцей песня па мелодыі, тым яна лягчэй успрымаецца і тым больш падабаецца масаваму гледачу.

Здавалася б, ну і што? Каму ад гэтага кепска? Уся бяда ў тым, што такім чынам фарміруецца ў тысячаў, мільёнаў тэлегледачоў кепскі музычны густ, яркая, але бесталанная пасрэднасць становіцца эталонам.

**— А становіцца яна эталонам яшчэ і таму, што ў грамадстве, на мой погляд, страчана іерархія музычных каштоўнасцей. На першы план выйшла поп-музыка, а класіка, якая так высока ставілася ў савецкія часы, адсунута кудысьці ўбок. Ці гэта маё памылковае ўспрыняцце?**

— І так, і не. У савецкія часы сапраўды класічнае мастацтва (сімфанічнае, опернае) мела грунтоўную дзяржаўную падтрымку. Перш за ўсё — матэрыяльную. Паралельна з гэтым вялася шырокая прапаганда класікі, асабліва сярод моладзі. Практыкавалася (і трэба сказаць, была вельмі папулярнай) сістэма філарманічных абанементаў. Сімфанічная музыка пастаянна гучала на радыё, на тэлебачанні.

Так, усё гэта было. Але я не скажу, што цяпер у нас ад гэтага нічога не засталося. У нас, слава богу, яшчэ ходзяць і на сімфанічную музыку, і ў оперу. Дзяржава клапоціцца аб развіцці класічнага мастацтва па меры сваіх магчымасцей. Мы маем нармальныя, добра адрамантаваныя філармонію, оперны тэатр. Укладваюцца грашовыя сродкі ў падтрыманне ў належным стане ўсёй матэрыяльнай базы музычнага мастацтва. У Беларусі, у абласных цэнтрах, працуе некалькі сімфанічных аркестраў. Цяпер вось стварыўся яшчэ адзін — у Маладзечне.

І гэта няпраўда, што класічная музыка цяпер людзям нецікавая. Спашлюся на прыклад таго ж фестывалю «Звіняць цымбалы…» Там у нас на працягу трох дзён побач з народнай музыкай цудоўна суседнічае класічная. Выдатна прымаецца музыка духоўная, харавая, музыка, якая стваралася ў Беларусі ў XVII—XVIII стагоддзях. І пастаўскім слухачам гэта цікава, а яны ж збіраюцца на нашыя канцэрты не толькі з горада, але і з навакольных вёсак.

Ведаеш, Зіновій, каб успрымаць музыку, яе трэба слухаць. Іншага выйсця няма. Для таго, каб любіць музыку, яе трэба ведаць. А гэта значыць, яна павінна пастаянна прысутнічаць у нашым паўсядзённым жыцці. Калі гэтага гучання не будзе — адкуль што прыйдзе?

**— Міхась Антонавіч, мы гаворым з табою пра музыку сапраўдную, таленавітую. Але, пагадзіся, ёсць і адваротны бок медаля. Паўсюль — на дыскатэках, на пляжах, у рэстаранах і нават у канцэртных залах — на нас абрушваецца вадаспад ілжэмузыкі. Між тым, забруджванне гукавога асяроддзя — справа далёка не бяскрыўдная. Выдатны рускі спявак Аляксандр Вядзернікаў, напрыклад, лічыць, што музыка — тая ж ідэалогія. Што будзе гучаць з падмосткаў оперных тэатраў, з эстрадных пляцовак, з тэлеэкранаў вызначыць не толькі фарміраванне музычных густаў моладзі, але іх эстэтычныя і этычныя ідэалы. У канчатковым выніку музыка трансфармуецца ў светапогляд. І таму кожны з тых, хто мае дачыненне да музыкі, у адказе за тое, якім стане новае пакаленне, што ў яго будзе за душою. Гэта я вяду да таго, што справа музычнага выхавання ў краіне павінна быць пастаўлена на дзяржаўную аснову. Ці ёсць у нас сёння праграма такога выхавання?**

— Павінен сказаць, што асновы класічнай музычнай адукацыі былі закладзены на Беларусі менавіта ў савецкія часы. Тады склалася трохзвенная сістэма: музычная школа — музычнае вучылішча — кансерваторыя. І гэта сістэма давала выдатныя вынікі. Дзякуючы ёй, сотні, тысячы талентаў з народа змаглі атрымаць грунтоўнае музычнае выхаванне. Зрэшты, чаму маглі — могуць і цяпер!

**— Гэта добра. Але я не пра падрыхтоўку спецыялістаў, хаця гэта і надзвычай важны напрамак дзейнасці. Мяне цікавіць, як у нас арганізавана масавае музычнае выхаванне — у дзіцячых садках, у агульнаадукацыйных школах, у вышэйшых навучальных установах. У свой час, помніш, гэтым вельмі быў заклапочаны кампазітар Дзмітрый Кабалеўскі. Ён не толькі выкладаў урокі музыкі ў школе, але і напісаў спецыяльны падручнік. Яго сістэма спачатку была падхоплена з вялікім энтузіязмам, а пасля чамусьці пастунова заглухла. Чаму?**

— Ну, па-першае, перашкодзілі сацыяльныя прычыны. Пачалася перабудова, якая прывяла да развалу краіны і страшэннага палітычнага і эканамічнага крызісу. Стала не да тонкасцей музычнага выхавання. Па-другое, я не лічу, што сістэма Кабалеўскага была на сто працэнтаў правільная. Таму што яна арыентавалася галоўным чынам на тэорыю, на аповед. А вось у Прыбалтыцы пайшлі сваім шляхам — у іх былі проста ўрокі спеваў.

Безумоўна, сёння ўсё гэта вярнуць цяжка. Але праграма музычнага выхавання, і тут я цалкам падзяляю клопат Дзмітрыя Кабалеўскага, абавязкова павінна быць. Якой яна мне ўяўляецца? Магчыма, да чацвёртага-пятага класа — гэта

ўрокі спеваў. Але каб іх вёў спецыяліст, з якім дзеткам было б цікава. А далей, у старэйшых класах, разам са спевамі вучням трэба даваць ужо і тэорыю — расказваць аб асноўных музычных інструментах, знаёміць з рознымі відамі музычнага мастацтва і іх лепшымі ўзорамі. Неацэнную карысць для духоўнага выхавання даюць хоры — і класныя, і агульнашкольныя. І галоўнае — музыку слухаць.

Цяпер жа наша школа выбрала чамусьці вузкія напрамкі: гуманітарны, прыродазнаўчы. А дзе ж духоўны, эстэтычны пачатак? Што для душы? Малады ж чалавек павінен развівацца. Як мага больш цесна далучацца да музыкі, да мастацтва, да літаратуры. І не толькі малады. Кожны з нас павінен развівацца — увесь час, да апошняга дыхання. Так нас стварыў Гасподзь. Калі толькі мы палічым, што з намі ўсё о'кей, мы застынем, закасцянеем. Працэс самавыхавання, самапазнання павінен быць закладзены, выхаваны з дзяцінства.

## Высокае і зямное

**— Міхась Антонавіч, аркестру імя Жыновіча летась споўнілася восемдзесят гадоў. Пройдзены вялікі і слаўны шлях. Раскажы, калі ласка, крыху пра яго гісторыю.**

— Шлях сапраўды і вялікі, і багаты, аднак літаратуры пра наш аркестр, як гэта ні дзіўна, вельмі мала. Сёе-тое я паспеў яшчэ запісаць ад людзей, якія былі ля вытокаў калектыву, пачыналі разам з Жыновічам, многія гады працавалі пад яго кіраўніцтвам. Сёе-тое пачэрпнуў з архіўных крыніц. Так што гісторыю сваю мы збіралі і складалі літаральна па крупінках.

Дык вось, спачатку арганізаваўся ансамбль. Быў такі цудоўны музыка-самавук Дзмітрый Захар. Ён сам лічыўся балалаечнікам, але мог іграць на розных інструментах. Такіх звычайна называюць чалавек-аркестр. Менавіта ён у 1928 годзе і арганізаваў ансамбль, які меў напаўаматарскі, напаўпрафесійны характар. Кіраўніком быў Захар, а канцэртмайстарам — Жыновіч.

У 1930 годзе калектыў атрымаў статус дзяржаўнага ансамбля, і ад гэтага года мы і пачынаем сваю гісторыю. Ансамбль іграў простыя беларускія мелодыі. З ім часта выступала папулярная ўжо тады спявачка Ларыса Александроўская. Яго славу памнажалі вядомыя цымбалісты-віртуозы Аркадзь Астрамецкі і Станіслаў Навіцкі. Калектыў акрамя канцэртаў рэгулярна іграў на радыё ў прамым эфіры.

У 1937 годзе пры арганізацыі ў Мінску філармоніі ансамбль быў пераўтвораны ў Беларускі дзяржаўны аркестр народных інструментаў. На чале калектыву стаў выдатны музыкант свайго часу Канстанцін Семяонаў. Ён жа дырыжыраваў аркестрам на Першай дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве ў 1939 годзе. Тады яны з вялікім поспехам сыгралі фінал сімфаньеты Чуркіна «Беларускія малюнкі» — рэч, якая імгненна стала знакамітай. Дарэчы, гэтае сачыненне не страціла свой творчы, гістарычны патэнцыял і сёння. Гэта такі своеасаблівы гукавы брэнд ансамбля.

Ну а потым была вайна. Яна параскідала людзей каго куды. На вялікі жаль, загінула і багатая музычная бібліятэка, якая была сабрана за дзесяць гадоў.

Аркестр аднавіў сваю дзейнасць толькі ў 1946 годзе. І на чале яго стаў Іосіф Жыновіч. Трэба сказаць, што сам аркестр, яго склад быў створаны па тыпу вялікарускіх аркестраў Андрэева, Осіпава. Хаця, канешне, беларускі калектыў меў сваю асаблівасць, сваю адметнасць — цымбалы.

**— Ты прыйшоў у ансамбль яшчэ пры жыцці Жыновіча? Як і калі гэта было?**

— Пачну крыху здалёк. У кансерваторыю я паступіў па класе баяна. Аднак факультатыўна мы вывучалі і цымбалы. І першыя ўрокі я праходзіў у Жыновіча. Менавіта ён прывіў мне сапраўдную любоў да гэтага інструмента. Хаця цымбалы ніколі не былі для мяне чужымі. Я выдатна знаёмы з імі з дзяцінства. У маёй



*За дырыжорскім пультам.*

вёсцы вельмі папулярнай была траістая музыка — цымбалы, гармонік і бубен. Так што цымбальнае гучанне для мяне здавён роднае. І да гэтага часу яно асацыіруецца ў мяне з царкоўным звонам. Але Жыновіч, можна сказаць, адкрыў для мяне гэты інструмент занава, раскрыўшы фантастычна багатыя магчымасці цымбалаў, паказаўшы іх неверагодна цудоўнае гучанне. Іосіф Іосіфавіч зачараваў мяне і як музыкант, і як чалавек. Таму недзе ўжо з трэцяга курса ў душы выспела настойлівае, неадольнае жаданне: хачу быць у аркестры Жыновіча! Але не іграць, а дырыжыраваць!

Каб гэта не выглядала нейкай незразумелай саманадзейнасцю, патлумачу чаму. Справа ў тым, што к таму часу лёс звёў мяне з выдатным педагогам кансерваторыі Іосіфам Абрамісам. Ён выкладаў у нас дырыжыраванне. Тады мы праходзілі дзве спецыялізацыі: інструмент і дырыжыраванне аркестрам народных інструментаў. Каб зацікавіць сваёй справай, Абраміс не толькі даваў тэорыю, але і запрашаў нас на спектаклі, на рэпетыцыі. І мяне гэта сапраўды захапіла. Захапіла настолькі, што я суткамі праседжваў за партытурамі.

Больш таго, мне захацелася выпрабаваць свае сілы ў самастойнай справе. І я арганізаваў пры Палацы культуры аўтазавода дзіцячы баянны аркестр. Сам падбіраў для яго музычныя творы, сам іх інструментаваў і аркестраваў. Не буду залішне хваліцца, але ўжо недзе праз год пра наш калектыў ведалі ў горадзе, ён неаднаразова выходзіў у лаўрэаты розных конкурсаў і фестываляў. І, відаць, у мае сілы паверыў не толькі я, але і мае педагогі. Таму пасля заканчэння кансерваторыі мяне пакінулі ў Мінску, накіравалі педагогам у музычнае вучылішча. Гэтаму асабліва садзейнічаў Георгій Жыхараў, які пасля Жыновіча загадваў у кансерваторыі кафедрай цымбалаў, а ў Мінскім музвучылішчы — аддзяленнем народных інструментаў. Гэта быў фанатык сваёй справы, апантаны народнай музыкай. Ён, напэўна, заўважыў ува мне нешта блізкае яму, бо яшчэ студэнтам запрасіў мяне выкладаць у вучылішчы і прапанаваў арганізаваць там цымбальны аркестр. Такім чынам, маё жаданне стаць дырыжорам у вядомым аркестры не было спантанным, саманадзейным, а грунтавалася на сур’ёзным самастойным вопыце.

Відавочна, Жыновічу гэта падабалася, і ён даў мне, пасля заканчэння кансерваторыі, тры дні папрацаваць з аркестрам. Праверыць мяне на практыцы. Я, вядома ж, стараўся як мог, але, напэўна, не вельмі паказаўся яму, таму што працягу не адбылося.

І я зразумеў тады, што аднаго жадання мала, што мне яшчэ трэба вучыцца і вучыцца. І ў 1968 годзе я другі раз паступаю ў кансерваторыю — на опернасімфанічнае дырыжыраванне. Хаця пастаянна такога класа тады не было (ён то адкрываўся, то закрываўся), але мне пашанцавала: у той год яго якраз арганізавалі. Пашанцавала двойчы, бо заняткі ў нас вёў знакаміты дырыжор сімфанічнага аркестра Віталь Катаеў. Чалавек-глыба. Па сваіх ведах, па культуры, па маральных якасцях. І калі я сёння нешта ўмею, магу, то аснову ўсяму гэтаму заклаў менавіта ён, Віталь Вітальевіч.

Ну а ў 1972 годзе, калі мой другі заход у кансерваторыю падыходзіў ужо к канцу, мяне нечакана запрасіў Жыновіч і прапанаваў правесці двухмесячныя гастролі па Расіі, Украіне і Казахстане. Сам маэстра быў цяжка хворы, папрысутнічаў толькі на рэпетыцыях, застаўся задаволены і даў канчатковае «дабро».

Жыновіч усё больш пільна прыглядваўся да мяне, відаць, вырашаў надзвычай важнае для сябе пытанне: ці можна перадаць у мае рукі сваё любімае і самае дарагое дзецішча — аркестр. Нярэдка пасля канцэртаў мы заставаліся ўдвух, і ён распытваў мяне пра жыццё-быццё, цікавіўся што мяне радуе, што хвалюе, задаволена ківаў галавой, калі нашы думкі супадалі. А аднойчы Іосіф Іосіфавіч запрасіў мяне на сваю дачу, і мы прагаварылі там тры дні. Упершыню ён расказаў мне пра тое, як быў у трыццатыя гады арыштаваны за прыдуманую нацдэмаўскую дзейнасць. «Адседзеў два з паловаю гады. Выратавалі цымбалікі… — добра помню, як пры гэтых словах вусны маэстра кранула цёплая ўсмешка. — З лагера я напісаў пісьмо сястры Леніна і расказаў ёй усё пра сябе. Праз нейкі час мяне выпусцілі…»

У тыя тры дні гаварыў больш мой настаўнік. Ён ужо, відаць, зрабіў свой канчатковы выбар і цяпер хацеў у шчырай, даверлівай размове падзяліцца са мною сваімі запаветнымі думамі, марамі, далікатна, па-бацькоўску даць мне свой наказ.

Неўзабаве Іосіфа Іосіфавіча не стала. І ў студзені 1975 года я быў зацверджаны кіраўніком Дзяржаўнага аркестра народных інструментаў.

**— Міхась Антонавіч, аркестру імя Жыновіча дзявяты дзясятак гадоў і добрую палавіну гэтага часу ты ў ім кіраўніком. Працуеш творча, актыўна, плённа. Прабач за міжвольныя кампліменты, але гэта не толькі мая ацэнка. Спецыялісты адзначаюць, што за гады сваёй працы ты вывеў калектыў на якасна новы ўзровень, які адпавядае сучасным патрабаванням выканаўчага майстэрства. Аркестр вызначаецца багаццем тэмбравай палітры, тонкасцю нюансіроўкі, збалансаванасцю гучання розных аркестравых груп, разнастайнасцю рэпертуару. А што яшчэ надае калектыву творчую адметнасць, яркую індывідуальнасць?**

— Мы ўжо гаварылі аб тым, што наш аркестр унікальны сваёй асновай — групай цымбалаў. Дзякуючы гэтаму, у інструментоўцы твораў, якія выконваем, мы можам рабіць вялікае мноства спалучэнняў як чыстых, так і змешаных тэмбраў. Скажам, могуць быць адны цымбалы, альбо цымбалы з габоем, з баянам альбо цымбалы, габой і кларнет… Колькасць камбінацый, як і ў шахматах, проста фантастычная. І вось ад таго, як усё гэта пачуе і ўвасобіць кампазітар, адчуе і аздобіць, ведаючы магчымасці аркестра, аранжыроўшчык, творча, зыходзячы са свайго мастацкага густу, музычнай фантазіі, прачытае і інтэрпрэтуе дырыжор, — ад гэтага, уласна кажучы, і залежыць прыгажосць гучання аркестра, яго індывідуальнасць.

Хаця, безумоўна, ёсць і нейкія агульныя задачы, агульныя правілы. Мы павінны, скажам, дакладна ведаць дыяпазон гучання таго ці іншага інструмента і ў залежнасці ад гэтага ведаць, які голас ён мае, дзе гэты голас будзе лепш гучаць — у верхнім дыяпазоне альбо сярэднім. А можа паставіць яго гучанне на самую мяжу… Зноў-такі, гэта — цэлая навука, якая называецца інструментоўка. Яна таксама можа надаваць аркестру сваю адметнасць і індывідуальнасць.

**— А вось тая цесная сувязь з беларускімі кампазітарамі, пра якую ты ўпамінаў, яна дапамагае калектыву набываць уласнае творчае аблічча?**

— Несумненна! У свой час мне ўдалося заахвоціць да супрацоўніцтва лепшых нацыянальных творцаў. Для нас пісалі кампазітары старэйшага пакалення — Мікалай Чуркін, Анатоль Багатыроў, Яўген Глебаў, Генрых Вагнер, Юрый Семяняка, маладзейшыя — Дзмітрый Смольскі, Кім Цесакоў, Валерый Іваноў, Андрэй Мдзівані… Дарэчы, апошні за свае сімфоніі «Полацкія пісьмёны» і «Памяць зямлі», якія прагучалі ў нашым выкананні, атрымаў Дзяржаўную прэмію рэспублікі. Гэткую ж прэмію атрымаў і Віктар Помазаў. Мы выканвалі яго сюіту «Вясковыя музыкі» і «Батлейку». Хачу сказаць, што ранні адыход гэтага таленавітага кампазітара — вялікая страта для беларускай музычнай культуры. Ён надзвычай блізка і глыбока адчуваў фермату непрычасанай аўтэнтычнай народнай мелодыі і як ніхто іншы мог ярка, свежа і на высокім прафесійным узроўні ўвасобіць гэта ў сваіх творах.

**— Праблемы з кадрамі няма?**

— На шчасце, няма. Сёння, каб трапіць у аркестр, трэба прайсці вельмі патрабавальны адбор, строгі конкурс. Калі ты не лаўрэат міжнароднага конкурсу, то весці размову складана.

Такая праблема была, калі я толькі прыйшоў у аркестр. Тады, хто прыходзіў, таго і бралі. Сітуацыя была вельмі няпростая. Але гадоў праз пяць-шэсць мы сітуацыю гэтую пераламілі. Удалося крыху падвысіць зарплату музыкантам. Устанавілі цесную сувязь з кансерваторыяй. Сталі рэгулярна выязджаць на гастролі, а гэта немалаважна для калектыву як з матэрыяльнага, так і з маральнага боку.

Па праўдзе кажучы, у нас і цяпер заробкі не дужа вялікія, але для творчага чалавека грошы не заўсёды галоўнае. Куды больш важна — мець магчымасць спаўна рэалізаваць свой талент, камфортна, утульна адчуваць сябе ў калектыве. У гэтым плане наш цяперашні састаў аркестра — як адзіная, дружная сям’я. Каб не сурочыць, у нас склаўся такі мікраклімат, калі любую радасць, любую бяду людзі перажываюць як сваю асабістую.

Вядома ж, гэта прыйшло не само па сабе. Памог карпатлівы, удумлівы адбор. Я заўсёды, перш чым запрасіць чалавека, грунтоўна з ім гутару. І практычна за апошнія гады ў мяне не было памылак. Пакідалі калектыў адзінкі — тыя, хто не ўпісваўся па сваіх чалавечых якасцях. І я ў прынцыпе ніколі аб гэтым не шкадаваў.

У тым, што мы сёння не маем голаду на кадры, вялікая заслуга нашай музычнай адукацыі. Мы можам выбіраць лепшых з лепшых. Праўда, тут ёсць адзін нюанс. Неабходна, каб у аркестр прыходзілі людзі не проста добра прафесійна падрыхтаваныя, але яшчэ і з адчуваннем прыроды гэтага жанру і стылю. У кансерваторыі яны атрымоўваюць выдатную музычную адукацыю — валоданне інструментам, веданне гісторыі музыкі, асноў гармоніі. Але ёсць яшчэ нешта ад мамы, ад Бога, тое, што ніякай навукай не дасі. Цудоўна, калі на Боскае арганічна кладзецца прафесійная адукацыя. Вось такіх людзей мы і стараемся адшукваць. Бо тое, што іграе аркестр, ствараецца ў аркестры. І нам патрэбны артысты, якія б маглі самі рабіць аранжыроўкі, добра адчуваць народны мелас, стылістыку жанру.

Сёння — магу сказаць гэта з гонарам — у нас адзін з самых моцных саставаў за ўвесь час маёй працы ў аркестры. Назаву толькі адну лічбу: мы маем 22 лаўрэаты нацыянальных і міжнародных конкурсаў. А гэта практычна кожны другі музыкант. Вось такі прафесійны ўзровень нашых артыстаў!

**— Я думаю, будзе лагічна, калі мы назавём хоць некаторых з іх.**

— З задавальненнем. Перш за ўсё гэта кіраўнік малога саставу аркестра і фалькгрупы, можна сказаць, мая правая рука — Аляксандр Крамко. Я ўжо гаварыў, што Бог шчодра надзяліў яго талентам, даў незвычайную працаздольнасць.

Чалавек-аркестр, іграе на ўсіх фальклорных інструментах, выдатна ведае прыроду гэтых інструментаў. Шмат распісвае партытур. На грамадскіх пачатках вядзе аўдыя- і відэатэку, а таксама фоталетапіс калектыву. А яшчэ як дацэнт выкладае ва ўніверсітэце культуры і мастацтваў. Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь.

Такое ж высокае званне маюць канцэртмайстар аркестра Ларыса Рыдлеўская, баяніст Уладзімір Ткач, які, дарэчы, прыйшоў да мяне адзінаццацігадовым падлеткам яшчэ на аўтазаводзе і вось ужо многа гадоў у нашым калектыве, а таксама старэйшы артыст аркестра, гітарыст Анатоль Курмакін, які працуе ў нас з 1959 года і які за гэты час стварыў сотні аранжыровак і інструментовак для аркестра. Ну і, вядома ж, не магу не назваць народную артыстку рэспублікі Святлану Лясун — музыканта ад Бога. Спачатку іграла на цымбалах, але перамог баян.

Маючы такія кадры, мы можам сёння сыграць усё. Але дзеля чаго? Не трэба, каб тое ці іншае сачыненне гучала ў нас, як у сімфанічным аркестры. Яно павінна набываць новую вобразнасць, новыя фарбы, новае гучанне, якія ўласцівыя толькі нашаму аркестру.

**— Міхась Антонавіч, наколькі я ведаю, стварэнне высокамастацкага рэпертуару — задача складаная для любога творчага калектыву. А для музычнага, як мне здаецца, асабліва.**

— Гэта самая складаная задача! Сімфанічны аркестр перш чым стаць такім, якім ён з'яўляецца сёння, прайшоў вялікі эвалюцыйны шлях. Рэпертуар для яго ствараўся вякамі. За гэты час назапашаны цэлыя пласты выдатнейшай музыкі. Тое ж самае можна сказаць пра акадэмічныя хоры, якія заўсёды былі вядучымі калектывамі духоўнай музыкі. Што датычыцца аркестра народных інструментаў, то стварэнне яго рэпертуару ахоплівае не больш за паўвека. Раней жа такіх аркестраў не існавала. Былі невялікія гурты — скрыпка, гармонік, цымбалы, бубен. І патрабаванні да іх рэпертуару былі простыя: некалькі модных танцаў, некалькі папулярных песень. Іншая справа — народны аркестр. Тут павінны ўжо быць пэўныя музычныя ідэі, зусім іншая стылістыка. Нацыянальны аркестр павінен несці адчуванне прыроды народнага меласу, выяўляць сутнасць і асаблівасць інструментальнай музыкі. А гэта ох як няпроста. Я скажу так: з дзесяці сыграных, пастаўленых сачыненняў, калі адно застаецца ў рэпертуары — гэта вялікая ўдача.

**— А я недзе чытаў, што ў рэпертуары вашага аркестра больш за дзве тысячы твораў…**

— Так, гэта наш залаты запас, які мы стварылі за апошнія шэсцьдзясят гадоў. Тут і беларуская народная музыка, і творы сучасных кампазітараў, і класічная музыка. Усе партытуры захоўваюцца ў спецыяльнай бібліятэцы. А цяпер яшчэ робім запісы сваіх канцэртаў на DVD-носьбітах.

**— І што, з гэтай скарбонкі часам даводзіцца нешта браць?**

— Канечне. Я вось якраз развучваю партытуры 1969 года. Зараз у нас такі перыяд, калі актыўны канцэртны сезон заканчваецца, а водпуск яшчэ толькі праз месяц, і каб заняць артыстаў, трымаць аркестр у форме, знаёмлю іх з тым, што некалі ігралася. Такім чынам ажыццяўляецца і папаўненне бягучага рэпертуару, і наладжваецца своеасаблівая повязь часоў.

**— А якія творы абавязкова павінны быць у рэпертуары?**

— Безумоўна, беларускія творы. І перш за ўсё тыя, што створаны на фальклорным матэрыяле. Асабліва калі яны вызначаюцца высокім прафесіяналізмам, дакладным адчуваннем нацыянальнага каларыту, таго, што грэе душу і сэрца. Гэта — аснова нашага рэпертуару.

**— Кіраўнікі многіх творчых калектываў скардзяцца на адсутнасць паўнацэнных гастроляў. У вас такая ж сітуацыя?**

— Як табе сказаць… Скардзіцца на адсутнасць выязных канцэртаў нам нібыта і грэх. Планы па іх колькасці, па зборы фінансавых сродкаў мы выконваем і перавыконваем. Але… але праблема ўсё ж існуе, таму што стварэнне нашага рэпертуару і арганізацыя гастроляў — два ўзаемазвязаныя працэсы. Мы не папсовы калектыў і ўспрыняцце таго, што мы выконваем, няпростае. Прычына ўсё тая ж — страта нашымі людзьмі многіх рэчаў, і перш за ўсё сваёй аўтэнтычнасці, векавых народных традыцый і абрадаў. Слава богу, што ёсць фестывалі, акцыі дзяржаўнага маштабу, дзе калектыў можа сябе паказаць праз свае папулярныя праграмы.

І яшчэ. У нас практычна не стала замежных гастроляў. У савецкія часы мы аб'ехалі паўсвету — былі ў Кітаі, Польшчы, Канадзе, Германіі, Індыі, Турцыі, Румыніі і іншых краінах далёкага і блізкага замежжа. Цяпер жа далей сваёй краіны не бываем.

Прычын гэтага — дзве. Першая — банальны дэфіцыт сродкаў. Забяспечыць пяцьдзясят з лішкам чалавек транспартам, гасцініцай, сутачнымі вельмі складана. А другая прычына — у спецыфіцы нашага рэпертуару. На Захадзе, у прыватнасці, у Германіі — гэта не зальная музыка. Там яна больш асацыіруецца з вулічнымі фэстамі. Хаця я глыбока перакананы, што калі б знайшоўся нейкі імпрэсарыа альбо менеджар, які адважыўся б арганізаваць нашы гастролі, то ён не прагадаў бы. Усе канцэрты прайшлі б на ўра.

**— Міхась Антонавіч, я разумею: поспех калектыву забяспечваюць многія рэчы — і састаў артыстаў, і рэпертуар, і інструментарый… Але галоўную скрыпку, даруй за каламбур, усё ж іграе кіраўнік. Якімі ж якасцямі павінен валодаць галоўны дырыжор, мастацкі кіраўнік, каб з году ў год утрымліваць гэты поспех?**

— Якімі якасцямі (задумаўся)?.. Канечне, ён, калі гэта галоўны дырыжор, павінен мець арганізацыйныя здольнасці. Я не кажу пра музычныя здольнасці — гэта разумеецца сабо сабой, таму што без іх усё астатняе не мае сэнсу. Што яшчэ? Кіраўнік павінен псіхалагічна тонка адчуваць артыста. Кожны з іх — індывідуальнасць. Умець дараваць, калі што, на яго погляд, не так. Дараваць простыя чалавечыя слабасці. Не зацыклівацца на іх. Але ўсяляк выяўляць і заахвочваць у чалавеку лепшае, галоўнае. Гэта павышае яго ўласны імідж у вачах калектыву… Безумоўна, кіраўнік павінен добра ведаць бытавыя ўмовы сваіх артыстаў. І па магчымасці памагаць ім.

**— Існуе два тыпы дырыжораў. Адныя ўжо не першую рэпетыцыю прыходзяць з загадзя прадуманай канцэпцыяй, дакладным уяўленнем аб музычна-сцэнічнай драматургіі. У другіх — ёсць толькі нейкі агульны план, а ўсё астатняе выспявае, нараджаецца ў непасрэднай рабоце з калектывам, рэалізуецца ў працэсе рэпетыцый. Да якога тыпу дырыжораў ты мог бы сябе аднесці?**

— Прызнацца, я неяк пра гэта не задумваўся… Відаць, і да таго, і да другога. Усё залежыць, ад твора, ад канкрэтных жыццёвых рэалій, ад уласнага настрою. Адно магу сказаць дакладна: нават калі ў мяне ёсць гатовая канцэпцыя, я не навязваю яе сілком, стараюся ёю зацікавіць, натхніць усіх артыстаў, зрабіць яе агульнай. Заўсёды, калі будуеш фразу з аркестрам, яна павінна быць вобразнай, ёмкай, вельмі дакладнай і эмацыянальнай. Без эмацыянальнага пасылу, без падтэксту, без вобразнасці нічога не будзе. А будзе толькі сухая канстатацыя. Яна не выкліча ў музыкантаў рэакцыі ў адказ. А ім патрэбен кураж, натхненне. І адна з задач дырыжора — абудзіць чалавечыя эмоцыі, стварыць ад гучання музыкі своеасаблівую цішыню. Такую цішыню, якая бывае раніцай, калі сонца яшчэ толькі прабіваецца скрозь туман, а наўкол стракочуць конікі, спяваюць птушкі, шапоча лістота дрэў… І ты адчуваеш сябе неад'емнай часцінкай прыроды. Гэта — неапісальны стан. Перадаць яго можна толькі праз музыку.

## Нялёгкі хлеб рэктарства

**— Міхась Антонавіч, значную частку свайго жыцця ты аддаў службе кіраўніка кансерваторыі. Як ты прыйшоў да гэтай пасады? Рашэнне стаць рэктарам далося лёгка, адразу ці давялося пэўны час вагацца, сумнявацца?**

— Як табе вядома, я вучыўся ў кансерваторыі два разы па пяць гадоў. Першы раз — на факультэце народных інструментаў і другі раз — на аддзяленні опернасімфанічнага дырыжыравання. А пасля яшчэ тры гады стажыраваўся ў асістэнтуры, праўда, ужо завочна. Так што дом гэты для мяне не быў чужы. Да таго ж, я меў ужо і пэўны вопыт педагагічнай работы: спачатку выкладаў у музычным вучылішчы, а пасля і ў кансерваторыі.

І тым не менш, калі ў 1984 годзе мяне выклікалі ў Міністэрства культуры і прапанавалі пасаду рэктара кансерваторыі, для мяне гэта сталася поўнай нечаканасцю. Шчыра кажу: я ніколі да гэтага не імкнуўся і нават не думаў. Мяне цалкам задавальняла мая работа як мастацкага кіраўніка, галоўнага дырыжора аркестра і выкладчыка, дацэнта кансерваторыі. Таму я не сказаў ні «так», ні «не». Папрасіў даць пэўны час падумаць.

А тут здарылася бяда — інфаркт. Ад перанапружання. Я быў вельмі заняты чалавек. Наш аркестр даваў больш за 130 канцэртаў у год. Плюс да гэтага бясконцыя гастролі. Я многа пісаў партытур, моцна курыў, шмат піў кавы. Словам, адносіўся да сябе бязладна. Думаў, што ноч магу правесці за нотамі, днём займацца рэпетыцыямі, а вечарам дырыжыраваць аркестрам — і ўсё будзе нармальна.

Не атрымалася. Зарабіўшы інфаркт, я падумаў: «Ну вось, праблема вырашылася сама сабой. Не трэба мне будзе апраўдвацца перад міністэрствам, шукаць нейкія аргументы…» І гэта, як ні дзіўна, нават суцешыла мяне.

Прайшоў час, амаль паўгода, пасля рэабілітацыі я выйшаў на працу. І тут мяне выклікаюць у ЦК КПБ, у аддзел культуры. Прапаноўваюць усё тую ж пасаду рэктара. Ніякіх маіх спасылак на кепскае здароўе не прынялі. Больш таго, далі зразумець, што ЦК — гэта дом, дзе не жартуюць.

І я даў згоду. Прайшоў усе неабходныя ўзгадненні па партыйнай лініі, а пасля яшчэ і працэдуру зацвярджэння на калегіі Міністэрства культуры СССР. Праўда, апошняе было ўжо чыстай фармальнасцю.

12 мая 1985 года я прыйшоў у кансерваторыю ўжо як рэктар. Адзінае, што я папрасіў, калі даваў згоду ў ЦК, каб мяне пакінулі на пасадзе кіраўніка аркестра. І пасля зразумеў, што зрабіў вельмі правільна.

**— Правільна? Але ж ты толькі што сказаў, што і да гэтага быў перагружаны. А тут прычапілі яшчэ адзін, здагадваюся, ох які нялёгкі воз. Цягнуць двайную нагрузку, з хворым сэрцам? Дзе ж тут логіка, Міхась Антонавіч?**

— Скажу, скажу. Але спачатку пра рэктарскі воз. Ён і сапраўды аказаўся нялёгкім. Нават куды цяжэйшым, чым я меркаваў. Прызнаюся шчыра: на мяне абрушылася вельмі многа нечаканасцей. Не творчага характару, не. Фінансавагаспадарчага, дзе я быў абсалютна не падрыхтаваны. Мяне ўратавала тое, што я добра ведаў усіх дэканаў, загадчыкаў кафедр, многіх педагогаў. Што былі вельмі вопытныя, талковыя прарэктары. Што я быў для іх не чужым чалавекам, не засланым казачком. Таму прынялі мяне, не скажу, каб з захапленнем, але нармальна.

Творчую кухню я ведаў добра і тут асаблівых складанасцей не бачыў. Але гаспадарчыя праблемы… Запушчанасць бухгалтарскага ўліку. Матэрыяльная частка даведзена да ручкі: і будынак самой кансерваторыі, і інтэрнаты, і інструментарый. З чаго пачынаць? За што брацца? Вопыту ж у гэтай сферы аніякага. Адчуванне поўнай бездапаможнасці. Галава кругам. Я іншы раз к канцу працоўнага дня не мог знайсці дзверы ў сваім кабінеце.

Інтуіцыя падказала мне першы крок. Я вырашыў на пасаду кіраўніка гаспадарчай службы падабраць новага, больш ініцыятыўнага і энергічнага чалавека. У той час гаспадарнікам у Доме кіно працаваў Іван Мазурын, якога я добра ведаў



*Разам з сімфанічным аркестрам «Маладая Беларусь».*

і які цалкам адпавядаў маім патрабаванням. Я прапанаваў яму перайсці да нас, і ён ахвотна згадзіўся.

З прыходам Мазурына мне стала значна лягчэй. Я папрасіў, каб ён уважліва ўсё агледзеў, прааналізаваў і прапанаваў, што трэба зрабіць у першую чаргу. Разам выпрацавалі план неадкладных дзеянняў на бліжэйшы час. Пачалі набываць новыя музычныя інструменты. Узяліся за рамонт інтэрнатаў. Справа зрушылася з мёртвай кропкі. Гэта заўважыў калектыў. І калі раней панавала атмасфера безнадзейнасці, то цяпер людзі паверылі ў добрыя змены. Пайшоў вал новых пытанняў. Кола праблем усё пашыралася.

Напачатку я быў азадачаны: як жа так, я дзень і ноч б'юся, рашаю, а праблем усё прыбаўляецца? А потым зразумеў: гэта — нармальна. Паверыўшы, людзі сталі праяўляць ініцыятыву, падказваць, што можна і трэба зрабіць.

Многія рэчы для мяне адкрыліся па-новаму. Я стаў больш інфармаваным і абароненым. Больш прафесійна вёў рэктараты. Мяне ўжо не палохалі сустрэчы з гаспадарчымі службамі. Размовы з імі я вёў менш эмацыянальна і больш канструктыўна, па-дзелавому.

З цягам часу, рашыўшы неадкладныя, так званыя бягучыя пытанні, мы ўжо змаглі прыступіць да самай галоўнай, самай балючай праблемы — адсялення некаторых факультэтаў. Справа ў тым, што асноўны корпус кансерваторыі пабудаваны ў 1957 годзе і быў разлічаны на трыста чалавек, а да часу майго прыходу ў ім займалася больш за тысячу студэнтаў. Мы спачатку «прабілі» адзін дадатковы корпус, а пасля і другі, больш прасторны, больш зручны, куды перавялі два факультэты — аркестравы і народных інструментаў. Я і цяпер часам дзіўлюся, як гэта нам удалося ўсё «прабіць», прайсці праз шматлікія бюракратычныя лабірынты. Аднак жа прайшлі, атрымалі нармальныя ўмовы для заняткаў усіх кафедр, разгрузілі бібліятэку, абсталявалі другі рэпетыцыйны зал — камерны.

З пашырэннем «вытворчых» плошчаў змаглі зрабіць і пэўныя структурныя змены. Адкрылі некалькі новых аддзелаў — замежны, інфармацыйны, канцэртны, стварылі навукова-практычную лабараторыю. Нічога гэтага раней не было!

А вось адну задуму, таксама вельмі важную і цікавую, рэалізаваць, на вялікі жаль, не ўдалося. Што я маю на ўвазе? На базе опернай студыі, якая даўно існавала ў кансерваторыі, мы намерыліся стварыць маладзёжны оперны тэатр. Аднак належных умоў для гэтага не было. Я нагледзеў будынак Дома культуры будаўні-

чага трэста, які ўжо колькі гадоў стаяў закінуты, нікому не патрэбны. А для нас гэта было б ідэальнае памяшканне.

Выйшлі з пісьмом у Савет Міністраў. К таму часу я ўжо меў салідныя «пагоны»: народны артыст, заслужаны дзеяч, лаўрэат, прафесар… Усё гэта, напэўна, сыграла сваю ролю, і рашэнне было прынята станоўчае. Аднак праблема ўпёрлася ў фінансы. Толькі што пачалі рамонт Вялікага тэатра оперы і балета, і Міністэрства культуры папрасіла нас пачакаць. А ў 2005 годзе я пайшоў з пасады рэктара, і цудоўная ідэя заглохла. Шкада: у плане развіцця опернага, акадэмічнага мастацтва гэта быў бы вялікі крок наперад.

**— Шкада, канечне. Але я ведаю, што за дваццаць гадоў свайго рэктарства ты шмат зрабіў не толькі для развіцця матэрыяльнай базы кансерваторыі…**

— Дык жа развіццё матэрыяльнай базы не было самамэтай. Гэта ўсяго толькі неабходная ўмова для ўдасканалення вучэбнай і навуковай работы. Не буду лішне хваліцца, назаву некалькі красамоўных лічбаў. Калі я прыйшоў на пасаду рэктара, у нас было 18 кафедр і ўсяго 18 працэнтаў выкладчыкаў, якія мелі навуковыя ступені і званні, а калі я сыходзіў з гэтай пасады, кансерваторыя мела ўжо 23 кафедры і колькасць кандыдатаў і дактароў навук павялічылася да 62 працэнтаў.

Але адно з галоўных пытанняў, якое мне ўдалося рашыць, было вось у чым. На пачатку дзевяностых гадоў, калі ў ВНУ адмянілі размеркаванне, у многіх рэгіёнах утварыўся дэфіцыт кадраў. Музычныя школы вымушаны былі набіраць у якасці выкладчыкаў людзей з сярэдняй музычнай адукацыяй. Гэта не адпавядала патрабаванням часу. І тады мы вырашылі адкрыць у абласных цэнтрах філіялы некаторых кансерваторскіх кафедр. Кожны рэгіён разглядаў, якая спецыялізацыя яму патрэбна больш за ўсё, тую і адкрывалі. Я асабіста пабываў ва ўсіх абласцях, сустрэўся з намеснікамі старшынь аблвыканкамаў, якія курыруюць культуру, атрымаў іх поўнае разуменне і падтрымку. Для філіялаў выдзяляліся неабходныя памяшканні, а выкладчыкам стваралі спрыяльныя бытавыя ўмовы.

Словам, працэс пайшоў, і ён павінен быў развіцца далей. Але стандарты вышэйшай школы, якія апошнім часам змяніліся, сталі больш строгімі, не дазваляюць ужо нашы абласныя навучальныя цэнтры называць філіяламі. Для гэтага патрэбна пэўная колькасць дацэнтаў, прафесараў. А іх мы не паспелі падрыхтаваць — прайшло ж меней як дзесяць гадоў. Нам бы яшчэ пяць-шэсць гадоў — і ўсё прыйшло б да нормы. А цяпер некаторыя філіялы апынуліся ў падвешаным стане. Гэта мяне вельмі засмучае, бо накірунак развіцця вышэйшай музычнай школы быў выбраны правільны. І розніца ва ўзроўні адукацыі паміж Мінскам і філіяламі мінімальная. Тым больш, што ўступныя іспыты абітурыенты праходзяць у Мінску, выпускныя экзамены здаюць таксама ў Мінску. На якасць падрыхтоўкі спецыялістаў ніхто нідзе не наракаў. І будзе несправядліва, калі з-за нейкай фармальнасці загубім добрую справу.

**— Скажы, калі ласка, а чаму кансерваторыя была перайменавана ў акадэмію музыкі?**

— Гэта яшчэ адзін прыклад праслаўтых фармальных стандартаў. Па існуючым заканадаўстве кансерваторыя не ўваходзіла ў рэестр вышэйшых навучальных устаноў універсітэцкага тыпу. А гэта адбівалася на многіх аспектах нашага жыцця — і на матэрыяльным забеспячэнні, і на зарплаце выкладчыкаў. Дый у вучэбных і навуковых адносінах нам трэба было адпавядаць крытэрыям вышэйшай школы. Таму мы свядома пайшлі на рэфармаванне нашай вучэльні.

**— А цяпер вернемся да твайго сумяшчальніцтва. Чаму ты лічыш, што гэта было правільна?**

— Ведаеш, Зіновій… Адназначна на гэта пытанне не адкажаш. Канечне, з маім адыходам аркестр нешта згубіў. Асабліва ў першыя гады, калі я з галавой

акунуўся ў кансерваторскія праблемы і адрывацца на шматгадзінныя рэпетыцыі мне практычна было немагчыма. А Сяргей Сакалоў, на якога я пакінуў аркестр, яшчэ поўнасцю не быў да гэтага падрыхтаваны. Ужо крыху пазней, калі ў калектыў прыйшоў Саша Крамко, мне стала лягчэй. Але асабліва абаперціся на яго я таксама не мог — хлопцу не хапала неабходнага вопыту. Дый аўтарытэт у калектыве яшчэ трэба было заваёўваць. Так што страты пэўныя былі. Я гэта адчуваў і таму нерваваўся, перажываў.

Аднак былі і набыткі. Рэктарства пашырала мой кругагляд, давала магчымасць заводзіць новыя знаёмствы, новыя сувязі ва ўладных структурах, у рэшце рэшт узбагачала мой кіраўнічы і педагагічны вопыт. Усё гэта мне вельмі памагала як мастацкаму кіраўніку і галоўнаму дырыжору аркестра. У сваю чаргу, калі я пераключаўся з кансерваторскіх клопатаў на рэпетыцыі з аркестрам, цалкам акунаўся ў жыццядайную стыхію музыкі, то атрымоўваў такі эмацыянальны зарад, такое маральнае і эстэтычнае задавальненне, што ўжо куды лягчэй мог вытрымліваць складаныя, непад’ёмныя нагрузкі рэктара.

Але правільнасць майго выбару была не толькі ў гэтым. Галоўнае заключалася вось у чым. Калі пачалася перабудова, БНФ павёў надзвычай актыўную, ярасную палітыку беларусізацыі, а, дакладней кажучы, — нездаровага нацыяналізму. Я ўсёй душой за тое, каб чалавек трымаўся нацыянальных кранёў, любіў сваю зямлю, матчыну мову, але без перахлёстаў, без крайнасцей. А ў нас тады ўжо былі пайшлі такія рэчы, якія насцярожвалі, выклікалі трывогу. У прыватнасці, некаторыя музычныя дзеячы, настроеныя прабэнээфаўску, сталі сцвярджаць, што наш аркестр — гэта параджэнне Савецкага Саюза, што такія калектывы суверэннай, незалежнай Беларусі не патрэбны, а патрэбны аўтэнтычныя гурты, самабытныя ансамблі і таму падобнае. Такія настроі ўплывалі і на атмасферу ў калектыве. І вось тут мая пазіцыя і як кіраўніка аркестра, і як музыканта, які меў пэўны аўтарытэт, памагла пераламаць сітуацыю, утрымаць калектыў ад развалу.

**— Міхась Антонавіч, калі мы ўжо закранулі тэму беларусізацыі, то раскажы, калі ласка, як яна ішла ў вас, у кансерваторыі. Гэта ж даволі спецыфічная навучальная ўстанова, многія выкладчыкі якой — не беларусы, прыехалі з Масквы, з Піцера, з іншых расійскіх гарадоў. Складанасці былі?**

— Ніякіх! Працэс пайшоў лёгка, нязмушана. Я нікому нічога не загадваў, не патрабаваў. Кожны гаварыў на той мове, якая яму падабалася. Але сам я прынцыпова стаў гаварыць толькі па-беларуску. І што цікава? Услед за мною на беларускую мову ўсё больш смела пачалі пераходзіць многія выкладчыкі. Адкуль што і ўзялося! І словы прыгадвалі каларытныя, сакавітыя, і вымаўлялі іх чыста, правільна. Значыць, жыве ў нашых генах, у нашай падсвядомасці тое, што даецца з малаком маці, глыбінна наскае, нацыянальнае, і трэба толькі спрыяльныя ўмовы, каб яно ўзышло, закаласіла.

Праз два-тры гады на вучоным савеце сталі выступаць па-беларуску. Нават тыя, хто быў з Расіі. А мой прарэктар Аляксандр Рашчупкін, сам расіянін, сын ваеннага, настолькі выдатна асвоіў нашу мову, што я нават часам у яго пытаўся, як лепш пабудаваць тую ці іншую фразу.

Больш таго, усё справаводства ў кансерваторыі перавялі на беларускую мову. Стварылі шматтыражную газету «Беларускі музыкант», дзе выкладчыкі і студэнты друкавалі свае вершы, апавяданні, розныя допісы.

Словам, запанавала атмасфера шчаслівай згуртаванасці, прыўзнятасці, нейкага свята. Было такое адчуванне, нібыта ўсе мы пасля доўгіх, далёкіх блуканняў вярнуліся нарэшце дадому, да роднага бацькоўскага парога і ў душы ўсталяваліся спакой і лагода.

## Каб змагацца і перамагаць, трэба ўмець і ведаць

**— Бацькоўскі парог… Вымавіш гэта — і душа сапраўды адгукаецца цёплымі, шчымлівымі ўспамінамі маленства. Раскажы крыху пра сваіх бацькоў, пра свае дзіцячыя гады.**

— Маё маленства, на жаль, прыпала на гады вайны. Таму і ўспаміны мае не зусім тыповыя. Прыгадваецца зіма сорак другога года. Я хачу зайсці ў лазню, а мяне чамусьці туды не пускаюць. І нават не тлумачаць чаму. Пасля ўжо сказалі, што там хаваўся, два тыдні, наш блізкі сваяк, мамін брат, Андрэй Валынец. Ён перайшоў лінію фронту для таго, каб памагчы арганізаваць у нашай мясцовасці партызанскі рух. Пазней ён кіраваў партызанскім атрадам «Савецкая Беларусь» і быў удастоены звання Героя Савецкага Саюза.

Помніцца і такі эпізод. Было гэта летам, якраз цвіла бульба. У нас гасцяваў другі мамін брат, меншы. Баявы, зухаваты хлопец, партызанскі разведчык. І толькі мы з ім распачалі нейкую гульню, як у хату ўбягае спалатнелая маці і спалохана кажа: «Немцы!» Хлопец — у акно і праз агарод да лесу. Немец, які стаяў ужо на двары, наўздагон яму даў аўтаматную чаргу. Але не па ім, а паўзверх. Пастраляў, пастраляў і пайшоў. А мог бы і забіць… І бацькоў, дарэчы, не зачапіў.

А было і такое. Увесну сорак чацвёртага нашу вёску нечакана акружылі гітлераўцы і загадалі ўсім выходзіць на поплаў, што каля школы. Сабраліся і старыя, і малыя. Стараста абвясціў, што непадалёку ад вёскі партызаны забілі немца і таму ўсе яе жыхары будуць расстраляны. Жанчыны галасілі, дзеці плакалі. Мяне дзед засланіў сабою, каб я нават не бачыў, як гітлераўцы будуць страляць. Дзякаваць богу, усё абышлося: стараста змог угаварыць каменданта не чапаць ні жыхароў, ні хат.

Побач з трагічным усплывае ў памяці і камічнае. Немцы вырашылі стварыць у нашай вёсцы самаахову. Але ўступаць у яе шэрагі ніхто не хацеў, бо трэба было даносіць у камендатуру пра партызан, хто з аднавяскоўцаў з імі звязаны. Прычапіліся і да майго бацькі: уступай! А ён катэгарычна адмаўляўся. Тады яго паклалі на лаву і давай лупіць бізуном. А я якраз сядзеў за сталом і сёрбаў саладуху. Калі бацька закрычаў, я схапіў міску, кінуўся да немца і выплюхнуў саладуху проста яму ў твар. На нейкі момант той знерухомеў, а тады ўзяў мяне за каршэнь і ўрэзаў ручкаю бізуна па мяккім месцы. Але бацьку болей не біў. Пасля гэта было любімаю згадкаю ў сям'і: як Міхаська ўратаваў бацьку.

**— Дарэчы, а хто былі твае продкі?**

— Звычайныя земляробы. Тутэйшыя, з Вілейшчыны. Бацька, Антон Іванавіч, родам з Цынцавіч, а маці, Людміла Антонаўна, — з суседняй вёскі Жаўткі. Мелі неблагую па тым часе гаспадарку: каня, тры каровы, некалькі свіней. Двор заўсёды быў запоўнены курамі, гусямі. У прынцыпе мы падлягалі раскулачванню. Калі прыйшлі, як бацька казаў, другія саветы і сталі арганізоўвацца калгасы, то мы маглі загрымець у высылку. Але нас абараніў Валынец. Ён ужо быў сур'ёзным начальнікам у вобласці.

Мая беларускасць ад маці. І ўсе маральныя, духоўныя каштоўнасці таксама. З дзяцінства вучыла мяне: гэтага не рабі — грэх, так не кажы — сорамна… Малапісьменная вясковая жанчына, яна была сапраўдным інтэлігентам. Старалася не пакрыўдзіць чалавека, памагчы яму. Клапацілася не толькі пра сваё, але і пра грамадскае дабро. Вельмі перажывала, калі дзе што рабілася не так, не па-людску.

Бацька ж быў чалавек крыху іншы. Паслужыўшы пэўны час у польскім войску жаўнерам, ён на ўсё жыццё захаваў сімпатыю да ўсяго польскага. Нават гаспадарчая тэхніка ў нас была толькі польская. Любіў слухаць па радыё Варшаву, і кожнай добрай вестцы адтуль радаваўся, як сваёй уласнай. Таму калі я аднойчы, вярнуўшыся з гастрольнага тура па Польшчы, стаў расказваць, што нашы суседзі жывуць яшчэ беднавата, скрозь палоскі аднаасобнікаў, бацька пакрыўдзіўся і тыдні два не размаўляў са мною.

І да выхавання дзяцей яны ставіліся па-рознаму. Маці ніколі не павышала на нас з братам голасу, заўсёды была ласкавая, спагадлівая. Бацька ж меў характар суровы, часам нават жорсткі. Па праўдзе кажучы, мы яго пабойваліся.

**— Міхась Антонавіч, калі бацькі твае звычайныя земляробы, то ад каго ў цябе твая незвычайная музыкальнасць?**



*З матуляй Людмілай Антонаўнай.*

— Ад дзеда. Іван Антонавіч, ці як яго называлі ў вёсцы Янук, выдатна іграў на скрыпцы. Ніводнае вяселле ў акрузе не абыходзілася без яго ўдзелу. А маці цудоўна спявала. У нашай хаце, колькі я сябе помню, заўсёды жыла матчына песня і дзедава музыка. Валынец, які даволі часта ў нас гасцяваў, любіў казаць: «Янук! Давай ярзоліцу на дваццаць чатыры калены і безператыку!»

Таму зусім не дзіўна, што я ўжо недзе гадоў з шасці стаў уяўляць сябе музыкам. Браў дошку, набіваў два рады цвікоў і бегаў па іх пальцамі: тува-тува, тува-тува… Бачачы такую маю цягу да музыкі, маці ўгаварыла бацьку купіць для мяне гармонік. Між іншым, гэта была для сям'і немалая ахвяра — ажно пуд жыта, на той час цэлае багацце.

Гармонік я асвойваў самавукам. Падбіраў мелодыі на слых, і ў дзесяць гадоў ужо мог выконваць увесь вясковы рэпертуар — вальсы, полькі, прыпеўкі… І, відаць, іграў някепска, таму што ўзялі ў мясцовы ансамбль.

Аднак даволі хутка я зразумеў, што на гэтым, вясковым, набытку далёка не заедзеш — трэба вучыцца. І калі мае бацькі ў 1957 годзе пераехалі ў Вілейку, я пайшоў там у восьмы клас сярэдняй школы і паралельна — у першы клас музычнай.

Пасля дзесяцігодкі я ўжо цвёрда рашыў для сябе: буду толькі музыкантам. Паступаў у Мінскае музычнае вучылішча, але не хапіла балаў. Добрыя людзі падказалі мне: едзь у Віцебск, там, здаецца, яшчэ працягваецца набор. І праўда, мяне праслухалі і прынялі без экзаменаў, залічыўшы мінскія адзнакі.

Ну а далейшы мой шлях ты ўжо ведаеш: з вучылішча — у кансерваторыю, з кансерваторыі — у аркестр народных інструментаў…

**— Расказваючы пра гэта, ты некалькі разоў падкрэсліваў, што табе ў жыцці шанцавала на добрых, спагадлівых людзей. Хто яны былі, твае дабрадзеі, твае настаўнікі?**

— Першым сапраўдным настаўнікам у маім дырыжорскім лёсе быў Іосіф Абраміс, выкладчык кансерваторыі. Нейкія азы гэтай прафесіі я атрымаў яшчэ ў музычным вучылішчы. Іосіф Самуілавіч павёў далей: паказаў усе глыбіні і складанасці оперна-сімфанічнага дырыжыравання, прывіў неабходныя навыкі, якіх гэтая справа вымагае.

Не магу не сказаць словы глыбокай удзячнасці Георгію Іванавічу Жыхараву. Я паказваў яму свае інструментоўкі, ён вельмі падтрымліваў, заахвочваў мяне ў гэтым. І ў рэшце рэшт сыграў ключавую ролю ў тым, што мяне пасля заканчэння кансерваторыі пакінулі ў Мінску, што я стаў дырыжорам.

Асобна хачу сказаць пра Віталя Вітальевіча Катаева. Бліскучага дырыжора і цудоўнейшага чалавека. У канцы шасцідзясятых ён прыехаў з Масквы ў Мінск

і ўзначаліў Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР. Галоўная заслуга Віталя Вітальевіча ў маім станаўленні як дырыжора ў тым, што ён раскрываў сутнасць прафесіі, яе музычны характар, бытавы характар. Не раз падкрэсліваў, што заваяваць аркестр немагчыма грубасцю, насіллем, указаннямі. Толькі аўтарытэтам! Тады любыя твае дзеянні будуць успрымацца як жаданне зрабіць лепш, зрабіць больш.

Катаеў рыхтаваў, выхоўваў мяне не толькі тэарэтычна, але і практычна. Даваў дырыжыраваць на канцэртах, якія праходзілі на перыферыі. Казаў: калі не будзе практыкі аркестравай, то гэта будзе проста класнае дырыжыраванне, гэта значыць, дырыжыраванне ў вучэбным класе. І таму паралельна з вучобай я больш за два гады кіраваў студэнцкім сімфанічным аркестрам, створаным пры Маладзечанскім музычным вучылішчы. Мы ігралі сімфоніі Шуберта, «Эгманта» Бетховена, першую частку Першай сімфоніі Рахманінава… Усяго было недзе каля пяці праграм. Гэтыя праграмы я прывозіў у Мінск, у кансерваторыю. Катаеў заахвочваў маю работу — нешта хваліў, у нечым рабіў падказкі, даваў парады. З дапамогай настаўніка я пачаў кантраляваць сябе ў рабоце з аркестрам, ацэньваць, дзе, што і чаму не атрымоўваецца. Адбывалася неабходная прафесійная самаацэнка, якая не толькі давала станоўчыя вынікі ў творчасці, але і дапамагала мне расці і ўдасканальвацца як дырыжору.

**— Цяпер ты ўжо і сам, напэўна, для многіх з’яўляешся настаўнікам. Удзячная гэта справа — мець вучняў?**

— Удзячная, хаця і клопатная. Першыя вучні ў мяне паявіліся адразу, як толькі я стаў працаваць у кансерваторыі. Таму некаторыя з іх ужо набылі і вядомасць, і прызнанне. Так, Аркадзь Пальвінскі, які працуе ў Віцебскім музычным вучылішчы, стаў выдатным цымбалістам і дырыжорам, мае званне заслужанага дзеяча культуры. У цудоўнага музыканта вырасла Тамара Бялькова з Маладзечна. Яна неаднаразова атрымоўвала гран-пры на конкурсах у Беларусі як дырыжор аркестра рускіх народных інструментаў.

Мае выпускнікі паспяхова працуюць у розных каледжах і музычных вучылішчах краіны. Але самай вялікай маёй уцехаю і гонарам з’яўляюцца мае выхаванцы з кансерваторскага сімфанічнага аркестра «Маладая Беларусь», які я ў свой час арганізаваў і якім нязменна кірую вось ужо амаль дваццаць гадоў. Калектыў дастаткова вялікі — дзевяноста два чалавекі, усе выключна студэнты. Кожны год пэўная частка іх, пяцікурснікаў, пакідае аркестр, а адпаведная колькасць чалавек прыходзіць з першага курса. Аднак ніякай скідкі на гэта нам не даецца. Мы імкнёмся адпавядаць самым высокім патрабаванням. І, спадзяюся, нам гэта ўдаецца. Прынамсі, за мінулыя гады мы сыгралі дзясяткі складаных сімфанічных праграм, пабывалі на прэстыжных фестывалях у многіх замежных краінах. У нас нават ёсць свой «уласны» фестываль у Францыі — «Лета Вялікага саду». А ў Германіі нас сёлета прымалі ўжо чатырнаццаты раз, і, як заўсёды, пры перапоўненых залах.

Дык вось у гэтым аркестры праз мае, калі можна так сказаць, рукі прайшлі сотні, калі не тысячы чалавек. Я магу завітаць у любы аркестр і там абавязкова сустрэну сваіх вучняў. Гэта накладвае на мяне дадатковую адказнасць, бо ў поўнай меры ўсведамляю: ад таго, наколькі я буду паспяхова вырашаць творчыя праблемы сваіх выхаванцаў, залежыць іх станаўленне як музыкантаў, а ў канчатковым выніку — і будучыня нашага музычнага мастацтва.

**— Ёсць вядомая прымаўка: «Скажы, хто твой сябра — і я скажу, хто ты». У цябе шмат сяброў? Хто яны?**

— Пераважна людзі маёй прафесіі. І іх зусім няшмат, пералічыць можна па пальцах адной рукі. Прычым з гадамі іх усё менее. Няма ўжо, пайшоў у вечнасць мой блізкі сябра Леанід Іваноў. Дзякаваць богу, жывы-здаровы Вячаслаў Кудраўцаў, з якім мы сябруем з першага курса музычнага вучылішча. З вялікай радасцю

кожны раз сустракаюся з Эдуардам Шэш — чалавекам не проста эрудзіраваным, інтэлігентным, а надзвычай прыемным, камфортным.

**— Міхась Антонавіч, а ворагі на тваім жыццёвым шляху сустракаліся?**

— Бог мілаваў. Магчыма, былі і ёсць нядобразычліўцы, зайздроснікі. Але гэта нармальныя рэчы. Асабліва ў творчым асяроддзі. А для іншых пачуццяў я стараўся не даваць падстаў. Заўсёды роўна і з вялікай павагай адношуся да калег па рабоце.

**— Некалі Максім Горкі сказаў, што ў Беларусі ёсць два паэты — Якуб Колас і Янка Купала — вельмі цікавыя хлопцы! Так па-народнаму проста пішуць, так ласкава, журботна, шчыра. Нашым бы трохі такіх якасцей. Гэтыя словы класіка рускай літаратуры мне часам хочацца перайначыць і сказаць: ёсць у нас два цікавыя, цудоўныя хлопцы — Міхась Казінец і Міхась Дрынеўскі, якія так па-народнаму проста і глыбока мысляць, так таленавіта і шчыра слугуюць беларускай песні, роднай культуры. Ведаю, што вы з Міхасём Паўлавічам даўно і вельмі хораша сябруеце, крочыце па жыцці, што называецца, нага ў нагу. У вас нават усе ўзнагароды і званні аднолькавыя…**

— Так, мы адным указам у 1978 годзе атрымалі званне заслужанага дзеяча мастацтваў. Народнымі артыстамі мы таксама сталі адначасова. А вось Дзяржаўную прэмію БССР Дрынеўскі атрымаў на два гады раней. І нам не хапіла двух тыдняў — разваліўся Савецкі Саюз — і мы атрымалі б званне народнага артыста СССР.

**— У вас, як мне здаецца, ёсць не толькі зайздросныя сяброўскія адносіны, але і добрае творчае спаборніцтва.**

— Ёсць, ёсць. І гэта натуральна. Але ў мяне ніколі не было чорнай зайздрасці, калі ў Міхася Паўлавіча атрымоўвалася нешта цікавае, добрае. Я заўсёды радуюся любому поспеху Нацыянальнага хору. Аднак сам сабе думаю: трэба і мне нечым парадаваць, здзівіць гледача.

**— А як вы з Дрынеўскім парадавалі і глыбока ўразілі гледачоў, калі сумесна падрыхтавалі цыкл праграм «Галасы Бацькаўшчыны». Гэта быў сапраўдны трыумф двух праслаўленых калектываў — Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя Жыновіча і Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча. У чым, на твой погляд, ашаламляльны поспех гэтых канцэртаў?**

— Напэўна, у спалучэнні дзвюх магутных стыхій — народнай песні і народнага меласу. Магчыма, у тым, што мы змаглі абудзіць у слухачоў нешта глыбіннае, прыродна-геннае, закрануць запаветныя струны душы. А яшчэ, можа, у тым, што асяроддзе ў лельчыцкім Тонежы і ў вілейскіх Цынцавічах было аднолькавае…

**— Дарэчы, пра Цынцавічы. Ты часта бываеш у роднай вёсцы? Як яна пачувае сябе цяпер?**

— Як пачувае? Прывяду адзін прыклад. У свой час у вёсцы дзейнічала школа-сямігодка і былі нават паралельныя класы. Цяпер жа ўсяго шэсць вучняў. А чаму? Вёска, што мела некалі сто сорак двароў, вымірае. Моладзь з’язджае, застаюцца дажываць свой век толькі старыя. У некаторых дамах — ні душы.

**— Вымірае вёска — значыць, знікаюць і носьбіты беларускай мовы. Ужо і вясковыя жыхары часцей за ўсё размаўляюць па-руску ці ў лепшым выпадку на вядомай трасянцы. Цябе гэта не трывожыць?**

— Ведаеш што, пакуль будзе гэтая зямля, гэтыя людзі, на генетычным узроўні знішчыць беларускую мову немагчыма. Нашу вёску, бадай, можна і папракнуць у тым, што яна адварочваецца ад свайго, роднага, але ёй жа трэба і падзякаваць за тое, што вытрымала страшэнны ціск савецкіх ідэолагаў на знішчэнне ўсяго нацыянальнага і ўсё ж захавала сваю ідэнтычнасць, хай сабе і не ў такой ступені, як нашыя суседзі-ўкраінцы.

А што датычыцца носьбітаў беларускасці, то яны сёння істотна памяняліся. Працэс гэты набыў, калі можна так сказаць, навукова-камп'ютарны характар. Наша мова ўжо занатавана ў першакрыніцах — у музыцы, у фальклорных запісах, у навуковых працах. Яна не можа знікнуць. Напрацаваны сур'ёзны, салідны базіс. Раней, я лічу, сітуацыя была куды горшай. Да перабудовы мы пачыналі сваю гісторыю з 1917 года. На працягу многіх стагоддзяў мы не былі самастойнай краінай: то ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай, то лічыліся Паўночна-Заходнім краем Расійскай імперыі. Ды і ў савецкія часы не дужа давалі нам разгарнуцца. Калі я вучыўся ў кансерваторыі, беларускай музыкі было ўсяго пятнаццаць гадзін у курсе музыкі народаў СССР. Спецыяльную кафедру я стварыў ужо будучы рэктарам.

Цяпер сітуацыя іншая. Лепшая. Ёсць грунтоўны базіс, з якога пры спрыяльных умовах можна пачынаць сапраўднае адраджэнне.

**— Міхась Антонавіч, ты ўжо больш за паўстагоддзя жывеш у горадзе. Ці застаецца якая сувязь з вёскаю?**

— Сялянская закваска засталася ў мяне на ўсё жыццё. Я магу і каня запрэгчы, і за плугам, калі трэба, пахадзіць. Не магу бачыць, калі нейкі кавалак зямлі пустуе, зарастае пустазеллем. Грэх і сорам! Таму, атрымаўшы ў свой час дачны ўчастак, мы паставілі невялічкі садовы домік, а ўсе астатнія соткі былі старанна апрацаваны. На жаль, падтрымліваць такі парадак цяпер не хапае часу. Я паяўляюся там раз на тыдзень, а то і на два тыдні раз. Пад агарод пакінулі недзе соткі паўтары. Але калі бываю, то ўжо з шасці раніцы шчырую наградах. Мне гэта ў радасць. Люблю глядзець, як усё падымаецца, расце — бульбачка, цыбуля, агуркі… Гэта грэе мне душу.

**— А чым яшчэ цешыш сваю душу? На чытанне застаецца час?**

— Ну, па-першае, пасля таго, як я пакінуў пасаду рэктара, вольнага часу ў мяне крыху прыбавілася. А па-другое, кніга для мяне — гэта святое. Можна недаесці, недаспаць, але застацца без кнігі — немагчыма. Люблю літаратуру класічную, рэалістычную. Яна мацней бярэ за душу. Помню, калі чытаў «Людзі на балоце» Мележа — плакаў. Лічу, што гэты раман нават мацнейшы за «Ціхі Дон». Ва ўсякім разе для мяне. А «Новая зямля» Коласа! Гэта сапраўды энцыклапедыя народнага жыцця, якую можна чытаць і перачытваць бясконца. Асабліва лірычныя, філасофскія адступленні. Захапляюся творамі Шамякіна, Караткевіча, Быкава. З цікавасцю прачытаў нядаўна трылогію Гніламёдава пра заходнебеларускую вёску. Магчыма, твор напісаны крыху традыцыйна, але ў ім ёсць новы паварот у разуменні нашай гісторыі на пачатку XX стагоддзя.

**— З кім з беларускіх пісьменнікаў ты знаёмы, сябруеш?**

— Пра сяброўства я гаварыць не асмелюся, але мы цесна таварышкавалі з Барысам Сачанкам, якога, на жаль, ужо няма сярод нас. Блізка знаёмы з Генадзем Бураўкіным. Цудоўныя адносіны з Анатолем Вярцінскім. Вельмі цёплы чалавек Васіль Зуёнак…

Менш пашанцавала мне з пісьменнікамі старэйшага пакалення, нашымі класікамі. Знаёмства было павярхоўнае, шапачнае. А з Максімам Танкам аднойчы наогул атрымаўся пацешны казус. На нейкім урачыстым вечары я падышоў да яго і сказаў, што вельмі люблю яго паэзію, і каб падмацаваць сказанае, стаў дэкламаваць: «Ноч. Халодная зямлянка. Перастрэлка. Цішыня. Неба чыстае, як шклянка.

Тупат быстрага каня...» А Яўген Іванавіч, бачу, раптам збянтэжыўся і далікатна мне кажа: «Міхась, гэта не мой верш. Гэта — Пятро Глебка...» Атрымалася абы-што. Пахваліўся, называецца.

А наконт паэзіі Танка — чыстая праўда. Я люблю яе, яна глыбока хвалюе мяне, прымушае задумвацца над многімі рэчамі. Паэты — гэта пасланнікі Бога, якія выхоўваюць нас не толькі сваімі творамі, але і сваімі ўчынкамі. Праз Танка я прыняў адно важнае для сябе рашэнне. Калі адчую, што прыйшоў мой час, я, як і мой любімы паэт, скажу таксама, каб мяне пахавалі на радзіме, побач з маімі бацькамі. Лічу, што чалавек павінен вяртацца туды, адкуль прыйшоў.

**— Ну, не будзем аб сумным... Вернемся да літаратуры.**

— Ведаеш, мы часам любім прыбядняцца, займацца самапрыніжэннем. Дык вось, калі гаварыць пра беларускую літаратуру, то мы з поўным правам можам ёю ганарыцца. На мой погляд, яна — адна з магутнейшых у Еўропе.

І наогул, не такія ўжо мы бедныя ў плане культуры. У нас вельмі і вельмі цікавы жывапіс. Узяць тую ж Віцебскую школу. Цудоўныя мастакі еўрапейскага маштабу! Плюс Бялыніцкі-Біруля, Хруцкі, Рушчыц, Шчамялёў, Савіцкі, Паплаўскі...

Што датычыцца музыкі, то прафесійна яна стала развівацца не так даўно, гадоў 70—80 таму. А раней усё, што ў нас стваралася, вывозілася ў Еўропу і там заставалася. І ўсё ж, нягледзячы на сваю маладосць, беларуская музыка мае значныя дасягненні, годна глядзіцца на еўрапейскім фоне. Асабліва сімфанічная музыка. Кожны раз, калі мы яе ігралі за мяжою, яна цудоўна прымалася.

**— Твае любімыя музычныя творы?**

— Тыя, што я іграю сёння. Улюбляешся ў сачыненне ў працэсе рэпетыцый. Захапляешся геніем кампазітара, яго высокім майстэрствам. Бо музыка — гэта плён творчай фантазіі і глыбокага ведання ўсіх музычных законаў, гарманічнае спалучэнне гармоніі, тэмпу, рытму, формы. І, канечне ж, каб атрымоўваць сапраўдную асалоду ад сапраўднай музыкі, трэба быць больш-менш падрыхтаваным.

**— Цікава, а галоўны дырыжор мае патрэбу ў якой-небудзь падрыхтоўцы альбо перападрыхтоўцы?**

— Мая жонка, калі я наважыўся паступаць у асістэнтуру, сказала мне: «Міша, толькі дурань можа так доўга вучыцца» (смяецца). Я лічу, што заўвага слушная. Аднак дурнем застаюся і па сённяшні дзень. Чаго жадаю і іншым. Бо для таго, каб змагацца і перамагаць, трэба ведаць і ўмець. А для гэтага — неабходна вучыцца.

**— Зразумела. Значыць, крытыку жонкі ігнаруеш?**

— Не заўсёды, але іншы раз прапускаю міма вушэй. Раблю выгляд, што не чую (смяецца). Дарэчы, многае з таго, што я рабіў у сваім жыцці, я рабіў насуперак жончыным жаданням. І пасля чамусьці атрымоўвалася, што мае «глупствы» аказваліся правільнымі.

**— А як ты адносішся да крытыкі калег, музыказнаўцаў?**

— Мне заўсёды хочацца ведаць альтэрнатыўную думку. Баюся, калі ёсць поўнае адабрэнне. Гэта мяне насцярожвае. Супрацьлеглае меркаванне бывае непрыемным, нязручным, вуглаватым, але яно дысцыплінуе, трымае ў баявой форме. А гэта вельмі важна.

**— Незадаволенасць сабой здараецца?**

— Пастаянна! Я ў гэтых адносінах нейкі ненармальны чалавек. Надзвычай суровы да самога сябе. Я правёў тысячы канцэртаў — і ні за адзін не паставіў сабе пяцёркі.

**— Што б ты назваў сваёй самай вялікай творчай і наогул жыццёвай удачай?**

— У творчым плане — тое, што трапіў у выдатны калектыў народнага аркестра, да выдатнага дырыжора і цудоўнага чалавека Іосіфа Жыновіча. Самая вялікая жыццёвая ўдача — тое, што сустрэў сваю жонку, Галіну Сяргееўну, з якой мы жывём ужо больш за 45 гадоў у добрым ладзе і згодзе.

**— Дарэчы, дзе і як ты пазнаёміўся са сваёй выбранніцай?**

— Мы вучыліся разам у Віцебскім музычным вучылішчы. Пазнаёміліся ў 1957 годзе, калі я быў ужо на другім курсе, а яна прыйшла на першы. Прыглянулася на адным з вечароў — уся такая стройная, у белай сукеначцы, у модных туфлях-лодачках. А завуць, як дазнаўся, Галяй. Я правёў яе дадому. Сталі сустракацца. Ажаніліся ж толькі праз восем гадоў. Такі ў мяне склад характару — сялянскі: калі сур'ёзную справу рабіць, то не трэба спяшацца, варта агледзець усё як мае быць (усміхаецца). Першы раз я пацалаваў Галю гадоў праз пяць. Адносіны ў нас былі вельмі цнатлівыя, вызначаліся надзвычайнай чысцінёй, рамантычнасцю.

Пасля заканчэння вучылішча Галіна Сяргееўна выкладала ў Барысаве, а я вучыўся ў Мінску ў кансерваторыі. І калі скончыў вучобу, мама мне сказала: «Міша, табе ўжо і жаніцца трэба. Што ты сабе думаеш?» Я паслухаўся мамы, і ніколькі аб гэтым не шкадую. У мяне харошая, дружная сям'я, якая ўсе гэтыя гады была шчаслівым прытулкам і надзейнай апорай ва ўсіх маіх жыццёвых перыпетыях.

**— Раскажы крыху пра сваіх сямейнікаў.**

— У мяне цудоўная дачка Віка. Яна скончыла музычнае вучылішча, музычна-педагагічны факультэт Мінскага педінстытута. Піяністка. Працуе выкладчыкам у 9-й музычнай школе сталіцы. Сын Юрый — мой сябра, мая надзея. Ён пакуль што радуе мяне. Скончыў музычную школу і мог бы ісці далей, здольнасцей хапае, але не захацеў — паступіў у радыётэхнічны, і цяпер працуе ў адной прыватнай фірме. А музыка засталася як хобі, іграе на гітары.

Маю трох унукаў. Старэйшы Аляксандр ужо скончыў школу і пакуль шукае сябе. Сярэдні, Глеб, яшчэ вучыцца. А самая мая вялікая ўцеха — меншанькі, Міхаська, якому толькі год.

**— І апошняе пытанне. Кажуць, што трэба служыць не музыцы, а музыкай служыць людзям. Ці згодны ты з гэтай формулай?**

— Абсалютна згодны. Яно так і ёсць на самай справе. Музыка — гэта адно з самых дзівосных цудаў, створаных чалавецтвам. Бо хіба ж гэта не цуд, што тая ці іншая мелодыя можа абудзіць у чалавеку добрыя, светлыя пачуцці, выклікаць адчуванне радасці, замілавання альбо, наадварот, стварыць атмасферу смутку, тугі, прывесці ў стан раздражнення і гневу. Усё залежыць ад таго, якую музыку мы выбіраем. У народзе кажуць: хлеб ёсць траякі — белы, чорны і ніякі. Так і ў нашым выпадку. Музыка можа быць добрай, кепскай і ніякай. Мы імкнёмся несці людзям музыку добрую, тую, якая абуджае ў чалавеку імкненне да хараства, выхоўвае ў ім мастака, творцу, дае адчуванне вышэйшай духоўнай сферы. Самыя тонкія, самыя патаемныя пачуцці, самыя няўлоўныя рухі душы, якія непадуладныя часам звычайнаму слову, можна перадаць музычнымі гукамі. Не выпадкова Чайкоўскі любіў паўтараць: там, дзе канчаецца слова, — пачынаецца музыка. А Пушкін быў перакананы, што з усіх насалод жыцця аднаму толькі каханню ўступае музыка, але і каханне — мелодыя.

Служыць гэтай высакароднай справе — сапраўднае шчасце.

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

Мікола ЖЫГОЦКІ

# МАЛАВЯДОМАЕ ПРА ЯКУБА КОЛАСА

## Напісаць гісторыю народа…

Якуб Колас, як вядома, быў не толькі паэтам, празаікам, этнографам, лінгвістам, фалькларыстам, педагогам, грамадскім дзеячам, але і гісторыкам-краязнаўцам. Гэта сфера ягонай дзейнасці набывае асабліва важнае значэнне цяпер, калі адраджаецца родная мова, усё глыбей асэнсоўваецца гісторыя беларусаў.

З асобных лістоў песняра, ягоных допісаў, матэрыялаў відаць, што ён вывучаў многія архіўныя крыніцы, навуковыя працы, часам мясціны, дзе жыў і працаваў. Цікавіўся, напрыклад, навуковымі працамі Я. Карскага, У. Пічэты, У. Перцава і іншых вучоных па праблемах гісторыі і этнаграфіі.

Першы свой нарыс на гэтую тэму Канстанцін Міцкевіч прысвяціў вёсцы Люсіна, дзе настаўнічаў. У ім пададзены звесткі як пра само сяло, так і пра яго ваколіцы, занятак і быт жыхароў, згадваюцца легенды. Значна пазней з'явіўся артыкул «Васемнаццатая гадавіна», у якім Якуб Колас расказаў пра арганізацыю і правядзенне першага настаўніцкага з'езда на Міншчыне, удзельнікам якога быў і сам.

Потым народнага песняра зацікавіла гісторыя паўстанняў на Беларусі. У адным з артыкулаў ён зазначыў: «Апроч работы над паэмаю (маецца на ўвазе «На шляхах волі». — **М. Ж.**), я мяркую паспрабаваць напісаць кінасцэнарый на гістарычным беларускім матэрыяле з часоў сялянскіх паўстанняў і казацкіх войн на Беларусі…»

У 1938 годзе ён зазначаў: «Ужо даўно займае мяне думка аб напісанні твора на гістарычным матэрыяле Беларусі. Маю ўвагу запыняе паўстанне ў Крычаве ў 1740—1743 гг., у якое было ўцягнута шмат людзей і якое каштавала працоўным шмат ахвяр. Крычаўскае староства тады належала князю Радзівілу як падараванае яму польскім каралём. Купец крычаўскага староства Гдалій бярэ Крычаў на водкуп. Каб выбіць больш прыбытку, ён заводзіць цэлую сістэму налогаў і падаткаў, шырока выкарыстоўвае гандаль гарэлкай, спойвае бедната і закабальвае яе. Ён падрэзвае даходы папоў, становіцца канкурэнтам беларускіх купцоў і дробнай шляхты і выклікае нянавісць шырокага кола людзей. На чале руху супраць Гдалія становіцца яго канкурэнт — хоцімскі купец, беларус Васіль Вашчыла. Пачынаецца барацьба, у якую ўцягваюцца духавенства, дваранства, мяшчане, а потым і сяляне, войска і г. д.

Перад аўтарам стаіць удзячная задача — на фоне гэтай гістарычнай абстаноўкі правесці ідэю барацьбы прыгнечанага працоўнага народа за сваё сацыяльнае вызваленне».

Аднак задуманае па розных прычынах не здзейснілася. А тут якраз падвярнуўся цікавы матэрыял пра дзеда Талаша, і пісьменнік распачаў працу над аповесцю «Дрыгва». Больш канкрэтна падышоў да гістарычнай тэмы ў суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны, калі жыў у Ташкенце. Выкрываючы рэакцыйную сутнасць гітлераўскай прапаганды, ён пісаў, што нямецкія цемрашалы нахабна лгуць, што беларускі народ не здольны да свабоднага, самастойнага жыцця, не мае сваёй культуры, а таму Якуб Колас канстатаваў:

«…У шматвяковай барацьбе за сацыялістычную справядлівасць, за нацыянальную незалежнасць і цэласнасць, за сваю культуру гартаваўся, як сталь, бела-

рускі народ. З свайго асяроддзя ён вылучыў цэлы шэраг барацьбітоў за народную справу: Гаркуша, Крывашапка, Вашчыла, Каліноўскі і іншыя. Ён даў цэлую плеяду грамадскіх і культурных дзеячоў, якімі мог бы ганарыцца кожны народ: Георгі-Францішак Скарына, Васіль Цяпінскі, Багушэвіч, Янка Купала. Праз гарніла цяжкіх выпрабаванняў, скрозь пакуты і кроў пранёс беларускі народ і захаваў сваю мову, свае звычаі, свой нацыянальны воблік».

Пісьменнік з законнай гордасцю расказвае ў незаконченым артыкуле «Беларусь», якім было жыццё ў дакастрычніцкі час і з якой палёгкай беларускі народ сустрэў дзень свайго вызвалення ад паноў і замежных інтэрвентаў. У артыкуле, рукапіс якога захоўваецца ў музеі песняра, гаворыцца:

«Я помню і ведаю сваю родную краіну яшчэ ў царскія часы. Многа дарог перамералі мае ногі, ходзячы ад вёскі, ад мястэчка да горада. Прыгожа наша Беларусь з яе светлымі рэчкамі і празрыстымі крыніцамі, з яе азёрамі ў вянку зялёных берагоў, з яе лясамі і лугамі. Няясныя, чароўныя мары навяваюць у сэрца нашы ціхія далі, атуленыя мяккаю сінечаю. Радасць і бадзёрасць уліваюць у душу галасістыя крылатыя песняры і пясняркі нашых узлескаў і раскошных лугоў.

Шмат песень злажыў і я дарэвалюцыйнай Беларусі і яе ветламу працавітаму народу. Як ні цяжка было яму пад сацыяльным і нацыянальным прыгнечаннем, у ціску галечы, малазямелля, ён ніколі не ўпадаў у роспач, не траціў веры ў сваю лепшую долю. Ён мужна зносіў цяжкасці жыцця, як народ, у глыбінях душы якога ніколі не высыхалі жывыя крыніцы сілы і надзеі. Невясёлыя былі мае песні аб долі народа, бо я бачыў пакуты і дзяліў іх разам з ім. Крыўдзіў яго паліцэйскі чын, крыўдзіў царскі чыноўнік, крыўдзіў пан, зганяючы яго з зямлі на батрацкія дарогі.

На маіх вачах адбываліся вялікія змены і вялікія падзеі на беларускай зямлі. Стагналі і плакалі яе дарогі, прыносячы з захаду на ўсход патокі бежанцаў. Гнаўся за імі чорны віхар вайны. Гарэлі беларускія сёлы і гарады. Орды кайзераўскіх драпежнікаў грабілі, разбуралі наш край, наша багацце, набытак цэлых пакаленняў. Раслі і множыліся крыжы на безымянных магілах пад зялёнымі купамі старых бяроз, па глухіх узгорках, па краях прыдарожных лясоў. Туман смутку засцілаў людзям вочы. З заложанай торбай за плячамі, падпяразанае лыкам, у лапцях, з кіёчкам стукала гора-горкае ў вокны, у вароты нізкіх, крытых саломаю хат. Ды ўсё на свеце мае свой канец. Рухнула кайзераўская Германія. Павыганялі прэч нямецкіх грабежнікаў. Падзьмуў другі вецер і развеяў волкія хмары, што звісалі над нашай зямлёй і засланялі сонца. Пачуў народ свежае дыханне новага часу, павесялеў. Атрос ён свой смутак, разагнуўся і грамадою пайшоў на спатканне новага дня і новай праўды».

4 красавіка 1942 г. у Маскве адбыўся Другі Усеславянскі мітынг, на якім з палкай прамовай «Беларусы ніколі не аддадуць нямецкім захопнікам сваёй волі, сваёй зямлі, сваёй незалежнасці» выступіў Якуб Колас. Народны песняр заклікаў знішчаць ворага ўсюды, дзе можна і чым можна: «Разрывай яго сувязь, яго дарогі, разбурай яго масты, палі яго склады, пускай пад аткос нямецкія эшалоны. Няхай загарыцца зямля пад нагамі ворага і захістаецца грунт, каб ён, як ашалелы, бег з твае зямлі, не знаходзячы нідзе прытулку для сябе, як біблейскі Каін».

У дні вайны Канстанцін Міхайлавіч шмат увагі ўдзяляў тэме гістарычнай дружбы народаў, якія ў гады суровых выпрабаванняў плячо ў плячо змагаліся з агульным ворагам, аб чым засведчылі артыкулы «Сумесная барацьба рускага і беларускага народаў супроць нямецкай агрэсіі» і «Дружба і ўзаемная павага — залог свабоды і працвітання беларускага і польскага народаў».

Вясною 1944 года Якуб Колас наведаў вызваленыя ад гітлераўцаў Гомель і Беларускае Палессе. Там ён сустрэўся з вязнямі мястэчка Азарычы, дзе гітлераўцы стварылі канцэнтрацыйны лагер, у якім пакутавалі тысячы савецкіх людзей — жыхары Жлобіна і суседніх раёнаў: Парыцкага, Стрэшынскага, Даманавіцкага, Рагачоўскага, Кіраўскага, Акцябрскага. 19 красавіка 1944 года ў газеце «Известия» з’явіўся артыкул «Лагер смерці», у якім пісьменнік расказваў аб злачынствах фашыстаў на беларускай зямлі:

«Ніколі ў жыцці, я не сустракаў такой колькасці і ў такім выглядзе знясіленых людзей. Яны сапраўды прайшлі крэстны шлях, шлях неўявімых пакут і неўявімага здзеку».

Аповед у артыкуле вядзецца ад імя чатырнаццацігадовай дзяўчынкі Кацярыны Хаменкавай з вёскі Фалевічы, якая пабывала ў кіпцюрах нямецкіх драпежнікаў. Яна называе імёны забітых, расказвае аб жудасных здзеках над мірным насельніцтвам. Да расказа Хаменкавай Якуб Колас дадае толькі некалькі адрывістых сказаў, у якіх чуцен гнеў, нянавісць і пагарда пісьменніка да катаў-душагубаў.

Артыкул працягваецца споведдзю шасцідзесяцігадовай сялянкі Арыны Ігнацьеўны Гаўрыленкі з вёскі Талочкі Рагачоўскага раёна, у якой гітлераўцы знішчылі чатырох яе дзяцей. Потым пра тое, як фашысты заганялі насельніцтва ў лагер і які шлях пакут ім давялося прайсці, расказвае 19-гадовая Людміла Пякарская са Жлобіна.

Калі Беларусь была поўнасцю вызвалена, Якуб Колас у артыкуле «Роднаму беларускаму народу!» пісаў: «Чатыры дні грымелі ў Маскве магутныя залпы ў чэсць гераічных воінаў Чырвонай Арміі… Няма ў свеце больш радаснай для нас музыкі, як гэтыя магутныя сімфоніі соцень гармат, бо ў іх гучыць дзівосная вестка пра нашы перамогі, у іх чуюцца хвалюючыя нас словы: ідзе вызваленне беларускай зямлі і беларускага народа, які нацярпеўся пад гнётам нямецкіх захопнікаў. Вогненнае кальцо з кожным днём, з кожнай гадзінай усё шчыльней сціскаецца навокал гітлераўскіх ордаў, якія ўварваліся на нашу святую зямлю».

Яшчэ ў сваёй прамове на трэцяй сесіі Акадэміі навук БССР, якая адбылася ў Маскве 20 студзеня 1944 года, народны пясняр падкрэсліў: «Мы, навуковыя працаўнікі, інтэлігенцыя народа, павінны сягоння моцна запісаць у сваіх мыслях, як вялік наш нявыплачаны доўг перад народам. Беларускі народ не атрымаў яшчэ з нашых рук свае гісторыі, аповесці аб слаўнай многавяковай барацьбе за незалежнасць, за культуру, за сваю нацыянальнасць, за зямлю сваіх продкаў… Мы павінны напісаць гісторыю свайго народа, запоўніць тыя белыя плямы, якія да сягонняшняга дня чакаюць свайго даследчыка. Мы павінны паказаць народу яго барацьбітоў-герояў, каб на іх прыкладах вучылася і выхоўвалася маладое пакаленне. Мы павінны вярнуць народу яго сыноў, якія бытуюць у памяці не на сваіх пашпартах…»

Да канца сваіх дзён Якуб Колас клапаціўся пра глыбокае вывучэнне нашай гісторыі, пра стварэнне шматтомнай і навукова-папулярнай гісторыі Беларусі. «Без вывучэння мінулага, — зазначае ён у адной са сваіх прадмоў, — і сучаснага мы не можам прадбачыць будучага. У той жа час мы амаль не дбаем пра тое, каб збіраць, захоўваць і вывучаць матэрыялы аб жыцці народа. Выйшаў у свет новы том матэрыялаў па гісторыі Беларусі. А дзе ж асноўная кніга па гісторыі? Чаму яна не выходзіць у свет?.. А здарыцца патрэба — даводзіцца карыстацца выданнямі ўнікальнымі, няпоўнымі, з аднабокім асвятленнем падзей і фактаў. І гэтыя выданні недаступныя масаваму чытачу, студэнту і настаўніку. Што ім рабіць? Як ім задаволіць сваю прагу да гераічнага мінулага народа, яго слаўных спраў сягоння?

У нашай гістарычнай навуцы ёсць шмат нявысветленых падзей, напрыклад, шматлікія сялянскія паўстанні ў Беларусі, скажам, пачынаючы з XVII ст.

…А хіба зачынены дзверы архіваў і бібліятэк, хіба мала яшчэ непарушаных дакументаў? З гэтага боку тэматыка, якую распрацоўваюць нашы навуковыя інстытуты, падлягае самай суровай крытыцы».

## Прыцяжэнне генія Льва Талстога

Адбываючы пакаранне за ўдзел у настаўніцкім з’ездзе, Канстанцін Міхайлавіч за тры турэмныя гады зняволення ў Мінскім астрозе шмат перадумаў, перажыў. Успомніў ён і многіх пісьменнікаў, чые творы чытаў у настаўніцкай семінарыі. Асабліва падабаўся яму Леў Талстой, які зрабіў на яго вялікае ўражанне. Гэта відаць з прамовы на схіле ягоных дзён 11 верасня 1953 года ў Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры імя Янкі Купалы на агульнагарадскім літаратурным вечары, прысвечаным 125-годдзю з дня нараджэння Льва Мікалаевіча:

«З непераўзыдзенай мастацкай сілай намаляваў Леў Талстой цэлы свет вобразаў, жывых і яскравых паасобку, цэльных і непасрэдных у сваіх учынках і аб'яднаных строгім узаемадзеяннем.

Мы ўяўляем герояў Талстога не толькі па сіле кіраваўшага імі пачуцця, мы як бы ўваходзім з імі ў дачыненні, адчуваем іх ва ўсёй паўнаце — ад драбніц адзення да бляску вачэй і цеплыні рукі.

Кнігі Талстога — гэта не проста кнігі, нашы добрыя сябры, гэта само жыццё, поўнае страсцей і дзеянняў і перажыванняў, гэта сама праўда, мастацкая настолькі, што выходзіць за межы мастацтва, каб заўсёды заставацца сапраўды чыстаю праўдай…»

«Творчасць Льва Талстога, — працягваў Якуб Колас, — не ведае роўных па ахопу падзей у часе і прасторы, па шырыні абмалёўкі ўсіх слаёў грамадства…

Мы з гордасцю сцвярджаем, што Леў Талстой з'яўляецца настаўнікам беларускай літаратуры, што яго імя ведаюць і паважаюць працоўныя нашай рэспублікі. Творчасць Талстога — найкаштоўнейшы здабытак чалавечай культуры. Мастацкаму слову Льва Талстога забяспечана вечнае жыццё».

Ноччу 28 кастрычніка 1910 года ва ўзросце 82 гадоў Леў Мікалаевіч Талстой вырашыў развітацца з Яснай Палянай. Праз некаторы час яго не стала.

У астрозе Якуб Колас пачуў і пра смерць геніяльнага рускага пісьменніка. На гэтую трагічную вестку ён адазваўся прачулымі сардэчнымі радкамі верша «Памяці Л. М. Талстога»:

…Ты сышоў з жыцця дарогі, —
І ноч больш цямнее.
Тое царства цьмы, няпраўды,
Што над намі вее…

Ты сышоў з жыцця дарогі,
Але ўсёй душою
З намі будзеш, вечна будзеш
Зваць на бой нас з цьмою.

Гэты твор Канстанцін Міхайлавіч даслаў у «Нашу ніву», у якой ён быў апублікаваны ў нумары за 3 снежня 1910 года.

## І прыязны поціск рук

Яшчэ ў дакастрычніцкі час вядомы рускі пісьменнік Максім Горкі праяўляў цікавасць да беларускіх літаратараў. У пісьме да Міхайлы Кацюбінскага Аляксей Максімавіч пісаў: «У Беларусі ёсць два паэты: Якуб Колас і Янка Купала — надта цікавыя хлопцы, проста пішуць. Так ласкава, сумна, шчыра, нашым бы крыху іх якасцей». Гэта стала каштоўнай падтрымкай Горкім двух беларускіх паэтаў у той жорсткі час, калі пісаць і друкаваць на роднай мове было нялёгка.

Аляксей Максімавіч цікавіўся жыццём беларускага народа і яго паэтамі. Гэтай каштоўнай падтрымкі, гэтых клопатаў аб беларускіх пісьменніках Якуб Колас не забываў на працягу ўсяго свайго жыцця, аб чым красамоўна сведчаць ягоныя артыкулы, прысвечаныя жыццю і творчай дзейнасці класіка рускай літаратуры.

Першы з іх «Друг і настаўнік» з'явіўся ў 1938 годзе. У ім Канстанцін Міхайлавіч піша аб сваёй першай сустрэчы ў 1928 годзе з Горкім на Мінскім вакзале, дзе той спыняўся праездам з Італіі ў Расію. На вакзале з той нагоды адбыўся мітынг. «Я быў у ліку дэлегатаў, — пісаў Якуб Колас, — якім было даручана вітаць яго. Я зайшоў у вагон і ўпершыню ўбачыў Аляксея Максімавіча. Даўно знаёмы і дарагі мне па партрэтах воблік яго ўсё ж паразіў мяне сваім ачараваннем. Назаўсёды запомнілася першае ўражанне ад яго глыбокіх уважлівых вачэй, ад яго лагоднай усмешкі з-пад навісшых вусоў і прыязнага рукапажацця яго магутнай рукі. Ён ветліва спаткаў мяне. Я напомніў яму з радасцю аб яго водзыве аба мне і аб Янку Купалу. Ён сказаў некалькі добрых, прыяцельскіх слоў аб задачах нацыянальнай літаратуры, аб яе ролі ў сацыялістычным будаўніцтве».

Другі і апошні раз Якуб Колас сустрэўся з Горкім у 1943 годзе, калі пасля I з'езда савецкіх пісьменнікаў яго наведала шмат літаратараў з братніх рэспублік. Горкі прыняў гасцей цёпла, па-сяброўску, гутарыў з імі аб літаратуры і жыцці. Беларускім пісьменнікам даў наказ заняцца сур'ёзна стварэннем гісторыі сваёй літаратуры.

Праз два гады выдатнага пісьменніка не стала. Якуб Колас прымаў удзел у пахаванні Аляксея Максімавіча, стаяў у ганаровай варце каля труны. У тыя жалобныя дні «…стараўся замацаваць у сваёй памяці дарагія рысы яго суровага і мужнага твару. Я мысленна азіраў увесь жыццёвы шлях гэтага нястомнага чалавека, які, прыйшоўшы з глыбінь народных мас на вышыні чалавечай культуры, амаль паўвека свайго невычэрпна плённага жыцця аддаў на служэнне народу».

У фондах Літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа захоўваецца яшчэ адзін рукапіс, прысвечаны жыццю і творчасці Максіма Горкага. Гэта тэкст прамовы «Вялікі змагар за шчасце народаў», з якой Якуб Колас выступіў на адкрыцці помніка Аляксею Максімавічу на плошчы Беларускага вакзала ў Маскве ў чэрвені 1951 года. Помнік быў устаноўлены ў сувязі з 15-годдзем з дня смерці Горкага.

«Творчая дзейнасць Аляксея Максімавіча, — сказаў Канстанцін Міхайлавіч, — гэта мара аб новым чалавеку, які вызваліўся ад панскіх пут, ад знявагі і здзеку эксплуататараў. Горкі заўсёды паднімаў свой голас у абарону праўды і справядлівсці… На яго творах выхоўваліся дзесяткі пісьменнікаў, ён застаецца настаўнікам і для новых літаратурных сіл. Хто з цяперашніх вядомых пісьменнікаў не вучыўся ў Горкага пісаць, быць «непрымірымым да спешлівасці, неахайнасці, недастатковага ведання апісваемага прадмета».

«Імя Горкага, — зазначаў далей Якуб Колас, — я пачуў паўвека назад. Былі дзевяцісотыя гады. Вобразныя творы маладога рускага пісьменніка рабілі моцнае ўражанне. Здавалася, разрываючы духату, ударыў вясенні гром, абвяшчаючы асвяжаючую змену».

Ішлі гады, мяняўся час. Але народны пясняр Беларусі назаўсёды захаваў у сваім сэрцы любоў і павагу да Максіма Горкага, да яго твораў.

## Пісьмо другу

Вялікая дружба звязвала Якуба Коласа і вядомага рускага пісьменніка Аляксея Талстога. «Калі я думаю пра Аляксея Мікалаевіча, — пісаў Колас у артыкуле «Цудоўны чалавек», — я ўспамінаю Парыж, дзе я нярэдка сустракаўся з ім у час сусветнага антыфашысцкага пісьменніцкага кангрэса ў абарону культуры. Яго выступленне на кангрэсе мела вялікі поспех. У пісьменнікаў Еўропы і Амерыкі Аляксей Мікалаевіч карыстаўся вялікім і заслужаным аўтарытэтам. Пазней я сустракаўся з Аляксеем Мікалаевічам у Маскве на пісьменніцкіх вечарах і на пасяджэннях літаратурнай секцыі Камітэта па Дзяржаўных прэміях».

У гэтым жа артыкуле народны пясняр згадвае і пра тое, як высока цаніў А. Талстой творчасць беларускіх літаратараў. «Памятаю адно з пісьменніцкіх выступленняў перад студэнцкай аўдыторыяй. Выступаў малады беларускі паэт Аркадзь Куляшоў. Здавалася, Аляксей Мікалаевіч слухаў не асабліва ўважліва, аднак калі Куляшоў скончыў сваё выступленне, Аляксей Мікалаевіч тут жа, за сталом прэзідыума, падзяліўся сваімі ўражаннямі аб вершах Куляшова: «А ведаеце, які гэта свежы, самабытны талент!» І пачаў распытваць мяне і сядзеўшага побач Янку Купалу пра Куляшова. Паэму Куляшова «Сцяг брыгады» Аляксей Мікалаевіч надзвычай высока цаніў».

Калі ў Ташкенце шырока адзначалася 60-годдзе Якуба Коласа, сярод тых, хто павітаў яго, быў і Аляксей Талстой, які на той час таксама знаходзіўся ў Ташкенце:

*«3 лістапада 1942 г.*
*Якубу Коласу*
Дарагі друг, Канстанцін Міхайлавіч, горача, ад усёй душы віншую з шасцідзесяцігодзем Вас — вялікага паэта роднай нам Беларусі. Для паэта гэта час мудрасці, глыбокай унутранай яснасці і славы!

Я надзвычай шкадую, што не змагу асабіста віншаваць Вас на ўрачыстым пасяджэнні: я даведаўся пра яго толькі некалькі мінут таму назад, выпадкова (газеты чытаю позна ўвечары). І сённяшні вечар ужо аддаў справам.

Моцна абдымаю Вас і жадаю Вам хутчэй пацалаваць Вашу родную вызваленую зямлю.

*Ваш Аляксей Талстой*»

З пісьма відаць, якімі цёплымі і сяброўскімі былі адносіны паміж двума вядомымі пісьменнікамі. Рукапіс яго захоўваецца ў музеі Якуба Коласа.

## Незабыўныя сустрэчы

Назаўсёды запомніў Даніла Міцкевіч, як у госці да яго бацькі 25 чэрвеня 1949 года прыехаў Аляксандр Твардоўскі, які прымаў удзел у II з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. З Аляксандрам Трыфанавічам былі ўкраінскі паэт Андрэй Малышка і Аркадзь Куляшоў. Якуб Колас сустрэў гасцей на двары, ля весніц. Твардоўскі перадаў яму некалькі сваіх кніжак.

Якуб Колас паказаў градку жыта, свой доследны ўчастак. Аляксандр Трыфанавіч пажартаваў: «На Беларусі ніколі не ўгадаеш, што цябе чакае: вось ехаў да паэта, а трапіў яшчэ і да агранома».

У той час А. Твардоўскі быў рэдактарам «Антологии белорусской поэзии». Ён высока цаніў дасягненні беларускіх паэтаў, раіўся з Канстанцінам Міхайлавічам аб змесце кнігі. Гаварылі пра многае. Нітачка памяці пацягнулася ў мінулае. Твардоўскі ўспомніў той час, калі па-сапраўднаму пазнаёміўся з нашай рэспублікай. Ішоў 1939 год, савецкія войскі вызвалілі Заходнюю Беларусь. У той час Аляксандр Трыфанавіч у якасці карэспандэнта знаходзіўся ў радах Чырвонай Арміі, быў ужо вядомым пісьменнікам, выйшла яго паэма «Краіна Муравія» і некалькі кніг.

18 кастрычніка ён прыбыў у Кобрын, дзе размяшчалася армейская газета «Часовой Родины». Цёпла і сардэчна сустрэлі яго супрацоўнікі рэдакцыі. Аляксандр Трыфанавіч з цікавасцю знаёміўся з горадам, вывучаў армейскае жыццё. Свайму земляку Міхаілу Ісакоўскаму, з якім яго звязала вялікая дружба, літаральна на другі дзень пісаў:

«У Кобрын (гарадок меншы за Брэст, амаль мястэчка) я прыехаў учора. Сёння з Гарбатавым (ён увесь час быў страявым камандзірам, а цяпер адкліканы для работы ў рэдакцыі) знялі кватэру, два, тры, чатыры пакоі, гэта значыць, проста жывём у вялізнай кватэры зубнога ўрача Когана… Такое жыццё з аднаго боку.

З другога — работа, паездкі, тысячы цудоўных сустрэч, фактаў, уражанняў, пра гэта не буду пакуль, — у беглым пісьме ідуць пад руку толькі банальныя фразы…»

Рэдакцыйная работа забірала шмат часу. Але Твардоўскі не забываў М. Ісакоўскага, у той час вельмі хворага, падбадзёрваў цёплым словам, пісаў пра яго папулярнасць у гэтых краях:

«Мне нават цяжка выказаць тое пачуццё, якое я зведаў тут, пры розных абставінах, чуючы твае песні. Яны тут спяваюцца, заяўляю табе з пачуццём сяброўскай зайздрасці: твой голас тут больш чутны, чым чый-небудзь з нас, і ты, хворы і слабы целам чалавек, знаходзішся і знаходзіўся на самых перадавых пазіцыях фронту, і, як кажуць, зброя твая не ржавела ў бяздзейнасці».

Аляксандр Твардоўскі быў сведкам і ўдзельнікам станаўлення новага жыцця на Брэстчыне. Нішто не выпадала з-пад ягонай увагі. Пра гэта сведчаць напісаныя ім карэспандэнцыі, нарысы і вершы.

«Яшчэ вось выпадак, які пазабаўляе цябе ў тваім кабінеце, — пісаў ён М. Ісакоўскаму. — У дзень выбараў дэпутатаў у Народны Сход (я, між іншым, быў у Беластоку на сходзе) — уражанне можна параўнаць з першым днём пасля пераходу граніцы».

У той час Аляксандр Трыфанавіч выдаў невялікую, у 32 старонкі, кніжку «Франтавыя вершы», якая выйшла ў свет у Брэсце, у прыватнай друкарні М. Та-

ненбаўма з грыфам «Часовой Родины». У яе ўвайшлі творы Я. Далматоўскага, С. Кірсавана, П. Слесарава і інш, а некалькі вершаў яго самога: «Учора і сёння», «Дзень прыйшоў», «Удовін флаг», «Іх было трое».

На Брэстчыне А. Твардоўскі знаходзіўся да 12 лістапада. У газеце «Часовой Родины» былі апублікаваны два яго нарысы і 12 вершаў. Ён пераклаў вершы Якуба Коласа «Радасная сустрэча» і Янкі Купалы «Вызваленаму брату». Аб тых днях напамінае цяпер мемарыяльная дошка, устаноўленая ў Кобрыне на доме № 1 па вуліцы Суворава: «У гэтым доме ў кастрычніку—лістападзе 1939 года жылі і працавалі выдатныя дзеячы савецкай літаратуры А. Т. Твардоўскі і Б. Л. Гарбатаў».

Дні, праведзеныя на беларускай зямлі, на ўсё жыццё засталіся ў іх памяці. З таго часу Аляксандр Трыфанавіч часцей пачаў сустракацца з беларускімі сабратамі па пяры, пісьменнікамі, дапамагаў ім сяброўскімі парадамі.

Калі Аркадзь Куляшоў напісаў паэму «Сцяг брыгады», якая зрабіла шырока вядомым імя яе аўтара, ён пазнаёміў з гэтым творам А. Твардоўскага. Твор яму спадабаўся, і ён паслаў яго М. Ісакоўскаму для перакладу. Сам А. Твардоўскі прысвяціў «Сцягу брыгады» артыкул, у якім пісаў:

«Першапачатковае знаёмства з гэтай паэмай, успамінаючы першае чытанне Куляшовым паэмы «Сцяг брыгады», — адзін з самых яркіх і дарагіх для мяне літаратурных успамінаў ваеннага часу…»

Пасля вайны сувязі А. Твардоўскага з беларускімі пісьменнікамі ўмацоўваюцца. На пачатку 1949 года ён прымаў у Мінску ўдзел ва ўрачыстым адкрыцці Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва, гутарыў з пісьменнікамі, партыйнымі работнікамі. На адным з вечароў чытаў вершы беларускіх калег у сваім перакладзе.

Яшчэ некалькі разоў сустракаўся з Якубам Коласам у Мінску і Маскве на розных мерапрыемствах. Пра гэтыя сустрэчы сведчаць здымкі, што захоўваюцца ў фондах Коласавага дома.

## Прататып твораў

Мелі непасрэдныя адносіны да Беларусі і яе народа і жыццё, творчая дзейнасць вядомага рускага пісьменніка Аляксандра Фадзеева. Яшчэ ў 1921 годзе ён, адзін з удзельнікаў партызанскай барацьбы на Далёкім Усходзе, напісаў раман «Разгром». Сярод герояў яго і Аляксандр Сянкевіч, адзін з арганізатараў настаўніцкага з'езда ў вёсцы Мікалаеўшчына, у якім і прымаў удзел Канстанцін Міхайлавіч.

Цяжкае становішча сялян наводзіла на маладых настаўнікаў сум і расчараванне. І толькі ідэі першай рускай рэвалюцыі натхнялі, усялялі надзею на лепшае жыццё. У трылогіі «На ростанях», як вядома, Сянкевіч выведзены як Алесь Садовіч: «Відаць, ён паспеў парадкам расчаравацца і ў тых абставінах, якія яго акружалі… — Думаю пераводзіцца ў другое месца і там ужо ўзяць сябе ў рукі, — гаворыць ён, — а то гэтыя зборышчы, гарэлка, карты і ўся местачковая мярзотнасць зацягнуць зусім. І самае галоўнае — ніякай стравы для розуму».

Як казаў Садовіч, з'езд гэты праходзіў «з мэтай арганізацыі рэвалюцыйнага арганізацыйнага руху ў барацьбе супраць праклятага царызму».

Пасля з'езда А. Сянкевіч пры дапамозе замежнага пашпарта эмігрыраваў у Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе ўступіў у амерыканскую сацыялістычную партыю. Пісаў артыкулы, праводзіў палітычную работу ў калоніях эмігрантаў з Беларусі, Украіны, Польшчы. Закончыў медыцынскі каледж універсітэта ў Балціморы, займаўся прыватнай урачэбнай практыкай і актыўна ўдзельнічаў у рабочым руху, у чым яму дапамагала жонка Ганна Трызна, таксама беларуская эмігрантка. Дарэчы, пра гэты перыяд свайго жыцця А. Сянкевіч расказаў у аповесці «Вандраванне Васіля», што выйшла ў Мінску ў 1932 годзе.

Даведаўшыся пра перамогу ў Расіі сацыялістычнай рэвалюцыі, Аляксандр Антонавіч вярнуўся на радзіму. На Далёкім Усходзе ён загадваў урачэбным участкам ва Усурыйскім павеце, потым быў кіраўніком аховы здароўя вобласці. У лютым 1919 года падпольны абкам партыі накіраваў яго ў штаб партызанскіх атрадаў для арганізацыі санітарнай службы і дапамогі параненым і хворым. Там ён і сустрэўся з А. Фадзеевым. Спадабаўся яму сціплы і працалюбівы беларус, які, між іншым, паставіў на ногі камандуючага партызанскімі атрадамі Прымор'я Сяргея Лазо, які хварэў вострым запаленнем нырак.

Працуючы над раманам «Разгром», А. Фадзееў не абышоў бокам А. Сянкевіча, зрабіўшы яго прататыпам доктара Сташынскага. «Варта прачытаць «Разгром» Сашы Фадзеева, — успамінаў камандзір 1-га Далёкаўсходняга савецкага партызанскага палка Мікалай Ілюхоў, — менавіта тыя месцы яго кнігі, дзе ён піша аб партызанскім шпіталі і яго жыхарах, варта прачытаць дзённікавыя запіскі пісьменніка, і стане ясна, як любіў нашага цудоўнага лекара Аляксандр Фадзееў».

Вось некалькі слоў з рамана пра Сташынскага: «Высокі, нягнуткі мужчына з доўгім і жоўтым тварам, з глыбока запалымі бліскучымі вачыма». Пісьменнік даў некалькі скупых, але важкіх біяграфічных звестак пра доктара, у двух-трох эпізодах здолеў раскрыць характар гэтага замкнёнага і самаахвярнага чалавека.

Гэты цікавы факт знаёмства рускага пісьменніка з прадстаўніком Беларусі, спрыяў узнікненню ўстойлівага інтарэса ў Аляксандра Аляксандравіча да нашай краіны. Асабліва гэта праявілася ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Ён клапаціўся ў той час і пра беларускую літаратуру, трымаў цесную сувязь з пісьменнікамі. 8 жніўня 1942 года, знаходзячыся ў Ташкенце, Якуб Колас атрымаў ад А. Фадзеева ліст з просьбай напісаць і прыслаць артыкул для інтэрнацыянальнага антыфашысцкага часопіса пра ўклад беларускіх літаратараў у барацьбу супраць фашысцкіх захопнікаў. А праз год яны разам выступалі на Трэцім Усеславянскім мітынгу ў Маскве. А вось што Якуб Колас запісаў у 1943 годзе ў сваім дзённіку: «Атрымаў цэлы стос тэлеграм ад Фадзеева — дзякую за кнігу «Памяці Янкі Купалы».

Цёплыя сяброўскія сувязі двух пісьменнікаў працягваліся і пасля вайны. У 1947 годзе Савет Міністраў СССР зацвердзіў Камітэт па Дзяржаўных прэміях у галіне літаратуры і мастацтва, старшынёй якога выбралі А. Фадзеева. У той час Аляксандр Аляксандравіч быў ужо Генеральным сакратаром Саюза пісьменнікаў СССР. Калі ў пачатку 1948 года ў Маскве праходзіла IV сесія Вярхоўнага Савета СССР, у яе рабоце прыняў удзел і Якуб Колас. Канстанцін Міхайлавіч пісаў рускаму паэту-перакладчыку Сяргею Гарадзецкаму: «Ехаў з Масквы з Фадзеевым у адным купэ. Ён цудоўны чалавек і выдатны субяседнік… Фадзееў спыніўся ў мяне. Дзве ночы начаваў і Пракоф'еў. У дзень прыезду ў мяне збіралася кампанія пісьменнікаў».

Старэйшы сын песняра Даніла Міцкевіч згадваў: «У той вечар у нашым доме было весела, пісьменнікаў было чалавек 12—15. Гаварылі пра жыццё, літаратуру і мастацтва. Аляксандр Фадзееў выдзяляўся з усіх сваім веданнем на памяць твораў многіх вядомых і малавядомых паэтаў. Чытаў па-майстэрску выразна і доўга. Гэта цікавая сустрэча назаўсёды засталася ў маёй памяці».

Аляксандр Фадзееў прыязджаў тады ў Мінск з Сокалавым-Нікітавым на сход пісьменнікаў, прысвечаны абмеркаванню твораў беларускай літаратуры за 1947 год і задачам літаратараў у падрыхтоўцы да 30-годдзя БССР. Сход праходзіў у будынку Мінскага дома партыйнай адукацыі. На ім Аляксандр Аляксандравіч выступіў з прамовай. Ад імя маскоўскіх калег ён цёпла павіншаваў прысутных, гаварыў пра стан сучаснай літаратуры і пра яе задачы на будучыню, а ў перапынку адказаў на многія пытанні. Пра тыя незабыўныя дні нагадвае і рэдкі фотаздымак, які захоўваецца ў музеі паэта: Якуб Колас, Аляксандр Фадзееў, Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў.

Сувязі двух пісьменнікаў працягваліся. А. Фадзееў запрашаў Якуба Коласа на юбілеі вядомых рускіх літаратараў, пасяджэнні Камітэта па дзяржаўных прэміях. «Адкрываецца чарговая сесія Камітэта па прэміях, — паведамляў ён Канстанціну Мікалаевічу. — Ваша прысутнасць неабходна. Фадзееў».

## Прыемныя візіты

Сярэдняга ўзросту чалавек з хітраватай усмешкай нетаропка прабіраецца на сцэну. У раённым Доме культуры шмат народу, зала гудзе, хвалюецца. Побач вялікая афіша паведамляе, што сёння тут адбудзецца літаратурны вечар. Мужчына, прабраўшыся на ўзвышанае месца, павярнуўся да прысутных, папрасіў увагі, пачаў чытаць урывак з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля».

Хто ён, гэты чалавек? Артыст-чытальнік і пісьменнік Аляксей Слесарэнка, чалавек, аддадзены мастацтву, роднай культуры і літаратуры. Былы беспрытульнік з вёскі Гарадзішча Брагінскага раёна, А. Слесарэнка, скончыўшы сярэднюю школу, трапляе ў Маскоўскую студыю кінаакцёра, працуе вучнем у апаратнай дырэктарскай залы, здымаецца ў карціне «Палескія рабінзоны» на «Белдзяржкіно» і ў іншых фільмах. Потым становіцца мастацкім чытальнікам і ўвесь аддаецца прапагандзе творчасці класіка беларускай літаратуры.

У Маскве А. Слесарэнку пашчасціла сустракацца і працаваць з вядомымі кінарэжысёрамі Сяргеем Эйзенштэйнам і Аляксандрам Даўжэнкам. Ён прыгадваў шмат цікавых эпізодаў і фактаў з іх творчай дзейнасці. Праца побач са славутымі майстрамі кіно была для яго выдатнай школай. Гэта яны звярнулі ў той час увагу бойкага юнака на мастацкае чытанне, адзначылі яго здольнасці.

Пазней, у працэсе росту і станаўлення майстэрства чытальніка, настаўнікамі Аляксея Аляксеевіча былі вядомыя артысты і майстры чытання прафесары В. Сярожнікаў і Ф. Фартунатаў, рэжысёр-педагог Л. Мазалеўская, народны артыст СССР П. Малчанаў. Яны навучылі яго народнай прастаце, лаканічнасці і выразнасці, сціпласці і дакладнасці, дапамаглі па-сапраўднаму авалодаць майстэрствам мастацкага чытання. А. Слесарэнка падрыхтаваў кампазіцыі па паэмах Якуба Коласа «Рыбакова хата», «Сымон-музыка», «Новая зямля», а таксама па творах Янкі Купалы «Магіла льва», «Тарасова доля», «Барысаў», з чытаннем якіх выступіў перад слухачамі.

З таго часу яго імя становіцца ўсё больш вядомым народу, расце яго талент і майстэрства, пашыраецца рэпертуар. А. Слесарэнка ўключае ў яго творы Кузьмы Чорнага, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Івана Шамякіна, Максіма Лужаніна і многіх іншых пісьменнікаў. Імя чытальніка становіцца вядомым не толькі ў Беларусі, але і ва Украіне, у Малдавіі, Маскве, Ленінградзе. Яго майстэрства высока ацаніла маскоўская секцыя мастацкага чытання Усесаюзнага тэатральнага таварыства.

Аляксей Слесарэнка вядомы і як аўтар кніг «Дарогі і песні», «Дарагія абліччы». Са старонак іх паўстаюць вобразы Якуба Коласа, кінарэжысёраў Эйзенштэйна і Даўжэнкі, з якімі яму давялося сустракацца і працаваць.

Аляксей Аляксеевіч прыгадваў сваю першую сустрэчу з народным песняром. Гэта было ў сакавіку 1950 года, А. Слесарэнка ў вайсковай форме прыйшоў да Якуба Коласа. «Карыстаючыся добразычлівасцю гаспадара, — успамінаў ён, — я падзяліўся з ім сваёй марай стаць прафесійным беларускім чытальнікам. Набыць такое майстэрства, каб асмеліцца выступаць не толькі ў змешаных канцэртах, дзе на мастацкае чытанне перападае звычайна ўсяго некалькі хвілін, але і з праграмай на ўвесь вечар, гэта значыць з самастойным літаратурным канцэртам на два аддзяленні.

Чытаць яго вершы, паэмы і прозу. Стварыць спецыяльныя кампазіцыі з асобных невялікіх твораў і ўрыўкаў, а таксама з вялікага твора з разлікам запоўніць час на ўвесь канцэрт.

Якуб Колас слухаў, як мне здалося, з добрай увагай і разуменнем…

Пераканаўшыся, што гаворка хвалюе і цікавіць гаспадара, я дазволіў сабе сказаць:

— Канстанцін Міхайлавіч, дапамажыце мне стаць прафесійным беларускім чытальнікам, каб цалкам прысвяціць сябе любімай справе.

— Час цяпер мірны, але трывожны, — сказаў Колас. — Дэмабілізавацца пакуль што будзе не проста, а таму не губляйце дарэмна часу, вучыцеся майстэрству, дасягайце дасканаласці. Справа, якую вы пачынаеце, сапраўды піянерская, надзвычай карысная і нялёгкая…

На твары народнага паэта я ўбачыў задавальненне і спагаду.

Падбадзёраны, я расказаў, што чытаю ўжо нямала гадоў у змешаных канцэртах. У рэпертуары ёсць творы на рускай і на беларускай мове, у тым ліку і ўрыўкі з яго паэм.

Але прызнаюць за майстэрства толькі таго, хто асмельваецца выступаць з самастойнай праграмай і асабліва з кампазіцыяй вялікага твора, паэтычнага ці празаічнага. Такой праграмы ў мяне яшчэ няма, але абраў я для падрыхтоўкі «Рыбакову хату». Разлічваю зрабіць кампазіцыю на два аддзяленні, па гадзіне чытання ў кожным.

Канстанцін Міхайлавіч занепакоіўся:

— А ці ўтрымае такі вялікі тэкст памяць?

Але пра гэта я менш ўсё турбаваўся. Запамінаю я моцна і надоўга. Важна так зажыць творам, так выканаць яго, каб не разбегліся слухачы.

Канстанцін Міхайлавіч паклаў сваю руку на маё плячо.

— Вы, безумоўна, энтузіяст, — сказаў ён. — Вось толькі не трэба быць такім самаўпэўненым. Дух сумлення — натуральная з'ява для тых, хто займаецца творчасцю. Праўда, без веры ў тое, што робіш, таксама дрэнна. Але на ўсё патрэбна пачуццё меры. Не спяшайцеся. Працуйце сістэматычна, а не ўрыўкамі. Даводзьце справу да мяжы магчымага, і калі ўсё будзе гатова, прыходзьце да мяне, пастараюся вывесці з лесу на шлях. Жадаю поспеху».

Сустрэча з народным паэтам натхніла А. Слесарэнку на пачэсную справу. Ён актыўна ўключаўся ў работу, «займаўся чытальніцкімі практыкаваннямі па сістэме Сярожнікава». Адразу ўзяўся за работу над кампазіцыяй «Рыбаковай хаты». Нялёгка было па-майстэрску данесці да слухачоў размову герояў і іх інтанацыі. Пра гэта ён пісаў у згадках: «Я бяруся за кампазіцыю»: «Я загаварыў пра гатовую, — на мой погляд, кампазіцыю «Рыбаковай хаты». Ён узяў (Якуб Колас. — **М. Ж.**) у мяне з рук папку. Затрымаўшы на нейкі момант увагу на першых старонках, далейшыя толькі гартаў, прабягаючы вачыма. Спыніўся на фінале першага аддзялення і пачатку другога. Прыплюшчыў вочы, задумаўся, паглыбіўся ў чытанне, але ненадоўга. Нарэшце я пачаў ціхія словы:

— Ну што ж, асноўную лінію сюжэта зразумелі правільна і, калі ўлічыць памеры гэтай кампазіцыі, умясцілі паэму сюды ў належных прапорцыях. Але ў некаторых месцах вы яшчэ не сышлі з пабочных шляхоў. Захапляецеся фактамі другараднага плана. А чытанні твора перад аўдыторыяй розныя адхіленні будуць не толькі замінаць, але і замаруджваць дзеянне, пазбаўляць яго дынамічнага напружання і цікавасці. Мне гэта вядома з школьнай практыкі як былому настаўніку…

Напэўна, няблага было б перад тым, як пачаць адкрытыя выступленні, праверыць кампазіцыю дзе-небудзь на спецыяльнай аўдыторыі.

Падзякаваўшы за заўвагі і добрыя парады, я развітаўся і панёс з сабою надзвычай цёплае і радаснае пачуццё».

Гутарка з Коласам акрыліла А. Слесарэнку, уліла ў яго струмень надзеі. Пісьменнік адшліфоўваў і завучваў тэкст, рабіў перастаноўкі, рыхтаваўся да трэцяй сустрэчы з аўтарам. Адбылася яна, праўда, толькі праз месяц. Якуб Колас патэлефанаваў сам і сказаў, што ў яго ёсць настрой паслухаць кампазіцыю. «Надышоў адказны момант прысуду, — зазначае А. Слесарэнка. — Палохаў строгі засяроджаны твар Канстанціна Міхайлавіча. Але ён супакоіў мяне:

— Наконт кампазіцыі няма ніякіх пярэчанняў. Можаце смела выносіць яе на любую аўдыторыю. Добра адчуваеце паланізмы, гумарыстычныя моманты і наогул усе адценні твора. Жыва малюеце вобразы. Чытаеце лёгка і нязмушана. Слова гучыць у натуральнай для беларуса танальнасці».

«Такія цёплыя і дзелавыя сустрэчы былі ў А. Слесарэнкі з волатам беларускай літаратуры. Сціпласць, дасціпнасць Якуба Коласа, яго шчырая зацікаўленасць у прапагандзе роднай літаратуры, шырыня жыццёвых і літаратурных інтарэсаў, душэўная маладосць адкрываліся ўсё больш з кожнай сустрэчай.

Расціслаў ЯРОТА

# ЛЮДЗІ З СЯРЭБРАНАГА КУТКА

*Драгічын — горад з маёй біяграфіі. Праўда, прапісаўся ён у ёй выпадкова. Калі ў 1964 годзе нас, студэнтаў-выпускнікоў факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, размяркоўвалі, я пераблытаў яго са Столінам. Столін жа выбраў для сваёй будучай працы таму, што ў адной з газет прачытаў аб адкрыцці ў гэтым горадзе кінатэатра. Кінатэатр быў і ў Драгічыне. Таксама новы, узведзены некалькі гадоў таму. Аднак, не буду хлусіць, ні ў Століне, ні ў Драгічыне я не збіраўся затрымлівацца. У крайнім выпадку разлічваў адпрацаваць неабходныя па законе два гады, але лёс распарадзіўся інакш. Праз год мяне прызвалі ў армію, а, звольніўшыся ў запас, у рэдакцыю драгічынскай раённай газеты «Запаветы Леніна» ўжо не вярнуўся. Але гэта не значыць, што Драгічын назаўсёды выкрасліўся з маёй галавы. Наадварот, чым больш праходзіла часу, тым больш цягнула мяне туды. І не толькі ў думках. Балазе, журналісцкая работа звязана з камандзіроўкамі, а гэта нярэдка і дае магчымасць паехаць туды, куды душа жадае. Праўда, для мяне драгічынскае прыцягненне аказалася не толькі ў гэтым. Хацелася больш даведацца, чым жыве куточак, што стаў мне блізкім, таму спяшаўся ў бібліятэку, каб пазнаёміцца з тагачаснай газетай «Запаветы Леніна», а цяперашняй «Драгічынскі веснік». Але ў большай ступені спасцігаў драгічынскую гісторыю, якую падчас працы ў мясцовай рэдакцыі амаль і не спазнаў. Прычына не толькі ў тым, што мала жыў у Драгічыне. Відавочней іншае: у тыя гады надта ж даваў знаць аб сабе нацыянальны нігілізм, а там дзе пануе манкуртва, не да таго каб надта цікавіцца мясцовай гісторыяй. Таму драгічынскую даўніну па-сапраўднаму пачаў адкрываць для сябе пазней. І адшукаў у ёй старонкі, якія выклікалі ў мяне немалую цікавасць, а то і захапленне.*

## Былі Давячоркавічы, стаў Драгічын

Драгічын спачатку, дарэчы, і не Драгічынам быў, а Давячоркавічамі — ва ўсякім разе, менавіта пад такой назвай ён згадваецца ў пісьмовых крыніцах. Але, пачынаючы з 1655 года, у тых жа гістарычных дакументах ужо з’явілася назва Драгічын (часцей, праўда, Дарагічын), хоць яшчэ некаторы час адначасова ўжывалася і старая — Давячоркавічы. Калі верыць аднаму з паданняў, на месцы сучаснага горада даўным-даўно сярод непраходнага балота знаходзілася старажытнае паселішча Дрыгвічы. Дрыгвічамі называлі і ягоных насельнікаў. Цягам часу Дрыгвічы трансфармаваліся ў Драгічын. Між іншым, на падобную сувязь у сваім «Кратком топонимическом словаре Белоруссии» ўказвае і яго аўтар Вадзім Жучкевіч: «Наиболее вероятна связь названия с этнонимом дреговичи. Поскольку поселения (Драгічын ёсць і ў Беластоцкім ваяводстве ў Польшчы. — **Р. Я.**) возникли по границам расселения славянских племен дреговичей».

На Драгічыншчыне ў даўнія часы быў яшчэ адзін горад — Здзітаў. Ён адносіўся да гарадоў так званай Чорнай Русі, а гэта землі паўночна-заходняй часткі цяперашняй Беларусі. Здзітаў уваходзіў у спіс 35 гарадоў рускіх зямель, вядомых да 1300 года. Ён існаваў ужо ў 1005 годзе, пра што сведчыць Устаў-

ная грамата вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Святаслававіча аб заснаванні Тураўскай епіскапіі:

«Я, вялікі князь Кіеўскі Васілій, называемы Уладзімір, са сваёю княгіняю Ганнаю і з дзецьмі сваімі, з сынам Ізяславам і Мсціславам, Яраславам і Усеваладам, Барысам і Глебам, і з усімі дзецьмі, і з баярамі сваімі задумаў заснаваць у Тураве трэцяе багамолле епіскапію ў лета 6513 (1005 год); і надаў ёй гарады з пагостамі ў падпарадкаванне, і богаслужэнне. І благаславенне трымаць сабе Тураўскай епіскапіі: Пінск, Новагародак, Горадзень, Берасце, Валкавыеск, Здзітаў, Неблесцеск, Дубровіца, Высочка, Случаск, Копысь, Ляхаў, Гарадок, Смедзянь; і паставіў першага епіскапа Фаму […]»

Старажытны Здзітаў, найбольш верагодна, знаходзіўся за чатыры кіламетры на поўдзень ад сучаснай вёскі Здзітава Бярозаўскага раёна, каля Старамлынаў, а гэта Драгічыншчына. На правым беразе ракі Ясельда, за два кіламетры на поўнач ад вёскі Хомск па сённяшні дзень захаваліся рэшткі колішняга гарадзішча, якое з'яўляецца помнікам архітэктуры.

Згадка пра Здзітаў ёсць і ў знакамітай «Аповесці мінулых гадоў»: «У год 6760 (1252 г.) […] [галіцка-валынскія князі] Даніла і Васілька пайшлі [ва ўладанні літоўскага князя Міндоўга]. Тым часам Даніла і Васілька, брат яго, параіліся з сынам [Данілы — Львом] і Даніла брата свайго [Васілька] паслаў на Валкавыйск, а сына — на Услонім, а сам пайшоў да Здзітава. І захапілі яны многа гарадоў, і вярнуліся».

Гэты Здзітаў спыніў сваё існаванне недзе ў пачатку XIV стагоддзя, калі разам з навакольнымі населенымі пунтамі ўвайшоў у склад Вялікага Княства Літоўскага. Навукоўцы мяркуюць, што па нейкай прычыне горад быў перанесены за сем кіламетраў на поўнач, на месца сучаснай вёскі Здзітава. Яны ж схільны і да думкі, што значная частка жыхароў перасялілася ў Хомск.

На левым жа беразе Ясельды некалі размяшчалася непрыступная крэпасць Жабер. Гэта за тры кіламетры ад сучаснай аднайменнай вёскі. Згаданая крэпасць з'ўлялася абарончым замкам князёў Вішнявецкіх. Яна займала тэрыторыю больш як паўтара гектара. Ад ворагаў яе засцерагалі высокі земляны вал з дубовай агароджай. Перашкодай для захопнікаў з'яўляўся і абвадны канал. Ён меў шырыню 20 метраў. Глыбіня ж дасягала 5 метраў. Канал акружаў крэпасць з паўночнай і ўсходняй часткі. З захаду крэпасць прыкрывала Ясельда, правы бераг якой з'яўляўся балоцістым, што таксама на карысць тым, хто знаходзіўся за яе сценамі.

Крэпасць Жабер праславілася тым, што не здалася ворагу ў Паўночную вайну — шведска-рускую вайну 1700—1721 гг., якая вялася за выхад Расіі да берагоў Балтыкі, калі Пётр I паставіў перад сабой задачу «прорубить окно в Европу». Падзеі гэтай вайны не абмінулі і тэрыторыю сучаснай Беларусі.

13 мая 1706 года крэпасць акружыў са сваім войскам кароль Польшчы Станіслаў Ляшчынскі, які быў саюзнікам шведскага караля Карла XII. Абаронцам прапанавалі здацца. Але гарнізон, які складаўся з 700 чалавек, на ультыматум адказаў моцным гарматным агнём. Нападаючыя мусілі адступіць. Тады Ляшчынскі паклікаў на падмогу шведскага генерала Маерфельда. Але крэпасць і гэтым разам не здалася.

Карлу XII нічога не заставалася, як прыбыць да Жабера са сваім войскам. З Пінска падцягнулі вялікую колькасць артылерыі. Ды крэпасць па-ранейшаму стрымлівала варожы націск. Яе магутныя бастыёны вытрымлівалі ўдары соцень гарматных ядраў. Невядома, чым бы ўсё скончылася, ды шведам удалося за 2 тысячы дукатаў падкупіць камендата Жабера немца Ботмана. Здраднік адчыніў вароты і здаў умацаванне без бою. Карл XII загадаў крэпасць разбурыць, а гарматы ўтапіць у рацэ. Сам жа паспяшаўся ў Пінск. Праўда, праз некаторы час вярнуўся сюды. Хацеў на свае вочы ўпэўніцца, што ягоны загад выкананы.

Сёння на месцы непрыступнай крэпасці можна ўбачыць ледзь непрыкметныя земляныя валы. А яшчэ — абводны канал. Летам відно, як ён густа парос алешнікам і чаротам. Ад гэтага на душы адразу становіцца неяк самотліва-туж-

ліва. Думаецца аб тым, што ў жыцці нішто не вечнае. Але нечакана ў высі плыве звонкая песня жаваранка. Ад яе мілагучнасці адразу цяплее на сэрцы. Самотутугу здымае нібыта рукой. Хваляй наплываюць іншыя думкі. Светлыя, радасныя: многае праходзіць, а зямля па-ранейшаму застаецца маладой і прыгожай, у якой жыццядайныя сокі. Ці не таму менавіта ў гэтых мясцінах, у вёсцы Хомск, пачалі здабываць мінеральную ваду «Фрост», што добра вядомая не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

Папулярнасцю карыстаецца і вітамінная прадукцыя Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Экон», якое працуе ў Драгічыне, і адносіцца да Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прадукцыі «Белбіяфарм». Пад назвай гематавіт выпускаецца традыцыйны гематаген. Сярод прадукцыі таксама розныя сіропы, серыя біялагічна актыўных дабавак.

Радуюць поспехі і працаўнікоў сельскай гаспадаркі Драгічыншчыны. Нездарма ў 2005 годзе падчас правядзення на базе ўнітарнага сельскагаспадарчага прадпрыемства «Племянны завод «Заказельскі» рэспубліканскага семінара Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, які пабываў у вёсцы Закозель, застаўся вельмі задаволены і вынікамі працы вяскоўцаў, і тым, наколькі добраўпарадкаваны мясцовы гарадок. Тады Аляксандр Рыгоравіч сказаў старшыням райвыканкамаў: «Вось вам мадэль адроджанай вёскі — чыстай, прыгожай. З поўным наборам неабходных паслуг. І ў гэтым кірунку трэба дзейнічаць. Усё павінна быць прадугледжана да дробязей. Каб чалавек, прыйшоўшы з работы, мог прыняць душ, адпачыць, паглядзець тэлевізар, пагуляць з дзецьмі».

## Людвінова — усё для душы нова

На Драгічыншчыне моцныя і літаратурныя традыцыі. Прынамсі, гісторыю гэтага кутка Бацькаўшчыны немагчыма ўявіць сабе без выдатнай пісьменніцы, «каралевы жывога слова», як назваў яе класік нашай літаратуры Францішак Багушэвіч, Элізы Ажэшкі. Нарадзілася яна, у дзявоцтве Паўлоўская, 6 чэрвеня 1841 года, праўда, у бацькоўскім маёнтку Мілкаўшчына — у маляўнічай мясцовасці ў кіламетрах сарака ад Гродна, але з 1858 па 1864 год жыла ў Людвінове — цяперашні Драгічынскі раён. Людвінова яна называла Людвіноў, а належаў ён яе мужу, кобрынскаму шляхціцу Пятру Ажэшку.

Сюды, у самую глыбіню пінскага Палесся, яна прыехала зімой. Аднак гэтыя мясціны больш запалі ёй у памяць іншай парой, таму і прызнавала ў аўтабіяграфіі: «Людвіноў раскінуўся на палескай раўніне, сярод лясоў і забалочаных лугоў, над якімі ў канцы лета і ўсю восень стаялі бледныя туманы, якія закрывалі ўвесь далягляд і надавалі мясцовасці сумны, меланхалічны характар». Цягам гадоў у думках Ажэшка была там, дзе прайшлі ці не самыя памятныя гады яе маладосці: «Я адчувала тады дзіўнае жаданне пайсці ў гэты туман, на гэтыя палі, падысці да гэтых цёмных, сагнутых, натруджаных у хадзе за сахою фігураў і зрабіць… Я сама не ведаю што? — сказаць ім што-небудзь, паціснуць ім руку? Гэтага суму, гэтага жалю я не ўсведамляла, але адчувала: з гэтымі сваімі жаданнямі я нічога не магла зрабіць, але яны жылі ва мне».

Пласторны драўляны дом, у якім яна жыла, размяшчаўся далёка ад шумлівых дарог, на раўніне, акружанай лясамі і балотамі, недалёка ад вёскі, сярод цяністага парку. Пабудова асабліва не вылучалася — падобных тым часам было нямала на беларускай зямлі. Сярэдняга дастатку ўладальнікі не вельмі клапаціліся пра знешні выгляд будынкаў, больш дбалі, каб жыць было ўтульна. І ў Ажэшкаў, хоць і меўся ўсяго адзін паверх, дзякуючы прадуманай планіроўцы, месца хапала. Некалькі прасторных пакояў з высокімі вокнамі давалі шмат святла. З дома вялікія шкляныя дзверы вялі ў парк.

Праўда, спачатку, параўноўваючы мужаў маёнтак з бацькавым, Эліза ўсё ж перавагу аддавала апошняму, які быў не раўня людвіноўскаму: «…даволі вялікі

прыгожы дом, акружаны маленькімі домікамі, у якіх жылі паштары і розныя рабочыя, быў увесь час напоўнены гоманам людзей, тупатам конскіх ног, бразгатам кавальскага начыння, звонам паштовых званочкаў». У Людвінове ж было куды цішэй і спакайней. Гэтую цеплыню, нейкую абасобленасць яна асабліва адчувала, калі ўлічыць, што перад замужжам жыла ў Варшаве, вучылася ў пансіёне. Бацька памёр, калі дзяўчынцы споўнілася ўсяго два гады. Маці, якая выйшла другі раз замуж, пакінула дзяцей, па сутнасці, на саміх сябе ды на пакаёвак. Гэта не магло не адбіцца на выхаванні Элізы. Гадавалася яна дзяўчынкай уражлівай, глядзела на акаляючы свет рамантычна. Марыла аб тым, каб змагацца за свабоду народа. Хацелася і свабоды ўласнай. Адбою ад жаніхоў не было, бо маці Зюні, так яе называлі ўсе дома, абяцала будучаму мужу багаты пасаг. Сама ж яна і спыніла выбар на Пятру Ажэшку, які быў не толькі не бедным, а і меў сваяцтва ці не з усёй кобрынскай знаццю. Эліза ж, па яе прызнанні ў мемуарных запісах, «згадзілася б выйсці замуж за дрэва». Не хацела пярэчыць маці, а яшчэ яе прывабіла кампанейскасць, весялосць Пятра, уменне танцаваць, прыслухацца да чужой думкі.

Толькі праз некаторы час захапленне мужа сяброўскімі застоллямі, вечарынамі, баляваннямі пачало надакучаць. Здавалася, ім не будзе канца. Усё новыя і новыя госці наведваліся ў Людвіноў. Ці не кожны месяц да іх выязджалі самі Ажэшкі. Дзясяткі людзей збіралі паляванні. Балазе, дзічыны ў мясцовых лясах ставала, а Пётр Ажэшка трымаў шмат сабак, спецыяльна абучаў іх. Любіў наладжваць аблавы на ваўкоў, мядзведзяў. Ён усё меней цікавіўся, чым жыве яго маладая жонка, што хвалюе яе.

Таму Эліза шмат часу праводзіла за кнігамі. Тым больш, што з Мілкаўшчыны была перавезена вялікая і багатая родавая бібліятэка. Паступова пачала шукаць сярод мясцовай знаці, калі не аднадумцаў, дык тых, хто ў нечым стаяў блізка да яе поглядаў. Знайшла агульную мову са старэйшым мужавым братам Браніславам, які цяжка хварэў, быў прыкаваны да ложка, але жыва цікавіўся ўсім, што адбывалася ў жыцці. Любіла Ажэшка пагаварыць і з прадстаўнікамі мясцовай шляхты Калістам Ажэшкам і Янам Жуком.

Сонца ў Людвінове засвяцілася для яе па-сапраўднаму ў 1861 годзе, калі ў родныя мясціны вярнуўся малодшы мужаў брат Фларыян, які тры гады вучыўся ў Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Ёсць меркаванне, што ён пасяліўся ў Людвінове, у братавым доме. Але мог жыць і ў Закозелі, гэта поруч, дзе меў уласны маёнтак. Гутаркі з Фларыянам выклікалі ў яе настойлівае жаданне перайсці да канкрэтных дзеянняў па паляпшэнні жыцця народа. Захацелася даць адукацыю хоць некаторым вясковым дзецям. Дзеля гэтага ў 1862 годзе ў Людвінове была адчынена школка, у якой вучылася 20 хлопчыкаў і дзяўчынак. Але гэта працягвалася нядоўга, хутка яны разышліся па сваіх хатах. Прычына зразумелая: іхнія цёмныя, забітыя бацькі не бачылі ніякай неабходнасці ў навучанні.

## Універсітэт жыцця

Людвінова для Ажэшкі — гэта і першае ўсвядомленае жаданне пісаць. Усвядомленае, бо штосьці для сябе яна занатоўвала і ў маленстве. А цяпер хацелася ўвасобіць на паперы вобліկі людзей, якіх ведала, з кім часта сустракалася. Найперш сялян. Пазней яна прызнаецца, звяртаючыся ў думках да моманту гэтага мастакоўскага азарэння: «У мяне ярка бліснула думка, што на гэтай ніве я магу паслужыць таму, што любіла больш за ўсё, што падала ў бяздонную, бязвыхадную прорву, што жыло і плакала ў маёй душы, што я называла — радзіма».

Сапраўды, яе радзіма Мілкаўшчына, але і Людвінова — таксама яе радзіма. З чым параўнаць гэтыя на дзіва творчыя хвіліны?! Калі цесна было думкам, яны прасіліся на паперу, здавалася, лёгка, але адначасова і як бы працівіліся, бо так шмат хацелася сказаць і гэтак цяжка было знайсці прымальныя, дакладныя словы. Пазней, калі прыйдзе час падрахункавання і з’явіцца заканамернае жаданне ўзважыць здзейсненае, Ажэшка вернецца да гэтых дзён. Найперш да летніх,

на самым золку, калі чарговае ранне разам з першымі промнямі сонца так шмат абяцае і душа, разняволеная, свабодная, гатова распасцерці крылы, лунаючы ў завоблачнай вышыні, але і не забываючы адначасова, што і на зямлі ёй так хораша: «Я памятаю хвіліны, — працягвала яна, — калі блакітнае світанне, падаючы на мой стол, рабіла святло лямпы падобным да святла грамнічнай свечкі і прымушала мяне ўзнімаць галаву ад спісанай паперы… Я ўскоквала, выбягала з дома, адпраўлялася на палоску лугу… У траве, у расе, пад лісцем дрэў, нібы пазалочаных косымі праменнямі сонца, я стаяла, хадзіла — бадзёрая, вясёлая, перапоўненая радасцю жыцця».

Уражанні ад знаходжання ў Людвінове спадарожнічалі Ажэшцы ці не ўсё яе жыццё. І не толькі пабачанае падказвала сюжэты. Пачутае ад іншых таксама не праходзіла бясследна. Прынамсі, як згадвала яна, апавяданне «Малюнак з галодных гадоў» пісалася «пад уражаннем успаміну аб адной сумнай падзеі ў Людвінове, што адбылася незадоўга да майго прыезду туды». З болем расказвала яна пра сям'ю вясковага бедалагі Гарвара.

Колькі пабачыла Эліза Ажэшка падобных гаротнікаў у самім Людвінове, у Закозелі, іх ваколіцах! Асабліва пакутавалі людзі ў галодныя гады, падчас пражывання самой пісьменніцы на Палессі, праўда, народу ўдавалася больш-менш зводзіць канцы з канцамі. А тады, у 1853—1856 гадах, калі адбываецца дзеянне ў творы, голад бязлітасна касіў і старых, і малых. Ажэшка не проста ўзнаўляла падзеі, яна пра міласэрнасць гаварыла.

Зварот-уступ у апавяданні — у пэўнай ступені і яе жыццёвая праграма. Зварот да багатых. Каб прачнуліся ад сну абыякавасці, паглядзелі наўкола — усюды ж людзі, няхай і бедныя, але людзі! — «Вы заўсёды думалі, о шаноўныя панове і пані, што ў гэтай грубай і суровай масе толькі бруд і цемра: навошта тады з ёю важдацца? Ну, пэўна ж, калі вы не хочаце, каб ваш вясёлы ад шчасця твар не спахмурнеў, не набліжайцеся да народа, ідзіце лепш забаўляцца і танцаваць сярод бляску святла, у паху салонаў. А калі ў каго-небудзь з вас ёсць сэрцы, што любяць не вонкавы выгляд, а чалавечую сутнасць, калі ёсць намеры заняцца бядой грамады, хай яны зазірнуць у жыццё мільёнаў, жыццё ў мазольнай працы, шэрае, рэдка зразуметае тымі, хто шчаслівейшы, часта ахаянае і апляванае».

Гэта голас адсюль, з Людвінова. Голас праз два гады, як Ажэшка назаўсёды развіталася з тутэйшымі мясцінамі. Да багатых і сытых звярталася яна ў 1866 годзе са старонак часопіса «Тыднёвік ілюстраваны», дзе апавяданнем «Малюнак з галодных гадоў» дэбютавала як празаік. Звярталася, каб расказаць пра бедных і абяздоленых, пачаўшы пісаць сваю адну вялікую кнігу пра Беларусь.

А пакуль што — Людвінова… Гутаркі-спрэчкі з Фларыянам аб далейшым жыцці, якія ўсё часцей заканчваліся паразуменнем. А што яны абое аднадумцы, канчаткова пераканалі далейшыя падзеі. Пачалося паўстанне 1863 года. Яшчэ 9 лістапада 1862 года яны сабраліся ў Людвінове і з сябрамі ўсё абгаварылі. Не застаўся ў баку і Браніслаў, з якім дзяліліся планамі. Таму, калі водгаласы паўстання дайшлі да Кобрынскага павета, кожны знайшоў сабе справу. Браніслаў выдзеліў на яго значную суму грошай, хаваў у сябе тых, каго праследавалі ўлады, зберагаў іх зброю.

У красавіку 1863 года Фларыян Ажэшка ўжо быў у атрадзе Рамуальда Траўгута. Эліза ж пастаўляла паўстанцам звесткі пра дыслакацыю царскіх войск, прыносіла лякарствы, прадукты, дапамагала вопраткай. Выбар на Траўгуце спыніла невыпадкова. Ведала пра яго яшчэ да выступленняў супраць самадзяржаўя. Апроч таго, яны бачыліся на пасяджэннях Кобрынскай арганізацыі па падрыхтоўцы паўстання.

Калі ж атрад быў амаль цалкам знішчаны, яго камандзір, да ўсяго цяжка хворы, перабраўся ў Людвінова. Не столькі адседжваўся і падлечваўся, колькі збіраў зброю. Аднак і чарговая сутычка з царскімі войскамі ў ліпені 1863 года поспеху не прынесла. Давялося зноў хавацца ў Людвінова ў гасціннай гаспадыні, каб праз некаторы час выехаць у Варшаву, дзе яго схапілі, пасадзілі ў турму, а ў жніўні 1864-га павесілі. Фларыян апынуўся ў Сібіры. Туды праз некаторы час

накіравалі і Браніслава, не зважаючы на яго цяжкую хваробу. Пётр Ажэшка, у якога з жонкай ужо не першы год былі нацягнутыя адносіны, трапіў у турму. Саму Элізу як быццам не чапалі. Аднак, каб далей жыць у Людвінове, гаворкі ісці не магло. Гаспадарку разрабавалі пастаянныя нечаканыя «госці» — перадавыя атрады царскай арміі, якія ўціхамірвалі бунтаўшчыкоў.

Сядзіба прыйшла ў заняпад. У канцы 1864 года Ажэшцы давялося вяртацца на Гродзеншчыну. Зрабіла гэта своечасова. З мужам разышлася, а сядзібы Людвінова і Закозель у 1865 годзе былі секвестраваны ўладамі. Развітвалася з Палессем са слязьмі на вачах. Аплаквала не столькі Фларыяна і Браніслава, колькі паплечніка Яна Жука. Тыя хоць і пайшлі па этапе, ды, можа, жывыя, а гэты назаўсёды застаўся ляжаць на могілках у суседняй вёсцы Папіна. Напаткала Яна ў адным з баёў царская куля.

Развітвалася з мясцінамі, якія паспелі стаць для яе блізкімі і дарагімі са смуткам. Адначасова і з удзячнасцю за тое, што менавіта тут змагла па-сапраўднаму пазнаёміцца з жыццём. Пазней у сваіх мемуарах яна так сказала пра гэта: «Што б там ні было з маім сэрцам (мела на ўвазе тое, што не склалася сямейнае шчасце. — **Р. Я.**), у разумовых адносінах я многаму абавязана знаходжанню ў тых краях: як колькасці, так і якасці людзей, з якімі там пазнаёмілася, цудоўнай магчымасці прыгледзецца да характару і прыроды эпохі, якая датлявала перад паўстаннем, і дзвюх вялікіх з'яў, якія заканчвалі гэтую эпоху, г. зн. вызвалення сялян і паўстання. У сваіх думках я прывыкла гэтую эпоху называць сваім універсітэтам. І на самай справе […] там я прайшла вышэйшую школу велізарных назіранняў, грамадскіх і эстэтычных уражанняў».

## Рэчаіснасць і легенда

Ад маёнтка ў Людвінове нічога не захавалася, а вось колішняя панская сядзіба Закозель, што размешчана на ўскраі цяперашняга аграгарадка, з усходняга боку яго, насуперак усім ліхалеццям выстаяла. Канечне, захавалася не ў сваім першапачатковым выглядзе, калі належала роду Ажэшкаў. Дарэчы, пасля секвестрацыі маёнтак выкупіла графіня Н. Бабрынская. Сама Надзея Аляксандраўна жыла ў Пецярбургу, а за парадкам ва ўладанні сачыў дваранін Ахсель Аўгуставіч фон Дзень. Пазней Закозелем валодаў нехта Весялоўскі, а да 1939 года — Талочка.

У свой час, у 1863 годзе, у Закозель завітаў вядомы мастак-падарожнік, ілюстратар Напалеон Орда. На адной са сваіх акварэлей ён і занатаваў сядзібу Ажэшкаў. У самай глыбіні парку стаяў аднапавярховы будынак. Не сказаць, каб ён вылучаўся ў архітэктурных адносінах. Як мяркуюць даследчыкі, гэтую пабудову, як і некаторыя іншыя на Беларусі, узводзілі не прафесіяналы, а народныя дойліды. Яны менш дбалі аб захаванні архітэктурных прапорцый, не прытрымліваліся нейкага пэўнага стылю. Куды больш клапаціліся аб практычным прызначэнні памяшканняў.

У паўднёва-ўсходняй частцы парку, на ўзгорку, знаходзіцца капліца, узведзеная ў 1839 годзе як сямейная пахавальня роду Ажэшкаў. Збудаванне вытрымана ў стылі сярэднявяковага «гатычнага» сабора. Сцены капліцы некалі ўпрыгожвалі невялікія скульптуркі евангелістаў, арнамент. На двух чыгунных шчытах былі адліты геральдычныя знакі ўладальнікаў. Яны аздаблялі галоўны фасад. Прыгожа глядзеўся будынак і ўнутры. У нішах на пастаментах стаялі скульптурныя бюсты. Прыступкі, размешчаныя ў цэнтры залы, вялі ў пахавальны склеп, дзе і стаялі саркафагі памерлых Ажэшкаў.

Капліца захавалася. Яна завяршаецца высокім дахам са шпілем. Раней яго пакрывалі медныя лісты. Паколькі шпіль устаноўлены на вежачцы, пад ім атрымалася невялікае памяшканне. У Закозелі па сённяшні дзень бытуюць розныя паданні, але ўсе яны сваім зместам зводзяцца прыкладна да аднаго. Кажуць, што калі Траўгут быў цяжка паранены і яму давялося ўцякаць ад царскіх жандараў, Ажэшка і схавала яго менавіта пад шпілем. Рамантычна, ды наўрад ці можна паверыць у гэта.

Усё ж будынак высокі, каб даставіць туды параненага, нямоглага чалавека. Дый пра такое сховішча, калі б яно і было, лёгка здагадаліся б салдаты, якія пад кіраўніцтвам афіцэраў прачэсвалі ўсё наваколле, шукаючы Траўгута. Але ж у кожным паданні, кожнай легендзе — свая прывабнасць, нават паэзія прысутнічае.

## Асоба, сэрцу мілая

Гэтай паэзіі вельмі шмат і ва ўзаемаадносінах Ажэшкі з урачом Сігізмундам Свянціцкім. Дый нават легендны пачатак прысутнічае. Больш за тое, завяршэнне гэтых сувязей падобнае на тое, чым заканчваюцца многія казкі. Памятаеце? Жылі яны пасля ўсяго шчасліва і памерлі ў адзін і той жа дзень. У дадзеным выпадку таксама адбылося нешта падобнае. З той хіба розніцай, што пайшлі Ажэшка і Свянціцкі з жыцця не адначасова, а з невялікім прабежкам часу. 18 мая 1910 года не стала выдатнай пісьменніцы, а праз тры дні пакрочыў у вечнасць і Свянціцкі. Пра гэта газета «Виленский вестник» паведаміла ў адным і тым жа нумары — за 22 мая таго ж 1910 года, змясціўшы два некралогі. Праўда, чытачы гэтай газеты, як і пераважная большасць прыхільнікаў творчасці Ажэшкі, не ведалі, што іх любімая пісьменніца кахала Свянціцкага. Як і не здагадваліся пра тое, што на яе пачуцці Сігізмунд Карлавіч адказваў узаемнасцю. Дый адкуль было ведаць, калі Ажэшка і Свянціцкі так і не змаглі змацаваць сваё каханне шлюбам, а пачуццё, якое перажылі ўпершыню ў маладым узросце, хоць і пранеслі праз усё сваё доўгае жыццё, не афішавалі.

Пазнаёміліся ж яны ў 1860 годзе, калі Фларыян Ажэшка на чарговыя канікулы прыехаў не адзін, як гэта рабіў звычайна, а са сваім сябрам, таксама студэнтам Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Гэта і быў Сігізмунд Свянціцкі, ураджэнец Красцінава, што знаходзілася непадалёку ад Людвінова. Сёння таксама ў Драгічынскім раёне. У Сігізмундзе Эліза, у якой адносіны з мужам не складваліся, убачыла блізкую душу. Іхнія пачуцці праз некаторы час перараслі ў каханне. Але жыццёвыя абставіны не спрыялі таму, каб быць разам. Хоць Свянціцкі і скончыў акадэмію з залатым медалём, паколькі па нацыянальнасці з'яўляўся палякам, пасля паўстання 1863 года не мог разлічваць на ваенную кар'еру, да якой імкнуўся. Паслужыўшы ў войску, працаваў у Мінску, стаў адным з заснавальнікаў унутрыполасцевай хірургіі. У 1872 годзе ажаніўся з пляменніцай Адама Міцкевіча Марыяй, а Ажэшка ў 1874 годзе выйшла замуж за гродзенскага адваката С. Нагорскага.

Кім быў Свянціцкі для Ажэшкі відаць з яе ліста да сяброўкі, у якім яна назвала Сігізмунда Карлавіча «мілай сэрцу асобай» і сведчыла: «Мы, слава богу, маем шмат агульных інтарэсаў — любоў да інтэлектуальнай працы і імкненне да разумнага сямейнага жыцця». Аднак у большай ступені тое, што было ў яе на душы, відаць, з рамана «Апошняе каханне», у галоўнай гераіні якога Рэгіне Ружынскай угадваецца сама пісьменніца. Не выклікае сумнення і тое, што пад прозвішчам Стэфана Равіцкага выведзены Свянціцкі. Праўда, у рамане ён не ўрач, а інжынер. Ды ад гэтага сутнасць, як кажуць, не мяняецца.

Галоўная гераіня рамана прамаўляе тое, што перажывала Эліза, зразумеўшы, што іхнія дарогі са Свянціцкім не могуць сысціся назаўсёды: «Я *адна*! Людзі, ці разумееце вы, што значыць гэтае слова? Не разумееце? Дык паслухайце, я вам скажу. Зрэшты, навошта гаварыць? Хіба гэтак ужо вам неабходна разумець кожнае слова вашай роднай мовы? Слоўца гэтае складаецца ўсяго з двух складоў, гучыць яно быццам мякка, і, прамаўляючы яго, ніхто не крывіць вусны. Але што хавае яно ў сабе? Хіба сутнасць, заключаная ў ім, не згінае, не ламае чалавека? Але што вам да гэтага?»

Гэтаксама праўдзіва здолела Ажэшка перадаць і тое, што было на душы Свянціцкага, калі ён зразумеў, што яна з мужам — чужыя людзі: «Не словы, зусім звычайныя, сказаныя проста і міла, а голас Рэгінін уразіў Равіцкага. Гэта не быў голас маладой, толькі расквітнеўшай дзяўчыны — звонкі, свежы і бяспечны, ледзь пры-

глушаны, нізкі, як сказаў бы музыкант, альтовы, ён гучаў мужна. І ў той жа час у ім адчуваўся сканцэнтраваны спакойны сум. Рэгіна замаўчала, а Стэфан працягваў уражліва глядзець на яе, і ў вачах яго часам прабягаў агонь. Чым далей ён глядзеў, тым выразней бачыў на твары маладой жанчыны сляды перажытых пакут».

А гэта эпізод, што і падказаў назву раману. Равіцкі, абдымаючы Рэгіну, прамовіў: «Ты маё першае і апошняе каханне».

## «Вёска Гутава — тры вярсты»

Калі для Ажэшкі драгічынская зямля стала той крыніцай, паспытаўшы вады з якой, яна набралася моцы і сілы, каб талент, дадзены прыродай, выліўся ў літаратурныя творы, то наш сучаснік Мікола Федзюковіч нарадзіўся тут. Ягоная малая радзіма, у якой ён упершыню пабачыў свет 22 мая 1943 года, вёска Гутава, якая засталася для яго на працягу ўсяго, не сказаць, каб надта доўгага жыцця (памёр паэт 8 студзеня 1997 года) самым прыгожым месцам на зямлі. Да яе ён звяртаўся ў думках, калі служыў у арміі, а потым вучыўся на аддзяленні паэзіі Літаратурнага інстытута імя М. Горкага ў Маскве. Ужо не толькі ў думках імкнуўся ў Гутава, а і прыязджаў, працуючы ў Мінску ў розных перыядычных выданнях. Перад тым жа, як пайсці ў войска, скончыўшы Гутаўскую сярэднюю школу, быў у ёй лабарантам, потым фотакарэспандэнтам лунінецкай раённай газеты «Ленінскі шлях», у якой і дэбютаваў як паэт.

Пры жыцці М. Федзюковіч паспеў выдаць усяго чатыры кнігі паэзіі — «Зямля — магніт», «Мілавіца», «Птушыны грай», «Макаў цвет». Ды яшчэ ў Маскве ў выдавецтве «Молодая гвардия» ў перакладзе Івана Бурсава пабачыў свет ягоны паэтычны зборнік «Птичье дерево». Яшчэ адна кніга — «Красадзён» — засталася ў рукапісе. Пад гэтай назвай (красадзён — шматгадовая травяністая расліна, што на пачатку лета цвіце прыгожымі цёмна-аранжавымі кветкамі) у 2009 годзе томік выбранага М. Федзюковіча папоўніў серыю «Беларуская паэзія XX стагоддзя», якую выпускае выдавецтва «Мастацкая літаратура». Знайшлося ў гэтай кнізе месца і вершу «Зварот да вёскі Гутава» — твору споведзі, прызнанню ў любові зямлі маленства, якая і дала яму яркі талент:

Успамінаць —
адно, што мяць
асфальт, ад спёкі разамлелы…
А я жадаю размаўляць
на мове, небу зразумелай.

Успамінаць —
ісці назад
па рэчышчы знямела высахшым…
А я хачу, каб шумны сад
усцяж маёй дарогі высіўся.

І не вярнуся я ізноў
у гмах над соннымі бярозамі,
бо я нарэшце тут знайшоў
і сінь вясны і барвы восені.

І не шкадую аб гадах,
калі ты побач, Гута-Гутава…
Мне па тваіх вачах гадаць,
ці многа мне яшчэ кахаць;
табе ў маіх вачах відаць,
ці доўга нам з зямлёю гутарыць…

Гэтая прызнанне ў любові да Гутава гучыць і ў заключных радках верша, што так і называецца — «Вёска Гутава»:

Блаславёная вяска Гутава,
мне з табою спяваць і гутарыць,
і заўсёды цябе любіць.

У цэлым жа верш сімптаматычны тым, што ў ім адчуваецца сама стыхія палескага жыцця, адметнасць народных традыцый, вернасць ім, адданасць зямлі маленства. М. Федзюковіч, узнаўляючы тое, у чым адчуваецца сам дух народны, прывязвае верш і да канкрэтных гутаўскіх рэалій, таму згадвае і тых, з кім, можна сказаць, лёсам заручоны, бо ўсе яны — яго аднавяскоўцы:

Вёску Гутава ў снег захуталі
давідна свежакі-вятры.
Сустракае нас вёска Гутава
крыкам пеўняў, сталёвым грукатам…
Вёска Гутава — тры вярсты!

Замятуха-завея сцелецца
за аўтобусам наўздагон…
Людна, гоманна за аселіцай —
хлебаробнае ўсё насельніцтва
ў прадчуванні адліжных дзён.
З неба дождждык лагодны капае,
з поўдня хмары плывуць гусцей…
Старшыня Уладзімір Карпавіч
задуменна дыміць цыгаркаю,
пазіраючы на гасцей:

— Малайцы, што праведалі,
доўга ехалі? Ці абедалі?..
Эх, як рэзалі — як зарэзалі,
як смалілі мы вепрука!
У суседа Міхася — хрэсьбіны,
у дзяўчат — галасы гарэзныя…
Завітаем да земляка!

Паколькі «вёска Гутава — тры вярсты», бо пад яе небам знайшлося месца не толькі таленту М. Федзюковіча. Тут нарадзілася 7 сакавіка 1943 года і Ала Кабаковіч. Дарэчы, яна аднакласніца М. Федзюковіча і, на жаль, таксама пражыла няшмат: памерла 11 лютага 1985 года. З залатым медалём скончыла мясцовую школу, з адзнакай — аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працавала рэдактарам на Рэспубліканскім радыё, потым вучылася на перакладчыцкім факультэце Літаратурнага інстытута імя М. Горкага, пасля заканчэння якога была навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. А. Кабаковіч даследавала пытанні гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры, аўтар манаграфій «Паэзія Максіма Багдановіча», «Беларускі свабодны верш», «Фальклорныя і анталагічныя традыцыі ў беларускай паэзіі»… Працавала таксама ў галіне перакладу, пісала вершы, займалася бягучым рэцэнзаваннем. Шмат што з гэтых твораў змешчана ў пасмяротнай кнізе яе выбранага «Пасеянае ўзыдзе» (1991). Роднай вёсцы, у прыватнасці, прысвяціла верш «Святло Радзімы»: «Над Гутавам маім // Стаяла Мілавіца, // Цвіў белым цветам бэз, // А месяц — бляскам рос, // Каб маладосць мая // Паспела надзівіцца // На прыгажосць крыла, // Што ахінула лёс».

16 чэрвеня 1950 года ў Гутаве ўпершыню зірнуў на свет і паэт, публіцыст Уладзімір Сітуха, які працуе ў рэдакцыі брэсцкай абласной газеты «Народная трыбуна». Ягоныя кнігі: паэтычная трылогія «Скакуны», «Званы над Шкловам», «Споведзь пра Бядулю». «Паклон вам, людзі ў белых халатах» і іншыя — уменне дакладна адчуваць пульс сучаснасці, заглыбляючыся ў лёсы канкрэтных людзей, прасочваць, наколькі кожны чалавек, жывучы ў грамадстве, з'яўляецца неадрыўнай часцінкай яго. Гэткім жа роздумам пра сучаснасць і чалавека ў свеце напоўнены і публіцыстычныя выступленні У. Сітухі.

Крытык літаратуразнаўца Уладзімір Замкавец нарадзіўся ў Гутаве 10 лютага 1954 года. Скончыў з адзнакай факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, а потым — аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. Абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Беларускі мастацкі нарыс і еўрапеейская жанравая традыцыя». Працуе ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце. Аўтар шматлікіх артыкулаў па праблемах беларускай літаратуры і фальклору, метадычных распрацовак для студэнтаў.

## Што ні вёска — на таленты багатая

Празаік-дакументаліст Мікола Панасюк (нарадзіўся 9 сакавіка 1947 года на хутары непадалёку ад вёскі Галоўчыцы) яшчэ школьнікам пісаў вершы, друкаваўся. Перапісваўся з гэткай жа на той час, як і сам, пачаткоўкай Яўгеніяй Янішчыц, але прызванне сваё знайшоў у прозе і журналістыцы. Будучы літсупрацоўнікам, а потым адказным сакратаром іванаўскай раённай газеты «Чырвоная звязда», заснаваў пры ёй літаратурнае аб’яднанне «Ясельда». Працаваў таксама ў драгічынскай раёнцы «Запаветы Леніна», у брэсцкіх абласных газетах «Заря» і «Народная трыбуна», уласным карэспандэнтам часопіса «Беларуская думка» па Брэсцкай вобласці. На гэткай жа пасадзе быў і ў рэспубліканскай газеце «Белорусская нива». Факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна скончыў завочна. Аўтар кніг «Палеская цаліна», «Світальныя зоркі», «Зоркі над Бугам» і іншых. М. Панасюк стаў першым, хто прысвяціў кнігу лётчыку-касманаўту СССР Пятру Клімуку пад назвай «Арыенцір — сузор’е Арыён». У дапоўненым выглядзе (расказаў ужо не толькі пра першае касмічнае падарожжа нашага земляка з Валянцінам Лебедзевым, а і пра другі палёт з Віталем Севасцьянавым) гэтая кніга пабачыла свет у перакладзе Уладзіміра Жыжэнкі на рускую мову — «К созвездиям».

Мікола Трафімчук (нарадзіўся 3 студзеня 1950 года ў вёсцы Осаўцы) так выказаў сваю ўлюбёнасць у родны край:

Паміж Ясельдай і Днепрабугам
Ёсць зямля, што так радуе нас,
Над якою буслы круг за кругам
З асалодаю бавяць час.
Ходзіць слава далёка, шырока
Пра драгічынскі нораў і лад,
Дык кружляйце, буслы, між аблокаў,
Над зямлёю легенд і балад.

Пасля заканчэння Белінскай сярэдняй школы скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут імя А. С. Пушкіна. Працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, у рэдакцыях іванаўскай і драгічынскай раённых газет, на Брэсцкім тэлебачанні, у газетах «Звязда», «Мінская праўда», быў карэспандэнтам-арганізатарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі. Цяпер займаецца выдавецкай дзейнасцю. Творы М. Трафімчука змешчаны ў калектыўных зборніках «Нашчадкі» і «Цвіце верас». Ён аўтар кніг «Трыванне», «Траекторыя», «Фэст», «Любіць Бог Беларусь», «Трын-трава», «Найперш мы — ліцвіны».

Як празаік, нарысіст і публіцыст добра вядомы Анатоль Крэйдзіч (нарадзіўся 27 чэрвеня 1965 года ў вёсцы Заверша). Аднак, як і многія пісьменнікі, пачынаў з вершаў. Цяпер працуе рэдактарам іванаўскай раённай газеты «Чырвоная звязда», узначальвае Брэсцкую абласную арганізацыю Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аб зямной напоўненасці таленту А. Крэйдзіча, яго ўменні хораша выпісваць характары, закранаць важныя маральна-этычныя праблемы засведчыла кніга апавяданняў «Права на ўсмешку». На падыходзе новая — «Радзімка», першую частку якой займае дакументальна-мастацкая аповесць пра вядомага беларускага мастака Янку Рамановіча, які жыве ў сваёй роднай вёсцы Моталь Іванаўскага раёна. Ягоная творчасць — лішняе пацвярджэнне таму, што для сапраўднага таленту

паняцце правінцыя не існуе. Я. Рамановіч сёння адзін з найбольш запатрабаваных беларускіх мастакоў, ягоныя творы карыстаюцца вялікай папулярнасцю за мяжой. У кнігу «Радзімка» ўвайшлі і нарысы пра лепшых людзей Брэстчыны, якія ў большасці сваёй жывуць на Іванаўшчыне, жартоўныя мініяцюры, а таксама літаратурныя роздумы пра рэчаіснасць у аўтарскім праекце «150 пісьменніцкіх радкоў».

Драгічынская літаратурная карта будзе няпоўнай, калі не згадаць і некаторых іншых яе ўраджэнцаў. Так Якаў Аляксейчык (нарадзіўся 23 кастрычніка 1948 года ў вёсцы Пярэспа) быў генеральным дырэктарам Беларускага тэлеграфнага агенцтва (БЕЛТА), галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларусь». Напісаў кнігу «Восьмой грех», што складаецца з эсэ аб нашай гісторыі і сучаснасці. Асноўныя факты мінулага, а таксама герояў і асоб ён ацэньвае з пункту гледжання таго, наколькі яны садзейнічалі ці не фарміраванню нацыянальнай свядомасці беларускага народа і з'яўленню беларускай дзяржаўнасці.

Расціслаў Пратасевіч (нарадзіўся 1 сакавіка 1950 года ў вёсцы Какорыца) стаяў ля вытокаў абласной газеты «Народная трыбуна» і на працягу амаль дваццаці гадоў з'яўляўся яе першым рэдактарам. У час ягонага рэдактарства гэтае выданне вельмі шмат увагі надавала прапагандзе літаратуры. Рэгулярна змяшчаліся творы паэзіі і прозы, рэцэнзіі на кнігі, эсэ, нарысы пра знакамітых людзей, якія ў розныя часы нарадзіліся на Брэстчыне.

Выступае ў рэспубліканскай перыёдыцы з вершамі і апавяданнямі, выдаў кнігу прозы Мікалай Сянкевіч, які нарадзіўся 20 лютага 1957 года ў вёсцы Асіпавічы. Іван жа Шпак (нарадзіўся 6 ліпеня 1947 года ў вёсцы Заверша) па сваёй асноўнай спецыяльнасці — скончыў з адзнакай Мінскі радыётэхнічны інстытут і аспірантуру пры ім — здавалася б, далёкі ад літаратуры, але не толькі захапляецца ёю, а і займаецца перакладамі твораў чэшскіх і славацкіх аўтараў.

З Драгічына родам польскі паэт, крытык, публіцыст, да ўсяго графік Збігнеў Стралкоўскі (нарадзіўся 12 снежня 1933 года) і паэт, публіцыст Мікола Шэляговіч (нарадзіўся 21 ліпеня 1956 года), які піша на мясцовай гаворцы («гэдунскай мове»).

Дарэчы, выхадцы з Драгічыншчыны зацікаўлена ставяцца да традыцыйных народных гаворак, распаўсюджаных на іх радзіме, і якія ў навуковай літаратуры называюцца брэсцка-пінскія, заходнепалескія, ці загародскія. Аднак найбольшае пашырэнне атрымала назва — брэсцка-пінскія. Праблеме класіфікацыі іх прысвечана манаграфія Фёдара Клімчука (нарадзіўся 27 лютага 1935 года ў вёсцы Сіманавічы) «Гаворкі Заходняга Палесся. Фанетычны нарыс». У спецыяльным раздзеле разглядаюцца гаворкі вёсак Сіманавічы, Заяленне, Папіна і Субаты.

Лексіцы Драгічыншчыны прысвечаны артыкулы Івана Лучыца-Федарца (нарадзіўся 26 лістапала 1938 года ў вёсцы Акропка), змешчаныя ў лексікаграфічных зборніках «Народная лексіка», «Жывое слова», «Народнае слова», «Народная словатворчасць», «Жывое народнае слова». Ён жа суаўтар манаграфіі «Лексіка Палесся ў прасторы і часе». І. Лучыц-Федарэц — суаўтар некаторых тамоў «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы», выданне якога працягваецца і ў якім, канечне ж, можна напаткаць словы, распаўсюджаныя на Драгічыншчыне. А Васіль Сянкевіч (нарадзіўся 19 сакавіка 1959 года ў вёсцы Асіпавічы) — аўтар манаграфіі «Семантыка і практыка беларускай мовы».

Яшчэ адзін літаратурны адрас Драгічыншчыны — вёска Пярковічы. Яна адметная ўжо тым, што ў 1908 годзе тут была адкрыта бясплатная народная бібліятэка, у якую паступілі кнігі з фонду Паўленкава. Гэткая ж бібліятэка адначасова з'явілася і ў вёсцы Брашэвічы. Гісторыя іх з'яўлення такая. Вядомы рускі выдавец Фларэнцій Паўленкаў, які выпусціў звыш 750 назваў кніг, разлічаных на шырокае кола чытачоў, паміраючы ў студзені 1900 года на 61-м годзе жыцця, завяшчаў усе грошы, атрыманыя ў выніку сваёй дзейнасці, на арганізацыю бясплатных сельскіх бібліятэк у аддаленых рэгіёнах Расіі. Вестка пра такое жаданне Фларэнція Фёдаравіча, хоць і са спазненнем, прыйшла і ў Кобрынскі павет. 29 жніўня 1907 года сяляне Брашэвіцкай воласці на сваім сходзе прынялі рашэнне: прасіць камітэт апякунства паспрыяць «аб адкрыцці ў сяле Брашэвічы і вёсцы Пярковічы бясплатных народных бібліятэк на сродкі, завешчаныя Ф. Ф. Паўленкавым».

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя была багатая бібліятэка і архіў і ў аднаго з уладальнікаў маёнтка Пярковічы Антонія Віславуха. У Пярковічах нарадзіўся і прадстаўнік гэтага роду, польскі пісьменнік Францішак Віславух (1896—1978). У родных мясцінах ён жыў у 20—30-я гады мінулага стагоддзя, а пасля Другой сусветнай вайны жыў у Лондане, дзе выдаў тры кнігі ўспамінаў на польскай мове. Адна з іх называецца «На сцежках Палесся» і выйшла ў 1976 годзе. Асноўнае месца ў гэтых мемуарных запісах займаюць згадкі пра прыроду Палесся, побыт і звычаі мясцовага насельніцтва. Кніга складаецца з 24 нарысаў: «Прыбужжа», «Могілкі», «Нашы яўрэі», «Гармата», «Выдры» і іншыя. У Польшчы двойчы — у 1968 і 1996 гг. — выходзілі «Палескія апавяданні» Ф. Віславуха.

А вось першая вядомая на Драгічыншчыне бібліятэка, у якой былі рукапісныя кнігі, існавала пры Тараканскім манастыры ў XVI — пачатку XVIII стагоддзя. Таракань — цяперашняя вёска Імянін. Дарэчы, па-мясцоваму яе сёння называюць Торокань. Гэты манастыр, заснаваны ў 1517 годзе як Багаяўленскі, з'яўляўся культурным асяродкам. На рубяжы XVI—XVII стагоддзяў у ім была заснавана першая на Драгічыншчыне школа.

У Драгічын наведваўся ў час сваіх вандровак па Палессі польскі празаік, гісторык і мастак Юзаф Крашэўскі. У яговых «Успамінах Палесся, Вільні і Літвы» ёсць такое сведчанне пра гэтае тагачаснае мястэчка: «Некалькі вулачак, сцежкі, прыцярушаныя саломай, хаты, пакрытыя цэглай і трэскамі. Старая карчма. Крамы, адчыненыя адзін дзень у тыдзень».

Не надта быў у захапленні ад наведвання ў 1819 годзе Драгічына і польскі паэт і празаік Юльян Нямцэвіч. Затое з задавальненнем пабываў у ваколіцах мястэчка. Прыехаўшы ж у вёску Хомск, пазнаёміўся з работай суконнай мануфактуры, заснаванай графам Пуслоўскім. Але асабліва Ю. Нямцэвіча ўсхвалявалі руіны крэпасці Жабер, якія на той час, безумоўна, яшчэ маглі даць уяўленне аб ёй.

Не толькі пісьменнікамі і моваведамі славіцца гэты куток Палесся, а і прадстаўнікамі іншых творчых прафесій. Багатая біяграфія ва ўраджэнца вёскі Валавель Уладзіміра Мішчанчука (нарадзіўся 5 жніўня 1946 года). Пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута — акцёр і дырэктар Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. З 1985 года загадваў кафедрай майстэрства і рэжысуры, з 1990-га — дэкан тэатральнага факультэта Беларускай акадэміі мастацтваў. Яговая акцёрская творчасць адметная мастацтвам імправізацыі, разнастайнасцю сцэнічных фарбаў. З асаблівым поспехам выступае У. Мішчанчук у камедыйным рэпертуары, аб чым засведчылі такія значныя ролі, як Быкоўскі і Кутас («Паўлінка» і «Прымакі» Янкі Купалы), Жлукта («Мілы чалавек» Кандрата Крапівы), Несцерка (аднайменная п'еса Віталя Вольскага), дзед Цыбулька («Таблетку пад язык» Андрэя Макаёнка) і іншыя. У. Мішчанчук здымаўся ў фільмах «Вадзіцель аўтобуса», «Маці Урагана», «Апёк», «Прыступіць да ліквідацыі», «Белае возера» і іншых. Мае шэраг друкаваных прац, выступае з праблемнымі артыкуламі ў перыёдцы.

Для творчага станаўлення жывапісца Уладзіміра Кожуха (нарадзіўся 7 сакавіка 1953 года ў г. Драгічыне), безумоўна, шмат дало тое, што ён змог працаваць у творчай майстэрні пад кіраўніцтвам народнага мастака СССР Міхаіла Савіцкага. Хоць і да гэтага прайшоў неблагую прафесійную школу, бо скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, дзе займаўся ў вядомага жывапісца і педагога Барыса Аракчэева. Аднак менавіта ўрокі М. Савіцкага шмат далі для фарміравання яговай мастакоўскай індывідуальнасці.

Работы Пятра Мысліўца (нарадзіўся 1 ліпеня 1938 года ў г. Драгічыне) можна ўбачыць у Пінскай карціннай галерэі, у Палацы культуры г. Драгічына. З яговымі творамі знаёміліся і ўдзельнікі выставак, у тым ліку і тых, што праводзіліся ва Украіне. У яговых творах прываблівае шчырасць, непасрэднасць, з якой апявае ён роднае Палессе. Наколькі яно блізкае яму, сведчаць і назвы персанальных выставак П. Мысліўца — «Люблю цябе, Палессе» і «Зямля палеская», што праходзілі адпаведна ў Брэсце і Пінску.

Шчасліва склаўся творчы лёс музыканта і кампазітара Юрыя Блінава. Ужо ў шэсць гадоў (нарадзіўся 3 жніўня 1975 года ў г. Драгічыне) ён іграў на фартэпіяна і складаў свае першыя музычныя творы. У васьмігадовым узросце паступіў у сярэднюю спецыяльную музычную школу пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. З першых гадоў навучання прымаў удзел у канцэртах дзіцячага музычнага абанемента кансерваторыі, а ў 1986 годзе ўпершыню выступіў з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР. У снежні 1992 года, за год да заканчэння музычнай школы, Ю. Блінаў заваяваў першае месца на Першым міжнародным конкурсе імя Сяргея Пракоф'ева ў г. Санкт-Пецярбургу, а там жа выступалі піяністы не толькі з Масквы, Санкт-Пецярбурга, краін СНД, Балтыі, а і з ЗША, Галандыі, Карэі, Японіі. У маі 1993 года прайшоў ягоны першы сольны канцэрт у вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філамоніі. Летам жа адбыліся першыя гастролі за мяжой, шэсць канцэртаў у Японіі. Скончыў Беларускую акадэмію музыкі, Тэхаскі хрысціянскі ўніверсітэт, Вышэйшую школу музыкі імя Істмена (ЗША). З лістапада 2008 года Ю. Блінаў з'яўляецца прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі піяністаў і кампазітараў (ISPC), якая займаецца падтрымкай і прапагандай творчасці маладых аўтараў і выканаўцаў.

* * *

У 1998 годзе Драгічын займеў свой герб. Ён быў зацверджаны Рашэннем Драгічынскага райвыканкама ад 19 мая, а ў Гербавы Матрыкул Рэспублікі Беларусь унесены 9 чэрвеня. Як і звычайна ў падобных выпадках, стваральнікі яго пастараліся па-свойму спалучыць дзень мінулы і сённяшні, засведчыць адметнасць гэтага кутка зямлі беларускай. Адлюстраванне герба Драгічына такое: у блакітным полі «варажскага» шчыта знаходзяцца два сярэбраныя галубы, павернутыя адзін да аднаго. Пад імі сярэбраны нацягнуты лук са стралой наканечнікам уверх, па баках якога па пары сярэбраных жалудоў.

Галубы на гербе з'явіліся невыпадкова. Засведчана, што да пачатку XX стагоддзя ў Драгічыне існавала царква ў імя Стрэчання Гасподняга, якая з'ўлялася ўзорам палескага дойлідства. Галубы — сімвал Стрэчання. Нацягнуты ж лук такі, як і ў сярэднявечных гербах Пінска і Брэста, а Давячоркавічы — Дарагічын некалі належалі да Пінскага староства. Больш за тое, у трэцім пункце Рашэння Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта «Аб распрацоўцы новых і аднаўленні гістарычных гарадоў вобласці» прадугледжана пры стварэнні новых гербаў выкарыстанне «агульнага сімвалічнага знака Брэстчыны, адлюстраванага ў гербе Брэста», а гэта сярэбраны лук. Сярэбраныя ж жалуды — напамінак аб даўніх-даўніх дубровах, на месцы якіх, паводле мясцовых паданняў, і з'явіліся Давячоркавічы, што цягам часу і стала Драгічынам.

Серабро ж, як вядома, належыць да высакародных металаў, што атрымала сваю назву за высокую хімічную ўстойлівасць і прыгожы вонкавы выгляд у вырабах. Калі ж казаць пра ўсё ў пераносным сэнсе, то гэтая ўстойлівасць дапамагла жыхарам Драгічыншчыны адолець нягоды, што напаткоўвалі іх на доўгім шляху гістарычнага развіцця, а прыгажосць… Яны прыгожыя сваімі справамі, памкненнямі, жаданнем цудоўна працаваць і хораша жыць. Інакшымі людзі з сярэбранага краю і быць не могуць.

# Т

Ідзе падпіска
на I паўгоддзе 2012 года:

індывідуальная льготная
для настаўнікаў (індэкс — 00471)

на 1 месяц — 8690 руб.
на 3 месяцы — 26 070 руб.

індывідуальная (індэкс — 74985)

на 1 месяц — 13 420 руб.
на 3 месяцы — 40 260 руб.

ведамасная (індэкс — 749852)

на 1 месяц — 28 490 руб.
на 3 месяцы — 85 470 руб.

ведамасная льготная
для ўстаноў Міністэрства культуры
і Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)

на 1 месяц — 23 120 руб.
на 3 месяцы — 69 360 руб.

e-mail: polymya@bk.ru

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар М. М. Гілевіч
Камп’ютарная вёрстка С. І. Стараверавай

Падпісана ў друк 08.11.11 г. Фармат 70 $108^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 14,00. Ул.-выд. арк. 14,42. Тыраж 2817 экз. Заказ 3059.
Кошт нумара ў розніцу 11 500 руб.
Часопіс «Полымя» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. Рэг. № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.